

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



Пад рэдакцыяй З. ЖЫЛУНОВІЧА,
Я. ЛІМАНОЎСКАГА і І. ШЫПІЛЫ



## № 1
## 1925



Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК — 1925

## НАШЫ СУПРАЦОЎНІКІ:

Александровіч А., Арэшнікаў П., Байкоў М., Баліцкі А., Барэвы М., Бядуля З. (Ясакар), Вольны А., Вольфсон С. праф., Гарбацэвіч В., Гартны Ц., Грамыка М., Гурло А., Дзяржынскі Ў., Друшчыц В., Дубоўка Ў., Журба Я., Замоцін І. праф., Ігнатоўскі Ў. праф., Колас Я., Купала Я., Карнеўскі Я., Лёсік Я., Ліманоўскі Я., Маразоўскі М., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Неманскі Я., Нодэль В., Пічэта Ў. праф., Пушча Я., Пятровіч Я., Пятуховіч М. праф., Родзевіч Л., Смоліч А., Херсонскі Х., Хлябцэвіч Я., Хмарка, Цьвікевіч Я., Чарот М., Чарнушэвіч Н., Шукевіч-Трэцьцякоў Р. і інш.

### ЗА АПОШНІЯ ЧАСЫ ШЭРАГ СУПРАЦОЎНІКАЎ ПАПОЎНІЎСЯ НІЖЭЙШЫМІ Т. Т.

Барашка Іл., Буйло К., Гэрчыкаў І. праф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Кацэнбогэн С. праф., Сянькевіч А., Трус П., Харэвіч А., Чарвякоў А., Чорны К., Шатэрнік М.



**УЛАДЗІМІР ІЛЬЛІЧ УЛЬЛЯНАЎ (ЛЕНІН)**
**10 красавіка 1870 г.—21 студзеня 1924 г.**

# ГОД БЯЗ ЛЕНІНА Ў БЕЛАРУСІ

**А. Чарвякоў**

### Т. Ленін памёр, але партыя яго жыве.

Комуністычная партыя Беларусі за мінулы год працы пасьля сьмерці У. І. Леніна мела вялікія магчымасьці дзеля таго, каб праверыць сябе, паколькі яна партыя Ленінская, бальшавіцкая.

Пашырэньне Беларусі, аб'яднаньне некалькіх вялікіх партыйных організацый. якія ў мінулым мелі розныя ўмовы працы, розныя прызвычаенасьці і традыцыі,—усё гэта вымагала ад партыі вялікай патугі і бальшавіцкай вытрыманасьці.

Але ўразуменьне таго, што самы факт пашырэньня Беларусі зьяўляецца ажыцьцяўленьнем наказаў Уладзіміра Ільліча і што ўсё гэта робіцца згодна інтарэсам Рэволюцыі, аблягчылі тую задачу, якая стаіць перад партыяй.

Уся партыйная організацыя Беларусі зьверху данізу, адзначаючы ўсю паважнасьць намечаных да ажыцьцяўленьня пытаньняў, выказала за гэты час вялікую еднасьць, організаванасьць, прынцыповую вытрыманасьць, і ў кароткі, параўнальна, тэрмін ажыцьцёвіла зрашчваньне розных частак Беларусі, захаваўшы поўнае організацыйнае адзінства партыі.

Бы жалезная, засуцэленая адзінствам фалянга, не прапускаючы ў сябе шкодных уплываў, Комуністычная партыя Беларусі з посьпехам адбіла апаску, якая пагражала ўсёй партыі ў зьвязку з выступленьнем т. Троцкага.

У нас, на Беларусі, дзякуючы шэрагу featнастайных прычын, можна было чакаць сугалосных т. Троцкаму выступленьняў.

Непасрэдны ўплыў на Комуністычную партыю Беларусі сялянскіх, дробна-буржуазных настрояў, налічча ў нас значнага ліку сяброў партыі, зьвязаных у мінулым з не-бальшавіцкімі партыямі,—усё гэта магло даваць повад гэтак разважаць.

Але і з гэтага экзаміну наша партыя вышла з посьпехам. Комуністычная партыя Беларусі аднагалосна асудзіла выступленьне т. Троцкага, як выступленьне не бальшавіцкае, ня Ленінскае.

Комуністычная партыя Беларусі яшчэ раз даказала, што ня толькі організацыйна, але *і ідэйна яна адзіная, верная Ленінізму і бальшавізму*, што яна складае сабою надзейную частку адзінай РКП на заходняй мяжы Саюзу ССР.

## Компартыя Беларусі і рабочая кляса.

Ва ўмовах Беларусі пры надзвычайна нязначным у ёй ліку рабочых, вялізарную ролю грае неабходнасьць магчыма цясьней і бліжэй зьвязаць партыю з рабочай клясай.

Да таго моманту, калі памёр У. І. Ленін, Комуністычная партыя Беларусі мела ў сваіх шэрагах 1.158 сяброў, занятых у фабрыках і заводах, з агульнага ліку рабочых—22.897, што складала ўсяго толькі 3,96% усяе рабочае масы.

Сьмерць У. І. Леніна ўзбудзіла рабочых усяго Савецкага Саюзу, а ў тым ліку і рабочых Беларусі. Рабочая кляса Беларусі захацела ўзяць на сябе вялізарную адказнасьць за Рэволюцыю, за Комунізм яшчэ ў большай меры, чымсь да сьмерці т. Леніна. Лепшых сваіх прадстаўнікоў яна абрала, каб увесьці іх у шэрагі Комуністычнай партыі. Ленінскі тыдзень да 1 мая 1924 г. даў у Беларусі новых 1.904 сябры, з якіх 1.507 заняты фактычна ля варштату.

У выніку гэтага ў шэрагах КПБ аказалася рабочых ад варштату—2.503, альбо 10,93% усіх рабочых Беларусі.

На 1 лютага 1924 г. ўсіх сяброў КПБ было 8.265, з якіх рабочых па соцыяльнаму пахаджэньню было 3.653, альбо 44,20%, а рабочых, фактычна занятых на вытворчасьці, было ўсяго 1.158, ці 14,01%.

На 1 мая 1924 г. было прынята ў шэрагі КПБ 1.904 новых сяброў, г. зн. 23,04% да старога ліку сяброў партыі. Дзякуючы гэтаму, склад партыі назвычайна зьмяніўся. Вось лічбы: рабочых па соцыяльнаму пахаджэньню стала 54,65% усяе організацыі, а рабочых, фактычна занятых на вытворчасьці,—30,11%.

Гэтак, Комуністычная партыя Беларусі, выконваючы заветы У. І. Леніна, замацавала сваю сувязь з рабочай клясай

## Компартыя, рабочая кляса і сялянства.

„Адыходзячы ад нас, т. Ленін пакінуў нам заданьне ўсімі мерамі ўзмацоўваць саюз рабочых і сялян“. Над магілай У. І. Леніна кляліся мы выканаць гэтае заданьне, якое зьяўляецца аднэй з падставін дыктатуры пролетарыяту, першай і карэннай падвалінай Рэспублікі Саветаў. Здарэньні мінулага году як нельга лепей паказваюць, што і гэта заданьне т. Леніна намі выканана. Компартыя Беларусі цьвёрда і грунтоўна абараняла Ленінскае ўразуменьне саюзу рабочай клясы з сялянствам, у зьвязку з выступленьнем т. Троцкага.

Рознагалосьсі т. Троцкага і яго аднадумцаў з партыяй у аснаўной сваёй частцы ішлі па лініі няправіловага, ня Ленінскага ўразуменьня імі ролі сялянства ў рэволюцыі і адносін паміж рабочай клясай і сялянствам.

Мы ўсе ясна аддаем сабе справаздачу ў тым, што Савецкая дзяржава пабудована на дыктатуры пролетарыяту, якая ажыцьцяўляецца праз саюз рабочай клясы з сялянствам. Значыцца, спробы намалявацъ адносіны

паміж горадам і вёскай, як адносіны паміж мэтраполіяй і колёніяй, няправіловыя, шкодныя, таму што пытаньне ставяць яны не па Ленінску.

Таѣ. Ленін вучыў нас, што рабочая кляса толькі *сумесна* з сялянствам здолее выканаць сваю задачу.

Тав. Ленін пісаў: „Комунізм кажа: авангард пролетарыяту—Комуністычная партыя кіруе беспартыйнай масай, даючы асьвету, падрыхтоўваючы, навучаючы, выхоўваючы гэтую масу—спачатку рабочых, а *затым сялян*“.

І таму наша партыя, асудзіўшы выступленьне т. Троцкага, давяла сваё правіловае ўразуменьне гэтага найважнейшага пытаньня.

Комуністычная партыя Беларусі прыняла шэраг рашучых практычных захадаў, каб замацаваць саюз рабочых і сялян, праводзячы правіловую нацыянальную політыку, уцягваючы лепшых прадстаўнікоў сялянства ў партыю, высоўваючы сялян на кіраўнічую працу ў савецкіх апаратах, змагаючыся за патаненьне прамысловых тавараў, імкнучыся палепшыць сельскую гаспадарку, нясучы ў сяло кніжку, школу, сгаўшы на шлях электрыфікацыі яго—наша партыя замацоўвала і замацоўвае саюз рабочых і сялян—падставу Савецкай Беларусі.

## Работніца і сялянка Беларусі.

„Справа Савецкай улады будзе давездена да канца толькі тады, калі ў ёй прымуць удзел міліёны і міліёны працоўных жанчын“, казаў тав. Ленін.

Компартыя Беларусі, выконваючы гэты наказ У. І. Леніна, прыняла ўсе рады да таго, каб уцягнуць беларускую работніцу і сялянку ў грамадзкую, партыйную і савецкую працу. Посьпехі ў гэтым напрамку трэба лічыць надзвычайна значнымі. Аб іх выніках кажуць ніжэйшыя лічбы:

Дэлегатак у гарадох па 7 акругох было:

на 1 студзеня 1924 г.—1.140.
„ „ „ 1925 г.—1.456.

Дэлегатак у вёсках па 7 акругох было:

У пачатку 1924 году—5.358.
„ „ 1925 „ —13.000.

Гэткім чынам, больш чымсь у двойчы павялічыўся лік беларускіх работніц і сялянак—грамадзкіх працаўніц, якія зьвязваюць партыю з міліённай масай жанчын гораду і вёскі.

Актыўнасьць жанчын расьце з надзвычайнай шпаркасьцю.

Лік жанчын-сяброў сельсаветаў на 1 студзеня 1924 г. па ўсёй Беларусі быў—472, а к 1925 г.—2.301, г. зн. вырас амаль што ў 5 раз.

Шпарка таксама йдзе ўцягненьне работніц і сялянак у найважнейшую організацыю вёскі—Сялянскія Комітэты ўзаемадапамогі.

На 1 студзеня 1924 г. лік жанчын-сяброў Комітэтаў узаемадапамог быў—25, а к 1925 г. лік гэты павялічыўся да 318.

вецкай Беларусі на падставе братэрскага супрацоўніцтва ўсіх насяляючых яе народаў: беларусаў, расійцаў, жыдоў, палякаў, латышоў і інш.

Мінулы год адзначаецца вялікімі дасягненьнямі ўва ўсіх галінах савецкага будаўніцтва.

Дзякуючы гэтаму, Савецкая Беларусь стала моцнаю часткаю Вялікага Саюзу ССР. Савецкая Беларусь цьвёрда прызнае сваю адданасьць Рэспубліцы Саветаў, сваю рашучасьць стаць афярай за яе існаваньне.

Савецкая Беларусь цьвёрда і няўхільна выконвала наказы т. Леніна аб неабходнасьці добрахвотнага саюзу народаў усіх Савецкіх Рэспублік і неабходнасьці іх братэрскага супрацоўніцтва ў межах Саюзу ССР., як адзінай дзяржавы працоўных, за якою йдзе Сусьветная Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка.

**Наш аброк.**

Працоўныя Савецкай Беларусі пры пахаваньні т. У. І. Леніна былі прадстаўлены дэлегацыяй, якая выехала на другі Ўсесаюзны Зьезд Саветаў.

У ліку бязьлічнага мноства вянкоў, ускладзеных на труну найгэніяльнейшага з гэніяльных правадыроў пролетарыяту, усклала свой вянок і беларуская дэлегацыя ад імя беларускіх рабочых і сялян. Мазырскі селянін і менскі рабочы нясьлі і ўсклалі гэты вянок на Вялікую магілу. На жалобнай істужцы быў зроблены надпіс, які выказваў настрой усіх працоўных Беларусі, што вядуць барацьбу за лепшую будучыну пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі, пад штандарам Ленінізму.

Надпіс гэты, зроблены пабеларуску, расійску, жыдоўску і польску, казаў:

„Апошняе «даруй»—хай будзе клятваю змаганьня працоўных Беларусі за вызваленьне прыгнечаных народаў усяго сьвету".

Будзем памятаць гэты аброк!

Будзем працаваць дзеля яго выкананьня!

Побач з гэтым, ідзе ўцягненьне жанчыны ў шэрагі комуністычнай партыі. Да 13 партконфэрэнцыі на Беларусі было 513 жанчын-сяброў партыі, з якіх: работніц—421. Да сучаснага моманту налічваецца 952 жанчыны-сябры партыі, пры чым гэта павялічэньне атрымалася выключна за лік работніц ад варштату.

Гэткім чынам, за мінулы год Компартыя Беларусі зачарпнула з новае крыніцы шмат сіл, увёўшы ў шэрагі працоўных жанчыну, як актыўнага ўдзельніка нашае барацьбы і працы.

## Комсамол.

Год таму назад Комуністычны Саюз Моладзі прыняў Ленінскае імя, заявіўшы гэтым сваю цьвёрдую рашучасьць ісьці па тым шляху, які пралажыў т. Ленін.

Як-жа Комсамол Беларусі выпраўдаў гэту сваю заяву?

На 1 студзеня 1924 г. Комсамол Беларусі налічваў сяброў і кандыдатаў—5.033 чал.

На 1 сьнежня 1924 г. комсамольцаў было—21.399, г. зн. атрымалася павялічэньне ў 4 разы.

Павялічэньне Комсамолу ішло выключна за лік рабочай і сялянскай моладзі, прычым процант сялянскай моладзі рос шпарчэй, чымсь рабочай.

Вырас адначасова і партыйны асяродак у Комсамоле з 342 на 1 студзеня 1924 г. да 1.297 на 1 сьнежня 1924 году.

Узрост, а разам з тым і ўплыў Комсамолу на рабочую і сялянскую моладзь Беларусі ішлі ад месяца к месяцу і йдуць далей Так, на 1.000 чалавек моладзі на 1 верасьня 1924 г. прыходзілася 37 комсамольцаў, на 1 сьнежня таго-ж году было ўжо 42 комсамольцы.

Упэўненымі крокамі ідзе Комсамол па шляху ахапленьня ўсяе рабоча-сялянскае моладзі сваім уплывам.

Шмат цяжараў у гэтай працы Комсамолу, але той, хто носіць імя Ленінца—цяжараў не баіцца.

Комсамол у вёсцы стаў вялікай політычнай і культурнай сілай Ён працуе для комуністычнага выхаваньня моладзі і праз вопыт практычнай працы высоўвае найгаднейшых сваіх сяброў на грамадзкую і савецкую працу.

Так Комсамол, працуючы, вучыцца Ленінізму і вучачыся, працуе пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі.

І гэтым ён выконвае сваю прысягу—прывесьці пад штандары комунізму дзеля рашучага бою супроць капіталу ўсю рабоча-сялянскую моладзь.

## Савецкая Беларусь, як сябра Саюзу ССР.

„Адыходзячы ад нас, т. Ленін наказаў нам узмацняць і шырыць Саюз Савецкіх Социялістычных Рэспублік“.

Пад кіраўніцтвам Компартыі Беларусі беларускія рабочыя і сяляне паставілі сваёй задачай адбудову экономікі і аднаўленьне культуры Са

## БЕЛАРУСКІ СЕЛЯНІН у т. У. І. ЛЕНІНА

### Я. Л—кі

У 1920 годзе, пасьля адыходу паноў, Беларусь выглядала руінай. Г. Бабруйск, які знаходзіўся на лініі фронту, быў таксама зруйнаваны. Але затое настрой быў добры, бадзёры таму, што цяпер настала магчымасьць супакойнай працы, савецкага будаўніцтва. З гэткім бадзёрым настроем і сабраўся Павятовы Зьезд Саветаў у Бабруйску ў пачатку студзеня 1920 году.

Але зруйнаваньне адчувалася і тут: ня было кватэр для дэлегатаў, міліцыя патурбавала й мясцовую буржуазію, пацясьніла яе крыху, каб разьмясьціць удзельнікаў Зьезду. Рэшту дэлегатаў узялі ў свае памяшканьні мясцовыя працаўнікі.

У мяне быў невялікі пакоік, і я запрасіў да сябе аднаго дэлегата. Мой госьць аказаўся селянінам вёскі Ляскавічы, Ляскавіцкай воласьці— тав. Мінін, Мітрафан Пятроў. Ужо стары, сярэдняга росту, з барадой, але яшчэ моцны, рухавы, сьцямлівы. Разгаварыліся. Пачаў апавядаць пра сваё мінулае, пра тое, як жыве цяпер. Вельмі добра апавядае, слухаеш яго з прыемнасьцю. Нават маёй гаспадыні, мясцовай кабеціне, якая амаль што ніколі ня была ў вёсцы, так спадабалася гутарка Мініна, што яна нават прасіла мяне, каб запрашаў я да сябе часьцей тав. Мініна, і калі той, бывала, прыдзе, так яна заўсёды прысутнічала пры нашай размове.

Няпісьменны—увесь час пражыў у вёсцы—ён ад прыроды разьвіты, шмат аб чым ведаў, разьбіраўся сваім розумам у зблытаных часам пытаньнях. Гэткім чынам ён хутчэй другіх пераканаўся ў тым, што Савецкая ўлада лепей для сялян, чымсь другая. Пагутарылі да позьняй ночы.

— Тав. Мінін, лажэцеся на мой ложак спаць. Мо' яшчэ ня спалі на мяккім гарадзкім ложку, дык спрабуйце, як на ім сьпіцца (Ложак у мяне быў пазычаны ў Камхозе з спрунжынавым матрацам).

— А дзе-ж вы ляжаце?

— Я зраблю сабе пасьцель з крэслаў ці пасплю на канапцы ў сталовай.

— Не, дзякую, сьпіце сабе на ложку, я лепей пасплю на печы, калі ў вас ёсьць яна.

— Печка ў нас „руская“ ёсьць, але не такая ўжо вялікая, як у вёсцы. Дрэнна спаць будзе.

— Абы на печы, добра будзе!

Захацеў тав. Мінін спаць абавязкова на печы. Мы сабралі адтуль з гаспадыняй лішнія клумкі, паслалі пасьцель. Забраўся на печ, разьдзеўся, паставіў на комінку лапці, сагнуўся на невялікай плошчы печы і спаў, бы ў сябе дома...

Пачалася праца Павятовага Зьезду. Мінін усім цікавіўся. Выступаў. Ведаючы яго савецкі настрой, я вадзіў яго на пасяджэньне Комуністычнае фракцыі Зьезду. Туды беспартыйныя дапускаліся па рэкомэндацыі і за адказнасьцю сябра партыі. На пленуме Зьезду Мінін галасаваў за рэзолюцыі, якія прапанаваліся ад імя фракцыі. Словам на Зьезьдзе ўсе ўжо ведалі пра Мініна.

Вечарам мы з тав. Мініным пілі ў мяне гарбату з сахарынай і абгаварвалі, што было ўдзень на Зьезьдзе.

Скончылася праца Павятовага Зьезду. У ліку выбраных на Ўсебеларускі (другі) Зьезд Саветаў быў і тав. Мінін. Тут наша „Бабруйская фракцыя“ таксама адзначылася. Апроч Мініна было яшчэ шмат беспартыйных сялян, з якіх памятаю аднаго—тав. Бусла. Калі на Павятовым Зьезьдзе ў дакладзе аб падняцьці сельскай гаспадаркі гаварылі аб культуры і разьвіцьці людзей на Захадзе, то тав. Бусел выступіў і з уздымам сказаў: „Хай яны і вучоныя, але-ж ніяк не дадумаліся да таго, што мы вось зрабілі—прагналі паноў і самі гаспадарым. Калі толькі дадуць нам супакойна папрацаваць некалькі гадоў, дык мы ім такую штуку пакажам, якой і ня бачылі яны яшчэ“. Аж дрыжала заля Зьезду ад воплескаў на гэтыя словы т. Бусла.

Вось з такой „фракцыяй“ мы і прыехалі ў Менск. „Лідарам“ гэтай „фракцыі“ быў, вядома, Мінін.

Сярод сялян, выбраных на Ўсебеларускі Зьезд ад Менскага Павятовага Зьезду, аказаліся два эс-эры. Дык вось адзін з іх выступаў у спрэчках па дакладу аб справаздачы ўраду. Пачаў крытыкаваць Савецкую ўладу, быццам яна сялянам нічога добрага не дае, замыкае царквы, крыўдзіць папоў і інш.

Не падабаецца гэта тав. Мініну, не сядзіцца яму: устане, сядзе, зноў устане, пакруціць галавою.—„Эт,—махнуў рукой: „плявузгае нешта недарэчнае“.

— Мо‘ выступіце, тав. Мінін, і адкажаце гэтаму малайцу?—кажу сядзеўшаму заўсёды каля мяне тав. Мініну.

— Але,—ну, дык напішэце, каб мне далі слова,—адказаў Мінін, як-бы ўзрадаваўшыся, што прышла да яго думка адказаць з трыбуны оратару.

Напісаў я пісульку гэткага зьместу: „Прашу даць слова беспартыйнаму селяніну Ляскавіцкай воласьці тав. Мініну, які хоча адказаць дэлегату ад Менскага павету“, і падпісаў сваё прозьвішча.

Тав. Чарвякоў, старшыня Зьезду, прачытаў пісульку, і хоць шмат было пісулек, у якіх прасілі слова, даў у першую чаргу тав. Мініну, як беспартыйнаму селяніну.

Той узышоў на трыбуну, зьняў сваю мехавую шапку, прывітаўся. Пачаў прамову: „Вось тутака (пры гэтым тупнуў лапцем) некалі былі памешчыкі, губэрнатары ды гэнэралы, а цяпер стаю я“ [1])—выпрастаўся, падняў голаў, узяў рукамі ў бокі. Яго выгляд у лапцёх, у шэрай даматканай сьвітцы, з доўгімі валасамі і барадой, з постацьцю, ад якой веяла полем, борам,—усё гэта як нельга лепей даказвала, што ён хацеў адзначыць у сваім „стаю я“.

Гучнымі воплескамі адказаў Зьезд на першае слова тав. Мініна.

Далей пачаў тав. Мінін адказваць эс-эру, асабліва на яго скаргі, што крыўдзяць папоў—ня любіў іх тав. Мінін. Параўнаць гэтыя прамовы—эс-эра і Мініна,—дык тут змагаліся два сьветы: кулацкі і бядняцкі. Зьезд ня раз перарываў прамову тав. Мініна воплескамі. Ад выступленьня эс-эра не засталося ніякага ўражаньня, як-бы ён і не выступаў: адказваць яму ня было патрэбы. Мінін, што называецца, адказаў яму.

Гэта было першае выступленьне тав. Мініна на Ўсебеларускім Зьезьдзе. Потым ён выступаў яшчэ некалькі раз. Зьезд кожны раз уважліва яго слухаў і адказваў воплескамі.

Праца Зьезду падыходзіла да канца. Трэба было толькі правесьці выбары на Ўсерасійскі Зьезд Саветаў. Дэлегаты ад кожнага павету раіліся, каго паслаць. Выпадала паслаць ад кожнага павету па аднаму дэлегату з рашаючым голасам і аднаму—з дарадчым. Ну, ведама, што з рашаючым голасам трэба было паслаць Старшыню Павятовага Выканаўчага Комітэту, як кіраўніка працай у павеце. А з дарадчым голасам бабруйчане не дагаварыліся каго паслаць і рашылі выставіць кандыдатуру на пленуме Зьезду.

Адчынілася апошняе пасяджэньне Зьезду. Старшыня чытае кандыдатуры дэлегатаў на Ўсерасійскі Зьезд. Дайшоў да нашага Бабруйскага павету: „ад Бабруйскага павету: з рашаючым голасам—тав. Малаковіч, з дарадчым... таварышы бабруйчане, каго прапануеце з дарадчым?“

Пачалі называць кандыдатаў.

— Таварышы!—зварочваюся я да Зьезду:—я прапаную паслаць ад нашага павету селяніна тав. Мініна.

Воплескамі спаткаў Зьезд гэтую прапазыцыю. Мініна ўжо зналі ўсе. Іншыя кандыдатуры адпалі.

[1]) Зьезд адбываўся ў цяперашнім клюбе К. Маркса, у Менску; да рэволюцыі ў гэтым будынку разьмяшчаўся Менскі Губэрскі Маршалак Дваранства. *Я. Л.*

— Ці паедзе толькі?—падумаў я, бо на гэты раз тав. Мініна каля мяне ня было і я не пасьпеў з ім параіцца адносна яго кандыдатуы.—Масква далёка, шмат часу прыдзецца патраціць на Зьезд. Каб хаця не адмовіўся ехаць.

Але дзе там!

Калі скончылася пасяджэньне, Мінін адшукаў мяне, падышоў здаволены, узрадаваны

— Вось дзякую вам, тав. Л—кі, што падтрымалі мяне. Схапіў абоймі рукамі і сьціснуў папрыяцельску маю руку.

— Дык вы, тав. Мінін, здаволены, што вас выбралі? Хочаце ехаць у Маскву?

— Чаму не! Трэба хоць на старасьці гадоў сьвету пабачыць. Раней не давялося. А цяпер пры таварышах і ў Маскву пападу! Вам яшчэ буду дзякаваць.

— Гэта і добра, што вы ахвотна едзеце. Але-ж, тав. Мінін, вось што я вам скажу: калі будзеце ў Маскве, дык пастарайцеся там пабачыць нашых правадыроў, т.т. Леніна, Калініна і інш. І ня толькі пабачце, але й пагаварэце з імі. Вы цяпер делегат ад нашай Беларускай Рэспублікі. Раскажэце, як жывецца нашым сялянам, як мы тутака змагаліся з панамі, пра ўсё іншае.

— Добра гаворыце — абавязкова пабачу, пагавару таксама, — адказаў сур'ёзна з пачуцьцём павагі да сваіх дэлегацкіх абавязкаў тав, Мінін.

Паехалі дэлегаты ў Маскву, а мы ў свой Бабруйск. Чакалі вестак аб адчыненьні Зьезду, аб яго працы. Трэба адзначыць, што гэта быў восьмы Ўсерасійскі Зьезд Саветаў. Гістарычны Зьезд—першы пасьля таго, як апошні вораг Савецкае ўлады, Урангель, быў пераможаны і адчынілася магчымасьць супакойнай працы па перажытых цяжкіх гадох грамадзянскай вайны і голаду. Думкі працоўных краіны былі накіраваны туды, у Маскву, на Ўсерасійскі Зьезд.

Уважліва чытаў я, што пісалася ў газэтах аб Зьезьдзе. Акрамя звычайных газэт, даставаўся мне і асобны матар'ял аб Зьезьдзе. Ён быў надрукованы ў спэцыяльнай газэце „Восьмы Зьезд Саветаў“. Тут былі артыкулы аб працы Зьезду, аб уражаньнях на Зьезьдзе і інш. Адгэтуль артыкулы перадрукоўваліся ў мясцовых газэтах. Дык вось, у вадным з нумароў такой газэты я знашоў артыкул, які мяне вельмі зацікавіў. Падаю гэты артыкул бяз зьмен.

**Тэлеграма ў вёску.**

„Селянін-беспартыйны з пушчаў Беларусі. Стары, у лапцёх і сьвітцы даматканага сукна, каравы, падобны на імшысты пень глухога беларускага лесу. Вызваў яго з вёскі ў воласьць „Валрэўк“ (валасны рэўком), выбраўшы ў Савет. А пасьля Павятовы Зьезд Саветаў у Бабруйску. Выбралі на Ўсебеларускі Зьезд Саветаў у Менску.

Заматаўся стары. Ніводнага пасяджэньня не прапусьціў. Пяць дзён засядалі, усё аб гаспадарцы гутарылі. Пачаў разумець стары, запытае— таварышы адкажуць.

А прышлі выбары, і выставілі яго беспартыйныя, а комуністыя падтрымалі.

— Едзь, дзед, у Маскву! Паглядзі, як там! Ці праўда, што ў бальшавікоў там вялікая сіла. Леніна і Калініна паглядзі.

— Ладна, ня вучы!

І прыехаў дзед у Маскву, жыве ў „Мэтраполі", ніводнага пленуму не прапусьціў. Засядала Комуністычная фракцыя. Дэлегаты падыходзяць.

— Эй, дзед, запісвайся ў партыю—на фракцыю хадзіць будзеш.

— А ў мяне свая фракцыя—беспартыйная. Калініч загадваў прыхадзіць, казаў, што Ленін будзе.

Чэша бараду, прыбраўся, тужэй зацягнуў апаяску.

А вечарам прышоў дзед ажыўлены.

— Таварышы. каторы з вас мне тэлеграму ў вёску напіша?

Знашоўся такі.

— Пішы. Даехаў да Масквы добра, Масква вялікая, і ўсё таварышы, але і ёсьць беспартыйныя... Пішы, пішы... Быў у Калініча, з ім мы сябрыпрыяцелі. І таварыша Леніна бачыў. Сказаў яму пра наша жыцьцё. Абыходлівы таварыш,—адрас мой запісаў у кніжку. Нашым у вёсцы скажы, каб моцна стаялі за Савецкую ўладу, хутка ўсе будуць комуністымі. Прыеду—кніжак прывязу. І карцін розных. Прашчайце...

А калі таварыш прачытаў яму мімаволі сухую тэлеграму—не здаволіўся дзед. „Вельмі коратка пішаш". Дык ладна, прыеду—тады раскажу ім усё папарадку.

І здаволены, прыняўся піць гарбату, прыслухваючыся да ажыўленай размовы дэлегатаў. *В. Ашм.* [1])

Вы, чытач, пэўна ўжо дагадваецеся, што з гэтае заметкі выглядае твар тав. Мініна. І не памыліцеся. Гэта для мяне была першая вестка аб ім.

Праз некалькі дзён прыехалі дэлегаты з Масквы. Тав. Мінін адшукаў мяне ў Бабруйску, і пачаў дзяліцца сваімі ўражаньнямі аб Маскве, Зьезду, спатканьні ў гутарцы з т.т. Леніным і Калініным. Усім быў задаволены, захоплены. Асабліва падабаўся яму тав. Ленін. Аб ім ён гаварыў з пачуцьцём нейкага шчасьця, што давялося яму пабачыць тав. Леніна, і што тав. Ленін нечакана аказаўся такім абыходлівым, уважлівым.

---

[1]) Заметка напісана тагочасным рэдактарам „Звезды" тав. Ашмарыным. У ёй ёсьць гэткія памылкі: тут сказана, што „выставілі беспартыйныя", а ўсапраўднасьці Мініна выставілі, якраз партыйныя. Потым выглядае, нібы „дзед" не хацеў ісьці на пасяджэньне Комфракцыі. Тав. Мінін ахвотна хадзіў на пасяджэньні Комфракцыі. Справа вось у чым: калі засядала Комфракцыя 8-га Ўсерасійскага Зьезду Саветаў, дык тав. Калінін у той-жа час сабраў усіх беспартыйных сялян і вёў з імі гутарку. Тав. Мінін і пашоў туды, каб латвей пабачыцца з Калініным. Я. Л.

— Спаткаў я тав. Леніна неяк пасьля пасяджэньня,—апавядаў тав. Мінін. Ён гутарыў з другім нейкім таварышам. Я падышоў, назваўся— хто я і адкуль. Зараз-жа тав. Ленін павярнуўся да мяне і пачаў уважліва слухаць і расказаў яму, як гэта ў нас усё зруйнавана пасьля паноў, зямля дрэнная ды й малавата яе. Гаспадарка пагоршылася, нам, сялянам, цяжкавата жывецца.

**— „Я ведаю, што ў вас усё зруйнавана,—адказаў тав. Ленін. —Але, калі дружна возьмецеся за працу, дык хутка адбудуецеся. І будзе тады добра жыць, ня маючы над сабой пана. А мы хутка вам дапаможам. Справа гэта нашая, агульная. Запытваў шмат аб чым у мяне. Абыходлівы такі, даступны, вясёлы. Відаць, што вельмі любіць рабочых ды сялян. Калі скончылі мы гутарку, дык тав. Ленін дастаў кніжку і запісаў маё прозьвішча і адрэс“.**

**Адчувалася што яшчэ болей бадзёрым стаў т. Мінін пасьля Масквы.**

Праз тыдні два прыходзе да мяне тав. Мінін начаваць (я запрашаў яго, калі адвітаўся з ім пасьля Зьездаў). За плячмі ў торбе нешта наложана. Скінуў верхнюю вопратку, разьвязаў торбу, дастаў адтуль буханак хлеба, вялікі вясковы буханак.

— Гэта я для вас прынёс,—сказаў і палажыў на столік

У той час паёк адказнага працаўніка ў Бабруйску складаўся з 20 фунтаў мукі і далей... здаецца, нічога, калі ня лічыць пары пачкаў сярнічак і паўфунта мыла. Тав. Мініну гэта было вядома.

— Не, дзякую, тав. Мінін, не вазьму гэтага. Цяпер нам ужо паёк выдаюць такі, што хапае. Ды вы небагата жывіцё. Навошта гэта—пачаў я адмаўляцца.

— Але-ж прымеце! Ведамы мне ваш паёк, бачыў яго!—настайваў тав. Мінін.

— Каб каму другому, дык я ня прынёс-бы—не выпадае неяк. Вы— дзела другое, „свой чалавек“.

Буханак хлеба, харчовага крызісу ня зьнішчыў-бы. Каштоўнасьці вялікай з гэтага боку ён ня меў. Каштоўнай была шчырасьць, спачуваньне, спагадлівасьць тав. Мініна. Адмовіцца—значыць скрыўдзіць яго, ня прыняць яго прыяцельскіх адносін, якія выліліся ў гэты акт.

— Ну, добра, я прыму, але пад умовай, што больш нічога не прышліцё.

— Хай сабе будзе так! Калі ня хочаце, дык што-ж рабіць.

— Вось і добра. Прыяжджайце да мяне, будзем гаварыць аб тым, аб сім. Мая гаспадыня і цяпер яшчэ памятуе ваша апавяданьне, як гэта вы калісь задзёру Мотку адчахралі. Папаў, кажа, на свайго.

Сьмяецца тав. Мінін, успамінаючы свой маладзянскі спрыт.

— А мо' вы да мяне калі-кольвечы прыедзеце? Адпачыць, палявацьмо' любіце?.. Ёсьць дзе.

— Хіба-ж як будзе вальней з працай. Цяпер яе так многа, што няма калі, нават, і падумаць аб адпачынку. Гаварылі аб падзеях,—зноў апавядаў тав. Мінін аб Зьезьдзе.

Быў яшчэ пару раз у мяне тав. Мінін, выпадала і так спатыкаць, як прыяжджаў у Бабруйск.

У 1922 г. я выехаў у Менск, згубіў неяк тав. Мініна. Справы адарвалі ўвагу, захапілі думкі. Шмат чаго зьмянілася з таго часу. Значна перамаглі зруйнаваньне, узмацнілася гаспадарка, узмацнілася Савецкая ўлада. Як хутка, быццам няўбачнымі, прашлі чатыры гады. Шмат дасягненьняў за гэты час.

Але і вялікая страта прыпала. Памёр наш вялікі правадыр тав. Ленін. Вывеў слаўна, пераможна, з бур грамадзянскай барацьбы, голаду, зруйнаваньня на больш роўны, гладкі шлях і... памёр. Вось ужо год, як мы бяз Леніна. Яшчэ так яскравы перажываньні! Памятуюцца і свае ўласныя пачуцьці і пачуцьці тых міліёнаў працоўных, якія так блізка да сэрца ўзялі сумную вестку аб сьмерці тав. Леніна. Нават тыя, якія ніколі ня бачылі, ня чулі Леніна, а мо' і ня зусім добра ведалі аб ім, істотай сваёй душы, сваім сэрцам, пачуцьцём, сваёй клясавай згоднасьцю адчулі, каго страціў сьвет у васобе тав. Леніна.

А як-жа спаткаў гэта тав. Мінін? Як ён адчуваў сьмерць таго, хто гэткае вялікае, добрае ўражаньне выклікаў у ім? Мусіць сумна і цяжка спаткаў вестку аб сьмерці правадыра гэты шчыры прыхільнік Савецкае ўлады з самае сялянскае гушчы—т. Мінін?

Вас, паважаны, чытач цікавіць гэта?

Калі пісаў я гэтыя ўспаміны, дык рашыў дапоўніць іх думкамі самога тав. Мініна, асабліва яго думкамі аб Леніне, аб тым, як ён, тав. Мінін, адчуваў сьмерць тав. Леніна.

У асобным лісьце прасіў я мясцовых працаўнікоў адшукаць тав. Мініна і папрасіць яго адказаць на пытаньні,—а адказы запісаць даслоўна і прыслаць мне.

Вось адказны ліст тав. Мініна, памечаны датай 31 сьнежня 1924 г.:

„Маё ўражаньне аб Зьездах наступнае: Усебеларускі і Ўсерасійскі Зьезды, якія адбыліся ў 1920 г., праходзілі ў вельмі дзелавой плошчы, надзвычайнай дружнасьці і дзелавітасьці дэлегатаў. Адчувалася, што зьезд сапраўдна зьяўляецца пролетарскім гаспадаром у пролетарскай дзяржаве.

Пасьля маёй гутаркі з тав. Леніным і Калініным я адчуў, як блізкі тав. Ленін і тав. Калінін да рабочых і сялян, як каштоўны ім інтарэсы рабочых і сялян ня толькі нашае Рэспублікі, але таксама і прыгнечаных рабочых і сялян другіх краін сьвету; у гэтых людзях я бачыў ня толькі вялікіх барацьбітоў за рабочых і сялян Расіі, але я ў іх бачыў вялікіх барацьбітоў за рабочых і сялян усяго сьвету.

Так вялікі мае зданьні і думкі аб тав. Леніне, што я не знаходжу той меркі, якой-бы мог яго ацаніць; тав Ленін быў чалавек вясёлы, прыкладны, прыемны, — я вельмі ўпадабаў яго; яго ідэя вялікая; для мяне тав. Ленін такі дарагі, што я не знаходжу слоў выказаць гэтага.

Вестку аб сьмерці тав. Леніна я атрымаў у сваёй вёсцы Ляскавічах ад працаўнікоў Ляскавіцкага валіспалкому.

Сумная вестка аб сьмерці тав. Леніна на мяне ўплыла абурэньнем. Гэтая сумная вестка на ўсё маё жыцьцё глыбока запала ў маё сэрца. *У першы час я ня верыў усяму гэтаму: я думаў, што гэта—мана: мне здавалася, што тав. Ленін павінен жыць вечна, бо такіх людзей яшчэ ня было на ўсім сьвеце.* Перанесьці гэтую сумную вестку ў той момант для мяне было вялікім, вельмі вялікім цяжарам".

У запэўненьне, што гэта яго, тав. Мініна, думкі, на лісьце, пасьля слоў: „селянін вёскі Ляскавічы, Ляскавіцкага сельсавету, Глускага раёну, Бабруйскае акругі", непрызвычаенай да пісаньня рукою выведзены крывыя літары: „*Мін...*" Ведаў, што гэта пішуць да „свайго чалавека", дык і гаварыў тое, што думаў. Мо' стыль атрымаўся не яго, а таго, хто запісваў думкі, мо' другім стылем выказаў-бы свае думкі тав. Мінін, каб пісаў сам, але зьмест іх мінінскі, аб чым ён і сьведчыць сваім подпісам.

Далажыць ня маю нічога.

У першую, сумную для працоўных гадавіну сьмерці тав. Леніна Савецкая ўлада моцна стаіць на варце Ленінскіх наказаў і будзе стаяць, бо міліёны працоўных вераць, што „Ленін павінен жыць вечна... жыць у наказах, у ідэях Ленінізму".

# АБ КАРЫКАТУРЫ НА МАРКСЫЗМ І АБ „ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНЫМ ЭКОНОМІЗЬМЕ“ [1])

## У. Ленін

„Рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі ніхто не зьбясчэсьціць, абы яна сама сябе не зьбясчэсьціла“. Гэты выказ заўсёды мусім успамінаць і мець на увазе, калі тое або іншае важнае тэорытычнае або практычнае палажэньне марксызму перамагае ці хаця-б робіцца чарговым і неадкладным, і калі, апрача адкрытых і сталых ворагаў, на яго „накідваюцца“ такія прыяцелі, якія безнадзейна яго бясчэсьцяць, парасійску—паскудзяць, робячы з яго карыкатуру. Гэта шмат раз здаралася ў гісторыі расійскай соцыял-дэмократыі. У зьвязку з перамогай марксызму ў рэволюцыйным руху на пачатку 90-х г. г. мінулага стагодзьдзя зьявілася карыкатура на марксызм у постаці тагочаснага „экономізму“ або „стачкізму“ і каб не шматгадовая барацьба з ім, дык „іскраўцы“ *ня здолелі-б* абараніць падстаў пролетарскае тэорыі і палітыкі ні супроць дробнабуржуазнага народніцтва, ні супроць буржуазнага лібэралізму. Так было з бальшавізмам, які перамог у масавым рабочым руху 1905 году, паміж іншым, дзякуючы таму, што правілова ўжыў лёзунг „байкот царскае думы“ ў часе самых заўзятых боек расійскае рэволюцыі ўвосень 1905 г., і які павінен быў перажыць і перамагчы барацьбой карыкатуру на бальшавізм у 1908-1910 г. г., калі Аляксінскі і інш. падымалі гвалт супроць удзелу ў III думе.

Вось так стаіць справа і цяпер. Згода з тым, што *сучасная* вайна зьяўляецца імпэрыялістычнай, што яна мае глыбокі зьвязак з імпэрыялістычнай эпохай капіталізму, спатыкае, побач са сталымі ворагамі, нясталых прыяцеляў, для якіх слоўца імпэрыялізм зрабілася „модай“, якія, *заўчыўшы* гэтае слоўца, прапануюць рабочым самую беспардонную тэорытычную блытаніну, уваскрашаюць цэлы шэраг мінулых абмылак мінулага „экономізму“. Капіталізм перамог,—*дзеля таго* ня варта думаць над політычнымі пытаньнямі, разважалі старыя экономістыя ў 1894-1901 г. г., лічачы політычную барацьбу ў Расіі немагчымай. Імпэрыялізм парамог,—*дзеля таго* ня варта думаць аб пытаньнях політычнае дэмократыі, раз-

---

[1]) Гэты артыкул тав. У. Леніна ўпяршыню быў надрукован у часопісі „Звезда“ (ленінградзкае выданьне). З-за вялікае цікавасьці артыкулу, у якім тав. У Ленін абгаворвае нацыянальнае пытаньне, успамінаючы беларусаў, рэдакцыя знашла вельмі карысным яго перадрукаваць у „Полымі“.

*Рэдакцыя.*

важаюць сучасныя імпэрыялістычныя эканомістыя. Прыкладам такіх настрояў, такой карыкатуры на марксызм, зьяўляецца артыкул П. Кіеўскага, які друкуецца вышэй і які зьяўляецца ў літаратуры першай спробай больш-менш поўна высьветліць тыя хістаньні думкі, якія магчыма было заўважыць у некаторых замежных гуртках нашае партыі з пачатку 1915 г.

Пашырэньне „імпэрыялістычнага эканомізму“ сярод марксыстых, якія рашуча паўсталі супроць соцыял-шовінізму, стаўшы на бок рэволюцыйнага інтэрнацыяналізму ў сучасным вялікім крызісе соцыялізму, вельмі шкодна адбілася-б на нашым напрамку і нашай партыі, бо бясчэсьціла-б яе з сярэдзіны, з яе ўласных шэрагаў, зрабіла-б з яе прадстаўніка карыкатурнага марксызму. Вось чаму на грунтоўным разглядзе хоць-бы самых галоўных абмылак у артыкуле П. Кіеўскага трэба спыніцца, ня гледзячы на тое, што гэта само па сабе было-б зусім „няцікава“, што гэта бадай заўсёды вяло-б да непатрэбнага абгаварваньня праз меру ўжо простых ісьцін, для уважлівага і ўдумнага чытача даўно ўжо вядомых і зразумелых з нашай літаратуры 1914 і 1915 г.г.

Пачнем з самага „цэнтральнага“ пункту разважаньняў П. Кіеўскага, каб адразу пазнаёміць чытача з сутнасьцю новага напрамку „імпэрыялістычнага эканомізму“.

## 1. Адносіны марксыстых да вайны і да „абароны бацькаўшчыны“.

П. Кіеўскі пэўны сам і хоча пераканаць чытачоў, што ён „ня згодны“ *толькі* з самавызначэньнем нацый, з § 9 нашае партыйнае праграмы. Ён з вялікай злосьцю пробуе адхіліць абвінавачваньне ў тым, што ён у самай істоце адыходзіць ад марксызму *наогул* у пытаньні аб дэмократыі, што ён зьяўляецца „здраднікам“ (гіронічныя двукосьсі П. Кіеўскага) марксызму ў чым-небудзь грунтоўным. Але ў тым вось і сутнасьць, што як толькі наш аўтар пачаў разважаць аб сваёй нібы прыватнай і асобнай нязгодзе, пачаў даводзіць аргумэнты, меркаваньні і інш.,—дык выявілася, што ён якраз ва ўсім чыста адыходзіць у бок ад марксызму. Вазьмеце § в (разьдз. 2) у артыкуле П. Кіеўскага: „Гэтае вымаганьне“ (г. ё. самавызначэньне нацый) „простым шляхам (!!) вядзе да соцыял-патрыотызму“ абвяшчае нам аўтар і тлумачыць, што „здрадніцкі“ лёзунг абароны бацькаўшчыны ёсьць вывад, „які з зусім лёгічнай (!) правідловасьцю робяць з права нацый на самавызначэньне“... Самавызначэньне, на яго пагляд, ёсьць „зацьвярджэньне здрадніцтва французскіх і бэльгійскіх соцыял-патрыотаў, якія бароняць гэтую незалежнасьць“ (нацыянальна-дзяржаўную незалежнасьць Францыі і Бэльгіі) „са зброяй у руках,—яны *робяць* тое, аб чым прыхільнікі „самавызначэньня“ толькі гавораць“... „Абарона бацькаўшчыны—гэта спосаб нашых самых заядлых ворагаў“... Мы рашуча адмаўляемся разумець, як гэта *адначасна* можна быць проціў абароны бацькаўшчыны і за самавызначэньне, супроць бацькаўшчыны і за яе“.

Так піша П. Кіеўскі. Адразу відаць, што ён не зразумеў нашых рэзолюцый супроць лёзунгу абароны бацькаўшчыны ў сучаснай вайне. Мусім узяць тое, што чорным па белым напісана ў гэтых рэзолюцыях і яшчэ раз растлумачыць сэнс простае расійскае гаворкі.

Рэзолюцыя нашае партыі, ухваленая на Бэрнскай конфэрэнцыі ў сакавіку 1915 г. пад назвай „Аб лёзунгу абароны бацькаўшчыны“, пачынаецца словамі: „Праўдзівая сутнасьць сучаснае вайны заключаецца“ ў тым-та і ў тым-та.

Справа йдзе аб *сучаснай* вайне. Больш зразумела парасійску ўжо сказаць нельга. Словы „праўдзівая сутнасьць“ кажуць аб тым, што трэба адрозьніваць несапраўднае ад сапраўднага, знадворнасьць ад сутнасьці, словы ад справы. Словы аб абароне бацькаўшчыны ў данай вайне ня так як трэба малююць імпэрыялістычную вайну 1914-1916 г. г.,—вайну за разьдзел колёній, за гвалтоўнае далучэньне чужых зямель,—як нацыянальную вайну. Каб ня было аніякае магчымасьці перакруціць нашыя погляды, рэзолюцыя дадае асобны абзац аб „*праўдзіва*-нацыянальных войнах“, якія здараліся *асабліва* (заўважце: асабліва, гэта ня значыць—выключна!) у часе 1789-1871 г. г.

Рэзолюцыя зазначае, што ў „аснове“ гэтых „праўдзіва“-нацыянальных войн „ляжаў доўгі процэс масавых нацыянальных рухаў, барацьбы з абсолютызмам і фэўдалізмам, вызваленьня ад нацыянальнага уціску“...

Здаецца, зразумела? У сучаснай імпэрыялістычнай вайне, якая выклікана ўсімі варункамі імпэрыялістычнае эпохі, г. зн. якая зьявілася не выпадкова, не выключэньнем ад агульнага і тыповага, словы аб абароне бацькаўшчыны ёсьць істота ашуканства народу, бо гэта вайна *не* нацыянальная. У *праўдзіва*-нацыянальнай вайне словы „абарона бацькаўшчыны“ *зусім* не ашуканства, і мы ані ня супроць яе. Гэткія (праўдзіва-нацыянальныя) войны здараліся асабліва ў 1789-1871 г. г., і рэзолюцыя, ані адным словам не адмаўляючыся ад іх магчымасьці і ў сучасны момант, тлумачыць, як трэба адрозьніваць праўдзіва нацыянальную вайну ад імпэрыялістычнай, прыкрытай непраўдзіва-нацыянальнымі лёзунгамі. Якраз дзеля таго, каб адрозьніць гэта, трэба разглядзець, ці ляжыць у „васнове“ „доўгі процэс масавых нацыянальных рухаў“, „вызваленьня ад нацыянальнага уціску“. У рэзолюцыі аб „пацыфізьме“ вызначана проста: „с.-д. мусяць згодзіцца з позытыўным значэньнем рэволюцыйных войн, г. зн. не імпэрыялістычных войн, а такіх, што адбываліся, напрыклад, (заўважце гэтае „напрыклад“) „ад 1789 да 1871 г. з мэтаю вызваленьня ад нацыянальнага уціску“... Ці магла-б рэзолюцыя нашае партыі ў 1915 г. казаць аб нацыянальных войнах, прыклады якіх мы бачым у 1789-1871 г. г., і зазначаць, што з позытыўным значэньнем такіх войн мы згаджаемся тады, калі-б такія войны ня былі магчымы й цяпер? Зразумела, што не магла-б.

Комэнтарам да рэзолюцый нашае партыі, інакш кажучы, агульнадаступным тлумачэньнем іх зьяўляецца брошура Леніна і Зіноўева „Социялізм і вайна“. У гэтай брошуры на стар. 5 чорным па белым напісана, што „соцыялістыя прызнавалі і цяпер прызнаюць законнасьць, паступовасьць, справядлівасьць абароны бацькаўшчыны ці абаронча вайны“ *толькі* ў сэнсе „вызваленьня ад чужога нацыянальнага уціску“. Даецца прыклад: Пэрсія супроць Расіі і інш., і далей ідзе: „гэта былі-б справядлівыя, абарончыя войны, незалежна ад таго, хто распачаў іх, і кожны соцыялісты спрыяў-бы перамозе прыгнечаных, залежных, бяспраўных гаспадарстваў супроць прыгнятаючых, драпежніцкіх, рабаўласьніцкіх вялікіх дзяржаў“.

Брошура надрукавана ў жніўні 1915 г., выдадзена на нямецкай мове і на францускай. П. Кіеўскаму яна вельмі добра вядома. Ніводнага разу не пярэчыў нам як П. Кіеўскі, так і наогул ніхто, ні супроць рэзолюцыі аб лёзунгу абароны бацькаўшчыны, ні супроць рэзолюцыі аб пацыфізьме, ні супроць тлумачэньня гэтых рэзолюцый у брошуры,—ніводнага разу! Паўстае пытаньне, ці выдумляем мы на П. Кіеўскага, кажучы, што ён зусім не зразумеў марксызму, калі гэты пісьменьнік, які з сакавіка 1915 г. не пярэчыў супроць поглядаў нашае партыі на вайну,—цяпер, у жніўні 1916 г., у артыкуле аб самавызначэньні нацый, г. зн. у артыкуле па поваду нібы паасобнага пытаньня, выяўляе дзіўнае неразуменьне агульнага пытаньня?

П. Кіеўскі называе лёзунг абароны бацькаўшчыны „здрадніцкім“. Мы можам спакойна запэўніць яго, што *кожны* лёзунг зьяўляецца і заўсёды будзе зьяўляцца „здрадніцкім“ *для тых*, хто будзе мэханічна паўтараць яго, не разумеючы яго значэньня, не разгледзіўшы як сьлед справы, а толькі запамінаючы словы, без аналізу іхнага сэнсу.

Што абазначае „абарона бацькаўшчыны“, кажучы наогул? Ці зьяўляецца гэта якім-небудзь навуковым паняцьцем з экономікі або політыкі і інш.? Не! Гэта проста найбольш пашыранае, агульнаўжыванае, часам дык проста абывацкае выслоўе, каб *выпраўдаць вайну*. Нічога больш, ані! „Здрадніцкага“ тут можа быць усяго тое, што абывателі гатовы пагадзіцца з усякай вайной, кажучы: „мы баронім бацькаўшчыну“, тымчасам як марксызм, які не раўня абывательшчыне, вымагае гістарычнага аналізу кожнае асобнае войны, каб разабрацца, ці магчыма лічыць *гэтую* вайну паступовай для інтарэсаў дэмократыі або пролетарыяту, і *ў гэтым сэнсе* законнай, справядлівай і да т. п.

Лёзунг абароны бацькаўшчыны зьяўляецца найчасьцей паабывательску несьвядомым выпраўданьнем вайны, ды яшчэ калі няма здольнасьці гістарычна разгледзіць значэньне і сэнс кожнае асобнае вайны.

Марксызм дае такі аналіз ды кажа: калі „праўдзівай сутнасьцю“ вайны зьяўляецца, *напрыклад*, вызваленьне ад чужога нацыянальнага уціску (гэта *асабліва* тыпова для Эўропы 1789-1871 г. г.), дык вайна будзе па-

ступовай з боку прыгнечанага гаспадарства або нацыянальнасьці. Калі „праўдзівай сутнасьцю“ вайны зьяўляецца перадзел колёній, дзяльба здабычы, захоп чужых зямель (такая вось вайна 1914-1916 г. г.), дык тады словы аб абароне бацькаўшчыны ёсьць „цалкам ашуканства народу“.

Як-жа знайсьці „праўдзівую сутнасьць“ вайны, як азначыць яе? Вайна ёсьць *працяг політыкі*. Трэба вывучаць політыку перад вайной, політыку, што вяла і прывяла да вайны. Калі політыка была імпэрыялістычнай, інакш кажучы, калі яна бараніла інтарэсы грашовага капіталу, калі яна рабавала і прыгнятала колёніі і чужыя краіны, дык і вайна, якая вынікла з гэтае політыкі, ёсьць імпэрыялістычная вайна. Калі політыка была нацыянальна-вызваленчай або калі яна выяўляла рух народу супроць нацыянальнага уціску, дык і вайна, вынікаючая з гэтае політыкі, ёсьць нацыянальна-вызваленчая вайна.

Абываталь не разумее, што вайна ёсьць „працяг політыкі“ і дзеля таго абмяжоўваецца тым, што „вораг, бач, нападае“, „вораг увашоў у маю краіну“, не разумеючы, *за што* йдзе вайна, *якія* клясы вядуць змаганьне, дзеля *якое* політычнае мэты. П. Кіеўскі робіцца зусім падобным да такога абываталя, калі кажа, што вось Бэльгію, бач, захапілі немцы, значыцца, з пункту погляду самавызначэньня, „бэльгійскія соцыялістыя, правы“ або: частку Францыі захапілі немцы, дык значыцца „Гэд можа быць задаволены“, бо „справа даходзіць да абшару, залюдненага данай нацыянальнасьцю“ (а не да абшару з чужой нацыянальнасьцю).

Дзеля абываталя важна, *дзе* знаходзіцца войска, хто *цяпер* перамагае. Дзеля марксыстага важна, за што распачалася *гэтая* вайна, у часе якое, магчыма, пераможа ці адно ці другое войска.

З-за чаго вядзецца даная война? Аб гэтым ёсьць у нашай рэзолюцыі (рэзолюцыя грунтуецца на політыцы ваюючых дзяржаў, якую яны вялі на працягу дзесяцёхгодзьдзяў да часу вайны). Англія, Францыя і Расія ваююць за тое, каб зьберагчы захопленыя колёніі, каб мець магчымасьць рабаваць Турэччыну і інш. Нямеччына—за тое, каб адабраць *сабе* колёніі і самой зрабаваць Турэччыну і інш. Дапусьцім, што немцы захопяць нават Парыж і Пецярбург. Ці зьменіцца ад гэтага характар данае вайны? Ані ня зьменіцца. Мэтай немцаў, ці, што яшчэ важней, зьдзейсьненай політыкай у выпадку перамогі немцаў,—зьявіцца тады захоп колёній, панаваньне ў Турцыі, захоп чужанацыянальных краін, напрыклад, Польшчы і інш., але ні ў якім разе не падняволеньне чужой нацыянальнасьці французаў або рускіх. Праўдзівая сутнасьць данае вайны—не нацыянальная, а імпэрыялістычная. Іншымі словамі, вайна адбываецца не за тое, што адзін бок вызваляецца з-пад нацыянальнага уціску, а другі бароніць гэты уціск. Вайна адбываецца паміж дзьвюма групамі прыгнятацеляў, паміж двума драпежнікамі за тое, як падзяліць здабычу, каму рабаваць Турэччыну і колёніі.

Коратка: вайна *паміж* імпэрыялістычнымі (або тымі, што прыгнятаюць цэлы шэраг іншых народаў, узаляжняюць іх ад грашовага капіталу і інш.) вялікімі дзяржавамі ці ў *саюзе* з імі ёсьць імпэрыялістычная вайна. Такой вайной зьяўляецца вайна 1914-16 г. г.; „абарона бацькаўшчыны“ ёсьць ашуканства у *гэтай* вайне, ёсьць выпраўданьне яе.

Вайна *супроць* імпэрыялістычных, *і. ё.* прыгнятаючых дзяржаў з боку прыгнечаных (напрыклад, колёніяльных народаў) ёсьць *праўдзіва-нацыянальная* вайна. Яна магчыма і цяпер. „Абарона бацькаўшчыны“ з боку нацыянальна-прыгнечанай краіны супроць нацыянальна-прыгнятаючай ня ёсьць ашуканства, і соцыялістыя *ні ў якім разе ня супроць* „абароны бацькаўшчыны“ ў *такой* вайне.

Самавызначэньне нацый ёсьць тое-ж самае, што і барацьба за поўнае нацыянальнае вызваленьне, за поўную незалежнасьць, супроць анэксій,—і ад *гэткае* барацьбы ва ўсякай яе форме аж да паўстаньня ці да вайны соцыялістыя *ня могуць* адмаўляцца, калі хочуць застацца соцыялістымі.

П. Кіеўскі думае, што ён змагаецца з Пляханавым: Пляханаў-жа адзначыў зьвязак паміж самавызначэньнем нацыянальнасьцяй і абаронай бацькаўшчыны! П. Кіеўскі *паверыў* Пляханаву, што гэты зьвязак *сапраўды такі*, як малюе яго Пляханаў. Паверыўшы Пляханаву, П. Кіеўскі спалохаўся і пастанавіў, што трэба вырачыся самавызначэньня, каб выратаваць сябе ад вывадаў Пляханава... Веры ў Пляханава шмат, сполаху таксама многа, але *разважаньня* аб тым, у чым памылка Пляханава—ані знаку!

Каб выдаць гэтую вайну за нацыянальную, соцыял-шовіністыя кажуць аб самавызначэньні нацыянальнасьцяй. Правідловы шлях барацьбы з імі толькі адзін: трэба паказаць, што гэта барацьба не за вызваленьне нацыянальнасьцяй, а за тое, каму з драпежнікаў прыгнятаць *больш* нацыянальнасьцяй. Дагаварыцца-ж да таго, каб зусім зрачыся вайны, якая *сапраўды* адбываецца за вызваленьне нацыянальнасьцяй, значыць даць найгоршую карыкатуру на марксызм. Пляханаў і францускія соцыял-шовіністыя пасылаюцца на рэспубліку ў Францыі, каб выправўдаць „абарону“ яе супроць монархіі ў Нямеччыне. Калі разважаць так, як разважае П. Кіеўскі, дык мы павінны быць супроць рэспублікі! Нямецкія соцыял-шовіністыя пасылаюцца на агульнае выборчае права і абавязковае навучэньне пісьменнасьці ў Нямеччыне, каб выпраўдаць „абарону“ Нямеччыны супроць царызму. Калі разважаць так, як разважае П. Кіеўскі, дык мы павінны былі-б стаць або супроць агульнага выбарчага права і абавязковага навучаньня ўсіх пісьменнасьці, або супроць вайны, якая *сапраўды* вядзецца, каб абараніць політычную вольнасьць ад спроб адабраць яе!

К. Каўцкі да вайны 1914-16 г. г. быў марксыстым, і цэлы шэраг найгалоўнейшых яго твораў і заяў яго назаўсёды застануцца найлепшымі прыкладамі марксызму. 26 жніўня 1910 г. вось што пісаў Каўцкі ў „Neue Zeit“ наконт надыходзячай і пагражаючай вайны:

„У часе вайны паміж Нямеччынай і Англіяй пад пытаньнем стаіць не дэмократыя, а сусьветнае панаваньне, г. зн. эксплёатацыя ўсяго сьвету. Гэта—ня тое пытаньне, пры якім с.-д. мусілі-б стаяць на баку эксплёататараў свае нацыянальнасьці“.

Вось дакладнае марксыцкае формуляваньне, якое зусім адпавядае нашым поглядам, якое ў поўнай меры характарызуе *цяперашняга* Каўцкага, адышоўшага ад марксызму да абароны соцыял-шовінізму (мы яшчэ вернемся ў друку да гэтага формуляваньня), якое зусім выразна вызначае прынцыпы марксыцкага погляду на вайну. Войны ёсьць працяг політыкі; таму, калі магчыма барацьба за дэмократыю, дык магчыма і вайна з-за дэмократыі; самавызначэньне нацыянальнасьцяй зьяўляецца толькі адным з дэмократычных вымаганьняў, якое ні ў чым прынцыпова ня розьніцца ад другіх. „Панаваньне над усім светам“ ёсьць, коратка кажучы, зьмест імпэрыялістычнае політыкі, працягам якое зьяўляецца імпэрыялістычная вайна. Адмаўляцца ад „абароны бацькаўшчыны“, г. зн. ад удзелу ў вайне дэмократычнай, ёсьць бязглузьдзіца, ня маючая нічога супольнага з марксызмам. Аздабляць імпэрыялістычную вайну паняцьцем „абарона бацькаўшчыны“, г. зн. выдаваць яе за дэмократычную, значыць ашукваць рабочых, пераходзіць на бок рэакцыйнае буржуазіі.

## 2. „Нашае разуменьне новае эпохі“.

П. Кіеўскі, якому належыць гэты ў двукосьсі выраз, бязупынна гаворыць аб „новай эпосе“. На жаль, і тут яго разважаньні зьяўляюцца памылковымі.

Рэзолюцыі нашае партыі гавораць аб гэтай вайне, выкліканай агульнымі умовамі імпэрыялістычнае эпохі. Стасунак „эпохі“ і „данае вайны“ вызначаны ў нас памарксыцку правідлова: каб быць марксыстым, трэба ацаніць кожную эпоху конкрэтна. Каб зразумець, чаму паміж вялікімі дзяржавамі, шмат якіх у 1789-1871 г. г. стаялі на чале барацьбы за дэмократыю, магла і павінна была распачацца імпэрыялістычная вайна, г. зн. у сэнсе яе політычнага значэньня самая рэакцыйная, антыдэмократычная,—каб зразумець гэта, дык трэба зразумець агульныя варункі імпэрыялістычнае эпохі, г. зн. замену капіталізму ў перадавых краінах імпэрыялізмам.

П. Кіеўскі гэты стасунак „эпохі“ і „данае вайны“ зусім перайначыў. Па яго выходзіць, што *конкрэтна* гаварыць—значыць гаварыць аб „эпосе!“ Вось гэта якраз і зьяўляецца памылковым.

Эпоха 1789-1871 г. г. ёсьць асаблівая эпоха для Эўропы. Нельга зразумець ніводнае нацыянальна-вызваленчае вайны, асабліва тыповае для гэтага часу, не зразумеўшы агульных варункаў гэтае эпохі. Ці абазначае гэта, што ўсе войны тае эпохі зьяўляліся нацыянальна-вызваленчымі? Бязумоўна, не. Сказаць гэта—значыла-б дагаварыцца да недарэчнасьці і, замест конкрэтнага вывучэньня кожнае асобнае вайны,

ужыць сьмешны шаблён. У 1789-1871 г. г. здараліся як колёніяльныя войны, так і войны паміж рэакцыйнымі імпэрыямі, прыгнятаўшымі цэлы шэраг чужых нацыянальнасьцяй.

Паўстае пытаньне: ці можна сказаць, што цяпер магчымы толькі імпэрыялістычныя войны з тае прычыны, што перадавы эўропэйскі (і амэрыканскі) капіталізм увайшлі ў новую эпоху імпэрыялізму? Зацьвярджаць гэта было недарэчнасьцю, няўменьнем адрозьніць пэўную, конкрэтную зьяву ад усяе сумы рознастайных зьяў эпохі. Эпоха таму і называецца эпохай, што яна абхоплівае суму рознастайных зьяў і войн як тыповых, так і ня тыповых, як вялікіх, так і малых, як уласьцівых перадавым, так і ўласьцівых адсталым краінам. Разьвязваць абы-як гэтыя конкрэтныя пытаньні пры дапамозе агульных слоў аб „эпосе“, як робіць гэта П. Кіеўскі, значыць злоўжываць паняцьцем „эпоха“. Мы зараз пададзімо адзін з цэлага шэрагу прыкладаў, каб не абмежавацца аднымі толькі словамі. Але сьпярша трэба адзначыць, што *адна* група левых, якраз нямецкая група „Інтэрнацыянал“, у сваіх тэзісах, абвешчаных у № 3 Бюлетэню Бэрнскае Выканаўчае Комісіі (29 лютага 1916 г.) ухваліла ў § 5 відочна неправідловае палажэньне: „У эру самага лютага імпэрыялізму *ня можа больш здарыцца ніякіх* нацыянальных войн“. Мы разгледзілі гэтае палажэньне ў „Зборніку соцыялдэмократа“. Тут адзначым толькі, што хаця ўсім, хто цікавіцца інтэрнацыяналістычным рухам, даўно ведама гэтае тэорэтычнае палажэньне (мы змагаліся з ім яшчэ на пашыраным сходзе Бэрнскае Выканаўчае Комісіі ўвесну 1916 г.), але дагэтуль *ніводная група* не паўтарыла яго, не ўхваліла яго. І П. Кіеўскі ў жніўні 1916 г., калі ён пісаў свой артыкул, дык ніводнага слова не сказаў якога-небудзь падобнага зацьверджаньня.

Гэта трэба адзначыць вось чаму: каб такое самае ці падобнае тэорэтычнае палажэньне было выказана, дык магчыма было-б гаварыць аб тэорэтычнай нязгоджанасьці. Калі-ж ніводнага падобнага палажэньня ня было высунута, дык мы мусім сказаць: мы маем ня іншае якое разуменьне „эпохі“, а толькі абы як сказаныя словы, злоўжываньне словам „эпоха“.

Прыклад: „Ці не падобна яно (самавызначэньне)“, піша П. Кіеўскі ў самым пачатку свайго артыкулу, „на права атрымаць бяз грошай 10.000 дзесяцін зямлі на Марсе?“ Нельга іначай адказаць на гэтае пытаньне як толькі ў поўнай меры конкрэтна, у зьвязку з ацэнкай усяе сучаснае эпохі; бо адна справа—права нацыянальнасьцяй на самавызначэньне ў часе ўтварэньня нацыянальных гаспадарстваў, як найлепшых форм разьвіцьця вытворчых сіл на тагочасным узроўні, а другая гэта—права, калі гэтыя формы, формы нацыянальнага гаспадарства, сталі путамі для іх разьвіцьця. Паміж эпохай узмацненьня капіталізму і нацыянальнага гаспадарства і эпохай, што напярэдадні заняпаду самога капіталізму,—адлегласьць вельмі вялікая. Гаварыць-жа „наогул“, не зважаючы на час і месца, марксыстаму не пасуе.

Гэтае разважаньне—прыклад карыкатурнага ўжываньня паняцьця „імпэрыялістычная эпоха“. І затым, што гэтае паняцьце новае і важнае, трэба з карыкатурай змагацца! Аб чым ідзе гутарка, калі кажуць, што формы нацыянальнага гаспадарства зрабіліся кайданамі і г. д.? Аб перадавых капіталістычных краінах,—а найперш Нямеччыне, Францыі, Англіі, удзел якіх у данай вайне зрабіў гэтую вайну пераважна імпэрыялісцкай. У памянёных краінах, што дагэтуль вялі чалавецтва наперад, асабліва ў 1789-1871 г. г., скончыўся процэс утварэньня нацыянальнага гаспадарства; у *гэтых* краінах нацыянальны рух зьяўляецца мінулым, якога ня вернеш, аднаўленьне якога было-б недарэчнай, рэакцыйнай утопіяй. Нацыянальны рух у французаў, ангельцаў, немцаў даўно ўжо закончыўся; на гістарычнай чарзе тут стаіць іншае; нацыі, якія вызваліліся, абярнуліся ў нацыі прыгнятацелькі, у нацыі імпэрыялісцкага драпества, у нацыі, якія перажываюць „часы, што напярэдадні заняпаду капіталізму“.

А іншыя нацыі?

П. Кіеўскі паўтарае, як завучанае правіла, што марксыстыя павінны разважаць „конкрэтна“, але сам не карыстаецца гэтым правілам. А мы ў сваіх тэзісах наўмысьля далі прыклад конкрэтнага адказу, і П. Кіеўскі не знашоў патрэбным заўважыць нам абмылкі, калі ён бачыў гэтую абмылку.

У нашых тэзісах (§ 6) гаворыцца, што, каб быць конкрэтным, дык трэба адрозьніваць ня менш, чымся *тры* тыпы краін у справе пытаньня аб самавызначэньні (зразумела, што ў кожнай асобнай краіне агульнымі тэзісамі гаварыць нельга было-б). Першы тып—тыя перадавыя краіны Заходняе Эўропы (і Амэрыкі), дзе нацыянальны рух—*прошласьць*. Другі тып—усход Эўропы, дзе ён—*сучаснасьць*. Трэці—напоўколёніі і колёніі, дзе ён у значнай меры—*будучыня*.

Праўда гэта ці не? П. Кіеўскі *сюды* павінен быў-бы накіраваць сваю крытыку. Але ён нават не заўважвае, *з чаго* складаюцца тэорэтычныя пытаньні! Ён ня бачыць таго, што пакуль ён не абвергнуў паданага вышэй палажэньня (у § 6-ым) нашых тэзісаў—абвергнуць яго нельга, бо яно праўдзівае—датуль яго разважаньні аб „эпосе“ падобны да таго, што чалавек дарэмна замахваецца мячом, але не сячэ.

„Процілежна думцы В. Ільліна“, піша ён у канцы артыкулу, „мы ўважаем, што для большасьці (!) заходніх (!) краін нацыянальнае пытаньне ня вырашана“...

Выходзіць, што, мусі быць, нацыянальны рух французаў, гішпанцаў, ангельцаў, голяндцаў, немцаў, італьлянцаў не закончаны ў 17, 18, 19 сталецьці ці яшчэ раней? У пачатку артыкулу паняцьце „эпохі імпэрыялізму“ перайначана так, што нацыянальны рух нібы закончаны наогул, а ня то што ў перадавых заходніх краінах. У канцы таго самага артыкулу абвешчана, што нацыянальнае пытаньне яшчэ „ня вырашана“ *якраз* у заходніх краінах! Ці-ж гэта не блытаніна?

У заходніх краінах нацыянальны рух—даўняе мінулае. „Бацькаўшчына“ ў Англіі, Францыі або Нямеччыне і г. д. ужо даўно сьпела сваю песьню, адыграла сваю гістарычную ролю, інакш кажучы, нічога паступовага, штурхаючага да новага экономічнага і політычнага жыцьця новыя масы людзей, тут нацыянальны рух даць ня мае магчымасьці. Тут на гістарычным парадку дня мы маем не пераход ад фэўдалізму ці ад патрыярхальнага дзікунства да нацыянальнае паступовасьці, да культурнае і політычна-вольнае бацькаўшчыны, а пераход ад перажыўшае ўжо сябе, капіталістычна перасьпелае „бацькаўшчыны“ да соцыялізму.

На ўсходзе Эўропы справа стаіць іначай. Адносна украінцаў і беларусаў, напрыклад, дык толькі чалавек, які ў сваіх марах жыве на Марсе, мог-бы не згаджацца, што тут нацыянальны рух не закончаны, што абуджэньне мас да ўладаньня роднай мовай і яе літаратурай (а гэта—неабходная умова поўнага разьвіцьця капіталізму і заўсёды яно йдзе побач з гэтым разьвіцьцём, і толькі пры гэтай умове магчыма поўнае пранікненьне абмену ў самую глыб сялянства), тут *яшчэ* адбываецца. „Бацькаўшчына“ тут *яшчэ* ня сьпела ўсяе свае гістарычнае песьні. „Абарона бацькаўшчыны“ тут *яшчэ* можа быць абаронай дэмократыі, роднае мовы, політычнае вольнасьці проціў прыгнятаючых нацый, проціў сярэднявечча, тымчасам як ангельцы, французы, немцы, італьлянцы маняць цяпер, кажучы аб абароне свае бацькаўшчыны ў данай вайне, бо *ня* родную мову, *не* свабоду свайго нацыянальнага разьвіцьця папраўдзе бароняць яны, а свае ўласьніцкія правы над нявольнікамі, свае колёніі, „сфэры ўплыву“ свайго грашовага капіталу ў чужых старонках і інш.

У напоўколёніях і колёніях нацыянальны рух гістарычна яшчэ маладзейшы, чымся на ўсходзе Эўропы.

Да *чаго* адносяцца словы аб „высока разьвітых“ краінах і аб імпэрыялістычнай эпосе; у *чым* „асобнае“ становішча Расіі (назва § д у 2-ім разьдзеле арт. П. Кіеўскага) і ні аднае Расіі; *дзе* нацыянальна-вызваленчы рух зьяўляецца брахлівым выслоўем і дзе ён ёсьць жывая і паступовая сучаснасьць,—нічога гэтага П. Кіеўскі абсолютна не зразумеў.

## Што такое экономічны аналіз?

Самым галоўным довадам у ворагаў самавызначэньня зьяўляецца нібы немагчымасьць „ажыцьцёвіць“ яго пры капіталізьме наогул ці пры імпэрыялізьме. Слоўца „невыканальнасьць“ часта ўжываецца ў рознастайным і недакладна вызначаным сэнсе. Вось чаму ў сваіх тэзісах мы вымагалі таго, што мусіць быць у кожнай тэорэтычнай дыскусіі: вытлумачыць, у якім сэнсе гавораць аб „невыканальнасьці“? І мы не абмежаваліся гэтым пытаньнем, а прыступілі да такога тлумачэньня: у сэнсе труднасьці політычна зьдзейсьніць або зусім немагчымасьці зрабіць гэта—бяз шэрагу рэволюцый *усе* вымаганьні дэмократыі „невыканальны“ пры імпэрыялізьме.

У сэнсе экономічнае немагчымасьці—казаць аб невыканальнасьці самавызначэньня памылкова па сваёй істоце.

Вось якаво наша палажэньне. Тут—пункт тэорэтычнага разыходжаньня, і на гэтае пытаньне ў колькі-небудзь сур'ёзнай дыскусіі трэба было-б нашым супрацоўнікам зьвярнуць усю увагу.

Паглядзеце-ж, як разважае аб гэтым пытаньні П. Кіеўскі.

Тлумачыць невыканальнасьць у сэнсе труднасьці выкананьня па політычных прычынах ён зусім адмаўляецца. Ён адказвае на пытаньне проста ў сэнсе экономічнае немагчымасьці.

„Ці значыць, піша П. Кіеўскі, што самавызначэньне пры імпэрыялізьме так-жа неажыцьцявімы, як немагчымы працоўныя грошы пры таварнай вытворчасьці?“ і дае адказ: „Так, значыць! Бо мы гаворым якраз аб лёгічнай супярэчнасьці паміж двума соцыяльнымі катэгорыямі—„імпэрыялізм“ і „самавызначэньне нацый“,—такой лёгічнай супярэчнасьці, якая існуе паміж двума другімі катэгорыямі: працоўныя грошы і таварная вытворчасьць. Імпэрыялізм выключае самавызначэньне і пагодніць самавызначэньне з імпэрыялізмам ня здолее ніякі штукар“.

Хоць і вельмі ўжо страшным выдаецца гэтае сярдзітае слова „штукар“, якое накіроўвае на нас П. Кіеўскі, але мы ўсё-ткі мусім зазначыць яму, што ён проста не разумее, што абазначае экономічны аналіз. „Лёгічнай супярэчнасьці“, пры умове, бязумоўна, правіловага лёгічнага мысьленьня, не павінна быць ні ў экономічным, ні ў політычным аналізе. Вось чаму пасылацца на „лёгічную супярэчнасьць“ *наогул*, калі гутарка йдзе якраз аб тым, каб даць экономічны аналіз, а не політычны, ніяк не пасуе. Да „соцыяльных катэгорый“ належыць і экономічнае, і політычнае. Значыцца, П. Кіеўскі, даўшы спачатку рашучы і просты адказ: „так, значыць“ (г. ё. самавызначэньне *таксама* немагчыма ажыцьцёвіць, як і працоўныя грошы пры таварнай вытворчасьці), зрабіў толькі тое, што пахадзіў кругом ды наўкола, але экономічнага аналізу не зрабіў.

Як можна давесьці, што рабочыя грошы невыканальны пры таварнай вытворчасьці? Экономічным аналізам. Гэты аналіз, як і ўсякі іншы аналіз, не дапускае „лёгічнае супярэчнасьці“, бярэ экономічныя і *толькі* экономічныя (але не „соцыяльныя“ наогул) катэгорыі і з іх робіць вывад немагчымасьці працоўных грошай. У першым разьдзеле „Капіталу“ ні аб якой політыцы, ні аб якой політычнай форме, ні аб якіх „соцыяльных катэгорыях“ наогул няма й гутаркі: аналізу патрэбна *толькі* экономічнае—абмен тавараў, разьвіцьцё абмену тавараў. Экономічны аналіз вызначае—шляхам, бязумоўна, „лёгічных“ разважаньняў,—што працоўныя грошы пры таварнай вытворчасьці зьяўляюцца невыканальнымі.

П. Кіеўскі нават ня робіць спробы прыступіцца да экономічнага аналізу. Ён *пераблытвае* экономічную сутнасьць імпэрыялізму з яго політычнымі тэндэнцыямі, што відно з самага першага сказу першага разьдзелу яго артыкулу.

Вось гэты сказ:

„Прамысловы капітал зьявіўся сынтэзам дакапіталістычнае вытворчасьці і гандлёва-пазычковага капіталу. Пазычковы капітал апынуўся на службе ў прамысловага. Цяпер капіталізм перамагае розныя віды капіталу; зьяўляецца вышэйшы, уніфікаваны ад яго—грашовы капітал, і дзеля гэтага ўсю эпоху магчыма назваць эпохай грашовага капіталу, адэкватнай сыстэмай знадворнае політыкі якога і ёсьць імпэрыялізм“.

З экономічнага боку ўсё гэтае азначэньне нічога ня варта: замест дакладных экономічных катэґорый—адны словы. Але спыняцца на гэтым цяпер немагчыма. Важна тое, што імпэрыялізм П. Кіеўскі абвяшчае „сыстэмай знадворнай політыкі“.

Гэта, папершае, у сваёй сутнасьці неправіловае паўтарэньне ідэі Каўцкага.

Гэта, падругое, чыста політычнае, толькі політычнае азначэньне імпэрыялізму. Пры дапамозе азначэньня імпэрыялізму, як „сыстэмы політыкі“, П. Кіеўскі прабуе выкруціцца ад *экономічнага* аналізу, які ён даклераваў даць, абвясьціўшы, што самавызначэньне „таксама“ немагчыма зьдзейсьніць пры імпэрыялізьме, як і працоўныя грошы пры таварнай вытворчасьці!

Каўцкі ў спрэчцы з левымі казаў, што імпэрыялізм ёсьць „тольк сыстэма знадворнай *політыкі*“ (якраз анэксіі), што называць імпэрыялізмам пэўную экономічную стадыю, ступень разьвіцьця капіталізму нельга.

Каўцкі памыляецца. Спрачацца аб словах, бязумоўна, ня варта. Забараніць ужываць „слова“ імпэрыялізм так ці йначай нельга. Але трэба дакладна вызначыць паняцьці, калі манішся весьці дыскусію.

Экономічна імпэрыялізм (або „эпоха“ грашовага капіталу,—справа ня ў словах) ёсьць вышэйшая ступень разьвіцьця капіталізму, якраз тая, калі вытворчасьць зрабілася такой буйнай і буйнейшай, што, *замест свабоды конкурэнцыі, надыходзе монополія*. У гэтым экономічная сутнасьць імпэрыялізму. Монополія выяўляецца і ў трэстах, сындыкатах і інш., і ва ўсемагутнасьці вялізных банкаў, і ў скупліваньні крыніц сыр'я і інш., і ў концэнтраваньні банкавага капіталу і г. д. У экономічнай монополіі ўся справа.

Політычнай надбудовай над новай экономікай, над монополістычным капіталізмам (імпэрыялізм тое самое, што монополістычны капіталізм) зьяўляецца паварот *ад* дэмократыі да політычнае рэакцыі. Вольнай конкурэнцыі адпавядае дэмократыя. Монополіі адпавядае політычная рэакцыя: „грашовы капітал імкнецца да панаваньня, а не да волі“, як правілова зазначае Р. Гільфэрдынг у сваім „Грашовым капітале“.

Вылучаць „знадворную політыку“ з політыкі наогул або тым больш процістаўляць знадворную політыку ўнутранай ёсьць у васнове сваёй неправіловая, немарксыцкая, ненавуковая думка. І ў знадворнай політыцы і ва ўнутранай імпэрыялізм аднолькава імкнецца да парушэньня дэмо-

кратыі, імкнецца да рэакцыі. У гэтым сэнсе зьяўляецца бяспрэчным, што імпэрыялізм ёсьць „отрицание“ дэмократыі наогул, *усяе дэмократыі*, а якраз зусім ні *аднаю* толькі вымаганьня дэмократыі—самавызначэньня нацый.

Імпэрыялізм, які „не прызнае“ дэмократыю *таксама* „не прызнае“ і дэмократыю ў нацыянальным пытаньні (г. зн. самавызначэньне нацый): „таксама“, г. зн. ён імкнецца парушыць яе; ажыцьцяўленьне яе якраз настолькі-ж у тым самым сэнсе зьяўляецца цяжэйшым у часе імпэрыялізму, наколькі цяжэй пры імпэрыялізме (у параўнаньні з дамонополістычным капіталізмам) ажыцьцяўленьне рэспублікі, міліцыі, абраньня народам вураднікаў і г. д. Аб „экономічнай“ невыканальнасьці ня можа быць і гутаркі.

П. Кіеўскі памыліўся яшчэ тут, мусіць, дзякуючы тэй акалічнасьці (апрача агульнага неразуменьня вымаганьняў экономічнага аналізу), што з абывацельскага пункту погляду анэксія (г. зн. далучэньне краіны, заселенай іншай нацыянальнасьцю супроць волі яе жыхарства, інакш, парушэньне самавызначэньня нацый) лічыцца роўназначнай „пашырэньню“ грашовага капіталу на больш значны гаспадарчы абшар.

Але з абывацельскімі поглядамі нельга прымацца за тэорэтычныя пытаньні.

Імпэрыялізм ёсьць экономічна монополістычны капіталізм. Каб монополія была поўнай, дык трэба пазбавіцца ад конкурэнтаў ня толькі на ўнутраным рынку (на рынку данага гаспадарства), але і на знадворным, ва ўсім сьвеце. Ці ёсьць *экономічная* магчымасьць „у эру грашовага капіталу“ пазбавіцца конкурэнцыі нават у чужым гаспадарстве? Бязумоўна, ёсьць: гэты спосаб—грашовая залежнасьць і скупліваньне крыніц сыр'я, а потым і ўсіх прадпрыемстваў конкурэнта.

Амэрыканскія трэсты самым найлепшым спосабам выяўляюць экономіку імпэрыялізму або монополістычнага капіталізму. Каб пазбавіцца конкурэнта, дык трэсты не абмяжоўваюцца экономічнымі сродкамі, а заўсёды зьвяртаюцца да політычных і, нават, крымінальных. Але было-б вельмі памылковым лічыць экономічна немагчымым ажыцьцёвіць монополію трэстаў пры чыста экономічных спосабах барацьбы. Наадварот, рэчаіснасьць на кожным кроку даводзіць „магчымасьць“ гэтага: трэсты пры дапамозе банкаў пазбаўляюць конкурэнтаў магчымасьці карыстацца крэдытам (гаспадары трэстаў зьяўляюцца гаспадарамі банкаў: скупліваньне акцый); трэсты перашкаджаюць падвозу матар'ялаў конкурэнтам (гаспадары трэстаў зьяўляюцца гаспадарамі чыгунак: скупліваньне акцый); трэсты на нейкі час зьбіваюць цану на танейшую, чым ім каштуе самім, і калі конкурэнт зусім згалее, дык скупляюць яго прадпрыемствы, яго крыніцы сыр'я (капальні, зямлю і інш.).

Вось чыста экономічны аналіз моцы трэстаў і іхнага пашырэньня. Вось чыста экономічны шлях да пашырэньня: *скупліваньне* прадпрыемстваў, закладаў, крыніц сыр'я.

Буйны грашовы капітал аднае старонкі заўсёды мае магчымасьць скупіць конкурэнтаў чужое, політычна незалежнае краіны, і заўсёды робіць гэта. Экономічна гэта заўсёды можна ажыцьцёвіць. Экономічную „анэксію“ *ў поўнай меры* магчыма „ажыцьцёвіць“ без політычнае і гэта заўсёды спатыкаецца. У літаратуры аб імпэрыялізьме вы на кожным кроку спаткаеце, напрыклад, што Аргэнтына ёсьць у супраўднасьці „гандлёвая колёнія“ Англіі, што Португалія зьяўляецца ў супраўднасьці „васалам“ Англіі і да т. п. Гэта праўда: экономічная залежнасьць ад ангельскіх банкаў, запазычанасьць Англіі, скупліваньне Англіяй мясцовых чыгунак, капалень, зямлі і інш., — усё гэта з названых краін робіць „анэксіі“ Англіі ў экономічным сэнсе, не захапляючы політычнае незалежнасьці гэтых краін.

Самавызначэньнем нацый называецца політычная незалежнасьць іх. Імпэрыялізм імкнецца парушыць яе, бо пры політычнай анэксіі экономічная часта выгадней, таней (лягчэй падкупіць ураднікаў, дастаць концэсіі, правесьці выгодны закон і інш.), зручней, спакайней, — якраз так, як імпэрыялізм імкнецца падмяніць дэмократыю наогул олігархіяй. Але разважаць *наконт экономічнае* „невыканальнасьці“ самавызначэньня пры імпэрыялізьме гэта проста боты ў сьмятку.

П. Кіеўскі тэорэтычныя труднасьці абмінае пры дапамозе аднаго надзвычайна лёгкай вагі спосабу, які панямецку называецца „буршыкознымі“ выслоўямі, г. зн. пастудэнцку праставатымі, грубаватымі, якія ўжываюцца (і тады яны яшчэ дарэчы) у часе студэнцкае папойкі. Вось прыклад: „Агульнае выборчае права“, кажа ён, 8-гадзінны рабочы дзень і нават рэспубліку магчыма *лёгічна* пагодніць з імпэрыялізмам, хаця імпэрыялізм да іх ня вельмі прыхільны (!!), а затым ажыцьцёвіць іх вельмі цяжка“.

Мы зусім нічога ня маем супроць буршыкознага выслоўя: рэспубліка ня „прыхільна“ да імпэрыялізму, — вясёленькае слоўца часамі аздабляе навуковыя матэрыі! — калі-б *апрача* іх у развагах аб сур'ёзным пытаньні быў яшчэ і экономічны і політычны аналіз паняцьцяў. У П. Кіеўскага буршыкознасьць падмяняе такі аналіз, хавае адсутнасьць яго.

Што гэта абазначае: „рэспубліка ня прыхільна да імпэрыялізму?“ І чаму гэта так?

Рэспубліка ёсьць адна з магчымых форм політычнае надбудовы над капіталістычнай грамадой і да таго — самая дэмократычная пры сучасных умовах. Сказаць: рэспубліка ня „прыхільна“ да імпэрыялізму, гэта значыць сказаць, што паміж імпэрыялізмам і дэмократыяй ёсьць супярэчнасьць. Вельмі магчыма, што гэтае наша заключэньне „ня прыхільна“ і нават „вельмі ня прыхільна“ да П. Кіеўскага, але-ж яно бясспрэчнае.

Далей. Што гэта за супярэчнасьць паміж імпэрыялізмам і дэмократыяй? Лёгічная ці не лёгічная? П. Кіеўскі ўжывае слова „лёгічны“ не падумаўшы, і дзеля таго ён не заўважыў, што гэтае слова служыць яму

ў даным выпадку, каб *схваціць* (ад вачэй і розуму чытача, як ад вачэй і розуму аўтара) *якраз тое пытаньне*, аб якім ён узяўся разважаць. Гэтае пытаньне—стасунак экономікі да політыкі; стасунак экономічных варункаў і экономічнага зьместу імпэрыялізму да аднае з політычных форм. Кожная „супярэчнасьць", якую магчыма заўважыць у людзкіх разважаньнях, ёсьць лёгічная супярэчнасьць; гэта нічога ня вартая таўтолёгія. Пры дапамозе гэтае таўтолёгіі П. Кіеўскі мінае *сутнасьць* пытаньня: ці існуе „лёгічная" супярэчнасьць паміж дзьвюма *экономічнымі* зьявамі або палажэньнямі (1)? Або паміж двума *політычнымі* (2)? Або паміж экономічным і політычным (3)?

Бо ў гэтым уся сутнасьць, калі ўжо паўстала пытаньне аб экономічнай невыканальнасьці або выканальнасьці пры тэй ці іншай політычнай форме?

Каб П. Кіеўскі не абмінуў гэтае сутнасьці, дык ён пабачыў-бы, мабыць, што супярэчнасьць паміж імпэрыялізмам і рэспублікай ёсьць супярэчнасьць паміж экономікай навейшага капіталізму (якраз монополістычнага капіталізму) і політычнай дэмократыяй наогул. Бо ніколі ня здолее давесьці П. Кіеўскі, што ўсякая важная і грунтоўная дэмократычная мера (абраньне народам вураднікаў ці афіцэраў, самая поўная свабода саюзаў і сходаў і інш.) менш супярэчыць імпэрыялізму (больш „прыхільна" да яго, калі хочаце), чымся рэспубліка.

І ўрэшце атрымоўваецца тое самае палажэньне, якое мы баранілі ў тэзісах: імпэрыялізм супярэчыць, „лёгічна" супярэчыць *усяе наогул* політычнае дэмократыі. П. Кіеўскаму „не падабаецца" гэтае нашае палажэньне, бо яно разбурае яго політычныя будовы, але што-ж рабіць? Няўжо-ж папраўдзе трэба зьмірыцца з тым, калі хочуць нібы-та абвергнуць пэўныя палажэньні, але на справе цішком ужываюць іх пры дапамозе выслоўя: „рэспубліка ня прыхільна да імпэрыялізму"?

Далей. Чаму рэспубліка ня вельмі прыхільна да імпэрыялізму і як „пагодніць" імпэрыялізм сваю экономіку з рэспублікай?

П. Кіеўскі не падумаў над гэтым. Мы яму ўспомнім наступныя словы Энгэльса. Гутарка йдзе наконт дэмократычнае рэспублікі. Пытаньне вось якое: ці можа багацьце панаваць пры гэтай форме кіраваньня? Г. зн. пытаньне якраз аб „супярэчнасьці" між экономікай і політыкай.

Энгэльс адказвае... „Дэмократычная рэспубліка офіцыйна нічога ня ведае аб розьніцы" (сярод грамадзян) „па багацьцю. Пры ёй багацьце ажыцьцяўляе сваю ўладу пабочна, але затое больш пэўна. З аднаго боку— у выглядзе звычайнага подкупу вураднікаў" (найлепшы прыклад—Амэрыка) „і з другога боку—яднаньня ураду й біржы"...

Вось вам прыклад экономічнага аналізу па пытаньні аб „выканальнасьці" дэмократыі пры капіталізьме, і часткай вось гэтага пытаньня зьяўляецца пытаньне аб „выканальнасьці" самавызначэньня пры імпэрыялізьме.

Дэмократычная рэспубліка „лёгічна“ супярэчыць капіталізму, бо „офіцыйна“ раўнуе беднага з багатым. Гэта зьяўляецца супярэчнасьцю паміж экономічным людам і політычнай надбудовай. З імпэрыялізмам у рэспубліцы тая самая супярэчнасьць, можа большая ці пабольшаная тым, што замена вольнай конкурэнцыі монополіяй яшчэ больш „перашкаджае“ ажыцьцяўленьню ўсякае політычнае вольнасьці.

Як-жа пагодніць імпэрыялізм з дэмократыяй? Пры дапамозе залежнага „ўкоснага“ ажыцьцяўленьня ўсемагутнасьці капіталу. Ёсьць на гэтае два экономічныя сродкі: 1) звычайны подкуп; 2) хаўрусаваньне ураду з біржаю. (У нашых тэзісах пра гэта гаворыцца так, што гандлёвы капітал „здолее купіць і падкупіць усякі урад і вураднікаў“ пры буржуазным ладзе)-

Калі пануе таварная вытворчасьць, г. зн. буржуазія, дык уладу грошай—подкуп (звычайны і праз біржу) „магчыма зьдзейсьніць“ пры ўсякай форме кіраваньня, пры ўсякай дэмократыі.

Зьяўляецца пытаньне, што зьмяняецца ў гэтым стасунку пры замене капіталізму імпэрыялізмам, г. зн. дамонополістычнага капіталізму монополістычным?

Толькі тое, што ўлада біржы ўзмацняецца! Бо грашовы капітал ёсьць буйнейшы, даросшы да монополі: прамысловы капітал, які злучыўся з банкавым капіталам. Буйныя банкі зьліваюцца з біржай, паглынаючы яе. (У літаратуры аб імпэрыялізьме кажуць аб тым, што біржа траціць сваю ролю, але толькі ў тым сэнсе, што кожны вялізны банк зьяўляецца адначасна і біржай.

Далей. Калі для „багацьця“ наогул зьяўляецца зусім магчымым панаваньне над усякай дэмократычнай рэспублікай пры дапамозе подкупу й біржы, дык з якое рацыі можа П. Кіеўскі зацьвярджаць, не памыляючыся, што вялікае багацьце трэстаў і банкаў, якія варочаюць міліярдамі, ня мае магчымасьці „зьдзейсьніць“ улады грашовага капіталу над чужой, г. зн. політычна незалежнай рэспублікай?

Што-ж, у чужым гаспадарстве вураднікаў „нельга“ падкупіць? Ці „саюз ураду з біржай“ зьяўляецца толькі саюзам свайго ураду?

Чытач з гэтага ўжо бачыць, што каб разблытаць і популярна растлумачыць, дык патрэбна каля дзесяцёх друкаваных старонак супроць дзесяцёх радкоў блытаніны. Так падрабязна разглядаць кожны довад П. Кіеўскага—у яго ніводнага няма без блытаніны—мы ня маем магчымасьці, дый гэта непатрэбна, калі галоўнае разгледжана. Усё іншае адзначым коратка.

(Канец будзе).

Пераклаў **А. Раманоўскі.**

# ПАМЯТНЫ ДЗЕНЬ

*(Пра крывавае 9 студзеня 1905 г.)*

**Н. Бываеўскі**

Падумаць толькі, як бяжыць час: зараз мы сьвяткуем, ужо 20-годзьдзе падзей памятнай крывавай нядзелі 9 студзеня 1905 г. А між тым гэты дзень для удзельнікаў падзей у Пецярбурзе ня страціў свае сьвежасьці і калі памяць утраціла дробязі, то асноўныя ўражаньні жывы, як-бы ўсё адбывалася зусім нядаўна.

Я перакажу тое, сьведкаю і удзельнікам чаго быў тады сам.

---

Мой зямляк і прыяцель, студэнт-хімік Л. (зараз працуе ў БДУ) жыў, калі ня мыляюся, тады на Ропшынскай вуліцы, недалёка ад Вялікага проспэкту Пецярбурскае стараны. Уся кампанія моладзі, з ім жыўшая, працавала ў падпольных організацыях, і таму мы ўсе добра ведалі, што 9 студзеня адбудзецца пералом у работніцкім руху сталіцы, што „дабром" справа „сустрэчы" з Мікалаем II ня кончыцца. Але рух пецярбурскіх работнікаў, захапіўшы апошніх да самае глыбі, быў такім нечакана магутным, што політычна выцьвеAccording разіць гэтыя сотні тысяч людзей было ўжо не па сілах ніякім рэволюцыйным організацыям. Прыходзілася ў гэтакі момант быць разам з масамі, каб выкарыстаць магчымыя вынікі сутычак працоўных мас з паліцыяю і войскам.

Каля 9 гадзіны раніцы я быў ужо ў Л. Больш палкая кампанія, ўжо пасьпела паімчацца на Васільлеўскі востраў. Мы пашлі туды-ж удвох.

Па дарозе к Тучкову мосту і на самым Васільлеўскім востраве нас зьдзівіла, што пасты гарадавых усюды зьняты і іх нідзе ня відаць. Нам, гэта адразу напомніла моманты, калі паліцыю здымаюць, каб даць першае месца проці дэмонстрантаў жандарам і казакам. Стала адразу зразумела што дзень будзе „гарачы" і рэволюцыйны малады запал пагнаў нас яшчэ шпарчэй да гапонаўскага найбліжшага штабу, здаецца, на 4 лінію Васільлеўскага востраву.

Але калі паліцыя зьнікла і рамізьнікаў было зусім мала на вуліцах, то затое цэлыя патокі людзей сьпяшаліся кудысьці. Перавагалі мужчыны сярод якіх многа работнікаў-барадачоў. Радзей мы абганялі жанчын і дзяўчат. Было аднак ўражаньне, што йдуць не адны толькі работнікі, але й наогул усялякі працоўны люд. Студэнтаў і курсыстак было мала.

Пад канец Вялікага проспэкту людзі йшлі ўсё гусьцей і ўжо ня толькі па тротуарах, а па самай вуліцы, што было й магчыма гэты раз таму, што ніхто ня езьдзіў, а „фараоны“ прапалі і не маглі перашкаджаць гэтаму. Ці таму, што была нядзеля, калі ўсе працоўныя навыклі адзявацца чысьцей, ці мо‘ па асабліваму настрою нейкага выдатнага ў жыцьці дня (ішлі-ж „гаварыць з царом непасрэдна“, у што іншыя і верылі, бо праз гапонаўскія аддзелы была за дзень-два да таго пушчана пагалоска аб тым, што цар выслухае хадайніцтва працоўных сталіцы)—толькі большасьць ішоўшага народу была апранута пасьвяточнаму.

Добра памятаю, што, спушчаючыся з Тучкова мосту, мы неспадзявана ўбачылі, як імчаўся ў санках на рысаку гэнэрал Фулён, градачальнік, якога добра зналі і ў твар, бо пазнаёміліся з ім яшчэ восеньню 1904 г., калі ён прабаваў, як лібэрал, нас угаварыць „мірна разысьціся“ з неадбыўшагася дакладу Сьвешнікава на Махавой вул., а калі мы запатрабавалі „ўбраць“ сьцягнутую к дому паліцыю і конных жандараў, ён нас добра патрактаваў тады пры выхадзе з дому нагайкамі.

Непакой панаваў на яго твары, і ён стрымана-трывожна аглядаў струмень людзей, якія йшлі праз Тучкоў мост.

Ось мы і каля кватэры гапонаўскае організацыі работнікаў. Прабіцца ўнутро ня было магчымасьці—так набіўся туды народ. Ня гледзячы на зіму (праўда, стаяла цёплая пагода), вокны былі адчынены, бо ў пакоях ня было-б іначай магчыма дыхаць. З вуліцы, на другі паверх гледзячы, ня было чутно, што гавораць, але нешта сьпешна абгаварвалася, натаўп людзей у пакоі падаваў свае рэплікі.

Мы далучыліся да грамады людзей, якія гуртаваліся на вуліцы, і памалу пачалі ўцягвацца ў размовы. У натаўпе ішла спрэчка, ці прыме цар ці не работнікаў сталіцы. Калі мы з таварышам прабавалі стаяўшым побач тлумачыць, што цар ня прыме, бо ўсё ранейшае з практыкі Мікалая сьведчыць толькі аб варажнасьці цара да клясы працоўных,—з намі барадачы спрачаліся. Кругом толькі й гаварылі на гэтую тэму і памятаю, як у другім месцы натаўпу адзін з барадатых работнікаў, трасучы над галавою кулаком, крычаў:

— Добра! Няхай толькі ён ня выйдзе да народу, хай толькі ня выслухае нас, тады й мы ад яго адракомся! Для нас ён пасьля гэтага ня будзе царом.

Пакуль ішлі такія размовы ў натаўпе на вуліцы, у памяшканьні гапонаўцаў пачалі штосьці галасаваць рукамі, узьнятымі ўгору, сотнямі адрыўных галасоў нешта сьцьвярджаючы. Аказалася, што члены гапонаўскае організацыі прымалі ў чымсьці прысягу. Гаварылі ў натаўпе, што гапонаўцы прысягаюць дружна і супольна выступаць, нават, хаця-б гэта каштавала ім жыцьця.

Усьлед затым з гапонаўскае штаб-кватэры паваліў народ, сярод якога віднеліся і пуцілаўцы з белымі павязкамі (дзеля адзнакі правадыроў) на рукавох.

Памятаю, што адзін з іх пачаў крычаць грамадзе, што трэ' ісьці ў парадку, ціха і што калі хто захапіў з сабою хаця-ж бы кій або якое-небудзь аружжа, то трэба ўсё гэта кінуць. Дэмонстрацыя мірная і ня трэба даваць адміністрацыі магчымасьці разагнаць дэмонстрантаў сілаю таму, што дэмонстранты нібы-та былі ўзброены.

Нас пастроілі ў шырокую колёну, чалавек так з 20 шырынёю. Па чыёйсьці прапазыцыі кожын рад змацавалі тым, што ўсе ўзялі адзін другога пад локаць. Пуцілаўцы з белымі павязкамі на рукавох сталі сьпераду і мы па іх камандзе крануліся і пашлі ў строгім парадку. Мы са студэнтам Л. апынуліся ў чацьвертым радзе, чалавек за пяць ад левага боку колёны Было такім чынам добра відаць як уперад, так і ўлева, у бок другой шырокай палавіны вуліцы. Памятаю, што як толькі мы адышлі, я азірнуўся і заўважыў, што на месьце, дзе толькі што стаяў грамадою натаўп людзей, валялася некалькі кійкоў і яшчэ штосьці.

— Прызыў кінуць палкі і што другое, прыгатаванае „на ўсякі выпадак“, значыцца выпаўняецца!—падумалася мне.—А чым-жа кончыцца гэтая сьляпая вера?!

Не давялося доўга чакаць адказу на падобнае запытаньне.

Па дарозе мы зараз-жа заўважылі, што вароты двароў на замку і што ў іншых мясцох, ня гледзячы на дзень, дворнікі стаялі пры варотах знутры на варце—дзяжурстве. Значыць, паліцыя прыняла ўжо належныя спосабы не даваць дэмонстрантам пры разгоне з вуліцы хавацца ў двары.

І я і таварыш Л., перакінуўшыся між сабою аб гэтым слаўцом, пачалі зварочваць увагу суседзяў на гэта. Большасьць насуплена маўчала, нехта прабаваў тлумачыць гэта тым, што проста самі гаспадары дамоў так зрабілі, баючыся ў такі трывожны дзень свавольства людзкога натаўпу. Малады сусед, перад намі ішоўшы, азірнуўся на нас з таварышом і са злосьцю кінуў:

— І чаго гэтыя студэнты ды курсысткі да нас, работнікаў, прымазваюцца?! Ось і гэтыя двое толькі „муцяць“ народ!..

Яму адказаў за нас барадач, сусед маладога цераз аднаго чалавека.

— Ну што-ж, хлопча, у такі дзень нашы студэнты хочуць быць разам з працоўным людам!

Малады яшчэ ня кончыў свае воркатні на заступніцтва барадача, як увагу ўсіх прыкаваў выскачыўшы з Сярэдняга проспэкту данскі казак, які адзін падляцеў да колёны і, крута павярнуўшыся перад пуцілаўцамі, стаў штосьці ім гаварыць.

— Казак! казак!—пранеслася па радох і ні адзін, мабыць, чалавек прачуў, што сустрэча з царом пустая байка і што размову павядуць з працоўнымі данцы, гэтыя верныя сабакі царскае ўлады.

Казак кончыў размову з правадырамі—пуцілаўцамі, але да самага Сярэдняга проспэкту ехаў пацеху, настолькі блізка ад натаўпу, што, памятаю, некаторыя пачалі тузаць яго каня за хвост. Ён разоў са два

азірнуўся, буркнуў нешта сярдзіта, але, як толькі мы параўняліся з Сярэднім проспэктам, хляснуў каня гарапнікам і стралою паімчаўся ўлева па проспэкту.

Падскочыўшы, я аглянуўся назад, каб падлічыць натаўп. Колёна цягнулася бясконца. На вока тут было ня менш 15 тысяч чалавек.

Паціху, у строгім парадку, шчыльна трымаючы рады, „пад локаць“— мы пасоўваліся ўперад.

Пуста была вуліца наогул: абыватель прачуваў нядобрае і адседжваўся дома, выпадковыя пешаходы трывожна паглядалі на нас і сьпяшылі.

Мінулі Вялікі проспэкт.

Толькі нашы першыя рады сталі набліжацца да будынкаў Акадэміі мастацтваў, як крыкі пуцілаўцаў сьпераду затрымалі нас. Яны махалі рукамі, каб мы затрымаліся. Мы перадалі каманду назад, але натаўп ззаду напіраў і мы мімаволі пасоўваліся яшчэ ўперад.

Я падскочыў угору, каб выявіць сабе, што сталася.

— Ого!—вырвалася з маіх вуснаў.

Ад рогу галоўнага будынку Акадэміі мастацтваў, упоперак усёй вуліцы стаялі дзьве шэрэнгі пяхоты, трымаючы ўжо ружжа наведзенымі на нас. Ззаду іх густою колёнаю займалі месца данцы, якіх лёгка было пазнаць па чырвоных аколышках.

— Стойце! Стойце спакойна, таварышы!—аддалі загад пуцілаўцы і, калі галава колёны замёрла на месцы, пасьпяшылі гурбою ў напрамку да салдат.

Што казалі яны афіцэрам, што тыя ім адказалі—чутно ня было, толькі гучэлі некалькі раз іх звароты да салдат:

— Братцы! Як-жа так?!. Няўжо страляцьмаце ў народ, у сваіх?.. Братцы!..

Памятаю, як з радоў за намі панеслася некалькі іншых усклікаў:

— Гэта яны ўмеюць! Страляць ў няўзброеных!.. Мы—не японцы, з якімі ім ваяваць не ахвота!..

Але-ж відаць і тыя і другія ўсклікі да салдат даходзілі, ня гледзячы, што перад намі стаяў лейб-гвардыі Фінляндзкі полк, бо калі я, апёршыся на плечы таварыша Л. і суседа, яшчэ раз узьняўся, я бачыў, як хісталіся хадуном накіраваныя на нас рулі вінтовак. І я, памятаю, чуў крык афіцэра да кучкі пуцілаўцаў:

— Кінуць размовы з салдатамі, бо аддам загад страляць!

Апусьціўшыся ўніз, я стаў агітаваць на жывым прыкладзе, як зьбіраецца вясьці з работнікамі свае размовы бацюшка-цар.

Раптам пачуўся топат бягучых. Я падскочыў, каб убачыць, у чым справа.

Пуцілаўцы беглі да нас назад. Пяхоту ўжо зьнялі, і яна стаяла ў баку вуліцы, а сьледам за пуцілаўцамі і на нас імчаліся данцы.

Нашая колёна жахнулася і згрудзілася, зьмяшаўшы рады, управа вуліцы.

— Таварышы, стойце на месцы! Спакойна! Спакойна!.. Ня маюць права нас не прапусьціць! Парадак, таварышы!

Так крычалі нам, з краю стаўшы, падбегшыя да нас пуцілаўцы.

Але колёна зблытала рады і зараз настолькі шчыльна згрудзілася, што цяжка стала дыхаць.

А казачая лавіна ўскач пранеслася па вуліцы, кінулася на натаўп і ачапіла нас.

Я апыніўся далёка ад таварыша, трэцім толькі ад морды казачага каня.

Памятаю, як казакі, па дарозе сустрэўшы дворнікаў Акадэміі—татар, якія прыбіралі вуліцу, пачалі грэць іх нагайкамі. Адзін з дворнікаў, атрымаўшы нагайкі, агрэў казака лапатаю, другі пачаў адказваць мятлою, але на іх наскочылі па два, па тры казакі і, вядома, так адхлясталі нагайкамі, што няшчасныя ледзьве дабеглі да варот Акадэміі.

Ня толькі галава колёны, але і ўвесь натаўп наогул быў ачэплены данцамі. Яны напіралі на нас коньмі так, што падацца назад ня было ўжо як.

Кучка езьдзіўшых па вуліцы казачых афіцэраў, пасэймаваўшы, кінуліся да сваіх часьцей—і панясласся ўздоўж колёны каманда:

— Шашкі далоў!..

У момант блiснулі шашкі—і натаўп яшчэ шчыльней згрудзіўся, бо апушчанымі, але павернутымі ў нашыя грудзі шашкамі, казакі цясьнілі нас далей да сьцен дамоў. Помню, як данец, сталых ужо гадоў, памацернаму лаючыся і абзываючы бунтаўшчыкамі проціў цара, штурхаў у грудзі шашкаю стаяўшага проці яго пажылога работніка і маладую жанчыну ў хустачцы.

— Братцы! Няўжо-ж сваіх біць будзеце?!—пачуўся нейчы дрыжачы голас.

Раптам з вуліцы празычэла каманда старшага афіцэра:

— Рубі!

Яе паўтарылі афіцэрскія галасы перад намі, ізноў блiснулі шашкі, але на гэты раз яны а моцаю ўпалі на „мяцежныя“ работніцкія галовы.

Казак, што лаяўся, паласнуў сталага работніка збоку па твары. Дагэтуль памятаю крык—стогн апошняга. Шапка з яго галавы ўпала, і разьвяўленая праз увесь вісок і шчаку рана на момант кінулася мне ў вочы. Ён хапіўся ад болю за яе рукамі, але кроў хлынула з раны, заліла твар, адзежу, рукі. Той-жа казак з асабліваю якоюсьці злосьцю павярнуўся ў бок стаяўшае з краю жанчыны ў хустачцы і ўдарыў апошнюю шабляю па галаве. Са стогнам, які таксама дагэтуль памяцен мне, яна ссунулася ўніз, пад ногі казацкага каня.

Адзін толькі чалавек аддзяляў зараз казака ад мяне. Я заплюшчыў вочы, каб ня бачыць жудаснага вобразу... Дыхаць было трудна, бо людзі як прыліплі адзін да другога...

Раптам неяк стала лёгка, я чуць ня ўпаў... Я адплюшчыў вочы... Казак, той ці іншы, ня памятаю, скакаў па ляжачых людзях... Кругом мяне ляжалі гураю людзі, шукаючы ў гэтым сабе абароны...

Я глянуў у бок дамоў і, убачыўшы нізкія над вуліцаю вокны, у момант сьцяміў, дзе спасеньне... Я кінуўся па лежачых к дому... Перад кладкамі я азірнуўся і ўбачыў, як чалавек 10-15 узьняўшыся беглі за мною, і я па іх вачох пазнаў, што ў нас адзін замер...

Я бег першым. Момантам асазнаваў, што калі мяне папруць у вакно першым, то я шклом параню сабе твар... Дабегшы, я павярнуўся перад вакном сьпіною і падняў каўнер паліта... Добра зрабіў, бо мною праціснулі раму вакна і, парэзаўшы сабе шклом усю сьпіну паліта, я ўпаў у пакой першым, а на мяне другія... Сьпіною і галавою ўпаў на нешта цьвёрдае, што таксама захрыбусьцела пада мною...

Ось верхнія, а затым і я, узьняліся... Уся падлога пакою была застаўлена рознымі гіпсавымі фігуркамі, большую частку якіх, падаючы, мы перабілі... Два выбітых вакны валяліся тут-жа з кучамі бітага шкла... Мы глянулі адзін на другога... Былі й раненыя, але лёгка... Большасьць бяз шапак... Я згубіў таксама сваю шапку ды ў прыдачу яшчэ адну галёшыну... Ахвота вярнуць сабе шапку змусіла мяне выглянуць праз вакно на вуліцу... Галава колёны пакінула дзесяткі тры забітых ці цяжка раненых, якія ляжалі зараз на вуліцы, а казакі цясьнілі і секлі натаўп ужо каля Вялікага проспэкту... Шмат лужын крыві ахфарбавалі сьнег.

Толькі заваладаў я ізноў сваёю шапкаю (валялася каля вакна знадворку), і мы пачалі абгаварваць, як адсюль выбрацца, як загрымеў замок дзьвярэй—і ў пакой наш ускочыў сівы стары, які схапіў перш сябе за галаву з крыкам:

— Што нарабілі! Што нарабілі, нягоднікі!

Потым, разглядзеўшы яшчэ лепш свае страты, пачаў лаяцца па нашаму адрасу:

— Бунтаўшчыкі! Нягоднікі! Вас трэба было ўсіх на вуліцы пабіць, парэзаць! Вы губіце людзей! Што-ж вы мне нарабілі! Вон адсюль! Марш назад на вуліцу!

Але змоўк. Статны сілач работнік падышоў да яго і, сунуўшы к носу важкі кулак, стрымана, коратка, але рашуча сказаў:

— Стары! Маўчы! Бо стукну раз па галаве—і ты кончыш жыцьцё! Выпушчай нас на двор вашага дому! На вуліцу назад мы ня пойдзем!

Мы пашлі гуртом за прыціхшым старым. Памятаю, на нейкай кухні, дзе параненыя прабавалі змыць кроў пад кранам, ішлі розныя размовы аб падзеях сёньнешняга дня. І галасы панскіх слуг дзяліліся: часьць была на нашым баку.

— Без'аружных людзей б'юць, рэжуць на вуліцы! З японцамі храбрасьці выказаць ня могуць, а тут мірных, сваіх-жа гатовы забіць за тое толькі, што да цара ідуць жаліцца! Ня стала ў нашага цара праўды!..

Так, нават сярод політычна несьвядомага працоўнага люду сталіцы счазаў ужо гіпноз царскага імя...

На дварэ, куды мы вышлі, было таксама шмат людзей з дэманстрантаў. Я ўбачыў таварыша Л., які трымаў уніз сваю левую руку ў крыві. Я дастаў хустачку і так-сяк забінтаваў яго руку.

Між тым—званок ля брамы. Падбегшы дворнік адмыкае фортку. З вуліцы выглядвае акалодачны надзірацель і, аглянуўшы ўсіх нас, рашуча камандуе дворніку:

— Усю гэтую сволач зараз-жа гані назад на вуліцу! Жыва!

А сам зьнікае. Дворнік патрабуе ачысьціць двор. Якісьці работнік хапае палена, рашуча ўзлазіць на штабелі дроў, стаяўшыя на дварэ, і крычыць:

— Таварышы! Лезь сюды! Мы іх патрактуем, калі запрабуюць нас гнаць на вуліцу пад казацкія шаблі!

Між тым хустка не памагае: яна ўжо напітана крывёю. Я раджу тав. Л. сунуць руку ў кішэню, і мы першымі выходзім на завулак, які вядзе на 5-6 лініі Васільлеўскага востраву. Памятаю, што там блізка была аптэка Пэля, дзе мы спадзяёмся перавязаць як сьлед параненую руку тав. Л.

Увесь завулак заняты драгунамі. Стаяць радамі. Шашкі нагола. Ідзем, кожную хвілю чакаючы, што нас арыштуюць, бо тут-жа таўчэцца ўжо і паліцыя, і „штацкія" (шпегі). Гляну раз на драгунаў і заўважыў у некаторых на шаблях кроў.

— Папрацавалі! Паслужылі цару і айчыне!..—сьвідруе галаву думка бясьсільнае ненавісьці.

Шчасьліва мінулі завулак. Нарэшце й аптэка Пэля. Увашлі; падходжу да дзяжурнага фармацэўта.

— Можна было-б папрасіць вас зрабіць майму зраненаму таварышу перавязку?..

— А рана сур'ёзная?

— Прасечана між сярэднім і бязыменным пальцамі.

Чую: касірша панямецку кажа сярдзіта пра нас дзяжурнаму, што нам, бунтаўшчыком, так і трэба і што за падачу помачы можа быць прыдзецца адказваць перад паліцыяй.

Успамінаючы як-кольвек нямецкія словы, тлумачу ёй, што зранены страціў ужо многа крыві і што адмаўляць зраненаму бесчалавечна.

Сярдзіта яна адказвае мне, лаючы нас бунтаўшчыкамі, якія не заслугоўваюць чалавечнасьці.

Але фармацэўт рашыўся. Ён вядзе нас у задні пакой аптэкі, у момант дастае патрэбныя: ваду, марлю, ёдаформ і бінт.

Чысьцім кішэню, поўную нацёкшай запёклай ужо крыві, кідаем прапітанную ёю хустачку; рука перавязана па ўсім правілам мэдыцыны, нам дадзен запас перавязных прылад, і мы пакіроўваемся дамоў, назад на Ропшынскую.

Ідзем пустымі 5-6 лініямі; бачым здалёк расправу з дэмонстрантамі нашае колёны ля Сярэдняга проспэкту і прыслухоўваемся да гукаў у зацішшы сьвяточнага дня: у розных мясцох сталіцы стрэлаў залпамі.

Маўчымо абое, бо абаім ясна, што іншае „размовы" і не магло быць у цара-ідыёта Міколы II з працоўным народам.

Вярнуліся дамоў. Таварышу Л. прышлося з-за рукі, якая гарэла, адседжвацца дома, я-ж ня вытрымаў і пацёгся да цэнтру сягоньнешніх падзей, к Зімняму дварцу. Ад тых, што варочаліся з-пад Траецкага мосту, я дазнаўся, што дэмонстрантаў там расстралялі і што прайсьці гэтаю дарогаю ня ўдасца. Пакіраваўся тады другім шляхам папасьці к Дварцоваму мосту, але вайсковыя пікеты каля Акадэміі навук і Біржы не прапусьцілі. Тады Тучковаю набераժнаю і далёкімі лініямі Васільлеўскага востраву я выглянуў на набережную Нявы, „мерачыся" прайсьці Мікалаеўскім мостам. Ізноў ня пусьціла ацапленьне. Тады, прашоўшы глыбей у напрамку Горнага Інстытуту, мне ўдалося перайсьці рэчку лёдам і, пакружыўшы ля Новага Адміральтэйства, я такі выбраўся, стомлены некалькігадзіннаю хадзьбою, на Сэнацкі пляц, а адтуль пралез у Аляксандраўскі сад. Я не застаў ужо там таго, што было, калі народ запруджваў часьць Дварцовага пляцу, сад і пачатак Неўскага проспэкту, калі расстрэльвалі і секлі гэты натаўп людзей, але ніколі ў сваім жыцьці не забуду кучкі дзіцячых трупікаў, сабраных ужо кімсьці ў басэйне фонтану. Цяжка было разглядаць, тым больш, што пікеты коньнікаў, заўважылі ўжо, што я бэлтаюся ў садзе і крычалі мне, трымаючы палец на курку сваіх карабінак „праходзіць!"

Ах, гэтыя вытырклыя з кучы дзіцячыя ножкі, абутыя ў паношаныя боцікі! Яны належалі выключна беднаце!.. Гэтага не забудзеш ніколі!

Вышаўшы з саду, я папаў такі на Гарохавую, а па аднэй з папярэчных вуліц—на Неўскі.

О! тут яшчэ ня ўсё скончылася. Натаўп займаў вуліцу і панэлі ля дамоў. Нясласа „Марсэльеза", крычалі пракляцьці цару і царызму, упарта не разыходзіліся. Не пасьпеў я перайсьці вуліцу, як з Паліцэйскага мосту заграў пяхотны ражок, і тут-жа людзі кінуліся на бакі вуліцы. Траскатня залпу ўдарыла ў сьцены муроў, некалькі чалавек упала і на вуліцы і на панэлях. Натаўп зараз-жа кінуўся назад на сярэдзіну вуліцы. Іншыя, у тым ліку і я, пачалі падымаць упаўшых. Утрох з двума работнікамі, мы паднялі на рукі аднаго зраненага работніка—друкара. Адна куля пранізала яму нагу (у ікры), другая засела ў баку. Мы паднялі яго на набережную каля мосту-ж. Тут-жа апынуўся малады вайсковы доктар, яшчэ нядаўна скончыўшы Ваенна-мэдычную Акадэмію, і па яго загаду мы ўнясьлі зраненага ў кватэру нейкага шаўца, які сам-жа зазываў занясьці зраненага для перавязкі да яго на кватэру.

Пограб быў блізка. Нас трое, доктар і шавец, увашлі ў кватэру. Сырасьцю, тхлінаю і наогул цяжкім паветрам ударыла нам у нос.

Друкара палажылі на ложак гаспадара, гаспадыня зараз-жа дала чыстае „веташкі“, у доктара ў кішэнях знашліся бінты і марля і хірургічныя інструмэнты.

Я стаяў у паножжы ложку і глядзеў на бляды, але адухатвораны твар работніка-змаганца. Ён перш ня чуў болю, а толькі дарогаю прасіў:

— Лягчэй, таварышы! Ідзеце ў нагу, а то... мне неспадручна!..

Пакуль доктар, апаліўшы свой зонд на сьвечцы, ня ўвёў яго ў стрэляную рану, друкар гаварыў нам і гаспадаром кватэры:

— Магчыма, што нас шмат згінула сёньня і загіне далей у барацьбе! Не засмучайцеся, таварышы, стратамі ў людзях! Нашага брата-работніка ўсё адно гіне на працы бяз ліку, без карысьці дзеля рэвалюцыі! Пачалося, дык не затрымлівайцеся на гэтым толькі, уздымайце ўсіх· Хай гэтым расстрэлам царскае самаўладзтва гатуе сабе самому пагібель...

Ён як-бы сваймі думкамі прадаўжаў тую працу змаганьня, якая выклікала яго сёньня на вуліцу.

Жонка шаўца ня вытрымала:

— Так, відаць настали апошнія дні нашаму цару: падумаць, у іконы, нават, салдаты страляли!

Друкар хацеў нешта ёй адказаць, але махнуў рукою, як-бы выказваючы думку, што ня важна для яго стральба ў іконы і застагнаў, бо зонд трывожыў рану.

— Эх!—вырвалася дасадліва ў доктара.

Я нагнуўся да яго і спытаў:

— Як?

— Засела!

Ён жвава перавязаў раненага, устаў з кален, на якіх стоячы працаваў, і сказаў:

— На першы раз нічога, але сёньня-ж—у бліжэйшую больніцу! Патрэбна опэрацыя!

— Жыць, таварыш, будзеш!—сказаў ён, бадзёрачы зраненага друкара.

І вышаў разам са мною. Па дарозе ён зазначыў мне, што ён сказаў няпраўду—рана вельмі сур‘ёзная, і друкар ня выжыве.

Мы не зрабілі і 10 крокаў, як сустрэлі трох раненых, якіх вялі пад рукі. Доктар пашоў з імі, каб дапамагчы.

Я доўга стаяў задуманы і ацапянелы на рагу, ля Паліцэйскага мосту. Пры мне пяхотная часьць тры разы па сыгналу давала залпы. Гінулі і калечыліся людзі, а натаўп упарта дэмонстраваў. Як я тады ўцалеў—дзіўлюся, бо ўкрываўшыяся побач са мною двое былі зранены. Нарэшце, мая ацапянеласьць прашла. Бяссэнсоўнасьць падстаўленьня сябе пад царскія кулі замест упартай далейшай рэволюцыйнай працы

неяк стала для мяне выразьней выразнага. Рашуча я пакінуў Неўскі і тым-жа шляхам, эмрокам ужо, дабраўся-ткі дамоў. Але я ня мог гаварыць аб тым, што бачыў,—так усё бачанае завалададала маімі пачуцьцямі і зьбясьсіліла мяне і маю нэрвовую сыстэму.

Між тым з барыкад 4-ае лініі вярнуўся адзін з брацьцяў Цьвятковых (сыны аўтара вядомых тады падручнікаў на расійскай мове)—Іван, калі ня мыляюся. Падышоў усьлед і старшы Цьвяткоў. Таксама—А. Нэйман. Кожны шмат што пераказаў з бачанага. Іван прынёс афіцэрскую шаблю, т. зв. залатое аружжа „за храбрасьць“, адабранае ў праходзіўшага афіцэра, і ятаган з майстэрні Шафа, у разгроме якое Іван прымаў значны удзел.

Вечарам на Вялікім проспэкце работнікі прадаўжалі дэманстраваць, разьбіваючы ліхтары і варужныя магазыны.

## АДШУКАНЫ СКАРБ

(Апавяданьне)

**Я. Ліманоўскі**

Хоць дух Чырвонае арміі ў 1919 годзе быў моцны, але недахватак абмундыраваньня, харчоў, зброі, а нават і малалікасьць рабілі тое, што яна адступала перад польскай арміяй, якая была забясьпечана Антантай усім неабходным і пераважала лікам.

Чырвоная армія адступала, каб другі раз давясьці паном, што перамогі над рабочымі ды сялянамі ня даюцца так лёгка.

У вадзін момант адступу комісару сапёрнага батальёну, Міхасю Дуброўку, з пяцьцю сапёрамі-чырвонаармейцамі было дадзена заданьне зьнішчыць мост на рацэ (адна з прытокаў Прыпяці) па тым, як пройдуць усе нашы часткі і ў пэўна азначанай гадзіне. Як прыбылі, на месцы яны пачалі гатовіць патрэбны матар'ял, абвязалі поручні маста саломай, каля маста наклалі кучу гальля.

Міхась сачыў за тым, якія часткі праходзяць, і адмячаў сабе на запісцы. Вось, нарэшце, прашлі апошнія шэрагі. Можна было-б ужо зьнішчыць мост, але яшчэ не надышла вызначаная гадзіна. і Міхась рашыў чакаць, дакладна выканаць дапаручаную яму справу. Злажылі гальлё на мост, каб зараз можна было запаліць. Потым Міхась паставіў аднаго сапёра вартаваць, крокаў сто за мастом, каб папярэдзіў, калі што заўважыць, другога—на масьце, а сам з 3-ма сапёрамі перашоў на бок ракі і сеў у канаве недалёка маста.

Пакуль яны гэта ўсё рабілі, наступіла ноч,—цёплая ліпнёвая ноч. Пасьля палкага дня так прыемна было ўдыхаць поўнымі грудзямі прахалоднае, вільготнае паветра. На захадзе зара, бляднеючы, пасоўвалася к поўначы. Месяца ня было, толькі міргалі яскравыя зоркі. Блішчэла рэчка зьвілістай стужкай. Далей ад маста з абодвух бакоў абступалі яе хмызьнякі, балоты, хаваючы ад вока. Над рэчкай і хмызьнякамі падымаліся хмаркі белаватага пару. Цішыню прарве толькі плюск вады ці крэканьне качак у надбярэжным чароце. Часам зграя качак праляціць над галовамі і кракоча, з плюскам спусьціцца ў рэчку. Ізноў ціша.

Міхась сядзеў маўчком. Сапёры спачатку ў паўголаса гаманілі паміж сабой, а патым змоўклі. Цемра і ціша адарвалі Міхасёвы думкі ад боек,

ад заданьня і пераходзілі з аднаго прадмета на другі. Мажа ў першы раз з часу ад'езду на фронт думкі насіліся каля мінулага. З пачатку яны нарысоўвалі вобразы даўно мінулыя, а пасьля—бліжэйшага, пэрыоду перад ад'ездам на фронт. Праца, пасяджэньні, сходы, спатканьні... усё гэта наматвалася, як нітка на клубок, на памяць. Усходзілі вобразы, зьнікалі, зноў зварочваліся. Мімаволі адзін вобраз часьцей малявалі думкі. Дзіцячы дом на акраіне гораду, абкружаны садам, вясёлыя, бадзёрыя дзіцячыя твары, вясёлая, жывая, рухлівая Галя. Усё тут было так сукладна—сад, птушкі, дзеці, Галя.

Падабаўся гэты куток Міхасю; ня толькі па справам службовым, як загадчык Аддзелу Нар. Асьветы, заглядаў ён сюды, але і ў час, вольны ад працы: любіў адпачнуць тут. Утомлены ад сур'ёзнай працы, прыедзе, бывала, на вэлёсыпэдзе, абкружаць яго дзеці—дзяцей наогул любіў Міхась—выбежыць на спатканьне Галя; з пачатку ўцягнуць яго ў забавы і карагоды, якія так умела наладзіць маладая кіраўнічка дому Галя. Карагоды больш усяго падабаліся Міхасю. Дзеці таксама прывязаліся да Міхася і абавязкова ўцягвалі яго ў карагоды. Бавіцца тады ён з дзяцьмі ў садзе, слухае іх апавяданьне, сьпеў, любуецца іх забавамі. Патым сядзіць на лаўцы каля куста язьмену, слухае шчабятаньне птушак, якое, зьліваючыся з звонкімі дзіцячымі галасамі, творыць нейкую дзіўную сымфонію, якая так супакойвае ўтомленыя нэрвы.

Хоць амаль ня ўвесь час, амаль ня ўсе думкі захапала праца, але ўсё-ж часамі здавалася Міхасю, што ёсьць яшчэ недзе скрытны ўнутры куток, які яшчэ неахоплены нічым, пусты, адчуваў часам нейкае адзіноцтва, сум.

Яго маладая натура—бо толькі 24 гады стукнула Міхасю—давала аб сабе знаць, не здавольвалася ўсім тым бурным, моцным неспадзяваных выпадкаў і акалічнасьцяй жыцьцём.

Кагосьці не хапала Міхасю. Ня думаў, аднак, аб далейшым жыцьці, не складаў ніякіх плянаў яго, захоплены ідэяй, працай, якой шчыра, з энтузіязмам аддаўся.

У гэты час ён спаткаўся з Галяй. Маладая—ёй ня скончылася яшчэ 18 год—прыгожая, жывая, з нерупатлівай вясёласьцю, прыветлівая Галя няпрыметна для самога сябе захапляла Міхася і, як магнэсам, прыцягвала да сябе. Уплыў яе рос. Міхась адчуваў, што гэта—ня звычайная дружба з кімсь, а пачатак сапраўднага шчырага пачуцьця. Гэта мо' ад таго, што спаткаўся ён з ёю якраз у часе нейкага няпэўнага бушаваньня, шуканьня пачуцьця. Спаткайся ён у другі час, дык пэўна яна ня выклікала-б у ім гэткага ўражаньня. Яго пачуцьцё, аднак, яшчэ змагалася з сумненьнямі. Усё гэта добра,—казаў таемны голас сумненьня, —можа і яна адкажа ўзаемнасьцю. Але ці можа яна ўзрасьці да зразуменьня і спачуваньня той ідэі, той працы і барацьбы, якая абхоплівае цябе? Ці можа яна пайсьці за табой, быць дапамогай на жыцьцёвым шляху,

падтрымліваць цябе сваім спачуваньнем і каханьнем? Ці можа гэты, цяпер бясхітрасны дзяцюк, спаткаўшыся з супярэчнасьцямі жыцьця, ня здолее пагадзіць, перамагчы іх і будзе перашкодай у тваіх думках і дзеяньнях?

Так казаў голас розуму, супярэчачы голасу пачуцьця. Адзін другога перамагаў, і, здавалася часам, перамагаў раз назаўсёды; але пераможаны набіраўся сілы і далей змагаўся. Стараўся ў адносінах да Галі ня выказаць ёй свайго пачуцьця, гэтай унутранай барацьбы, і заховўвацца звычайна. Яна-ж па сваёй бясьпечнай, вясёлай натуры, здаецца, нічога і не заўважыла. Вадзіла карагоды, кіравала дзіцячымі забавамі, сьпевамі, запытвалася часам у Міхася, ці яму гэта падабаецца,—апроч гаспадарскіх клапот па дому, якія займалі яе час. Міхась не стараўся пэўна азначыць характар адносін да яго Галі.

Пакуль ён сам ня меў пэўных вынікаў яго пачуцьця, яму было ўсё роўна. Прыветлівая, вясёлая, бясхітрасная. А ці яна толькі з ім такая ці з усімі, ці яна яго абмяжоўвае чымсь ад другіх ці не,—гэта яго пакуль што не непакоіла.

Так ішоў час. Падзеі на фронце складаліся для нас няпрыхільна. Патрэбавалася новай патугі краіны, новых людзей і сродкаў. Міхась рашыў ехаць на фронт. Бяз доўгіх збораў назначыў дзень ад'езду. Увечары адвітаўся з сваймі бліжэйшымі таварышамі, заехаў на хвілінку з гэтай мэтай да Галі, каб заўтра раніцай паехаць.

Быў супакойны, здаволены. Прабудзіўся ў той дзень раней звычайнага. Хутка апрануўся, умыўся і вышаў на ганак, каб удыхнуць сьвежае паветра.

На ганку, які выходзіў у двор з садочкам, сядзела асьвятлёная праменьнямі ўзышоўшага сонца Галя і трымала ў руках краскі і кветкі.

—Я прышла, каб яшчэ раз убачыць вас і адвітацца. Гэта прымеце ад дзетак і... мяне, на памяць,—прамовіла яна, апусьціўшы ўзрок, працягваючы кветкі.

Міхась прыняў, падзякваў. Думалі аб раставаньні, але стараліся гаварыць аб чымсь іншым.

Словы, аднак, неяк ня йшлі,—больш маўчалі.

—Бывайце, усяго лепшага. Хутка зварочвайцеся. Памятайце, што дзеткі і... я будзем вас чакаць.—Перанесла на Міхася ўзрок, у якім сьвяціўся шчыры, спачуваючы, памешаны з жалем аганёк.

Гэтая хвіліна, у якой было мала выказана слоў, так моцна запамяталася Міхасю.

Паехаў і Міхась на фронт, а там—бойкі, пераходы, падзеі.

Так паступова разьбіраючы, Міхасёва думка дашла да сучаснасьці. Калі цяпер ён успомніў Галю, новая хваля пачуцьця, болей моцная, чымсь першая, дала яму знаць, што цяжар фронтавага жыцьця, бойкі і прыгоды не скасавалі ў яго памяці вобраз Галі, а зрабілі яго яшчэ больш яскра-

вым. Успамінаўся час, там у садзе, пры гомане дзетак, птушак, дрэў... каля Галі...

Цяпер ужо сумненьне было канчаткова пераможаным.

Каб хутчэй толькі пабачыць Галю!

Цёплая ноч, цішыня, абцяжараньне і боль ва ўсіх частках цела схілялі да драматы. Думкі абрываліся, вобразы засланяліся мглістасьцю, рабіліся няясныя. Нейкая, выкліканая ўспамінамі і ўтамленьнем, салодкая млосьць абхапляла ўсю постаць Міхася. Галава хілілася на грудзі, вочы замыкаліся... пачынаў драмаць.

— А мост, а заданьне?—раптам узьбегла на думку Міхасю. Ачнуўся, страхнуўся, ускочыў, падумаў спачатку, што ўжо праваліў справу. Як-бы перарадзіўся; ад Міхася, які хвілю таму назад быў затоплены ў мімавольных успамінах, не засталося ні крыху; драмата і ўтомленасьць зьніклі. Аглядзеўся, прыслухаўся,—ніпіто не нарушала цішыню. Паглядзеў на гадзіньнік: час паленьня маста яшчэ не надышоў. Чырвонаармейцы спалі. Разбудзіў, павёў зьмяніць вартаўнікоў маста. Усё было ў парадку. Вартаўнікі нічога не заўважылі.

Вярнуўся на сваё месца ў канаве. Зноў ціша, цемра, мірганьне зорак. Зара, абышоўшы адпаведную частку кругавіду, ужо павольна чырванела на ўсходзе. Чырвонаармейцы пачалі драмаць. Ад Міхася сон ужо адбег. Сядзеў бадзёры, скуплены ў слух, як-бы спадзяваўся чаго.

Пахаладзела, як гэта бывае перад раніцай.

З боку, куды адступілі нашы чырвонаармейцы, пачуўся водальны нявыразны гук. Потым зноў змоўк. Міхась стаў прыслухоўвацца. Цяпер гук пачуўся выразьнейшы. Крыху пачакаўшы, Міхась ужо выразна чуў гук калёс на шляху. Нехта ехаў сюды да маста.

„Хто-б гэта меў быць?“

Міхась разрухаў драмаўшых чырвонаармейцаў, пашоў з імі на мост, зьняў вартавога, які стаяў за мастом і паставіў яго на масьце.

— Вось, таварышы, мы пойдзем па шляху пабачыць хто едзе, а вы вартуйце тут. Калі пачуеце страляніну, зараз-жа падпальвайце мост і хутка сьпяшэце да нас на дапамогу.

Сказаўшы гэта, Міхась з 3-ма чырвонаармейцамі пашоў па шляху на спатканьне ехаўшых. Па гуку можна было адзначыць, што ехалі дзьве фурманкі. Прашоўшы каля двухсот крокаў, яны ўбачылі дзьве фурманкі, а за імі шоўшых пехатой шэсьць чалавек.

— Стой!—скамандваў Міхась, калі яны зблізілася крокаў да 50 да фурманак.

Пасьля вокрыку Міхася, фурманкі рухаліся далей, а адзін, шоўшы за імі, азваўся на польскай мове:

— Панове,мы палякі, уцекамі от большэвікаў і едзем з бардзо важным панствовым ладункем. Зараз пакажэм пану поручніку нашэ паперы.

— Рукі ўгору! паддайцеся! ні кроку з месца, а то ўсіх пастраляем. Мы не палякі, а бальшавікі.

Зразумеўшы, што папаліся, і ўбачыўшы толькі чатырох чалавек, незнаёмыя выхапілі рэвольвэры і далі па Міхасі і чырвонаармейцам, нечакаўшым гэткага адказу, залп. Адзін чырвонаармеец быў забіты пакатам, другі ранены ў руку.

Захопленыя так неспадзявана апаскай, Міхась і чырвонаармейцы кінуліся на зямлю і пачалі адстрэльвацца ў 2 супроць 6. Пры тым палякам было лепей страляць з-за фурманак. Сілы былі няроўныя. Апаска была відавочнай. Каб палякі кінуліся на іх—ратунку ня было-б. Аднак тыя не сьпяшылі з нападам: яны яшчэ не аправіліся ад пачатковага неспадзяванага страху, абхапіўшага іх.

Праз мінут пяць убачыў Міхась зарава пажару ад гарэўшага маста. Палягчэла на душы: хоць заданьне будзе выканана. Пачакаўшы крыху, прышлі на дапамогу і чырвонаармейцы, якія падпалілі мост. Падышоўшы бліжэй, яны зразумелі, у чым справа, і дагадліва кінуліся да Міхася з вокрыкам: „Таварышы, сюды!"

Палякі зразумелі гэта, як прыбыцьце моцнай дапамогі. Чатыры чалавекі выскачылі з-за фурманак (два былі, відавочна, ужо забіты) і кінуліся на ўцёк. Міхась з чырвонаармейцамі адкрылі па іх частую страляніну і, дзякуючы таму, што яны былі блізка, і роўнасьць месца не дазваляла ўкрыцца,—усе чатыры паваліліся забітымі ці раненымі. Апаска прашла, ворагі былі пераможаны. Цяпер Міхась з чырвонаармейцамі пашлі аглядаць фурманкі. Адзін чырвонаармеец пашоў паглядзець, што стала з уцякаўшымі палякамі. Раптам пачуў Міхась з таго боку два стрэлы. Калі ён аглянуўся, дык чырвонаармейца там ня ўбачыў. Хутка падбегшы, ён нашоў чырвонаармейца, забітага напавал.

Адзін з палякаў, які ўцякаў, быў ранены. Калі падышоў да яго чырвонаармеец, дык ён стрэліў у яго і забіў на месцы; другі раз стрэліў у сябе, ведаючы, што яму паблажкі за забойства таварыша не дадуць.

Агледзіўшы фурманкі, Міхась знашоў іх з напакаванымі скрынкамі. Паадчыняўшы адну за другой скрынкі, перад іх вачамі заблішчэлі залатыя, срэбныя, плятынавыя рэчы мастацкага вырабу; некаторыя былі абсаджаны брыльлянтамі і другімі каштоўнымі каменьнямі. Былі скрынкі, насыпаныя поўна залатымі дзесяцёхрублёўкамі. Адным словам, у паклажы было нязьлічанае багацьце.

З папер, знойдзеных пры забітых, Міхась выясьніў, што адзін з іх быў граф, другі—князь. Рэшта прозьвішч нічога не казалі. Відавочна гэта былі шпегі і агенты польскай ахранкі, якія толькі памагалі двум польскім магнатам уцячы з сваім багацьцем у Польшчу.

І вось неспадзявана, далёка ад Чырвонае арміі, насунуліся на Міхася з чырвонаармейцамі, ня вытрымалі гэтай на жыцьцё і сьмерць бойкі, забіўшы, аднак, двух і раніўшы аднаго з чырвонаармейцаў.

Убачыўшы такое багацьце, заблішчэлі неяк вочы ў чырвонаармейцаў: нават ранены перастаў на хвіліну стагнаць і зацікаўлена пераводзіў вочы з аднэй скрынкі на другую.

„Вось яны“, думаў Міхась, „праклятыя міліёны, згушчаная і зьлітая ў мэталь людзкая кроў, пот, сьлёзы, праклацьце“...

Зірнуў на чырвонаармейцаў, якія зацікаўлена разглядалі багацьце.

„А што думаюць цяпер несьвядомыя чырвонаармейцы. Праклятыя міліёны штурхаюць на злачынства, часам, добрых людзей; мо‘ паквапяцца?“ Зьявілася на хвілінку гэтая думка ў Міхася. Але хутка адляцела: быў упэўнены, што яго таварышы ня здрадзяць.

— Вось што, таварышы,—зьвярнуўся Міхась да чырвонаармейцаў, —гэта багацьце мы павінны даставіць і здаць у дзяржаўны скарб. Працоўны народ яго сабраў, і ён, а ня мы—зьяўляецца ўласьнікам. Ведама,—сказаў, крыху падумаўшы,—даставіўшы і мы крыху атрымаем нагароды. Цяпер-жа ня час думаць аб гэтым. Трэба як хутчэй дабрацца да сваіх, бо калі наскочаць палякі, дык нам ня толькі багацьце, але і галоў не ўнясьці.

— Праўда, праўда, таварыш комісар. Згаджаемся з вамі,—загаманілі тыя разам.

Пачыналася ўжо раніца. Зара зачырванела на ўсходзе і вешчавала ўсход сонца. Марнелі і гасьлі зоркі, устрапянуўшыся чырыкалі птушкі, быццам мовілі на раніцы свае пацеры. Апроч іх гоману, у полі было ціха.

З наступленьнем дня апаска для Міхася і яго таварышоў павялічвалася. Трэба было неадкладна рушыцца ў здагон сваіх. Але як рушыцца? Нясьці скрынкі з багацьцем немагчыма з-за цяжару і далёка з імі не ўцячэш, ды яшчэ могуць заўважыць і адкрыць таямніцу старонь-нія людзі.

Коні ў байцы былі перабіты. Знайсьці ў вёсцы коняй у такі час—ня лёгка: яны ўсе схаваны. Хто-ж цяпер добраахвотна паедзе, калі ня будзе магчымасьці зьвярнуцца?

Аднак трэба было штосьці пачынаць.

Пакінуўшы раненага й яшчэ аднаго чырвонаармейца вартаваць багацьце, сам з другім Міхась пашоў у бліжэйшую вёску шукаць коняй.

Вёска ўжо прабудзілася. Скрыпелі жураўлі каля студзень, бабы запалялі печы, далі кароў, і пастухі выганялі на пасту. На дрэвах і гародзе ня блішчэла раса. Сьвяціліся капелькі ў праменьнях ужо ўзышоўшага сонца.

Міхась спрабаваў спытацца пра коняй. Але дзе там? Ня варта і часу траціць на запытаньні. Пашлі шукаць самі. Заглядалі ў хлявы, пуні, клуні, шукалі за будынкамі, у садзіках, у гародах, прыглядаліся ў палеткі. Нідзе няма. Прахадзілі так каля гадзіны—дарма. Вынікі пачыналі

непакоіць. Здавалася, што ўжо на шляху пачалася страляніна. Прыслухоўваліся—пакуль-што ціха.

— Вось так становішча, што рабіць?—ня то пытаючыся сябе, ня то чырвонаармейца, выказаў у слух сваю думку Міхась. Як-бы ў адказ на гэта пачулі яны данесшаеся з другога канца вёскі конскае іржаньне. Накіраваліся туды, пачалі шукаць, прыслухоўваліся—іржаньне не паўтаралася. Няма коняй!

Нарэшце, за садам, паміж двух стагоў скошанага з паплавоў сена знашлі пару худых коняй, загароджаных сьценамі з сена ад аднаго да другога стога. Адшукалі гаспадара; той рашуча адмовіўся ехаць. Абяцаў Міхась заплаціць і хутка адпусьціць, як толькі ад'едуць і найдуць другую фурманку. Не памагло.

— Дык калі адмовіцеся ехаць па важнай вайсковай справе, арыштуем вас і павязём з сабой, а там за гэта і расстраляць могуць,—пагразіў Міхась.

— Вядзі, таварыш, коняй,—сказаў чырвонаармейцу.

Селянін нехаця сабраўся з імі. Шкода яго было Міхасю, не хацелася сур'ёзна так пастулаць у ваднасінах да яго. Але што-ж было рабіць— справа, доўг вымагалі гэтага.

Пахаваўшы з болем у сэрцы забітых таварышоў, перавязаўшы таварышу раненую руку, паскладалі ўсе скрынкі на адну фурманку, запраглі коняй, пасадзілі на скрынкі раненага таварыша, а самі пехатой крануліся з месца. Забыліся пра ежу, пра сон, пра бойкі, пра нязьмерную ўтомленасьць ва ўсім целе. Ішлі за фурманкай бадзёрыя, як-бы скінуўшы вялізарны цяжар. Ішлі з адзінай думкай—як мага далей апынуцца ад пакінутага месца, як хутчэй далучыцца да сваіх. Здавалася, што скарб памалу пасоўваецца наперад. Коні былі ня важныя, цягнуліся неахвотна, раненага трасло на скрынках, і ён балюча стагнаў. Ад часу да часу Міхась аглядаўся ў тыл, ці няма здагону, бо цяпер яны неяк інстынктыўна чакалі толькі адтуль апаскі.

Сонца спачатку прыветліва так саграваліа іх, будзячы лепшыя бадзёрыя настроі. Потым, узышоўшы вышэй, пачало пячы, павялічваючы ўтомленасьць. Дзень выдаўся ясны, палкі. Над стракатымі ад красак лугамі лёталі матылі, гудзелі пчолкі, ласкаталі конікі. Узношаны лёгкім цёплым вецярком пах красак дражніў нюх. Страката красак і ясныя сонечныя праменьні ўтамлялі зрок. Спакушала хаценьне, цягнула ў цень, прахалоду, пасядзець, адпачыць, насыціцца пахам, крыху паспаць.

Не паддаючыся спакушаньню, ехалі далей.

Праехалі больш дзесяцёх вёрст.

— Ці далёка, таварыш, бальшавікі? — спытаўся Міхась неяк зьнянацку йшоўшага на спатканьне ім селяніна з кіем і торбачкай за плячмі, — хоць сам быў упэўнены, што яшчэ далёка.

— А дзе-ж вы, людцы, пытаецеся тутака бальшавікоў, калі на Мартынаўку паехала ўжо польская коньніца,—адказаў той затрымаўшыся, якбы зьдзіўлены, што пытаюцца яшчэ пра бальшавікоў.

— На Мартынаўку?—пытаў Міхась, ня ведаючы, што гэта значыць.— А дзе яна?

— Ды вось тамака,—паказаў той палкай у напрамку, куды якраз вёў іх шлях.

— Даўно паехалі? Многа?

— Больш гадзіны, як я іх бачыў, чалавек так 30 будзе.

Неспадзяваная вестка, як пяруном стукнула. Ніхто не чакаў, каб, уперадзе іх былі ўжо палякі. Ня верылася спачатку. Распытваліся падрабязна ў селяніна. Факт—што ўперадзе палякі; відавочна прарваліся з другога вучастку фронту.

Што рабіць, куды ісьці, куды дзець багацьце?

Міхась у падобных выпадках ня траціў прысутнасьці духу. Зважыўшы ў думках становішча, перадумаўшы адзін за другім некалькі плянаў ён спыніўся на адным: трэба схаваць багацьце і пехатой перабірацца да сваіх. Прынамсі багацьце не дастанецца ў рукі паноў, а мо' і самі як-кольвечы перабяруцца.

Але як пазбыцца непажаданага староньняга сьведкі ў асобе селяніна, які вёз гэты скарб? Схаваць пры ім багацьце—усё роўна прапала. Тут Міхасю прышла думка купіць у селяніна коняй і адправіць яго дамоў.

Часу траціць нельга. Трэба дзейнічаць, іначай усё згіне.

Пакуль што фурманка пасоўвалася наперад. Чырвонаармейцы йшлі маўчком, панура паглядаючы навокал. Селянін сядзеў, падгарнуўшы пад сябе ногі, бязустанна цмокаў на коняй, рухаў лейцамі, махаў пугаўём, думаў аб чымсьці. Цяпер ён, здавалася, згадзіўся з сваім лёсам, згадзіўся з сваім падарожнымі. Спачатку нездавольнены, што яго пагналі ў дарогу, цяпер, калі таварышом пагражала небясьпека, апаска, прабачаў, здаецца, ім і паглядаў спачуваюча. Аб чым ён думаў? Мо' аб тым, як параіць ім схавацца, уцячы? Невядома. Вычытаць на яго твары, на цмокаючых губах— было немагчыма.

— Небясьпечна нам хіба ехаць далей,—звараціўся да яго Міхась.

— Вось і я думаю. І вас зловяць і застрэляць, і мне дастанецца, і коняй адбяруць,—адказаў той.

— А мо' вы заставіце нам коняй, нам усё роўна трэба ехаць, справа вайсковая, мы заплоцім за коняй, а самі пойдзеце дамоў?

— Бяз коняй? Як-жа так? Не. Каб купіць другіх, трэба многа грошай. А я, чалавек бедны, ня куплю, а бяз коняй—прапаў.

Не спадзяваўся ён ад чырвонаармейцаў такой платы за коняй, каб купіць другіх.

З другога боку Міхась думаў, колькі заплаціць селяніну, каб той не дадумаўся, што ў іх ёсьць багацьце.

— Ну, а калі мы заплоцім за коняй столькі, каб можна было купіць другіх, напрыклад, 300 р. золатам,—згодзіцеся?—спытаўся, падумаўшы, Міхась.

— Жартуеце з мяне, таварыш?

— Не, не жартую, калі згодзіцеся, то зараз плачу грошы.

Селянін вельмі ўзрадваўся і яшчэ быў няўпэўнены, ці праўду кажа Міхась, ці жартуе. Калі-ж той няпрыметна дастаў са скрынкі грошы і адлічыў яму трыццаць дзесятак, радасьці яго ня было канца.

— Ну, бывайце, таварышы, дзякую вам, хай-жа бог вам дапаможа дабрацца да сваіх.—Зьняў шапку, адкланяўся і, падымаючы лапцямі воблачкі куравы на шляху, падпіраючыся палкай, пашоў дамоў.

Міхась-жа з таварышамі, пад'ехаўшы крыху наперад, як толькі ўжо ня відаць было селяніна-фурманшчыка, зьвярнулі са шляху на першую, якая папалася ім, дарожку і паехалі па ёй. Праз гадзіну ці болей яны даехалі да лесу. Лес аказаўся немалым. Праехаўшы вярсты тры-чатыры лесам, Міхась застанавіў фурманку і пашоў абсьледваць ваколіцу, каб знайсьці адпаведнае месца, дзе можна было-б схаваць багацьце. Праз поўгадзіны ён знашоў месца, якое выдалася адпаведным да гэтага: на стромкім спадзе глыбокага яру, каля двух сталетніх дубоў рашыў схаваць Міхась багацьце.

Накіраваўшыся сюды з фурманкай, недалёка ад дубоў, адмерыўшы крокамі месца, для прыметы выкапалі яму, паскладалі туды скрынкі з багацьцем, закапалі яе і старанна замаскавалі месца зялёным дзёрнам, каб не пазнаў ніхто. Скончыўшы гэта, Міхась сеў пад адным з дубоў і нарысаваў плян месца, адзначыўшы на пляне месца, дзе ляжаў скарб крыжам.

Праехаўшы потым некалькі вёрст лесам, яны выпраглі коняй, зацягнулі калёсы ў кусты і, падагнаўшы яшчэ крыху наперад коняй, пусьцілі іх, а самі пашлі пехатою.

Сонца ўжо было на захадзе. Куды ісьці? Кругом быў лес. Дамагаў голад. Трэба было дабрацца да якой-небудзь вёскі. А лесу, здавалася, ня было канца. Сьцямнела зусім, зьбіліся з дарогі. Адчувалі вялізарную ўтомленасць. Ня маючы надзеі дабрацца да вёскі, Міхась рашыў начаваць у лесе. Выбралі сухое месца, наламалі галінак арэшніку, зрабілі з іх адмысловую пасьцель, разлажыліся як папала і моцна заснулі.

Прасну́ліся яны тады, калі ўжо сонца сьвяціла высока праз суччо дрэў і лес напоўніўся гоманам птушак.

Адшукалі дарогу ў лесе і пашлі далей. Нарэшце вышлі на акраіну лесу. Лес у гэтым месцы скончыўся. Далей ішлі хмызьнякі, а там за імі ўжо віднелася поле, хутары, вёскі. Да аднаго з блізшых хутароў і накіраваліся Міхась з таварышамі, каб чаго-кольвечы перакусіць.

Праз некалькі мінут яны ўжо сядзелі за сталом, на якім ляжала поўбаханка хлеба і стаяў гаршчок з малаком. Адразалі адзін за другім

кавалкі хлеба, падлівалі ў кубкі малака. Елі з апэтытам, пакуль ня зьелі ўсяго хлеба і малака.

— Мо' яшчэ даць?—спыталася гаспадыня.

— Не, дзякую—пад'елі,—адказаў Міхась, запытаўшыся раней у чырвонаармейцаў.

— Цяпер можна і далей рушыцца.

Настрой пасьля яды неяк палепшыўся. Адчувалі сябе бадзёрай. Спадзяваліся, што хутка дабяруцца да сваіх. Усталі з-за стала, каб ісьці далей.

— Палякі едуць сюды!—раптам убегшы ў хату, перастрашаны, крыкнуў гаспадар.

Міхась кінуўся да вакна.

Па дарозе, якая вяла ад вёсак да лесу, ехала трушком чалавек пятнаццаць легіянэраў. Былі ўжо недалёка каля хутара. Уцячы было немагчыма, схавацца—недзе.

Хвіліна была жудасная. Пакуль што палезьлі на столь хаты пад стрэху.

Чутна было ім, як затрымаліся легіянэры каля хаты... зьлезьлі з коняй... Частка пашла ў хату, другая засталася на двары... Крыху пачакаўшы, з хаты пачуўся зычны голас легіянэраў і некалькі баязьлівы, адпрашваючыся голас гаспадара. Відавочна пагражалі яму і патрэбавалі ўказаць, дзе бальшавікі.

— Даць адпор ці паддацца?—радзіўся Міхась з таварышамі.—Абараніцца ўсё роўна немагчыма. У выніку толькі спаляць яшчэ хутар і заб'юць гаспадара...

— Злазь там зараз, пся крэў, з хаты,—пачуўся голас у сенях.

Раздумліваць было некалі. Рашылі паддацца.

Зьнішчыўшы на сьпех дакумэнты, Міхась з чырвонаармейцамі зьлезьлі; іншага нічога не заставалася рабіць, палякі ўжо ведалі, дзе яны і колькі іх.

Адабралі аружжа, вывелі ў двор і пачалі абшукваць.

Тут толькі прыпомніў Міхась, што запомніў зьнішчыць плян месца, дзе схаваны скарб. Аж уздрыгнуўся. Ведаючы добра, чым ён рызыкуе, дастаў хітрым рухам паперку з кішэні і, як-бы выціраючы нос, усунуў паперку ў рот і пачаў яе сьлюніць і есьці. Палякі заўважылі гэта.

— А цо ты там еш?—спытаўся адзін з іх, даўшы Міхасю па патыліцы так моцна, што той чуць устаяў на нагах.—Зараз отдай то,—скамандваў далей, пагражаючы рэвольвэрам, легіянэр.

Міхась выплюнуў паперку.

Тыя паднялі, пачалі разварачваць. Разабраць нічога ўжо нельга было, бо яна мела выгляд прамочанай папяровай гушчы.

На тварах палякоў адмаляваўся выраз злосьці.

— Ты нам, большэвіцка морда, і так ешчэ повеж о вшысткім...—азваліся па адрасу Міхася.

Чырвонаармейцаў скончылі абшукваць.

— Ростшэляць!—скамандваў афіцэр. Міхася яшчэ, па выпадку з паперкай, старанна абшуквалі. Некалькі легіянэраў абкружылі і павялі за хату чырвонаармейцаў. Тыя маўчком, з сумнымі тварамі кінулі на Міхася адвітальны ўзгляд... пашлі... Хутка пачуў Міхась адзін за другім два залпы, балесным рэхам адбіўшыяся ў яго сэрцы...

Згінулі ўсе, злажылі галавы, абфарбавалі зямлю кроўю... Застаўся пакуль ён адзін... Вось зьвяртаюцца легіянэры, растраляўшыя чырвонаармейцаў... Цяпер яго чарод... Затрымаліся каля адышоўшага да варот афіцэра. Той аддае нейкія распараджэньні... Ведама, адносна Міхася...

— Давайце го ту!—крыкнулі адтуль легіянэрам, скончыўшым ужо абшукваць яго. Павялі Міхася за вароты... Зьвязалі ў тыл рукі, прывязалі на ўзятую на хутары пастронку да сядла, селі на коняй і паехалі таксама трушком...

За хутарам убачыў Міхась ляжачыя трупы сваіх таварышоў... Сьціснула сэрца.

„Чаму не мяне разам? Лепей было-б ужо тутака“, кружылася ў Міхася, ведаўшага, што яму няма чаго добрага чакаць,на думцы.

* *
*

— Цёця Галя, чаму ня прыходзе да нас тав. Дуброўка?—пытаўся ў Галі Юраська—„старшыня“ дзіцячага комітэту, жвавы хлопчык—праз некалькі дзён пасьля ад‘езду Міхася на фронт.

— Няма яго ў месцы.

— А дзе-ж ён?

— Паехаў на фронт змагацца з панамі.

— Ай, як шкода, што яго няма,—загаманіла некалькі дзіцячых галасоў.

— Надоўга ён паехаў? Хутка вернецца да нас?—дапытваліся дзеці.

— Не, ня хутка. Калі кончыцца вайна, калі перамогуць ворагаў, тады толькі ён і вернецца.

Засмуціліся дзеці ад такога адказу.

— А табе, цёця Галя, шкода, што няма яго?

— Дык ведама-ж, што шкода,—адказала дзяўчына і задумалася, пачуўшы нейкую шчырасьць у сваім голасе.

Гэта быў першы выпадак, ад якога яна пачала ўсё болей і болей успамінаць аб Міхасёвым ад‘езьдзе. Спачатку ёй неяк ня верылася, што Міхася ўжо няма. Здавалася часам, што ўжо бягуць да яе пакою дзеці са звычайным у апошні час крыкам: „Цёця Галя, цёця Галя, таварыш Дуброўка да нас прыехаў“. Зрывалася з месца, каб ісьці на спатканьне. Не! Ня было Міхася, ня беглі да яе з весткай, бавячыся каля ганку дома дзеці. Міхась ня прыедзе.

Беглі дні за днямі. Адсутнасьць Міхася ўсё болей адчувала Галя, ня пытаючы яшчэ сябе, чаму яна так адчувае: прызвычаілася да яго пры-

езду, ці з іншае прычыны. Тады, перад ад'ездам Міхася ёй ня бегла думка, што яго калі-кольвечы можа ня быць, не хацелася і ня было патрэбы разважыць аб сваіх настроях у разе адсутнасьці Міхася. І вось цяпер прышлося спаткацца з фактам без папярэдніх думак, бяз пэўных перакананьняў, як ён адазьвецца на душы, на настроях, на пачуцьцях. Дзеля гэтага болей балюча адчуваўся цяпер ад'езд Міхася. Гэта з свайго боку ўскорыла процэс разьвіцьця яе пачуцьця да Міхася, выявіла гэтае пачуцьцё, залажыла яму аснову, каб далей яно само нястрымана магло расьці і мацнець, уплынула на вясёлы ад прыроды характар Галі. Засмуцілася, пачала прыслухоўвацца да свайго, адносна Міхася, пачуцьця, успамінаць усе дэталі Міхасёвага пабыту ў дзіцячым доме, раздумлівацца над выказанымі ім думкамі, над усім тым, што пахадзіла ад яго, характарызавала яго. З пачатку успамінала павярхоўныя, надворныя бакі Міхася, малады прыгожы, абыходлівы, уважлівы, умеючы і з дзяцьмі, і з дарослым пагаварыць, заняць.

Пасьля, складаючы ў адно цэлае часьцінкі ўспамінаў аб Міхасі, раздумліваючы над імі, яна пачала разумець і ўнутраны Міхасёў сьвет. Цяпер як-бы спала нейкая заслона, якая закрывала да гэтага часу ад Галі гэтую частку Міхасёвай істоты. То, чаго раней Галя не прыкмячала, ці ня зусім разумела, стала такім ясным.

Уражлівая Галя хутка праймалася гэтым адкрытым ёю Міхасёвым унутраным сьветам. У яе вачох Міхась цяпер здабыў яшчэ большую пашану. Скардзілася яна на тое, чаму гэта раней не магла шмат чаго заўважыць і зразумець у Міхасі, што выкрыла цяпер. Яна разважала, што Міхась уважліва абыходзіўся з ёю, як і з усімі. Цяпер яна вырасла, стала дарослай, шмат чаго зразумела ў мінуты задумленьня.

У такіх перажываньнях пачуцьці Галі ўзмацніліся. Яшчэ ня ведала, як адзавецца на гэта Міхась, бо той не адкрыў ёй пачуцьця. Сама-ж зразумела характар і моц настрояў сваёй душы, чакала, каб як хутчэй убачыць Міхася, хацелася як-небудзь даведацца, ці можа ён узаемна палюбіць яе, жадала, каб ён даведаўся аб яе каханьні.

Тымчасам ад Міхася ня было ніякай весткі ня толькі ў яе, але і ў яго таварышоў у горадзе.

Прыслаў крыху раней пісьмо свайму намесьніку ў Аддзеле Асьветы. Запытваўся ў яго, як прашлі падрыхтовачныя настаўніцкія курсы, як абстаіць справа з організацыяй Сельска-Гаспадарчага Тэхнікуму і іншыя службовыя справы. Пісаў яшчэ, што ворагі на фронце павялічваюцца ў ліку, мацнеюць, бойкі йдуць усё больш заўзятыя; а аб сабе нічога, якбы нічога не перажываў, не цярпеў. Гэта была адзіная вестка.

„Чаму ня піша? Каб хоць пару слоў атрымаць. Мо'... забіты?“

Сэрца застукала часьцей, балюча заныла.

Непакоілася Галя. Жаданьне пабачыць каханага чалавека павялічвалася тым болей, што яе каханьне, якое пусьціла пры ім толькі расткі,

распусьцілася, зацьвіло ў часы растаньня,—было нястрыманае жаданьне нязьведанага шчасьця. Ня маючы падобнай Міхасю, сілы волі, яна не магла захаваць свайго пачуцьця.

Ня раз хацелася напісаць да Міхася, ды не адважвалася. Апаска страціць Міхася, непакой за яго жыцьцё ўсё болей абхаплялі Галю. Яна проста не находзіла сабе месца. Тамілася ад растаньня і невядомасьці. Нарэшце ня вытрымала, рашыла напісаць Міхасю, перадаць яму, хоць мо' ня ўсе свае апошнія перажываньні. Дастала ад намесьніка Міхася адрас апошняга і напісала яму гэткі ліст:

„Слаўны Таварыш!

Выбачайце за тыя радкі, якія мне хочацца Вам напісаць. Я хочу падзяліцца з Вамі сваімі думкамі з надзеяй, што Вы спачуваюча спаткаеце іх, зразумееце.

Так многа яшчэ эгоізму, пустаты, мяшчанства, халодных драбязьлівых характараў, якія пападаюцца на нашым жыцьцёвым шляху. Страшна робіцца, калі падумаеш, што гэта балота можа затапіць, налажыць свой адбітак на душы, калі не знайсьці сілы змагацца з ім, стаць вышэй за яго. Толькі цяпер я зразумела, як-жа суровы і цяжкі Ваш шлях, як-жа цяжка бачыць прыгожыя маскі, чуць лёгкую, цікавую для каго-кольвечы, але не для Вас, размову, замест пачуць словы спачуцьця, замест спатканьня душы, з якой можна падзяліцца сваімі радасьцю і горам. Як-жа горка Вам, змагаючыся за лепшае, бачыць навокал шмат яшчэ эгоізму, драбязьлівасьці, пустаты і адчуваць падчас сваё адзіноцтва.

Цяпер, калі я аб гэтым падумала, зразумела прычыну Вашых, набягаўшых часінамі, сумных думак у маім скромным пакоіку. Прабачце, чыстасардэчна прашу аб гэтым, маю бясьпечнасьць і ня ў месца вясёласьць у такія мінуты, не палічэце яе за абразу Вашага самага лепшага, пачуцьця. Вы мо' у Вашых сумных думках, між іншым, смутна прадбачылі, што і я магу апынуцца ў гэтай прышляхавай калужы.

Гэта і магло са мной здарыцца: эгоізму, горшых інстынктаў сабралося ўжо шмат, ой шмат.

Але не! Гэтага ня будзе!

Памятую Вашы словы, паўтараю іх і глыбока ў іх веру. Я цяпер ужо другая. Адкуль узялося парываньне, імкненьне к усёперамагаюча праўдзе? Адкуль парываньне да працы, творчасьці працы з дэвізам згінуць, але не паддацца?

Ці вытрымаю? Ці перамагу?

Сумненьне мімаволі прыходзіць у голаў, калі я падумаю аб тым, прыдзецца ці не мне спаткацца з Вамі, а такіх, як Вы, людзей—мала, вельмі мала. Так хочацца хутчэй спаткацца з Вамі, каб у Вашай сьветлай і надта харошай веры ў сілу ўсёперамагаючай ідэі праўды зачарпнуць сілы для таго, каб скінуць з сябе драбязьлівасьці, устаяць супроць іх і пайсьці далей па выбраным шляху.

Жаданьняў і парываньняў ёсьць вельмі многа.

Запраўдна кажуць, што жадаць—ужо напалову дасягнуць, а я буду з усіх сіл парывацца і веру ў свой посьпех. За гэты час буду старацца больш чытаць і вучыцца, каб у будучыне прынясьці больш карысьці. Спадзяюся, што вы не адпіхніцё мяне, калі я буду прасіць вас узяць мяне пад сваё кіраваньне для таго, каб мой дух узмацніўся, і каб, ідучы на барацьбу, вы былі-б упэўнены, што я—устою.

Друг мой! Думкі неяк путаюцца, шмат іх хацелася яшчэ выказаць, але годзе на гэты раз.

Пажадаю вам моцнасьці духу ў барацьбе за добрую справу і знайсьці навокал сябе больш людзей, сярод якіх вы ня будзеце адчуваць сябе адзінотным і адарваным ад усяго для вас дарагога, якім вы хвілёва адчувалі сябе, седзячы са мной, у маім скромным пакоіку.

Усяго, усяго добрага, слаўны таварыш!

10/VIII—19 г. Галя.

* * *

Шляхам з Бярэсьця ў Горадню, пад узмацнёнай вартай, ішла грамада ў шэсьць-дзесяць чалавек арыштантаў. Большасьць з іх было асуджана на кару сьмерці. Гналі іх чамусь у Горадню, каб тут разгледзіць апэляцыі і вырашыць канчаткова іх лёс.

У гэтай грамадзе знаходзіўся і Міхась, асуджаны на кару сьмерці.

Як непадобны ён быў з надворнага боку да даўнейшага Міхася! У абдзёртай, бруднай вопратцы, худы, з адбіткамі на пацямнеўшым твары перажытых мучэньняў—фізычнай і духоўнай болі, голаду, холаду. Змардаванае цела, здавалася, чакала вечнага супакою і толькі сьвяціўшыся ў запаўшых вачох яскравы, непагасны аганёк сьведчыў аб тым, што не зламана воля, не пераможаны дух, што ёсьць ліхтар, які асьвятляў Міхасю шлях цярпеньняў, пакут.

Шмат, ой шмат перацярпеў Міхась!

Палякі ведалі, што ён належыць да каманднага складу Чырвонае арміі, што яму вядомы ўсе вайсковыя і іншыя пляны бальшавікоў, лік і моц Чырвонае арміі і інш. Зьнішчаны Міхасём там, на хутары, дакумэнт не даваў ім супакою. Лічылі, што мабыць вельмі важны дакумэнт. Не расстралялі адразу Міхася.

Спакушалі яго спачатку тым, што абяцалі адпусьціць на волю, даць шмат грошай; прапанавалі, супраўдна ці не, перайсьці нават да іх служыць. Як-бы ў падцьвярджэньне сваіх слоў, абыходзіліся з Міхасём лепей.

Ніводнага, аднак, слова, якога чакалі палякі, ня вымавіў Міхась. На ўсе прапазыцыі адказваў адмоўна. Убачылі, што такім чынам нічога не даб'юцца. Зьмянілі політыку.

Пачалі пагражаць і зьдзейсьніваць пагрозы.

Застасоўвалі адно балючай другога катаваньні, зьдзекі, акрутнае біцьцё. Трацiў прытомнасьць тады Міхась,—аблівалі вадой, каб ачухаць яго, давалі адпачыць і зноў браліся за сваю афяру...

Пацягнуліся пакутныя дні і ночы для Міхася. Мужна сустракаў Міхась зьдзекі і заўзята маўчаў.

. Не сьпяшылі палякі з расстрэлам Міхася, мо' спадзяваліся яшчэ атрымаць пажаданыя весткі, а мо' дзеля таго, каб мець яго, як закладніка, на выпадак, калі бальшавікі захапілі-б і хацелі расстраляць каго-кольвек з панскіх дзеячоў. Як-бы там ні было—Міхасю, аднак, не давалі супакою і пэрыодычна катавалі.

Так прашла восень 1919 году, зіма і вясна 1920 году. Наступіла лета 1920 году—лета вялікіх падзей на фронце. Дабегла і да Міхася вестка аб наступе Чырвонае арміі. З нейкай асалодай пераносіў ён цяпер катаваньне, боль... Рваўся душой туды, на прасторы роднае Беларусі, дзе адбываліся бойкі за яе далейшы лёс. Найвялікшым жаданьнем было быць у радох сваіх братоў, якія змагаліся з панамі, імсьціць паном за мінулыя зьдзекі над вызваленай цяпер бацькаўшчынай, імсьціць за зьдзекі над ім, Міхасём, за сьмерць сваіх расстрэленых таварышоў-чырвонаармейцаў. Злажыць сваю галаву там у бойках, але перамагчы. Цярпеў, здавалася, больш цярпеў не ад зьдзекаў, а ад прытомнасьці сваёй няволі, свайго бясьсільля ў такі рашучы момант.

Ізноў водступ! Горкае пачуцьцё. Нарэшце замірэньне з Польшчай. Міхась ужо ня быў патрэбны палякам. Але як-жа яму даравацъ вытрывальсьць і мужнасьць і ў канцы адпусьціць, як палоннага, на бацькаўшчыну, якая вызвалілася, калі ёсьць магчымасьць расправіцца з сваёй афярай.

Зрабілі над Міхасём комэдыю суду, абвінавацілі яго, як вайсковага шпега, і прыгаварылі да кары сьмерцю. Ня ўбачыць Міхасю сваёй вольнай бацькаўшчыны, за якую змагаўся, цярпеў. Ішоў цяпер з панурым тварам, з сумнымі думкамі. У Горадні не чакаў нічога лепшага. З думкай аб сьмерці зжыўся, не баяўся яе, ня раз яна зазірала яму ў вочы. Быў здаволены тым, што хоць і ня ўсю, але большую частку сярмяжнае Беларусі вызвалілі ад паноў, адваявалі. Гэта галоўнае,—аб сабе можна і ня думаць.

Хацелася толькі, балюча хацелася пабачыць разок таварышоў, пабачыць, як ідзе мірная праца ў іх... пабачыць Галю... пэўна зьмянілася крыху (пісьма Міхась не атрымаў), адшукаць і перадаць уладзе працоўных схаванае ў лясох Мазыршчыны багацьце. А тады і памерці... Даць супакой зморанаму целу.

Зьявілася думка ў Міхася—папрабаваць уцячы. Але пабачыў моцную навокал варту, дык зараз-жа пераканаўся, што гэта немагчыма.

Выказаў, аднак, сваю думку таварышом. Хоць спадзявацца добрага канчатку спробы і ня прыходзілася, але нямінучая сьмерць, якая чакала іх у Горадні, змушала стаць на гэты рызыкоўны крок. Таварышы па ня-

шчасьцю налеглі на тое, каб папрабаваць уцякаць. Даручылі Міхасю выбраць месца і час і даць умоўны знак, пасьля якога ўсе адразу павінны разьбягацца ў розныя бакі.

Трэба адзначыць, што арыштантаў гналі этапам пехатой—праз тое, што яшчэ ня былі папраўлены масты на чыгунцы і цягнікі не хадзілі.

Прашлі ўжо арыштанты некалькі дзён, ужо скарачаўся шлях да Горадні, а выпадкаў, спагадных да ўцёку, ня было. Ноччу замыкалі іх у хлеў ці клець, з моцнай стольлю і добра вартавалі. Удзень застанаўліваліся на кароткія адпачынкі, таксама пільна вартавалі і йшлі далей.

А да Горадні было ўжо ня вельмі далёка, трэ' было пасьпяшацца з уцёкам. Міхась рашыў далей не чакаць. На чарговым прывале месца, здавалася, адпавядала гэтаму. Абапал шляху быў лес. Тут—альбо нідзе.

Пачатак, аднак, рабіць было болей небясьпечна. Агледзіўшы таварышоў і варту, Міхась раптам моцна закашляўся, ускочыў на ногі і пабег з усёй моцы ў лес... Страляніна... Крыкі...

Міхася адразу чымсь абпаліла. Як бяспамятны, няпрытомны, бег па лесе: гальлё да крыві драпала па твары, рвала вопратку... Бег, як-бы абхоплены агнём, які паліў яго мацней і мацней, пакуль ужо ня чутна было страляніны. Балюча несьцярпіма пякло ў грудзёх. Далей бегчы ня мог... паваліўся на зямлю паміж цёмнай гушчы маладых хвоек. Быў ранены: кроў жаралцом бегла з раны... Боль дамагала. Адчуваў, што рушыцца, і нават устаць ня мог. Усе часьціны цела не хацелі варушыцца... У вачох замітусілася, пацямнела.

Недалёка пачуліся нейчыя крокі... „Здагон... Нават памерці тутака спакойна не дадуць... Эх доля"... працяла Міхася горкая думка. Прыслухаўся, паглядзеў адкуль чутны былі крокі. Хутка ён недалёка ад сябе ўбачыў аднага з арыштаваных—таварыша Туркаўца. Ня то вокрык, ня то стогн вырваўся з грудзей Міхася, каб паклікаць таварыша.

Той учуў—падышоў.

— Ранены, браце,—спытаўся, убачыўшы бледны твар Міхася.

Адвязаў хустку, адарваў кусок кашулі, схіліўся над Міхасём, стаў аглядаць рану. Абаім здавалася, што рана небясьпечная: куля наскрозь прабіла Міхасёвы грудзі; кроў затрымаць было немагчыма: яна прабівалася й цякла праз шматы, якімі была абвязана рана, праз вопратку, фарбавала лісьцё папараці.

— Мне што-ж... памерці... прыдзецца... няміуча...—цяжка дыхаючы, з перарывамі гаварыў Міхась.—...Бацькаўшчыну ўбачыць... вось не... давялося... Калі ўдасца.. табе... дабрацца... дык прывітай... таварыш... маіх... другаў... таварышоў паведамі... што я... памёр... у лесе... каля Горадні... Галю прывітай... Галю, якая...—затрымаўся, як-бы не хапіла слоў выказаць думку, як-бы шукаючы слоў.

— Разумею, разумею,—спачуваючы, адазваўся таварыш, уважліва слухаючы.

— ...Шкада яе... усіх прывітай... раскажы... аб зьдзеках... цярпеньнях... якія сам... бачыў... быў сьведкай... і перажыў іх...

Гаварыць станавілася цяжэй.

— ...Яшчэ... адна... таямніца... з ёй я не... павінен... памерці... Ты... таварыш... выканай... даручэньне... я табе... скажу... але выканай... доўг... перад... сваім... працоўным... народам... Мне ня... прыдзецца споўніць... Баліць... мне... думка... што... апошні... доўг... ня будзе... споўнены...

— Супакойцеся, таварыш,— адазваўся слухаючы Міхася Туркавец, не зразумеўшы, да чаго схіляецца непакойная яго думка.—Мы ўсе будзем змагацца, не шкадуючы жыцьця, і споўнім доўг і за сябе і за згінуўшых у барацьбе за справу працоўнага народу таварышоў...

— ...Веру вам... ня тое... таямніца... вось якая... Ах... як баліць... баліць...—застагнаў Міхась. — Там... каля двух дубоў... на схіле... яру... схавана... вялізарнае... багацьце...

— Дзе, дзе? Якое багацьце?—запытаўся Туркавец, ня ведаючы, ці гэта праўда ці пачаўся брэд.

— ...У... Мазыршчыне... лесе ля дарогі... ад вёс...—закашляў, уздрыгнуў, ня мог выказаць канчатку думкі. Яшчэ больш пабляднеў твар, галаву зьвесіў на грудзі, вочы пачалі замыкацца.

Туркавец стаў на калені, зьняў шапку... „Памірае пакутнік удалёку ад сваіх блізкіх... Як затроены зьвер... у лесе. Вось наша доля...“ думаў ён.

У старога барацьбіта-рэволюцыянэра, бачыўшага вельмі многа цяжкага на сваім жыцьці—і царскую катаргу, і сасланьне, і зьдзекі ў панскай турме—зашчаміла больлю сэрца; пацяклі мімаволі сьлёзы пры поглядзе на Міхася. Схіліўся над ім, захоплены болем.

А высокія хвойкі сумным шумам сьпявалі, здавалася Туркаўцу, жалобную песьню, гаманілі аб людзкай лютасьці іківалі адвітальна сваімі, выцягваючыміся к сонцу, галовамі.

Трэснула недалёка галінка. Таварыш Туркавец прыпомніў, што ён недалёка месца ўцёку.

— Панясу вестку аб схованым дзесьці скарбе, якога ніхто не адшукаў, панясу смутную вестку Галі аб тым, што ніхто ня верне ёй Міхася,—вестку аб згубленым яе шчасьці.

Устаў, уздыхнуў, адышоў.

(*Канец будзе*).

## АТАМАН

*(З поэмы)*

**М. Чарот**

Калі сёньня на сельскім сходзе
Крычаць:
„Трактар давай замест сох!..“
Думка ўраз—аб паўстанцкім паходзе
Па беларускіх лясох.

Колькі раз грымела паўстаньне,
Каб пазбыцца няволі, пут...
Ды заўсёды ў мужыцкім стане
Канчаў справу чужынца суд.

Суд ліхі—над паўстанцам расправа...
Каб мужык—ды паўстанец, бунтар?!
Аб паўстаньнях жыла толькі слава,—
Пра іх пелі наш лірнік, дудар...

Але ў песьнях—чуваць адвага...
На вачох—не пабачыш сьлёз...
А з грудзей не нясецца скарга
На мужыцкі паганы лёс...

Час мінуў... і мы у паўстаньні...
Неспакой у мужыцкай крыві...
Ну, цяпер ты, чужынец, васпане,
Мужыка, як раней, задаві?!

Не, пастой! ты нас ня зможаш:
Бач, паўстанцаў новы набор...
Зноў знаёмае нам падарожжа:
Пушча, поле, імшары ды бор.

Мужыкі збунтаваліся дужа,
А у іх—цяпер ёсьць атаман...
І крыві ня спужае іх лужа,—
Пераможа мужыцкі стан.

Вось і мы, і мы у паўстаньні,—
Неспакой у мужыцкай крыві...
Ну, цяпер, пан, чужынец паганы,
Мужыка, як раней, задаві?!

* * *

Жмурыць вочы вечар сіні...
— Гэй, на плечы торбы-ранцы!..
Каля лесу, па даліне
Ідуць хлопцы-навабранцы.

Ідуць хлопцы... млеюць ногі...
Па траве дыбаюць роснай...
Лепей голад, як вастрогі...
А бяз хлеба—млосна... млосна...

Навабранцы—хлопцы бравы,
Самахвотна вышлі з хаты...
— Дай спачынем ля дубравы,
Хоць падсушым сьвіты-латы.

Жмурыць вочы вечар сіні...
А наўкола—ціша, ціша...
Толькі вецер пры даліне
Куст алешніку калыша.

Зьнялі хлопцы торбы-ранцы,
На траве прыселі роснай...
Эх, вы, хлопцы, эх, паўстанцы!..
А бяз хлеба—млосна... млосна...

Эх, ды што там!.. Што яда нам,
Калі мы цяпер ў паходзе!
Быць хутчэй-бы аб'яднаным
З тым, хто хоча жыць у згодзе.

Зноў на плечы торбы-ранцы...
Каля лесу, па даліне
Мужыкі ідуць—паўстанцы...
Жмурыць вочы вечар сіні...

* * *

Не лясы шумяць,
Ня дубравы гамоняць,
Плача бацька, маці:
На паход, бач, звоняць.

На паход, бач, звоняць
Са званіцы-ўлоньня,
З тых сяліб-загонаў,
Што паны палоняць.

Не жагнай, матуля,
Крыж там не паможа...
Як прыду адтуль я,
Будзе жыць нам гожа.
Плечы не сагнём мы,
Вольна будзем жыці...
Сіла ёсьць сягоньня,—
Бывай!.. Ня тужы ты...

Плача бацька, маці:
На паход, бач, звоняць...
Не лясы шумяць,
Ня дубравы гамоняць...

* * *

І застукала сэрца улана:
На зямлі нашай—больш не яздок...
Паглядзеў—мужыкоў, як наслана!..
Чуе грозны загад атамана:
„Менск і Вільня, а там—Беласток!..“

Эх, пашлі!.. Зварухнулася сіла,
Толькі рэхаю стогне абшар...
Хоць сягоньня яшчэ і ня ў Вільні,
Але тут, вось,—мужык гаспадар!

Чуеш, сёньня на сельскім сходзе
Крычаць:
„Трактар давай замест сох!..“
А галодных шмат яшчэ ходзіць
Па беларускіх лясох...

Але што!.. Хай праведзены межы,
Хай на целе краіны парэз...
Чуем вольны мы сьпеў Белавежы—
Там гукае паўстанцамі лес.

Тут аб трактары сёньня размова,
Аб канале, электра-плугах...
Калі-ж трэба—заўсёды гатовы!
Добра знаем паўстанцкі мы шлях!..
Не заблудзім у буру і слоту,
Хоць засьцеле балоты туман...
Тут гатовы паўстанцкія роты
І на варце ўсягды атаман!

Абы чуць неспакой на балоце,
Хай заплача няволяй лаза,—
У паўстанцкім апошнім паходзе
Буду першы я партызан!

Лістапад 1924 г.

# ЗАБАСТОЎШЧЫКІ

## У 2-х АКТАХ

**Тарас Гушча**

## АСОБЫ:

Бас-Грэнка, тутэйшы настаўнік
Падбрэхіч-Гарнак
Хрушч-Булыга
Насенка
Пясецкі
Шумяка
Нічыпар
— жывуць комунаю ў школе

Лясун
Прут
Лукашык
Агата Гарэльская
Надзея Баханок
— Настаўнікі з другіх школ. Моладзь 20-25 г.

Настаўнікі
Довід, крамнік
Прыстаў, 35 г.
Вураднік, з сіваю барадою, тонкі, высокі
Поліцэйскія стражнікі

## АКТ I.

Адбываецца ў вясковай школе. Кватэра настаўніка. Невялікі пакой. Каля аднае сьцяны стаіць шафа з кнігамі. На шафе відаць глёбус. Пасярэдзіне, бліжэй да аднае сьцяны, проціў акна стаіць стол і канапа. На сьцяне вісіць географічная карта. Каля яе скрыпка. Збоку ад скрыпкі на жалезным кручку нанізаны паперачкі рознага формату. Некалькі простых крэсел. На канапе пад прасьцінёю сьпіць Булыга. Відны толькі валасы і ногі ў белых панчохах. Каля канапы яго камашы. Сьпіць нераздзеты.

Шумяка (уваходзіць з палкаю ў пакой, спыняецца на парозе, аглядае пакой). А дзе-ж яны? Няўжо яшчэ не паўставалі?.. Э, там хтось ляжыць! (Ставіць у куток палку, ціхенька падходзіць да канапы). Каторы-ж гэта з іх? А! да гэта-ж Хрушч-Булыга!.. Пастой-жа, брат: я цябе зараз падыму! Казыча пальцамі ступні. Булыга парывіста прымае нагу. Шумяка прысядае, хаваецца

за канапу). Сьпіць!.. Мусіць, нядаўна з вячорак прывалокся Хрушч! (Становіцца ў позу, громка дэклямуе):

Я пришел к тебе с приветом
Рассказать, что солнце встало,
Что оно горячим светом
По листам затрепетало.

(Булыга не варушыцца).

Ш у м я к а. Ты яму хоць з гарматы страляй, то ён не пачуе. (Зьнімае са сьцяны скрыпку, становіцца над вухам). Стой-жа, брат, засьпяваю табе з боскага што-небудзь. (Водзіць смыкам па скрыпцы і сьпявае):

Душе моя! душе моя!
Восстани, что спиши?
Конец приближается!

Б у л ы г а (заварушыўся, не падымаючы галавы). Каго там чэрці дрэнчаць? Пашоў ты к чорту—спаць хачу!

Ш у м я к а. Не, брат, дудкі: уночы трэба было спаць. Я, пане мой, ужо восем вёрст пехатою адтрапаў, а ён яшчэ ня выспаўся! Уставай ты, абібок! (Сьцягае просьціню).

Б у л ы г а. Ты, Падбрэхіч чортаў! Убірайся к чортавай галаве!

Ш у м я к а (кладзе на стол скрыпку). Разьдзяры свае зярцалы ды паглядзі, хто стаіць перад табою!

Б у л ы г а. А! вось чорт! Адкуль ты ўзяўся? Здароў, брат (Здароўкаюцца). А я гляджу, хто гэта такі. Думаў, што Гарнак.

Ш у м я к а. А чаго ты ляжыш неразьдзеты? Ці не з вячорак ты, брат, часам?.. Эх, Хрушч ты, Хрушч! Згубяць цябе бабы.

Б у л ы г а. Якія там у чорта вячоркі і якія там у ліха бабы! Мы, брат, занач абход вялікі зрабілі: абышлі сёл з восем... Ёсьць у цябе курыць? (Шумяка дастае папяросы). Мы, брат, абкурыліся тут. У доўг залезьлі к Довіду. І цяпер, як толькі зглeдзім яго рыжую бараду і доўгую канторскую кнігу пад пахаю, дык нясёмся ад яго, як ад Тамярлана,— хто куды: плаціць няма, брат, чым!

Ш у м я к а (рагоча). Ах, вы, галадранцы! Агалела ваша сябрыня.. А які-ж вы абход рабілі?

Б у л ы г а. Гэ, брат: нічога ты ня ведаеш!

Ш у м я к а. Лісткі раскідалі?

Б у л ы г а. У нас тут цэлая машынэрыя заведзена... Жывеш ты там, як воўк адзін.

Ш у м я к а. Так, голубе, я трохі адзічаў. З прыродаю жыву адным жыцьцём... А дзе-ж Алесь, Сымон?.. Дзе ваша комуна?

Б у л ы г а. Пазвалакаюцца зараз... Па гумнах туляюцца... А вось там тухкае нехта. Напэўна Грэнка ці Гарнак. (За дзьвярыма Уваходзіць Сымон Гарнак).

Г а р н а к (да Шумякі). Шуміла! Вось маладзец, што прышоў А я, брат, бяз цябе зусім замаркоціўся!

Шумяка. Ну?! Браток ты мой! Сваім прызнаньнем ты мне проста душу ўскалыхнуў! Як маешся, мудрэц?.. Ці ня хочаш і ты часамі закурыць?

Гарнак (бярэ папяросу). Чорт яго, брат, ведае, як я маюся. У гурце нічога, а застануся адзін, дык моташна робіцца... Цьфу, паскудзтва! Ты ведаеш, брат, які я сьніў гадкі сон?

Булыга. Можа зноў сьніў што без нагавіц на курсы ў Менск паехаў?

Гарнак. Не, брат, горш яшчэ... Цьфу! (Шумяка і Булыга рагочуць).

Шумяка. Калі яшчэ горш, то напэўна дрэнны сон.

Гарнак. Паскудны сон! І трэба-ж гэтакай гадасьці зьвярзьціся! Вы ведаеце, што я сьніў? Здаецца, вуха адкусіў у нашага ураднiка і еў!

Шумяка і Булыга. Ха-ха-х

Булыга. А бадай ты скіс разам са сваім сном!

Гарнак. Яй-богу! Жую, жую, а яно цьвёрдае, як падэшва, коўзаецца і на зубох скрыпіць! Цьфу!

Шумяка. А чаму ты босы, браце мой Сымоне?

Гарнак. Папершае, і сам хрыстос хадзіў босы; падругое—хадакі свае стаптаў і патрэцяе—босаму спрытней: больш маю шансаў ад Довіда ўцячы.

Шумяка. І даўся-ж гэты Довід вам у знакі. Ён—проста нейкі ўладар вашых дум.

Гарнак. Ён, брат, быў раз аблажыў нашу комуну, але мы ў вокны кінуліся ды ў каноплях пахаваліся. Адзін толькі Бас-Грэнка ў палон папаўся, і Довід з гадзіну чытаў яму нашы расьпісачкі.

Булыга (падымаецца з канапы, бярэ камашы, разглядае іх). Эх, вышкалілі зубы камашыкі мае! Скора і мне прыдзецца браць прыклад з хрыста... Галота ты, галота настаўніцкая! Ні мыш, ні пацук ня могуць каля нас пажывіцца... І праўда, брат: няма культуры там, дзе трудна жыць настаўніку .. Слухай, Сымон: а што ў нас будзе сёньня на абед?

Шумяка. Квашаніна з ураднiцкіх вушэй!

Гарнак. Я ўжо ўночы наеўся, а вы сабе як хочаце.

Булыга. То кепскі-ж з цябе комуністы, калі ты гэтак разважаеш. (Чуваць тупат. Уваходзяць Грэнка і Пясецкі).

Булыга. Сьмірна! ідзе наш правадыр, вялікі канакрад... цьфу! дэмократ!

Грэнка (басам). Го-о-о! (Здароўкаецца з сябрамі. Да Шумякі). Мы, брат, тут намазваем калёсы: сёньня штук з сорак адозвачак да сялян параскідалі. Няхай чытаюць.

Пясецкі. Няхай чытаюць і розуму набіраюцца.

Шумяка. А дзе-ж вы іх узялі?

Пясецкі. Самі фабрыкуем іх.

Г р э н к а. Самі складаем і самі друкуем.

Б у л ы г а. І самі іх разносім.

Г а р н а к. Мы ўсё: пачатак і канец... Ты ведаеш, брат Шумяка, якая гэта была слаўная мінута! Ноч. Цішыня. А мы прышлі на бераг Нёмна, разьдзеліся напалавіну і ў брод. Вада напірае на твае ногі і штось шуміць, як-бы сярдуе за тое, што нарушылі яе вольную плынь. І так гэта здорава адчуваеш сябе! Шыбуем у сёлы і раскідаем свае лісткі так, каб ні адзін з іх не прапаў... Прыемна, ведаеш ты, сама гэта думка, што робіш справу добрую, і ў той-жа час яна ёсьць справа беззаконьня.

Ш у м я к а. Ён, браткі, расказвае, як поэта. Проста, зайздросна мне.

П я с е ц к і. Го, наш Сымон! Яго, брат, ня возьмеш за руб дваццаць.

Г р э н к а. А ведаеце што: ужо пашлі гутаркі паміж людзей.

П я с е ц к і. Забастоўшчыкі, кажуць, зьявіліся, і скора пачнуцца пажары.

Ш у м я к а. Ой, глядзеце: асмаліце вы сабе кудлы ў гэтым пажары. Гутаркі пашлі... Будзьце асьцярожны.

Г а р н а к. Ну, і чорт іх бяры з кудламі: ня трэба будзе цырульніку плаціць.

Г р э н к а. Чуеш, што кажа наш Сымон?

Ш у м я к а. Зьеўшы вураднiцкае вуха, і ня так яшчэ скажаш.

Г р э н к а. Вуха? Ха-ха-ха! Якое вуха?

П я с е ц к і (да Гарнака). Ці не сасьніў ты зноў чаго-небудзь?

Г а р н а к. Сьніў, няхай яно прападзе. Сьніў, што адкусіў вуха ў нашага вурадніка і жаваў яго, а яно, падла, жорсткае, валасатае, аж хрыбусьціць. (Плюе. Усе сьмяюцца).

П я с е ц к і. Ён, як той біблейны Ёсіф, сьніць прарочыя сны.

Б у л ы г а. А ну вас к ліху! Трэба лепш пайсьці ды самавар паставіць. Яму добра—хто вуха зьеў. (Выходзіць).

Г а р н а к. Ідзі, Булыга, паклапаціся, брат. Няхай будзе над табою благаславеньне Карла Маркса!.. А ведаеце вы, хлопцы, што? Ці не пападзём мы ў няволю да фараонаў? Ці ня было гэта якое відзеньне прарока Ісаі?.. Трэба запісаць. (Бярэ з шафы лісток паперы, садзіцца, піша).

Г р э н к а. Ён у нас такім стаўся філёзофам, што і самога Сьпінозу за пояс заткне. Унь бачыш? (Паказвае на кручок з паперачкамі). На кожны дзень піша якую-небудзь мудрасьць або афорызм і вешае на кручок. У яго там цэлая скарбонка мудрасьці... Ну, што ты напісаў?

Г а р н а к. Чакай, брат! Не перашкаджай! (Гарнак піша, а ўсе пазіраюць і сьмяюцца ў голас).

Г а р н а к. Ну, слухайце! Прароцтва Падбрэхіча.

П я с е ц к і. Булыга! Хадзі слухаць прароцтва Сымонава. (Булыга ўваходзіць).

Гарнак (чытае). Тако глаголе Падбрэхічі „І прыйдуць на вас дні, калі вурадніцкія вушы будуць вашаю страваю. Але закалоціцца сэрца ваша, і пабяжыце вы ў каноплі. Пад крыльлямі рыз Довідавага лапсардака будзеце шукаць вы прытулку. І нападзе страх на вас, і трэпет напоўніць вашы косьці“.

Грэнка. А няхай цябе качка стопча разам з тваім прароцтвам.
(Гарнак падходзіць да кручка і вешае „прароцтва“).

Шумяка. Весела тут у вас, хлопцы, хоць і бесталкова.

Гарнак. У нас тут „дом крамолы і бязбожніцтва“.

Шумяка. Калі так, то давайце адслужым акафіст. Маю новы акафіст, напісаны спэцыяльна для вашай парафіі.

Усе. А ну, давай, памолімся!

Шумяка. Дайце мне коўдру замест рызы ды пашукайце чаго-нібудзь, чым-бы можна было замяніць кадзіла.

(Усе заварушыліся, бягуць шукаць патрэбных прыналежнасьцяй. Грэнка нясе коўдру. Гарнак знашоў на кухні стары старажоўскі лапаць замест кадзіла. Сьмех, шум, малады задор. Шумяка выбірае месца).

Шумяка. Калі я скончу літаньне, то вы сьпявайце:
„Што рабіць нам з Мікалаем?
Калі-ж яго пахаваем?
Ці сёлета ці на лета?
Калі збудзем ліха гэта?
Сьпявайце на мотыў „Житейское море“.
(Становіцца ў постаць папа, падымае вочы ўгору).
Як сьвет наш зьявіўся,
Людзьмі засяліўся,
Ад сівога веку
Ня знаў чалавека,
Магу пабажыцца,
У заклад пабіцца,
Каб ён так маліўся!
Адслужым малебен,
Ці-ж цар нам патрэбен?
Патрэбен ён, братцы,
Як прус у валадцы,
Як у мосьце дзірка,
Як з пілавін зацірка,
Як лата на шапцы.

Хор. (Прыпеў).

Шумяка. Вечная пагроза,
Цар—наша заноза.
Цар завёў ахранкі,
Думы—абяцанкі,
А жандары-служкі

Гнуць народ у дужкі,
Лупяць скуру з Янкі.
Хваліўся бясконца,
Як шоў на японца,
З мікады сьмяяўся,
Усім выстаўляўся
І кідаў мільёны
Ды слаў ён іконы,—
Бяз флёту астаўся.

Хор. (Прыпеў).

Шумяка. Вось ліха наперла,
Крамола ня ўмерла;
Ня жыць з залатоўкі,
Пашлі забастоўкі;
А мужык рахманы
Зрабіўся паганы,—
Па́ліць паноў лоўка.
Цар перапужаўся,
За Вітту схаваўся.
Падбег Рыман, Міны,
Царскія скаціны;
Нагайкі, расстрэлы,
І лес штыкоў цэлы,—
Цягнуць людзей на асіны!
Пануй, Мікалае:
Часіна такая,
Трымайся прастолу,
Будзе вас гола.
Акончан малебен,
Ты нам непатрэбен,
Другі і апошні Мікола!

Хор. (Прыпеў).

Шумяка (зачынае новы прыпеў, усе дружна падхватваюць).
„Сьвяты божа“ по речке плывет,
Алилуя перепархивает.
Ой, жгі, ой, жгі, говори!
Алилуя перепархивает!

(Усе пускаюцца ўпрысядкі. Сьмех, шум. Адчыняюцца дзьверы. Уваходзіць Насенка. Спыняецца на парозе, аглядае вясёлую кампанію. Трасе скруткам абаранкаў).

Насенка. Сей день, его-же сотвори таракан, возрадуемся и возвеселимся в онь!

Гарнак, Булыга. Ура, Насенка! Няхай жыве Насенка з абаранкамі! (Кідаюцца да яго і гушкаюць).

Грэнка. Шкода, брат, што ты спазьніўся, а мы тут такі малебен адслужылі, што аж небу горача было... Ну, хлопцы! будзем чай піць! (Усе заварушыліся, кінуліся па шклянкі, нясуць самавар, садзяцца за стол, п'юць чай, распытоўваючы Насенку, дзе ён дастаў абаранкаў).

Грэнка (калі шум крыху ўлёгся). А нам, хлопцы, трэба было-б сур'ёзна абмеркаваць нашу справу. Праўда, мы сабраліся гатавацца да навукі, але і гэтае работы ня трэба кідаць. Работа наладжваецца. Грунт для работы ёсьць добры. Сялянства прагавіта прыслухоўваецца, што робіцца ў дзяржаве, чакае зьмен і любіць гутаркі на палітычныя тэмы... Работу можна распачаць шырокую.

Шумяка. Гэта так. Але самую работу трэба павесьці не такім шляхам, як мы вялі дагэтуль: кожны на свой розум. У васнову работы трэба палажыць нешта іншае. Затым трэба вызначыць і самую гэтую работу. Мы перш за ўсё—работнікі ў школе. Дык як быць: ці павесьці работу праз школу, работу павольную, але пэўную, ці нам проста перанесьці яе ў народ?

Пясецкі. А якую ты работу будзеш весьці праз школу? Дзяцей ты будзешь агітаваць ці што?

Грэнка. Нам проста трэба склікаць зьезд, трэба самым арганізавацца і на зьезьдзе вырашыць гэтыя пытаньні.

Шумяка. Я з гэтым згодзен. Трэба перш за ўсё прыцягнуць настаўніцтва, згуртаваць яго. Тады мы будзем—сіла.

Булыга. Усё гэта добра, але ці многа вы знойдзеце такіх настаўнікаў? Нічога з гэтага ня выйдзе.

Пясецкі. Ну, як ня выйдзе? І настаўнікі знойдуцца. Вось я ведаю хлопцаў—Піліпчык, Баханок.

Насенка. Лукашык, Прут, Куль, Бязьмен.

Грэнка. Да нойдуцца хлопцы, аб гэтым няма чаго і гаварыць.

Гарнак. Я, браткі, у гурце на што хочаце пайду. Гатоў ня толькі ўраднiцкiя вушы грызьці—гатоў усім прыставом паадкусваць іх. А вось як зашыюся ў сваё Заямнае, дык мяне і няма: пачынаю містыкаю займацца.

Шумяка. Запомні ты маё слова, Падбрэхіч, што ты некалі ў манастыр пойдзеш і там душу богу аддасі.

Падбрэхіч-Гарнак. Не спрачаюся: і гэта магу зрабіць, бо людзі вельмі мала ведаюць самых сябе. Але давайце, хлопцы, падкурым царскі лад, каб аж яго чэрці ўзялі!.. Склікаць зьезд!

Галасы. Так, трэба склікаць.

Грэнка. Ну, давайце! Перш за ўсё: дзе склікаць? калі і якім парадкам склікаць?

Шумяка. Зьезд можна правесьці тут. Сяло наша досыць глухое, паліцыя далёка... Трэба выбраць бюро і даручыць яму апавясьціць настаўнікаў, людзей пэўных і надзейных.

Грэнка (аглядае таварышоў). Ну, што? Хіба так і зробім? Давайце выбіраць бюро! Каго ў бюро?

Булыга. Грэнка, Пясецкі і Шумяка. Трох і хваціць.

Шумяка. Лепш выберце Гарнака або Насенку ці Булыгу: вы тут разам жывяцё, вам спадручней.

Грэнка. Аб гэтым і спрачацца няма чаго. Няхай сабе я, Пясецкі і Гарнак.

Гарнак. Згодзен служыць грамадзе і жывот свой палажыць за другі свая!

Грэнка. Дык так і пастановім. А вы, хлопцы, нам дапамагайце. Трэба даць дараду, каго паклікаць, і вось аб настаўніцах—ці варта іх заклікаць: сярод іх мала ёсьць сьвядомых. Хіба можа з вас хто ведае.

Насенка. Можна знайсьці і добрых настаўніц. Ня ведаеш ты іх .. Го, брат, ёсьць слаўныя дзяўчаты!

Шумяка. Хоць мала, але ёсьць. Сярод іх ёсьць ня толькі з чырвоненькімі шчочкамі, але і з чырвоненькім душком.

Гарнак. „Ня ўводзьце ў храм крамолы ні жанчыны, ні дзяўчыны, бо пойдуць сваркі паміж вамі,“ так напісана ў мяне на кручку.

Грэнка. Не, хлопцы! Мы ствараем гістарычны момант, мы заснуём моцную організацыю настаўніцтва на Беларусі. Мы першыя паложым камень у васнову гэтага сонца, і наш саюз разрасьцецца ў моцную політычную сілу. Мы захістаем апоры самаўладзтва! (Настрой павышаецца).

Гарнак. Не захапляйся, Бас! Ня будзь тым мужыком, што зьбіраўся лавіць зайца, каб прадаць яго і купіць сьвіньню.

Грэнка. К чорту жарты! Няхай жыве настаўніцкая злучнасьць!

Усе. Няхай жыве! Няхай жыве! (Уваходзіць Довід. Спыняецца на парозе. Настаўнікі ўзварухнуліся).

Довід. І здрастуйце вам!

Насенка. Здароў, Довід, бацька ты наш родны! Каб ты ведаў, як рады мы цябе бачыць! Ну, проста як-бы сонца выплыла з-за хмары! Як жывеш? Як гадуешся? Ці вялікі вырас?

Довід (добрадушна). Хе-хе-хе! жыву памаленьку. Як маюцца гаспада настаўнікі?

Булыга. Злавіў ты нас, Довід, і ўцякаць нам няма куды, і цяпер мы—твае пакорлівыя слугі. (Уздыхае). Але грошай, брат Довід, у нас няма, дальбог няма.

Довід. Ну, то будуць! то будуць! Няма цяпер,—будуць у чацьвер.

Гарнак. А я, Довід, павінен табе падзякаваць: каб ня ты, то на сьвеце было-б адным афорызмам меней.

Довід. Ну, і што гэта такое афорызм?

Гарнак. А гэта разумна выказаная думка, якая жыла ў галаве філёзофа, а цяпер будзе вісець на кручку мудрасьці.

Довід. Ну, вы ведаеце навуку.

(Гарнак садзіцца пісаць. Довід дастае з-за пазухі доўгенькую кнігу і бляшанку ад цукерак, дзе зложаны расьпісачкі).

Довід. З гаспадзіна Грэнкі пяць рублёў трыццаць сем капеек; з гаспадзіна Гарнака два з палавінаю рублі; з господ Булыгі і Пясецкага па чатыры рублі і з гаспадзіна Насенкі тры рублі восемнаццаць капеек, а ўсяго—дзевятнаццаць рублёў пяць капеек.

Грэнка. Брыдка нам, брат Довід, прад табою: і доўг невялікі, і вядзецца даўно, але цяпер няма ні капейкі.

Довід. А можа дасьцё даверанасьць на пэнсію?

Булыга. Ня бойся, Довід: усё заплоцім. Пэвен будзь!

Довід. Уй, я не баюся! я не баюся! Я ведаю, што заплаціце.

Пясецкі. Праз месяц заплацім усе, як ёсьць.

Довід. Ну, праз месяц, то праз месяц... А можа вам трэба добрага тытуну? папярос? Уй, папяросы! Сам Лабоцкі іх купляе, пан Лабоцкі! (Дастае тытун і папяросы).

Булыга. Ну, нам на Лабоцкага напляваць, але хіба, брат, дай напавер.

Галасы. Напавер, Довідка!

Довід. Ну, напавер,—то напавер.

(Запісвае ў кнігу, устае, кланяецца, выходзіць).

Пясецкі. Няхай табе ваш бог здароўя дасьць. Ты адзін і трымаеш нас на сьвеце.

(Довід запыняецца, усьміхаецца, ківае галавою, выходзіць).

Гарнак (чытае з лістка). „Калі ў доме сабралася шэсьць чалавек, то няхай пяць гавораць, а шосты на варце стаіць“.

(ЗАСЛОНА).

## АКТ ДРУГІ.

Той самы пакойчык. За сталом сядзяць Грэнка, Гарнак, Пясецкі і Шумяка.

Шумяка. Многа вы чакаеце настаўнікаў на зьезд?

Гарнак. Заклікалі трыццаць шэсьць чалавек. А колькі іх прыедзе,—ня ведаю.

Пясецкі. Хоць-бы палавіна прыехала—і то было-б добра.

Грэнка. Зьбярэцца ня меней дваццаці. А гэта ўжо, брат, лічбіна. І дванаццаць чалавек досыць, каб залажыць аснову для саюзу. А там далучыцца іх многа.

Гарнак. А мне нейк трохі страшна, але разам з тым і прыемна. Люблю я хадзіць над бяздоньнем, каб зірнуць яму проста ў вочы. А ў нашым гэтым зьезьдзе ўсё-ж такі ёсьць вялікая рызыка.

Грэнка. Трэба рабіць так, каб гэтай рызыкі было меней. І добра мы зрабілі, што паставілі вартаўнікоў. А покі яны на варце, мы можам быць спакойны.

Гарнак. А скажэце, хлопцы, праўду: няўжо ў вас няма ніякага страху? Ня веру я. І якія з нас, кажучы праўду, рэволюцыянэры?

Шумяка. Каб быць рэволюцыянэрам, то трэба рабіць рэволюцыйную справу.

Грэнка. Ты, брат Сымон, як-бы на задворкі адыходзіш.

Гарнак. Не гарачыся, Бас. На задворкі я не адыйду. Але мяне цікавіць наша псыхолёгія: чаму мы робім іменна так, як зьбіраемся рабіць? І ці ёсьць гэта сапраўднае разьвязаньне задачы?

Грэнка. Глупства ты гаворыш! Калі над кожным пытаньнем мы будзем гэтак развважаць, то тады трэба было-б прызнаць, што лепш было-б чалавеку і на сьвеце ня жыць... Маўчы ты лепш.

Гарнак (сьмяецца). Мы яшчэ толькі зьбіраемся за волю ваяваць, а ты ўжо зачыняеш мне рот. Мяне цікавіць больш у даным выпадку, кажу, наша псыхолёгія.

Пясецкі. Якая псыхолёгія? Дайце разгарнуць філёзофу таямніцы яго душы.

Гарнак (жартліва). Не, дыктатары! Ня выкажу я вам мае думкі, бо грунт для яе цяпер неадпаведны. Я напішу яе ў форме афорызму, павешу на кручок, а вы потым прачытаеце. Той кручок ёсьць родны кут мае мудрасьці. А на сваім сьметніку і певень гаспадар.

(Уваходзяць Лукашык і Лясун).

Грэнка. Го-о! прыляцелі першыя ластавачкі.

Лясун. Здарова, малайцы!

Лукашык. Здарова, запарожцы! (Аглядае пакойчык). Дык вось яно, тое гняздо, адкуль вылятаюць моцныя, як львы!.. А скажэце праўду, запарожцы: ня сцапае тут нас паліцыя часам?

Грэнка. Не, сьмелы будзь: у нас вартаўнікі стаяць. Чуць што—дадуць нам знаць. Булыга і Насенка стаяць у нас на варце.

Гарнак. А калі і сцапае, то не цябе-ж аднаго. Трэба-ж каго-нібудзь сцапаць. На тое-ж яна і паліцыя. „Не бяз ума бо носіць меч“.

Лукашык. Так ці йначай, а ты меня запакоіў. Ты кажаш праўду: трэба-ж і ёй на сьвеце жыць і хлеб есьць.

Гарнак. Філёзоф філёзофа з паўслова зразумеў, што паміж філёзофамі бывае вельмі рэдка. (Убягае Насенка).

Насенка. Гэй, хлопцы, ура! з Сярэдняе гары спускаецца армада пэдагогіі. Ідуць і песьні зажарваюць. І, здаецца, Нічыпар іх вядзе. І дзьве настаўніцы з імі! (Сярод настаўнікаў рух).

Грэнка. Бачыце, хлопцы, справа наша йдзе... Не, браткі, трэба толькі разварушыцца, шчыра аддаўшыся рабоце, тады можна многа чаго зрабіць.

Гарнак. Трэба іх спаткаць дастойна, а Нічыпара ўшанаваць.

Грэнка (грозна). Кінь, Сымон, свае жарты. Нідзе ты бяз іх ня можаш абыйсьціся. Тут справа сур'ёзная і да яе трэба адносіцца сур'ёзна. Ня трэба камэдыянства!

Гарнак. Вялікае і малое, трагічнае і сьмяхотнае поруч ходзяць.

Грэнка. А мы іх тут разлучым.

(З двара даносіцца песьня):

Все, чем держались их троны,—
Дело рабочей руки;
Сами наб'ем мы патроны,
К ружьям привинтим штыки.

(У пакой уваходзяць настаўнікі, чалавек 10).

Нічыпар. Здарова, хлопцы. (Бярэ настаўніц). А гэта вось... настаўніцы па аднэй на тысячу. Знаёмцеся, хто незнаём. Агата Гарэльская: за яе гаворыць яе прозьвішча: яна гарыць агнём рэволюцыі... Баханок Надзея, але ня ўсім яна надзеі падае.

Гарэльская. Нашто так урачыста? Мы людзі ўсё свае. Здарова калегі! (Здароваюцца, знаёмяцца. Насенка падносіць настаўніцам крэслы. Грэнка пакашлівае баском, падае наперад грудзі, прымае больш кавалерскую постаць. Пакойчык напаўняецца настаўнікамі. Некаторы час стаіць шум, тупат, разьбіраюць месцы прысаджваюцца, некаторыя стаяць).

Грэнка. Сядайце, сябры, дзе пападзецца, у нас тут ня дужа многа мэблі. Але паціснуўшыся, месца знайсьці можна.

Насенка. Няхай жывуць настаўніцы! Толькі поплеч з жанчынамі і можна перавярнуць дагары нагамі царскі трон.

Прут. Жанчына—душа мужчыны; яна наша натхненьніца на вялікія справы.

Нічыпар. Няхай жыве рэволюцыя! Няхай жывуць рэволюцыянэры!

Шумяка. Разбурым крэпасьці і троны,
З астрогаў мы саб'ём замкі.
З порфіры царскай залачонай
Пашыем мы сабе парткі!

Галасы. Брава! Брава!

(Агульны шум. Грэнка, Шумяка, Пясецкі і некалькі прыежджых настаўнікаў аб чымся ціха размаўляюць).

Лукашык. Сябры! А можа мы ня будзем зводзіць час. Прыступім да справы, бо многія з нас ня могуць доўга заставацца—к поезду сьпяшаюцца.

Пясецкі. Таварышы! дазвольце слова! (Шум моўкне). У нас маецца ўжо 19 чалавек. Я думаю, што болей ужо ня будзе.

Галасы. Ня будзе болей!

Пясецкі. То можа мы і прыступім?

Галасы. Просім! Просім! А дзе будзе адбывацца зьезд?

Нічыпар. Як, дзе будзе адбывацца? Тут!

Лясун. А можа-б мы пашлі куды-небудзь у лес, у месца больш спакойнае і зацішнае?

Нічыпар. Ня быў-бы ты Лясун: цябе ўсё ў лес цягне. Якога чорта цягацца туды? Ты думаеш, на цябе ўжо ўся поліцыя глядзіць? Тут будзем—і баста.

Гарнак. Маладзец Нічыпар: не дарма-ж ты з японцам ваяваў—так і відаць ваяка!

Грэнка. Таварышы-калегі! меры забясьпекі намі прыняты. У нас варта пастаўлена. А наша сялянства—народ сьвядомы: добра ведае, што настаўнік—ня вораг яго, і ліха нам ніхто ня зробіць.

Гарнак (у паўголаса). Не пераскочыўшы, не кажы—гоп!

Грэнка. Ну, разумеецца, за кожнага паручыцца нельга. І вы, едучы сюды, я думаю, не хваліліся, куды і чаго едзеце.

Гарнак. Цямна вада ва облацэх.

Грэнка (да Насенкі). Таварыш Насенка, займі сваю варту.

Голас. Скарэй, хлопцы! Будзе вам антымонію разводзіць. Тут, дык тут.

Пясецкі. Тады дазвольце мне, як сэкратару нашага бюро па скліканьні на зьезд, абвясьціць наш першы організацыйны настаўніцкі зьезд адчыненым. Прашу абраць старшыню і сэкратара. З свайго боку я лічу патрэбным назваць кандыдатуру Грэнкі. Папершае, зьезд гэты склікан па яго пачыну; падругае. ён тут гаспадар і патрэцяе—„калач" ён цёрты: сам на зьезьдзе быў,—праўда, на дваранскім, але прадстаўніком ад сялянства—і на зьезьдзе выявіўся з лепшага боку: узбунтаваў усе воласьці Менскага павету процiў дваран.

Галасы. Грэнка! Грэнка! Старшыня—Грэнка, а сэкратар—Пясецкі.

Пясецкі. Хто за Грэнку, прашу падняць рукі. (Падымаюць усе).

Пясецкі (офіцыяльна да Грэнкі). Т. Грэнка! Прашу вясьці наш сход. (Грэнка займае месца. Яго сустракаюць воплескамі. Ён сур'ёзен, усхвалёван).

Грэнка. Шчыра вам дзякую, сябры, за гэты гонар, што вы мне аказалі, за гонар быць старшынёю першага ў гісторыі беларускага настаўніцтва зьезду. Перш чым прыступіць да работы, прашу, сябры, устаць і засьпяваць „Вихри враждебные". (Усе ўстаюць і сьпяваюць).

Грэнка. Нам трэба выбраць сэкратара вясьці пратакол зьезду. Прашу назваць кандыдатаў.

Нічыпар. Просім Пясецкага. Ён ужо быў сэкратаром бюро, сэкратарскую справу ведае, піша добра, гаворыць складна...

Галасы. Пясецкі! Пясецкі!

Грэнка. Стаўлю на галасаваньне.

Галасы. Нашто тое галасаваньне?

Грэнка. Сябры! захоўвайце парадак! Хто за Пясецкага, падымеце рукі. (Усе, як адзін, падымаюць рукі). Тав. Пясецкі, прашу сюды. (Пясецкі садзіцца за стол, бярэ паперу).

Грэнка. Сябры! На нашу долю выпала быць сьведкамі вялікіх соцыяльных зрухаў. Мы перажылі хвалю забастовак, зямельных бунтаў і мецяжоў у самой апоры самаўладзтва—сярод войска. Захісталася карона на царскай галаве, і быў момант, калі здавалася, што гэтая карона вось-вось спадзе з галавы. Але вышлася ня так. Стары, спарахнелы парадак знашоў яшчэ сілы абараніць сябе і заліць агонь рэволюцыі крывёю. Мы ведаем імёны царскіх гэнэралаў: Арлова, таго, што папсаваў усю справу царскіх стратэгаў пад Мукдэнам і прывёў да паражэньня арміі; Гэршэльмана, Думбадзе і другіх „ісьцінна-рускіх“ гасільнікаў сьвятла і новай праўды. Мы ведаем таксама, што і настаўніцтва ня было глухім у гэтым змаганьні. Мы ведаем, што многа іх пасаджана ў вастрогі і выслана ў Сібір. Але ці могуць гэтыя кары запалохаць нас? Ці могуць яны стрымаць бурлівыя крыніцы новага жыцьця? Няхай ня цешыць сябе стары лад тым, што дзевяты вал мінуў! Рэволюцыя прыдушана, але не задушана. (Воплескі). І мы, настаўнікі, цела ад цела і косьць ад косьці народу, павінны спытаць сябе: што-ж нам рабіць? да якога стану далучыцца нам? З кім нам ісьці: з народам, ці з тымі, хто йдзе проціў яго дамаганьняў? Сябры! Трэцяе дарогі нам няма. І нават калі мы скажам: у нас ёсьць свая справа ў школе, мы будзем несьці сьвятло ў цемру народу, а народ, асьветлены праз школу, сам вызначыць свой лёс, то мы ўпадобімся стравусам, што хаваюць головы ў пясок у часе небясьпекі, і, выбраўшы такі шлях, мы адыйдзем ад народу. Хістаньня тут ня можа быць: або з народам, або проціў народу. Мы павінны на нашым зьезьдзе падумаць аб гэтым і сказаць сваё слова. Тое настаўніцтва, што вырвана з нашых радоў, паказвае дарогу, па якой павінна йсьці наша работа. Гэта—дарога змаганьня, дарога рэволюцыі. (Воплескі). А каб гэтая работа была больш спорная, яна павінна вясьціся па пэўнаму пляну, а гэты плян у нас толькі будзе тады, калі мы будзем аб'яднаны ў настаўніцкім саюзе... Няхай жыве настаўніцкі саюз! (Воплескі).

Хто хоча выказацца па гэтаму пытаньню?

(Усе маўчаць. Лукашык чухае галаву, хоча штось сказаць, але не адважваецца).

Гарэльская. Дазвольце мне.

Грэнка. Будзьце ласкавы.

Гарэльская. Наш старшыня ў сваёй прамове вельмі ясна намеціў нам дарогу, і мне здаецца, што мы, ня трацячы на гэта многа слоў, павінны вынесьці пастанаўленьне, такое: зьезд прызнае патрэбным з'організаваць настаўніцкі саюз і прыняць актыўны ўдзел у політычнай рабоце. А затым, каб сама работа была больш продукцыйна, мы павінны зьвязацца з якою-небудзь політычнаю організацыяй, якая ўжо даўно вядзе такую работу і мае ў гэтым сэнсе і практыку і пэўныя сродкі і можа значна нам дапамагчы. Вось такая мая думка. (Воплескі).

Лукашык. Дазволь і мне слова.

Грэнка. Слова мае сябра Лукашык.

Лукашык. Так то яно так, але трохі і ня так. Усё гэта добра. Але калі мы ўвойдзем яшчэ ў зносіны з якою-небудзь організацыяй, аб якой нам тут кажуць, і гэта стане вядома „властем придержащим“,—а што яно стане вядома, аб гэтым ня можа быць і спрэчкі,—то ад нас не астанецца і пылу, і гэтым самым мы так пашкодзім справе, што потым і не паправіш. Далей. Я нязгодзен і з сябрам Грэнкам, які даводзіць, што калі мы павядзем культурную работу, то мы адыйдзем ад народу. Наадварот: такая работа толькі і патрэбна, і ў гэтай рабоце і можна быць карысным. Што-ж мы можам рабіць? Чытаць газэты...

Гарнак. „Гражданіна“ монархіста князя Мяшчэрскага. (Сьмех).

Прут. „Сьвет“ Камарова.

Голас. З Грыгмута што-колечы. (Сьмех).

Лукашык. Ёсьць газэты і лепшага гатунку.

Шумяка. Напрыклад, „Знамя“ Крушаванава.

Лукашык. Мне ўрэшце ўсё роўна, але праўду сказаць трэба. (Змаўкае і хаваецца).

Гарнак. Брат-філёзоф! Не давёў ты свае філёзофіі да канца. Напішы і павесь на мой кручок мудрасьці. (Сьмех).

Нічыпар (рашуча). Я хачу сказаць!

Грэнка. Слова належыць сябру Нічыпару.

Нічыпар. Аб чым тут доўга церабіць языкамі? Трэба нам саюз? Трэба! Дык давайце так і пастановім. А што гаворыць Лукашык, дык таго і слухаць ня варта. Раз ты йдзеш у саюз, то ўсё роўна шыбануць цябе, калі дазнаюцца аб гэтым. А што ты газэты хочаш чытаць, дык чытай, колькі ўлезе, ня чытай толькі тых, што тут называлі. І няма ўжо чаго тут хітрыць: пусьціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не азірайся. Вось як я мысьлю! (Шумныя воплескі).

Прут. Сябра старшыня, дайце слова.

Грэнка. Слова мае сябра Прут.

Прут. Сябры! Мы сабраліся не дзеля таго, каб разважаць, якія газэты чытаць, а якія ня чытаць. Мы раскіданы па вёсках, па глухіх кутках. Паміж намі няма ніякіх зносін, няма таварыскага аб'яднаньня. Ці-ж можам мы, раскіданыя па аднаму, уяўляць сабою якую-небудзь грамадзянскую сілу? Адзін у полі, кажуць, ня воін, але трэба зрабіць так, каб і адзін у полі стаўся воінам, воінам за пэўныя грамадзянскія ідэалы, бо так, сябры, кіснуць, як кісьлі мы дагэтуль, ня можна. Прысьпеў час, калі настаўнік павінен сказаць сваё грамадзянскае слова. Трэба расчыніць вочы народу і паказаць яму, каго ён носіць на сваім карку і што бярэ ён за гэта ў адплату. А калі мы можам зрабіць гэта? Толькі тады, калі мы, як правільна казалі тут, будзем аб'яднаны, калі кожны з нас за сваёю сьпінаю будзе чуць падтрыманьне сяброў, калі мы будзем, хлопцы, граць у вадну дудку. Усе за аднаго, і адзін за ўсіх! Нам тут казалі, і мы гэта самы ведаем, што нашага брата многа сядзіць у вастрогах. А што зра-

білі мы, каб падтрымаць сваіх калег? Чым дапамаглі мы ім? Нічым. А чаму? Таму, што мы—клёпкі тае бочкі, на якой няма абручоў. Такім абручом і можа быць наш саюз. Гэты саюз — патрэба, вымаганьне жыцьця. Дык давайце-ж, сябры, злучымся ў гэтым саюзе, вызначым свае задачы і прыступім да работы цеснымі радамі! (Воплескі).

Грэнка. Мне здаецца, сябры, што гэтае пытаньне ўжо досыць высьветлена.

Гарэльская. Прашу слова для прапазыцыі.

Грэнка. Будзьце ласкавы.

Гарэльская. Я прапаную прыняць такое пастанаўленьне: настаўніцкі зьезд прызнае патрэбным утварыць саюз настаўнікаў, паставіўшы сабе пэўныя заданьні—аб іх мы будзем потым гаварыць—і далучыцца да ўсерасійскага саюзу настаўнікаў.

Баханок. Я далучаюся да гэтай прапазыцыі.

Лясун. Тут трэба акрэсьліць больш пэўна тыя заданьні, аб якіх гаворыцца ў прапазыцыі.

Шумяка. Давайце мы прымем прапазыцыю ў аснове, а прэзыдыуму даручым зрабіць яе канчатковую рэдакцыю. А потым мы заслухаем яе і зробім тыя ці іншыя папраўкі.

Грэнка. Тут фактычна дзьве прапазыцыі: прапазыцыя і прапазыцыя да прапазыцыі.

Гарнак (у паўголаса). Наш галава вашаму галаве галавою голаву разьбіў.

Грэнка. Тады дазвольце паставіць на галасаваньне прапазыцыю Гарэльскай. Хто за гэтую прапазыцыю, падымеце рукі.

(Усе падымаюць рукі).

Грэнка. Прапазыцыя прынята. Цяпер хто за тое, каб даручыць прэзыдыуму, каб конкрэтна вызначыць задачы нашага саюзу?

(Падымаюць рукі).

Грэнка. Прынята. Цяпер, сябры, нам трэба мець нейкі кіраўнічы апарат нашага саюзу, як сталае бюро, якое-б ведала справамі нашага саюзу,—словам, прыдаць яму нейкі юрыдычны твар. Гэтае бюро трэба выбраць на доўгі тэрмін, самае меншае на адзін год у складзе старшыні, сэкратара, па аднаму намесьніку іх і скарбніка, а ўсяго пяць чалавек. Можа ў каго ёсьць другія проэкты?

Нічыпар. Мне здаецца, што досыць і трох чалавек,—тым болей, што саюз наш покі што невялікі, а з часам бюро можна будзе і павялічыць.

Галасы. Даволі будзе трох!

Грэнка. Ёсьць дзьве прапазыцыі: выбраць сталае бюро з пяцёх чалавек—мая прапазыцыя, і прапазыцыя сябра Нічыпара—з трох чалавек. Галасую сваю прапазыцыю. Хто за тое, каб бюро выбраць з 5 чалавек, падымеце рукі. (Лічыць). За маю прапазыцыю 6 чалавек. Хто за тры? Ну,

большасьць за тры. Значыць, бюро будзем выбіраць з трох чалавек. Прашу назваць кандыдатаў.

Галасы. Грэнка! Шумяка! Гарэльская!

Пясецкі. Нічыпар.

(Пясецкі запісвае).

Грэнка. Ужо ёсьць пяць кандыдатаў.

Галасы. Просім галасаваць!

Грэнка. Першая мая кандыдатура. Сябра Пясецкі, прагаласуй! (Зьбіраецца выйсьці).

Гарэльская. Я прашу маю кандыдатуру зьняць.

Галасы. Просім! Просім не адмаўляцца.

Гарэльская. Я буду прасіць зьезд уважыць маю просьбу і маю кандыдатуру зьняць. Я лічу, што, жывучы далёка, я ня буду магчы працаваць акуратна. А тут у вас ёсьць зьлітае ядро.

Грэнка. Нам было-б вельмі пажадана, каб вы былі ў складзе нашага бюро: гэта мела-б значэньне на далучэньне ў наш саюз настаўніц.

Гарнак. Ня так настаўніц, як настаўнікаў.

Грэнка. Як лічыць зьезд: ці можна ўважыць просьбу тав. Гарэльскай?

Прут. Я, сябры, лічу, што, наогул, у склад бюро павінны вайсьці тыя, хто бліжэй жывуць паміж сабою, каб яны лягчэй маглі зьбірацца. З гэтае прычыны просьбу Гарэльскай трэба ўважыць.

Грэнка. Хто за тое, каб зьняць кандыдатуру тав. Гарэльскай? (Галасаваньнем кандыдатура Гарэльскай зьнімаецца. Грэнка выходзіць. Гарнак яму ціха: „Праехала, брат Бас!")

Пясецкі. Хто за Грэнку, падымеце рукі.

(Падымаюць усе).

Пясецкі. Выбран аднагалосна. Паклічце сябру Грэнку. (Грэнка ўваходзіць, яго сустракаюць воплескамі).

Грэнка. Цяпер галасую Пясецкага.

(Пясецкі зьбіраецца выйсьці).

Нічыпар. Навошта гэтая цыганская цырымонія? Усё роўна выберам, вось я ўжо падымаю дзьве рукі.

Галасы. І мы!

Грэнка (махае рукою). Выбраны. Хто за Шумяку? (Усе падымаюць рукі). І так, у бюро выбраны: Грэнка, Пясецкі і Шумяка. (Воплескі).

Нічыпар. А ўжо ролі свае вы разьмяркуеце самі: хто скарбнік, хто старшыня і сэкратар. Затым, ці ня можна было-б зрабіць невялічкі перапыначак.

Грэнка. Паступіла прапазыцыя зрабіць перапынак. Таварышы! Нам засталося яшчэ абсудзіць членскія ўзносы. Нам грошы патрэбны будуць на розныя справы. Я думаю—мы скончым гэтае пытаньне, тады і зробім перапынак.

Галасы. Давайце цяпер аб членскіх узносах, каб скончыць зьезд.

Грэнка. Я думаю, сябры, што членскі ўзнос павінен быць ня менш 3-х рублёў у год.

Галасы. А калі грошы ўнасіць?

Грэнка. Першы ўзнос, я думаю, трэба зрабіць на працягу месяцу. Дык як, сябры, па тры рублі ня будзе многа?

Галасы. Заплацім! Унясём.

Грэнка. Другіх пытаньняў няма?

Галасы. Покі што няма?

Грэнка. Абвяшчаю перапынак на 5 мінут. Далёка не расходзьцеся, сябры. За гэты час прэзыдыум прыгатовіць пратакол зьезду, а потым у нас будзе сяброўская закуска.

(Настаўнікі ўстаюць, частка выходзіць, частка застаецца. Каля настаўніц зьбіраецца гурток. Чуецца сьмех, жарты. Настаўніцы выходзяць. Грэнка і Пясецкі застаюцца за сталом. Да іх падыходзіць Шумяка. У пакоі застаюцца Гарнак і адзін з прыежджых настаўнікаў).

Пясецкі. У мяне ўжо пратакол, можна сказать, гатовы. (Утрох чытаюць, радзяцца паціху, папраўляюць).

(Уваходзіць Нічыпар).

Нічыпар. Дзіва гэты Лукашык. Я думаў, ён хлопец нішто сабе, аж ён здорава дрэфіць.

Прыежджы. А што-ж ты думаў? Тут, брат, калі што, па галоўцы не пагладзяць.

Нічыпар. Дык нечага было і ехаць. А то хоча быць рэвалюцыянэрам і ў начальства на добрым ліку.

(Сходзяцца настаўнікі. Некаторы час шум).

Грэнка. Сябры, увага! Сэкратар прачытае пратакол.

Пясецкі (устае). Пратакол першага настаўніцкага зьезду 9 ліпеня 1906 г. На зьезьдзе было 19 чалавек. Выслухаўшы даклад аб сучасным палітычным стане ў дзяржаве і аб ролі настаўніцтва, якую яно павінна выпаўніць, зьезд пастанавіў:

1. Організаваць настаўніцкі саюз. Саюз ставіць сваёю бліжэйшаю задачаю аб'яднаньне ўсяго актыўнага настаўніцтва на Беларусі.

2. Каб работа саюзу йшла ў згодзе з работаю ўсерасійскага саюзу настаўнікаў, зьезд пастанавіў далучыцца да ўсерасійскага саюзу настаўнікаў.

3. Задачаю сваёй чыннасьці зьезд ставіць: змаганьне з царскаю ўладаю ў інтарэсах вызваленьня народу з-пад улады дваранства і капіталізму; вызваленьне школы ад яе старых традыцый і ўхілаў, нязгодных з патрэбамі часу і інтарэсамі народу.

4. Для кіраваньня справамі саюзу выбраць бюро ў складзе 3-х асоб тэрмінам на год. Бюро склікае зьезды настаўнікаў па меры патрэбы.

5. На расходы па справах саюзу рабіць членскія ўзносы ў разьмеры 3-х рублёў у год.

(Садзіцца. Воплескі).

Г р э н к а. Якія папраўкі хто хоча зрабіць?

Г а л а с ы. Прыймаецца.

(Уваходзіць Булыга).

Б у л ы г а. На „горызонце“ нідзе ніякага чорта ня відаць. Усё спакойна.

Г р э н к а. Сябры, прашу падпісаць пратакол.

Г а р н а к. Каму абрыдла жыць на сьвеце, ідзеце і падпісвайцеся.

П я с е ц к і. Мне, як сэкратару, трэба было-б расьпісацца апошнім, але я расьпішуся першым. А той, хто расьпішацца апошнім, будзе палічан за сэкратара.

(Падпісваецца. Настаўнікі зьбіліся каля стала).

Г а р н а к. Пусьцеце настаўніц расьпісацца, вахлакі! Ніякае ў вас пашаны да кабет! (Настаўніцы падпісваюцца і выходзяць. За імі йдзе Булыга).

Г р э н к а. Сябры! Праз поўгадзіны будзе вячэра. Будзьце ласкавы, прыходзьце вячэраць.

(Застаюцца Нічыпар, Пясецкі, Гарнак, Шумяка, Грэнка, Лясун і некалькі прыежджых настаўнікаў. Пратакол ляжыць на стале. Уваходзіць Насенка, расьпісваецца).

Г а р н а к (разглядае подпісы). Не расьпісаўся адзін Булыга.

Г р э н к а. Ну, чорт яе бяры з поліцыяй: сваю справу мы зрабілі. Абы толькі пратакол у рукі ім не папаў... Ну, хлопцы, трэба-ж нам да вячэры гатавацца.

(Дзьверы з шумам і парывіста адчыняюцца. Высокі, тонкі, худы, як Кашчэй, вураднік з крыкам: „Ні з месца!“ кідаецца на пратакол. Пясецкі пробуе схапіць яго таксама, але пратакол застаецца ў руках вураднікa. За ім сьледам урываецца з 10 поліцэйскіх стражнікаў і прыстаў. Крыкі: „Рукі ўверх!“ Грэнка кідаецца ў вакно. За вакном чуецца яго крык: „Ня сьмей біцца!“ Грэнку стражнікі з двара прыводзяць у пакой).

Г р э н к а (да прыстава). Якое маюць права вашы слугі прыкладамі біцца?

П р ы с т а ў. Во-первых, не мои слуги, а во-вторых, кто вам велел в окно кидаться? (Гарнак стаіць з паднятымі ўгору рукамі. Яго трасуць стражнікі. Другія стражнікі выкідаюць з шафы на стол кнігі і паперы. Вураднік зьнімае з кручка „мудрасьць“ і афорызмы Гарнака, чытае і перадае прыставу.

П р ы с т а ў (прабягае іх вачыма і чытае ў голас): „Вураднікія вушы будуць вашаю стравою“. Гм! Это пахнет максимализмом!.. К делу! (Перадае стражніку).

Г а р н а к. Ці ня можна, г. прыстаў, да гэтага прароцтва дабавіць яшчэ адно?

П р ы с т а ў. Что вы хотите добавить?

Г а р н а к. Самы канец: „І меч архангела загародзіць вам дзьверы раю“.

П р ы с т а ў. Это теперь и так ясно. (Чытае далей). „Калі ў доме сабралося шэсьць чалавек, то няхай пяць гавораць, а шосты на варце стаіць“. Совет разумный. (Зласьмешна). А вас тут 19 человек собралось, а вы ни одного караульного не поставили!.. Вот как оно бывает! (Чытае другі лісток): „Калі ўсякая ўлада ад бога і калі прыстава лічыць за ўладу,

то скажу вам, другі мае, усунуў бог уладу, як у пень яловы. (Прымае позу абурэньня).

Голас. Праўда!

Пры стаў. Н-да! Не особенно проникнуты здесь уваженьем к законной власти. (Чытае далей): „Ганчакамі па Русі прыставы лятаюць і скуюць: „кусі-кусі!“ і людзей страляюць“. Это—оскорбленье агентов правительственной власти, честных слуг отечества!.. Да, гнездышко, доложу вам! (Злосна). Не гоняя вас, бунтовщиков и крамольников, сам рискуешь быть загнаным в тюрьму!

Ураднік. Адседава, ваше высокоблагородие, исходит всяческая крамола и прокламации.

(Уваходзіць Булыга).

Булыга. Насілу давёў гэтым вось дулупетням, што я—крамольнік: не хацелі пускаць мяне сюды... А дзе наш пратакол? (Аглядаецца). Дзе, пытаюся, пратакол? Я-ж яшчэ не расьпісаўся! Г. прыстаў, пазвольце пратакол! (Бярэ пратакол ад стражніка, садзіцца і расьпісваецца, робячы вялікі росчарк). Наце вам пратакол і ведайце, які я слаўны чалавек. (Варочае стражніку пратакол. Нічыпар перахватвае пратакол і ў момант вока рве яго і кідае кускі ў розныя бакі. Стражнікі кідаюцца на Нічыпара, настаўнікі скубуць кускі пратаколу, некаторыя бяруць у рот кусочкі паперы).

Прыстаў. Собрать клочки протокола!

Ураднік. Ваше высокоблагородие! Они их скушали.

Прыстаў (у злосьці). Сволочи! Перестреляю, как собак!.. А вы, подлецы, как упустили такой важный документ. Негодяи!.. Арестовать крамольников!

(Паліцыя акружвае настаўнікаў).

Прыстаў. Ведите их!

Нічыпар. Хлопцы! паходную песьню.

(Падхватваюць разам: „Смело, товарищи, в ногу!“).

Прыстаў (замыкаючы процэсію). Заткнуть им глотки!

(Крыкі паліцэйскіх перамешваюцца з сьпевамі. Замаўкае песьня).

ЗАСЛОНА.

# ЗІМНЯЕ

**Цішка Гартны**

Ў шэрані мяккай дзярэўцы
Гойдаюць ціха галінкі,
Ў сонечным промені мкнуцца
Лётам павольным сьняжынкі...
Зайца сьляды, як сьцяжынкі
Сплётам заблытаным ўюцца...
Поле ў бялюткай сукенцы
Мёртвую ціш пераймае...
Сонца ўсё ніжай ступае—
Цені лахматыя доўжыць,
Промень чырвоную ложыць
Стужкамі доўгімі к сьнегу...
Вецер, схаваўшы адлегу,
Туліцца к кусту, у нетры...
Зырка-блішчастым галёнам
Рэзьвяцца кропкі-сьняжынкі,
Сонцу сьмяюцца, а ветру
Шлюць свае шэпты, уклоны.
Змоўклі крыкухі-вароны,
Заяц залез у гушчэчу,
Дрэўцы стаяць не трапечуць
Ўбраных сьвятошне галінак—
Шкода махнатых сьняжынак—
Гэтага стройнага ўбраньня...
Хто яго нанаў апране?
Тухне ўжо сонца сіяньне—
Сіняе неба празрысьцей,
Зорка за зоркай—ірдзісьцей,
Сьвечкамі ў вечным ліхтары—
Сьвецяць на лес, на абшары,
Сонцу шлючы удагонку
Срэбнага сьветла палойку...

16/I 24 г.

## МНЕ У СЭРЦА РАНІЛА СТРАЛА

**Цішка Гартны**

Мне ў сэрца раніла страла
І каплю яду заразіла.
Ці знойдзе сэрца мае сілу,
Якая-б рану зажыла?

Ці кроў гарачая ў хадзе,
Ў нястрымным вёрткім павароце
Атруты гэтай не зьвядзе
З нутра ў халодным лёгкім поце?

І будзе постаць, як раней,
Жывой бурліваю крыніцай
Паіць наніз маіх надзей
І сеяць думкі бліскавіцай?

Я чую-чую, хопе сіл—
Ў крыві гарачай многа жыцьця—
Разгорне дух мой цёмны пыл
Пры стрэчы к радаснаму выйсьцю.

Памкне нястрымнаю ракой,
Бурлівай хваляю пагоніць
Пазыў да сонца; й буйны бой
Зноў сэрца палкае зазвоніць...

25/VII 24 г.

## НА ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЕ

*(З запіснае кніжкі)*

**М. Гарэцкі**

Надоечы ў наш шпіталь прывезьлі хворага на грудзі салдата-беларуса. Яму, аднак, болей выпадае ляжаць у больніцы для хворых на розум, чым тут, у нас.

Наша палата празвала яго Рускім, бо ён, калі яго забірае хвароба, крычыць шмат разоў бесьперастанку:

— Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..

На выгляд гэта ёсьць даволі здаровы мужчына. Ён сярэдняга росту, добрага складу, шырокаплечы, і грудзі ў яго звычайныя. На твары ніякай хваравітасьці ня відаць,—пэўна-ж, калі ўважаць на тое, што чалавек прыехаў не з гасьцей, а з акопаў. І толькі ў вачох гаротніка ё штосьці такое, што выдае і цяжкую хваробу, і муку, і безнадзейнасьць. Вочы ў яго праваліліся, зрабіліся маленькімі. Галоўнае-ж, яны страшэнна змарнзваныя, нейкія зьмятыя, сьцёртыя. Трэба прыгледзіцца да іх, і тады відаць у іх боль.

Дзіўная гісторыя вышла з гэтым нешчасьлівым чалавекам.

З пэўнасьцю можна сказаць, што да вайны ці, лепей кажучы, да мобілізацыі—Рускі быў звычайным земляробам Магілеўскае губэрні: быў здаровы, але крышку павольны, здольны ад прыроды, але цёмны, грубы. Апранены пасалдацку, ён нічым не зьмяніўся, толькі прытарнаваўся да свайго новага жыцьця.

І на позыцыі, у часе даўгога і спакойнага стаяньня ў зацішку малаважнага фронту, болей за другіх сваіх таварышоў любіў Рускі туляцца па пустых, кінутых сялянскіх дварох і поркацца там, шукаючы пажытку.

Увечары, першым змрокам, ішоў ён цягацца па зрытых акопамі палёх, знаходзіў пустое бульбянішча—і капаўся там сваёю маленькаю пехацінскаю лапатачкаю дзеля якога дзесятку непадабраных гаспадаром і сьвіньнямі бульбін. Хаця яму за гэта дакаралі, ня кідаў свайго блуканьня ў цёмным полі, і тая памаўзьлівасьць згубіла яго.

Аднойчы Рускі, няўпрыцям для самога сябе, забрыў лішне далёка ў бок аўстрыяцкіх позыцый, за сваю перадавую старожу, і так забавіўся, шукаючы пажытку, што было ўжо зусім цёмна.

Троху боязны, асьцярожна плёўся ён назад, заткнуўшы лапатачку за паяс і маючы ў аднэй руцэ кацялок з накапанаю бульбаю, а ў другой—стрэльбу на ўсякую неспадзяванку.

Толькі ўзьняўся ён на нейкі невялічкі ўзгорачак, як зьнянацку ашаламеў: перад ім стаяў аўстрыяк... Абодва разам прыселі да зямлі: Рускі прысеў ад страху, а той, мусіць, таксама. Дзеелася адзін момант, а здалося—дужа доўга. Аўстрыяк тады першы кажа:

— Руськый! Я маю горілку...

— Я табе нічога не зраблю!—адказаў Рускі зусім лагодна й сьмела ўстаў і пашоў да яго бліжэй.

Аўстрыяка тож падняўся, разы два ступіў і падаў руку. Ворагі прывіталіся, як даўныя сябры. Потым ізноў селі, толькі ўжо побач—і стрэльбы палажылі, кожны пры сваім баку.

Хаця блізу што зусім не гаманілі, бо і языкі варочаліся туга, дый мала чаго яны разумелі ў словах той таго, але так вышла неўзабаве, што выпілі аўстрыякаву гарэлку, заелі яго-ж падсітным хлебцам і закурылі па кручонцы з махоркі Рускага. Гарэлкі было—адно толькі званьне: па чарцы, можа, ці па дзьве на брата. Пілі набгом—сьпярша аўстрыяк, а тады Рускі. Калі зрабілі ўсё, і трэба стала расхадзіцца, пачулі нейкую прыкрасьць. Ды аўстрыяк падбодрыўся і сказаў:

— Чы веды менэ до Русії, чы разойдэмся.

Рускі паскроб ля вуха, як-бы й запраўды разважаў, што тут рабіць. Паглядзеў, задраўшы галаву, і адказаў:

— Не, братка, ідзі сабе да сваіх.

Аўстрыяк быццам троху, нявідна, замаркоціўся. Але падаў руку. Рускі пацісную яе. Ї завярнуліся ў свае бакі.

Аўстрыяк адхадзіў шпарчэй. Рускі павалюхаў марудна і нясkладна як мядзьведзь. Яго прыціснула тое, што некалі было падумаць, як гэта што было. Ён хапаўся ўцяміць, ці ўсё добра ён рабіў. Ї раптам блiснула яму ў галаве, і ён, каб не спазьніцца, бо горш ня будзе, а каб пасьля не шкадаваць, што быў варонаю, ён, ужо ступіўшы разоў дзесяць, сказаў сам сабе: „Э, што-ж я за ваяка?“ Ї не сказаў, толькі блiснула яму так у галаве... Павярнуўся, зложыўся стрэльбаю і бяз дум пацісну пальцам:

— Тах!

Гук быў глухі і невялікі. Аўстрыяк спачатку зарыўся носам і бразнуў бляшанаю пляшкаю, з якой пілі гарэлку, аб сваю стрэльбу. Потым еравярнуўся тварам дагары—і вельмі жалосна і з працягам застагнаў:

— Га-а-ай!—так ён стагнаў, як дзіця.

Калі Рускі падбег і нахіліўся над яго чубатай шапачкаю і даўна падстрыганымі вусамі, дык у цямноце мала чаго ўбачыў, але пачуў, як ён яшчэ дадаў, гаворачы быццам аб некім трэцім:

— Шчо-ж цій москаль наробыв! Зостанэцьця моя жынка й діты...

Безнадзейная крыўда чулася ад яго; апошнія словы ледзь выдыхнуў, бо ўжо канаў. Раскінуў рукі й ногі. Рускаму здалося, што сьмяротная пялёнка, як у той курыцы, засьцілаець яго жаўтавыя бялкі.

— А колькі-ж іх маеш?—з апаўшым сэрцам спытаўся Рускі і міма-волі, выглядаючы сабе падмацаваньне, агледзіўся наўкол, у ночным змроку.

— Ді-ты...

Забіты яшчэ раз пацягнуўся, замкнуў паволі вочы і быў гатоў.

Рускі пераксьціўся над мёртвым і палез у яго кішэню ў штанох. Выцягнуў адтуль пакамечаны ад доўгага часу і замасьлены ліст у канвэрце. Болей нічога ня было, і ён расчаравана ці нездаволена падраў яго на колькі частак. Абдумаўшыся, падняў іх з зямлі, каб пасьля скурыць. І зноў кінуў. Аж рукі троху дрыжэлі, і было брыдка, што так блазнуе, быццам ня ворага забіў, а якога свайго. Сьмялей пашчупаў у яго за пазухаю, ува ўсіх кішанёх і ў шапцы, і зноў нічога добрага не знашоў. Аглядаючы яго боты, ці варта зьдзіраць, глянуў незнарок у цямноту ночы, спалохаўся... Схапіў кацялок з бульбаю ў адну руку, дзьве стрэльбы за раменьне—у другую і пусьціўся бегчы што ёсьць духу да сваіх.

У роце яму не далі веры, што забіў аўстрыяка, і думалі, што прост у полі дзе знашоў гэтую аўстрыяцкую стрэльбу. Але, праўда, была яна нядаўна ношаная, „цёплая“ і пачышчаная. Мажа і забіў?

Толькі чалавек з таго часу перамяніўся. Быў дужа маркотны, кінуў брадзіць па дварох і бульбоўніках, упадабаў ляжаць на зямлі з раскіненымі рукамі й нагамі... Урэшце зазябіў сабе грудзі, і яго адправілі з позыцый і прывезьлі ў наш шпіталь.

Тут ня ведаюць, як яго разумець. Доктар Гэрмэер, немец з Дзьвінску, якога мы ўсе ня любім, лічыць Рускага за прыкідаку, іначай не заве, як „сымулянтам“, і нават у вочы яму кажа:

— Ты, прахвост, прыкідаешся! Ты ўсё гэта выдумаў. Падлечым табе грудзі і ўсё роўна паедзеш ізноў на фронт.

Другі доктар, старшы, на прозьвішча Квяткоўскі, а родам, як кажуць, з-пад Баранавіч, старанна лечыць яму грудзі рознымі ўдыханьнямі і паветранымі ваннамі, а на розум хворага зважае мала і быццам ня чуе, калі таго пачынае забіраць хвароба:

— Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..

— Ну, ну, ну, гэта *ня столь* важна,—гаворыць старшы доктар Рускаму, пераходзячы да другіх хворых і раненых.

„Ня столь важна! Ня вельмі важна, гм!“—думаю сабе я.

Я на свае вушы чуў ад Рускага аб тым, як ён забіў беднага аўстрыяка, і сьпярша таксама не паверыў: ці мала хітрых бэстый бывае паміж салдат. Аднак, я на свае вочы пабачыў, у першую-ж яго ноч у нашым шпіталі, як ён горка плакаў і жаліўся, што яму ўсё нешта здаецца. Няшчасны, ня гледзячы на бром і падскурнае ўпырсківаньне, заліваўся сьлязьмі так шчыра і жалосна і так доўга, што ніяк ня можна было яму ня верыць.

## МЯНЕ СЁНЬНЯ ВЕЦЕР НЯ ЗЛУЕ...

**А. Гурло**

Мяне сёньня вецер ня злуе, ня журыць—
Ён іграе зычна мне паходны марш,
Бо я парадніўся з громамі і бурай:
Даўняга бясьсільля ўжо ў грудзёх няма.

Я акрэп у буры, загартован ў гарце,
Поўняцца адвагай сэрца і душа.
Мне павевы буры—ласкавыя жарты,
А мой сум назольны—немая ціша.

І вось, запаліўшы ліхтары-паходні,
Вышаў я ў прасторы шчасьце сустракаць.
Вецер дзьме паволі, вецер дзьме усходні,
І блішчаць мне з далі зоры маяка.

Я іду на бляскі пасьля цемры, дыму—
Яшчэ сьлед відзён іх, толькі—дзе-ні-дзе,
Але ўжо ў паходцы многа сілы, ўздыму,
А ў спатканьні з мэтай многа ёсьць надзей.

Мяне сёньня вецер ня злуе, ня журыць—
Ён іграе зычна мне паходны марш,
Бо я парадніўся з громамі і бурай:
Даўняга бясьсільля ўжо ў грудзёх няма!

## ПРЫВІТАНЬНЕ ТАБЕ...

**Язэп Пушча**

Прывітаньне табе, беларуская песьня,
ды ад постаці сьпелага жыта душы!
Твае шчокі румяняцца сонцам у сьнежні,
а мэлёдый калосься
цэдзяць віно у каўшы.
Табе, ой умыцца журбою ня раз давялося!
Бо хіба ня помнім, як вечар
шчацініўся бурым мядзьведзем,
а ты разьлівалася жалем па ўзрэччы...
Ну хто гэтулькі смутку мог зьведаць?..
Падружыўшыся з працай сялянскай,
ты блукала ў палёх сінявокіх.
І хоць вецер нядоляю царскаю ляскаў,—
ты ўсё-ж гнала вясновыя сокі.
А за гэта цябе абазвалі паны
ну ды песьняй мужычай.
У грудзёх хоць і смутак званіў,
але-ж ты каласіла паўстаньне у жыце.
Бо ня раз у дажынкі
твой мотыў у паход сабіраўся.
Ён ключамі расы каля постаці дзынкаў
і гукаў: ой ты, вечар, туманам ня лайся!
А цымбалы калі на ўрачыстай бяседзе
ды лявоніху тупалі ў прысядкі,—
то тагды не магла ты спакойна уседзіць,
а чупрыніла радасьці высадкі.
Ой ды так, ты, мая дарагая!
ты напевам сваім Беларусь весяліла,
і хоць восень жаўцела у гаі,
але-ж ты падваялася сілай.
І зараз ня плачаш ля вешніц,—
у сэрцы тваім схамянуўся разгул.
Ну то як-жа сягоньня завешся,—
посьле раніцы сонечны бур?

## ЗІМОВАЕ

**Язэп Пушча**

Пылкага сонца вугальлі
сівер на выгане студзіць.
Эх, вы, марозныя далі—
Сочна-вішнёвыя грудзі!
Упіцца я хочу
Соладам вашай красы.
Расплюшчыла раніца вочы,—
Сьнег пульхны жуюць палазы.

* * *

На расхрыстаны водшыб
З зарасьляў вецер уцёк.
Рвецца у пошыбе
Сонца,—
Шалясьціць сухавеем трысьцё...
О, сакаліныя песьні, свавольце!

* * *

Хіляцца ніцам каліны.
Ветразь сьмяецца ў журбе.
Сеецца пухавы іні.
Дарога санямі храпе.
Мятульгой асыпае бярозы.
Кудзеляцца грывы у кляч.
О, вецер мой, вецер цьвярозы,
мяцеліцай поле ўскудлач!

## НОВЫЯ ЛЮДЗІ

**Кузьма Чорны**

З густаты ночаў, над сьнегавой шырынёй поля, выплываюць кароткія дні.

Дні змрочна-белыя.

Ці-то гэта яны, ці то гэта ўпарта няўцёкшыя сьляды ночы хварбуюць далёкія йстужкі неба на даляглядзе, над тонкімі абрысамі чуць прыметнага лесу, у сінявата-цёмны колер. Ён лажыцца на сьнег.

А да размашыстай роўнасьці сьнегу, трухлявымі грыбамі прытуліліся старыя хаты, з уздыбленаю ветрам саломаю стрэх. Каля іх мокра і востра цмокаюць па ўхабістай дарозе конскія капыты, а конскія вочы—у сваім чыстым бяздоньні, сьвецяцца маўчліваю тугою ад зрэзаных сурамцам худых рэбраў. Каля платоў расплываюцца лапцяватыя крокі, і галасы мяшаюцца з шумам саломы па гумнах. І часам, калі-ні-калі, гумно выпусьціць у прастору ручаіну пявучых слоў:

— Ой р-р-а-а-н-на, рана-а!..
Я хворая ўстала...

Яшчэ нядаўна тут панавала гэтая песьня; цяпер яна забываецца. Прышлі сюды новыя песьні й выявілі яны ў сабе час свайго існаваньня; вось што:

Тады, калі ў поўнай сіле панавала старая песьня, тады, у старых гэтых хатах, людзкія радасьці й смуткі зьліваліся ў роўнасьць існаваньня. І ўсё думалася:

— Вось так яно й пройдзе—і сягоньня і заўтра. Часам і радасьць закалышыцца, часам смутак агорне, а ўсё-ж яно дробнае. Дзень за днём так і зыйдзе. А што наперадзе?

Несьвядома так людзьмі адчувалася.

А тут нешта сталася—няпрыметна, раптам пачало мяняцца. Устала наперадзе як-бы нешта моцна адчуваемае—вялікае. І нейкая як-бы упэўненасьць прышла: вось гэтыя кароткія дні імчаць жыцьцё да яго. Якое яно й што яно—хіба могуць раптам адчуць, даведацца ясна ціхія людзі ў старых хатах?! І толькі як-бы пачуцьцё вырысавалася:

— Усё, што было, што праходзіць—ненастаяшчае. Настаяшчае й сьветлае ідзе.

Тады й зьявіліся новыя песьні—новая дарога прывяла к ім...

Пацямнеўшаю ад зімовай сырасьці дарогаю раскочваюцца шырокія разваліны, узьлятаюць перад імі вароны. Скрыпяць калодзезі туманнаадлежнымі раніцамі. З поля пахне ядлаўцом, з вуліцы—дымам сырой асіны ў печах. Сырыя лапці шморгаюцца па ўтаптаному сьнегу, а за платамі рвуць шумна сабакі цела худога каня, два дні таму выцягненага чалавекам. У ночы прыходзілі сюды ваўкі, ды дзень прагнаў іх...

Так яно йдзе. І што-ж яно...

А тое яно, што новыя песьні пакрываюць усё гэта. Яно ўжо ненастаяшчае. Настаяшчае йдзе; шэрыя дні імчаць к яму; яно адчуваецца ўжо—вялікае.

І тое, што было і ёсьць—адыходзіць.

Вось адкуль новыя песьні шэрых людзей, прасьвятленьне твараў у змроку старых хат...

Эх, прасторы вы сьнежна-палявыя!..

Эх, людзі родныя; чулыя, ціхія!..

Як мне выявіць шырыню новай радасьці?!.

II.

Ігнась Альховік быў чалавек нэрвовы й слабы і загэтым, як доктар яму сказаў, што ў яго сухоты, худы твар яго раптам пазелянеў, нешта цяжкае падкацілася к горлу і пацямнела ў вачох. Яму моцна захацелася засьціснуцца, скурчыцца ў адзін цесны й маленькі клубок, каб менш заняць на зямлі месца, каб стаць няпрыметным для людзей; бо здалося яму, што гэта ён вельмі многа займае месца, усім і нейкаму хітра-сьмеламу і грозна-насьмешліваму вельмі замінае і як-бы загэтым ахвацілі яго караю—цяжкаю хваробаю. Ён задам адышоўся к дзьверам, выцягнуўся роўна і глядзеў, як доктар пісаў яму рэцэпт. Ня чуючы доктаравых слоў, ён выслухаў колькі і калі трэба ўжываць лякарства і, поўны вялікага смутку і непарадку ў пачуцьцях і думках, вышаў на вуліцу.

Горад ахваціў яго сьвежа-вострым паветрам, шумам, стукам і бельлю нядаўна выпаўшага сьнегу. Лягчэй стала дыхаць, і раптам прашоў у яго папярэдні настрой, аставіўшы толькі нейкае нэндзна-тупое пачуцьцё. Яно выявілася ў надзвычайна яснай думцы, што вось нешта вельмі важнае, самае галоўнае, што ахватвала сабою ўсё—раптам скончылася, а на яго месца зьявілася нешта таксама вялікае, але страшнае й цяжкое для таго, каб яго перажыць.

І раптам адчуў сябе Ігнась адрэзаным, асобным ад усяго, як-бы ў другім сьвеце, на другой зямлі; усё стала як-бы па-за яго істотаю: вось робіцца ўсё на сьвеце паміма яго, далёка ад яго і нікому і нічому няма дзела да яго. А яму хочацца ўвайсьці назад ува ўсё, ува ўсіх—у жыцьцё, ды ўжо ня можа, бо цяпер яго абняло нешта іншае, непераможнае.

І зноў раптоўна ахваціў Ігнася смутак, толькі быў ён ужо роўна тупы і бясконцна шырокі, як густата ночы пад грузным натоўпам хмар.

І сталі ногі ў яго цяжкімі й непаслушнымі.

Сорак год цяжкога жыцьця—галодныя дні і бяссонныя ночы адбіралі паволі ў Ігнася сілу, ды ня так прыметна гэта было, а тут два словы доктара вырвалі з коранем нешта галоўнае, што давала яшчэ лёгкасьць нагам...

— Шчасьце чалавека ў няведаньні—несьвядома прамігнула ў Ігнася думка і зноў адчуў ён чамусьці нябывалую яснасьць у галаве, ды затое большы цяжар ува ўсёй істоце...

З-за вялікіх вокан белага мураванага дому нечакана рвануўся на яго віхар зыкаў скрыпкі й фортэп'яна. Была ў нястрыманым імкненьні гэтых зыкаў бурная, нявыказаная вясёласьць, поўная здавальнёнасьць нечым вялікім, самым важным, што неабходна для радасьці існаваньня.

І надзвычайная яснасьць думкі ў Ігнася прапусьціла скрозь сябе струмень гэтых зыкаў—не зьявілася ніякага прадстаўленьня ў яго аб тым, што гэта музыка, а толькі адчуў ён, што гэта нешта тое настаяшчае, што якраз патрэбна для паўнаты радасьці, што выяўляе сабою самы цэнтр людзкіх імкненьняў і жаданьняў і што мае вялікую сілу ў сабе самым. І што вось тут, за гэтай тоўстай мураванай сьцяной, яно недзе і ў нечым драмала, а пасьля ўзьвіхрылася раптоўна, без барацьбы перамагла прастору і дзьвюма ручаінамі ўскінулася ўвыш. Адна ручаіна тонка-вострая, чырвона-рухавая, другая—густа-шараватая, шырокая сваёю перамогаю над усім. І абедзьве яны выкінулі на сьвет з-за тоўстых сьцен вялікае захапленьне нечым радасным, што раптоўна нарадзілася й рванулася ў шыр сьвету.

Ігнась, ня думаючы, пашоў далей і ад музыкі няпрыметна, зразу згінула ў ім усё. Асталося толькі лёгка-радаснае разуменьне пачуцьцём шырокай паласы віхрыстых зыкаў. Усё іншае, і тупы смутак разам, недзе зьнікла і лягчэй стала падымаць ногі. І ўсё больш забываў чалавек папярэдняе: тое, што нейкая сіла, ход здарэньняў адарвалі яго ад жыцьця на зямлі. Гэтае забыцьцё адтаго й зьявілася, што перад гэтым нешта адарвалася ўва ўсёй істоце Ігнася.

І тут-жа, ужо нормальна прыпомніў ён, што ў яго ў кішэні ляжыць заява, якую трэба некуды падаць, каб некая там установа памагла яму, бо багаты брат яго Макар гоніць яго хворага з хаты, называе яго дармаедам.

І вось раптам думка аб гэтай заяве зноў напомніла яму аб яго хваробе. І ўжо падумаў Ігнась:

— Заява, дамашнія спрэчкі і ўсё іншае, што ў звычайны час здаецца вельмі важным, цяпер, у параўнаньні з тым вялікім і надзвычайным, што ахваціла маё жыцьцё—ня мае ніякай вартасьці; усё гэта дробязь.

І зноў, ужо ў вялікім смутку выняў Ігнась з кішэні заяву, скамячыў і кінуў на зямлю. А сам пагробся к канцу гораду. Яму страшна хацелася

пагаварыць аб чым-небудзь з кожным чалавекам на вуліцы—гэта было-б падобна да звычайнасьці.

На самым выхадзе з гораду, на граніцы сьнежнай роўнасьці поля зноў дакаціліся да Ігнася зыкі музыкі. Толькі яны йшлі ўжо аднекуль здалёк акруглай хваляй і разам з сваёю вялікасьцю нясьлі ўяўленьне жаўцізны медзі музычных труб. І больш нічога ня было ў іх, апрача бесклапотнай вясёласьці. Яны ў адчуваньнях Ігнася пераблыталіся з сьвежым паветрам, з бялізной сьнегу, з нейкім чуць прыметным пахам прасторы і з прывычным з маленства, роўным і родным выглядам абшару поля. І іменна адтаго, што зыкі зьліліся з звычайнасьцю палявога выгляду, прынясьлі яны чалавеку супакаеньне.

І зьявілася ў Ігнася думка:

— Гэта-ж усё—звычайна вакол. І я, як заўсёды, звычайна іду па знаёмай дарозе. Так было са мною ўчора і раней, так будзе заўтра... Мала што доктар сказаў. Я яшчэ, патом, пажыву на сьвеце.

І ў нейкім новым захапленьні Ігнась аглядзеўся вакол сябе; прымеціў наперадзе рух на дарозе. Змахнуў ён палою жакеткі сьнег з прыдарожнага каменя і сеў, чакаючы. Так седзячы і нечаму ўсьміхаючыся, прапусьціў ён міма сябе роту вайсковых, прасачыў за калыханьнем іх востраверхіх шапак. Пасьля, як яны мінулі яго, зноў адчуў ён, як яго пранізала шырокая хваля музыкі. У нэрвовасьці падняўся ён з каменя і пашоў пустою ўжо дарогаю.

І раптоўна закалацілася у ім радасьць. Яна прашла ўсю істоту яго, ускрыліла думкі, зьняла цяжар з ног, заліла ўвесь сьвет яскравымі колерамі...

І была яна вялікая, як імкненьне жыць...

III.

Пад вечар, на змроку, Ігнась, утомлены дарогаю, скінуў з ног цяжкія, салдацкія чаравікі, палез на палаткі і сядзеў, зьвесіўшы босыя ногі. Былі ў яго думкі, пасьля прашоўшага ўзбуджэньня, няроўныя яшчэ: то выхвацяць яны аднекуль з мінулага абрывак таго, што пражыта ў маладыя годы—службу ў двары парабчуком, то далейшую працу па гарадох і мястэчках, пакуль не абнямог ад нявыгодаў жыцьця. І прышлося яму тады астацца ў хаце, дзе радзіўся і дзе гаспадарыў і пасьпеў ужо разбагацець брат—Макар. То выхвацяць думкі раптоўна прадстаўленьне аб асеньняй яснай раніцы ў лесе, дзе два гады працаваў ён у смалакурні. А адзін раз думкі вызвалі роднае: як ён, гады тры таму, езьдзіў у горад па сястру, ачуняўшую ад хваробы ў больніцы. Пустая летняя дарога пыліла пад калёсамі, а гаворкі былі радаснымі. І ад гэтай думкі несьвядома ўстрапянулася ў Ігнася радасьць і захацелася яму саскочыць з цёмных палатак, пабегчы па зямлі, сазваць усіх людзей і сказаць ім, моцна крыкнуць нешта такое, што-б заставіла ўсіх іх засьмяяцца нявінна дзі-

цячым сьмехам і адчуць да яго, Ігнася, радасную блізкасьць—блізкасьць людзей к чалавеку й чалавека к людзям.

І тады сказаў Ігнась брату Макару:

— А я ледзьве прышоў з гораду—вельмі-ж існі цяжка па няпрымятаму сьнегу.

Макар коса глянуў на Ігнася і адказаў:

— От лепш-бы памог што зрабіць, чым цягацца па няпрымятаму сьнегу.

І зьявілася ў Ігнася крыўда ў голасе:

— Я ў доктара быў.

— А мне ўсё роўна, у кого ты там быў,—сказаў Макар.

І стаў пасярод хаты, упёрся шырокімі кулакамі ў бокі і далей гаварыў:

— Хто ўсё багацтва тут прыдбаў? Я! Усё маё, а ты дармаед! Я гаспадар усяму. Кругом мяне ўсё маё. Пальцам крануць нічога нікому не дазволю. Чуеш? Паткніся хто на маё: я пакажу! А ты пры чым тут?

Была ў постаці Макара цьвёрдая самаўпэўненасьць, жаданьне патаптаць усіх сабе пад ногі, чым больш падграбці пад сябе рознай маёмасьці і крыкнуць усім:

— Вось гэта ўсё маё. Не хадзі сюды!

А ў постаці Ігнася зьявілася крыўдная злосьць. Ён для нечага хацеў зьлезьці з палатак, ды зноў пачуў Макароў голас:

— Нясі вон сваю хваробу з хаты; што ты мне яе перадаць хочаш?!.

І ў пяць раз больш прыліло ў Ігнася злосьці. Ён саскочыў з палатак і стаў перад Макаром. А той стаяў, сьціснуўшы кулакі і ядавіта ўхмыляўся Ігнасю ў вочы. Усё ў ім гаварыла:

— Я тут гаспадар. Усё тут маё...

І тут зразу Ігнась адышоўся ў бок. Ні-то ён спалохаўся Макара, ні-то адчуў, што ня варт гаварыць з ім. Сеў Ігнась на лаву і ў змроку хмурнага дня, нешта новае пачало вырысоўвацца ў яго пачуцьці. Яно выявілася ў думцы:

— Чаго-ж гэта я, як ішоў з гораду і нядаўна быў такі радасны? Макар тут гаспадар, а ў мяне нічога няма. Каб як гэта мне дзе-небудзь прыстроіцца—рабіць па сваёй сіле, каб ніхто не мяшаў мне жыць. І што рабіць, каб зноў так і надоўга стала весела?..

Наступны прыступ злосьці на Макара ў Ігнася быў ужо выключна за тое, што ён адабраў у яго радасьць—разагнаў радасны настрой. Хацеў сказаць аб гэтым Ігнась Макару, ды Макара ўжо ў хаце ня было. І Ігнась пашоў на двор.

## IV.

Цёмная сінь згусьцілася на даляглядзе і папаўзла паволі па бела-празрыстаму полю. Далёкія кусты ў тонкім прыцямку раскупчасьціліся, акруглілі свае абрысы і ў гордасьці сваёй ядлаўцовай—застылі перад адзінокай

вярбою, над мерзлымі межамі. Зыкі ясьней пераляталі цераз прастору, глыбіня ў небе стала бяздоннаю—як крыніца чыстай вады...

І вечар ціха прытуліўся да старых сьцен маўклівых хат...

У цішы гучна зычаць крокі па цёмнай дарозе. Яны размашыста лятаюць—выяўляюць людзей напрацаваных за дзень, а галасы людзкія здалёк востра пранізваюць паветра. Постаці—цёмныя ад змроку, плывуць па дарозе...

Раз у тыдзень прыходзяць яны вечарам у гэтае месца.

Што гэта за людзі?..

Калі прайсьці да апошніх хат вуліцы—больш запахне зімовай сырасьцю прасторы. Гляне на цябе з поля хітрая ноч, мацней абніме цябе, мізэрнага тут перад ёю з тваймі даўнейшымі плянамі. Дабяжыць здалёк брэх наіўна-ўпартых сабак і яшчэ з большай глыбіні прасторы—выцьцё схуднеўшых ваўкоў...

Вось сюды, к палявой граніцы з панурасьцю хат—сходзяцца людзі. Выкідаюць іх аднаго за адным сьнегавыя дарогі і сьцежкі. А сьцежкі й дарогі бягуць з усіх чатырох бакоў—адтуль, дзе ў кустох і на полі ўжо заміргалі агні ў вакенцах такіх самых струхнелых хат...

Нясуць гэтыя людзі ў постацях сваіх павольную задумёнасьць; можа яны й былі-б іншымі—ды так ужо склалася ўсё вакол іх. Сходзяцца яны па ўтоптанаму сьнегу, цераз вузкі двор у высокую хату. Чатыры яе вакны глядзяцца ў вечар роўным сьветам. У віднаце гэтай хаты яны яшчэ больш здаюцца ўтомленымі.

Вось уваходзіць чалавек з сівізнай у валасох. Ён нязграбна абівае сьнег з лапцёў у парозе, пасьляківае галавою ўсім. Пасьля ўваходзяць па некалькі чалавек, з маладымі тварамі, ды абросшымі ўжо кароткімі валасамі. Напаўняюць яны хату пахам мазаных дзёгцем ботаў, гарачымі размовамі. Прыходзяць вясёлыя хлопцы, адзін адчыняе пры сьцяне шафу й дастае кніжкі.

І цішыня пачынае напаўняць сьветлую хату...

## V.

Як Ігнась, з крыўдай на Макара, вышаў з хаты, зьявіўся ў яго раптоўна зноў нейкі смутак. Толькі думкі былі як-бы адпачыўшымі і загэтым зьявілася ў іх сьвядомасьць, што бедаваць яму асабліва нечага! Макар нічога яму ня зробіць, з хаты выгнаць ня мае права. І толькі бяда ў тым, што яму, хвораму, ад Макара няпрыемнасьці ў жыцьці. І тут-жа, ці то ад пражытага ці то ад папярэдняй утомленасьці, адчуў Ігнась зноў знаёмую боль у грудзях, а пасьля цяжэй стала дыхаць, як-бы хто здавіў яму горла.

— Такі праўду мусіць гаварыў доктар,—падумаў Ігнась.

І зьявілася ў ім несьвядомая злосьць на мінулае, як-бы на нейкую сілу, якая трымала ў жалезных лапах прашоўшую частку яго жыцьця, накі-

роўвала гэтае жыцьцё туды, дзе горш і гэтым заставіла яго страціць самае каштоўнае, што ёсьць у жывой істоты—здароўе.

— Куды-ж мне пайсьці цяпер,—думаў Ігнась далей, трохі супакоіўшыся,—народ зьбіраецца сягоньня ў хату-чытальню—ці не пайсьці туды?

І ён пашоў.

Разам з другімі пастаяў ён каля парога, пасьля падышоў у куток і сеў на пустое месца.

І кінуліся яму, нэрвоваму й чуламу, у вочы і ў душу твары людзей вакол яго.

Чым старэйшы быў твар, тым больш утомлен быў ён жыцьцём. Адзначаліся на ім сьляды перажытых пакут і нават ухмылкі былі, хоць шчырыя, ды панурыя. Шчыра вясёлымі здаваліся толькі твары зусім маладых.

Вось угледзіў Ігнась каля парога на лаве, з Выселкаў, што за полем і кустамі прытуліліся такімі-ж самымі старымі хатамі—Паўла. У яго малады яшчэ твар зморшчаны, і застыла на ім як-бы нейкая натуга. Знае Ігнась, што вечна галадуючы ён дастаў хваробу жывата. І цяпер, часта, аручы летам на полі, кідае плуг, лажыцца жыватом на мяжу й ляжыць так да вечара, затаіўшы ў сабе страшны боль.

І яшчэ ўгледзіў Ігнась пры дзьверах Макара Ён—сыта й горда стаяў, упёршыся кулакамі ў бокі, шырока расставіўшы ногі, і з хітрай нейкай ухмылкай здаецца—думаў:

— Чаго зьбіраюцца сюды гэтыя людзі?

І адтаго, што ўбачыў Ігнась Макара, зноў, яшчэ горш, стала рабіцца яму нек нудна, зьяўлялася аднакасьць да ўсяго. І гэта пачуцьцё ў яго яшчэ павялічвалася ад таго, што знаў ён, што гэтымі людзьмі, якія тут сабраліся, перажыта многа за жыцьцё розных пакут.

І прамігнула ў яго ў пачуцьцёх:

— Ад чаго й калі ў іх і ў мяне можа быць і бывае радасьць?

VI.

Ува ўсёй істоце чорнага чалавека за сталом зьявілася на момант нешта такое, што гранічыць з уздымам нявінна-дзіцячага захапленьня і з жалезнай цьвёрдасьцю ўпэўненага ў сябе чалавека. Ён раптам падняўся, працягнуў над сталом рукі і моцна сказаў:

— Адчыняю адкрытае пасяджэньне вясковай комуністычнай ячэйкі.

Была ўвага ў прыціхшых людзей.

Глыбіню яе адчуў Ігнась у людзях з сурова-маўклівымі, адзначанымі цяжарам жыцьця, тварамі і тут-жа—атрутлівую, сярдзіта-чужую ўхмылку на твары Макара й тых, хто стаяў каля яго пры дзьверах...

Голас быў спакойна вытрыманы ў чорнага чалавека:

— Сягоньня мы будзем гаварыць аб двух пытаньнях. Сягоньня мы пастараемся дагаварыцца як-бы ахваціць наш раён лячэбнаю дапамогаю, чаго ў нас ня было.

Па гэтым слова мае тав. Рыбачук.

І вось падняўся ён—Рыбачук—нязграбны ў сваёй шыракаплечай жыкетцы. Ён палажыў рукі на стол, і голас быў у яго спачатку як-бы нясьмелы. Здавалася, што гэта ён не гаворыць людзям, а сам з сабой разважае.

Чуў Ігнась яго першыя словы:

— Сягоньня мы павінны вырашыць, як абхваціць наш раён лячэбнай дапамогай, як утварыць доктарскі нагляд над вёскамі, і другое—як лепш і хутчэй зьнішчыць сярод нас цемнату й няпісьменнасьць...

Бачыў Ігнась застыўшыя, як-бы панурыя, зморшчаныя думкамі твары.

І зьявілася ў Ігнася ад слоў Рыбачука і выгляду твараў, у пачуцьцёх і думках:

— Спрадвеку, сярод шырокай адзіноты поля існуюць шэрыя людзі. Агарнуў іх цяжар іхняга існаваньня; у іх горасьць была на кожным кроку...

— Лета гарачай шырынёй размахнецца над зямлёй, сонца засьмяецца зямлі весела, а людзі панурыя ў полі. І так, як тонка гудзе над гарачымі загонамі авадзень, так цягнецца песьня тая:

„Ой рана-а, ра-на-а-а-а“...

— Белы размах зімы затуліў вось туманнай плёнкай іх старыя хаты, у хатах запыленыя сьцены прывыклі слухаць слабыя галасы хворых, а яны спрадвеку прывыкалі к пакорнаму слову:

— Ну што-ж!?.. Дзе тое іншае?

І вось узьняло старыя думкі тое новае, іншае. Па глухіх сьцежках, з сьнегавых прастор, з цішыні мерзлых кустоў, з цемнаты старых хат прышлі сюды гэтыя людзі бараніцца...

— І нешта вялікае атуліла іх. Яно прашло скрозь словы чалавека за сталом і ўскрыліла іх пачуцьці новай радасьцю. Яно ўжо напоўніла іх жыцьцё і засьвяціла магчымасьць вечнага захапленьня ім.

І падняўся Ігнась на ногі ў сваім кутку...

Голас у Рыбачука раптоўна стаў як-бы жалезным. У ім было поўна ўпэўненасьці ў сабе і ў гэтых людзях, што прыціхлі вакол яго:

— Хто, таварышы, хоча сказаць сваё слова?

Цяжкім ударам рвануліся галасы; і адзін пакрыў іх—высокі, тонканэрвовы:

— Я скажу сваё слова.

Гэта Ігнась Альховік, худы й сагнуты, ціснуўся скрозь густую граmаду к сталу, каб у нязграбна-нявытрыманых словах, выказаць новую сваю лёгкасьць, якая прыліла к яго грудзям.

І было шумна, бо не маглі ўжо маўчаць людзі з прабуджанымі думкамі, з цьвёрдаю, непарушымаю employ верaю ў надыходзячую лёгкасьць далейшага жыцьця...

Так пад старым назіркам ночы, сярод глушы дзіка-сьнегавых прастораў, сярод старых хат і мерзлых кустоў, бушавала ў адноўленых людзях новая радасьць. Нават хворых ускрыліла яна захапленьнем і верай.

І жыцьцё магло патануць у яе шырыні.

## VII

Са сходу Ігнась вышаў апошнім.

Як-бы хто вырваў з яго тое, што было сягоньня днём у горадзе, калі вышаў ён ад доктара.

— Ну, што, пагаварыў? Хэ-хэ!..

Перад Ігнасём стаяў Макар з пагарджальнай ухмылкай на твары. Яе Ігнась ня бачыў, ды адчуваў, глянуўшы на круглыя й шырокія, пры адблеску сьнегу, вочы Макара.

— А табе што?

— Нічога. Хэ-хэ! Аратар!..

І пашоў, закалыхаўшыся сваёю грузнаю постацьцю.

Ішоў Ігнась за ім моўчкі ў хату, глядзеў на яго з аднакасьцю.

І стала ў Ігнася ўкараняцца і сьпець нешта ўжо знаёмае ды новае па сваёй вялікасьці й шырыні. Яно не праходзіла цераз думкі, яно выяўлялася ў пачуцьцях:

— Вось хаджу я па зямлі, жыву,—і ад гэтага радасьць. Яна шырыцца, яна ўва ўсім, што ёсьць, яна напоўніць усё, уздыме чалавека ў яго захапленьнях. Яна ў сьвядомасьці, што я існую й адчуваю ўсё...

Старым скрыпам крыкнулі дзьверы ў ночнай цішы—гэта цёмныя сьцены струхнелай хаты прынялі ў сябе абуджанага, каравага чалавека, з яго новай, бурна-шырокай радасьцю...

Скрып дзьвярэй быў адзінокім сярод ночы, загэтым ён звонка пераляцеў цераз панура-віхрастыя стрэхі хат і востра патануў за мерзлымі кустамі, сярод сьнегавых прастораў.

---

Эх, прасторы вы, размашныя!

Шырыня ваша дзікая ажывае пад шырынёй новай радасьці...

Яшчэ конскія вочы на вашых дарогах сьвецяцца тугою ў сваім бяздоньні, ад зьбітых худых рэбраў, яшчэ вецер, густыя шумам дні, сьпявае надмагільную песьню над сухімі касьцямі ды зганяе ўжо вашу старую, панурую дзіч, аднакасьць і сон тупога існаваньня.

Вось і ўзмахнула новае захапленьне каравых людзей...

Па бязьмернасьці ажыўшых прастораў, па ваколіцах, між старых хат, ходзіць новая радасьць.

# ФЭРДЫНАНД ЛАСАЛЬ, ЯК РЭВОЛЮЦЫЯНЭР І ЧАЛАВЕК

*Да стагодзьдзя нараджэньня (11-га красавіка 1825 г.—11 красавіка 1925 г.) і шасьцёхдзесяцёхгодзьдзя сьмерці (31-га жніўня 1864 г.— 31 жніўня 1924 г.)*

**І. В. Герчыкаў**

Рэволюцыя 1848 г.! Яна ішла; яна стукалася ў дзьверы гісторыі. Яе стук быў яшчэ глухі, але такі ўпарты, цьвёрды і выразны, што яго можна было чуць тугім вухам, нават пад змрочнымі мурамі цёмнай нямецкай рэакцыі, якая надышла пасьля Венскага конгрэсу (1814-15 г.г.) і якая мала патрывожылася рэволюцыяй 1830 г. Для адных—спакуса, для другіх—вар'яцтва, яна для ўсіх была нямінучай. Яе адчувалі нават тупыя філістэры нямецкага лібэралізму. Яны перашэптваліся аб ёй блядымі, дрыжачымі губамі.

На працівалеглых канцавосьсях перадрэволюцыйнай эпохі ў Нямеччыне вызначаліся дзьве фігуры. Адна большая, да кожнага слова якой прыслухоўваліся з напружнай увагай, хоць гісторыя й не дала гэтым словам вялікага рэзонансу. Другая, пакуль што мала прыкметная, да слоў якой не хацелі прыслухоўвацца, ня лічылі патрэбным, але праз якую гісторыя падрыхтавала надзвычайны рэзонанс. З аднаго боку „божай міласьцю“ кароль Прусіі Фрыдрых Вільгэльм IV—рэволюцыянэр... назад. Трусьлівы, любіўшы марыць, акунуўшыся душой у сярэднявякоўе, царкоўнік і містык, ортодокс, час для якога ўцёк далёка наперад—рэакцыйнае адмаўленьне сучаснасьці. Гэтая, кідаючаяся ва ўсе бакі фігура (романтыка на троне цароў), як удала адзначыў Штраус, ня толькі жадала дэспотычна кіраваць Прусіяй, марачы аб якімсьці дзікім злучэньні фэўдалізму ў норавах і жыцьці з адзінадзяржаўем у політыцы, але й панаваць сваімі абскубенымі рэакцыйнымі думкамі над разумовым жыцьцём Нямеччыны. Гэта асоба называлася *Фрыдрыхам Вільгэльмам IV*; яна сядзела на троне прускіх каралёў,—і гэтага было даволі, каб яна ў рэчавістасьці апынулася ў асяродку разумовага і політычнага жыцьця, нямецкага „грамадзянства“ саракавых гадоў. Вакол Фрыдрыха ня толькі групавалася романтычная рэакцыя, але фактычна каля яго, хоць-бы і ў опозыцыі да яго, групаваліся філістэры ад лібэралізму, і гэта зьяўляецца найлепшай насьмешкай гісторыі над лібэралізмам, лепшай яго гістарычнай ацэнкай. Гісторыя ня здолела-б

утварыць больш недарэчнай фігуры, чым Фрыдрых, калі-б яна нават паставіла сабе адумысловай мэтай паказаць, ва што вырадзілася кіруючая рэакцыя, але лібэралы і адмаўлялі яе, і скакалі вакол яе, ня маючы ні сілы, ні магчымасьці ад яе адарвацца.

На другім баку вырастала другое адмаўленьне сучаснасьці, увасобленае імкненьне да будучага,—юнак, які падганяў хвалі гісторыі, які ў сучаснасьці бачыў стаячае балота, якому здавалася, што Нямеччына адстала ня менш як на паўвека ад Заходняй Эўропы. „Адмоўна адносячыся да нямецкіх парадкаў 1843 г., я па францускаму годалічэньню чуць знаходжуся ў 1789 г.“ [1]), піша ён у 1843 г. Ён успрымаў сучаснае Нямеччыны, як сярэднявякоўе і заклікаў яе, мінуючы сучаснасьць Эўропы, пераскочыць у зусім новае будучае, розам за ўсім чалавецтвам. Вясёла распраўляючы грудзі на спатканьне рэволюцыі, ён сказаў словы, якія павінны былі прагучэць громам чалавецтву, але якія мала хто зразумеў— „сэрца рэволюцыі – пролетарыят“.

Так пісаў у 1843 г. 25-гадовы Карл Маркс.

Маркс ня быў ні гэніем, ні прарокам, калі за пяць год да рэволюцыі 48 году казаў аб яе хуткім прыходзе. Ён гэніяльна адшукаў яе сэрца, пульс гістарычных падзей надыходзячага—клясавую барацьбу пролетарыяту. Ён гэніяльна зразумеў асноўную проблему, якую прызвана вырашаць рэволюцыя, азначыўшы яе, як проблему адносін „прамысловасьці, наогул сьвету багацтваў да палітычнага сьвету“. [2])

І яна—рэволюцыя—прышла. Яна ўсынавіла Маркса. Калі Маркса яна ўсынавіла, дык іншых яна нарадзіла. Сярод гэтых дзяцей рэволюцыі, зразумеўшых разам з Марксам, хоць і ня так дакладна і ня так поўна, дзе сэрца рэволюцыі, і зьяднаўшыся з ёю ў адно непадзельнае, зьяе імя Фэрдынанда Ласаля.

Была вялікая для буржуазіі рэволюцыя, у якой буржуазія была сэрцам—рэволюцыя 1789 г. Ласалю ня было 23 год, калі выбухнула вялікая для пролетарыяту рэволюцыя 48 году. За два гады да сваёй трагічнай сьмерці ў 1862 годзе, Ласаль васьпеў гэту рэволюцыю, якую ён зьвязаў з лёсам рабочае клясы, у прамове да нямецкіх рамесьнікаў: „24 лютага 1848 г. ўзышла зара новага гістарычнага пэрыоду... Калі рэволюцыя 1789 г. была рэволюцыяй tiers-e'tat (3-га саслоўя), дык рэволюцыя 1848 г. ёсьць рэволюцыя чацьвертага саслоўя (рабочае клясы. І. Г.) Ён быў сынам і слугой гэтага новага гістарычнага пэрыоду, ён служыў „чацьвертаму саслоўю“, затым што, казаў ён, „чацьвертаму саслоўю“ зусім непатрэбна якое-б там ня было імкненьне да новай прывілеяванасьці, і якраз затым яно аднолькава *з усім чалавечым родам*. Яго справай ёсьць сапраўды *справа ўсяго чалавецтва*, яго свабода ёсьць свабода

[1]) Карл Маркс—„Да крытыкі Гегелевай філёзофіі права“. Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс –„Літаратурная спадчына“, І том, выд. „Мір.“ Масква, 1907 г., стар. 342.

[2]) Там-жа, стар. 345, 253.

*самога чалавецтва*, яго панаваньне ёсьць панаваньне ўсіх". [1]) Гаворачы так, Ласаль паўтараў для сябе і пераконваў слухаўшых яго, што Карл Маркс казаў у 1843 г.: „У імя правоў усяго грамадзянства асобная кляса можа вымагаць сабе агульнага панаваньня". [2])

Гістарычна сын аднэй з Марксам матэрыі, Ласаль быў у значнай ступені яго вучнем, але ня здолеў так поўна, як Маркс, парваць з ідэолёгіяй свайго часу і праняцца поўнасьцю ідэолёгіяй пролетарыяту. Ён быў сябрам Маркса і знаходзіўся ў цеснай сувязі з ім значную частку свайго жыцьця, але, нарэшце, ідэолёгічныя расхаджэньні іх разлучылі, хоць гэтага яны й не жадалі. Характарам сваім, як мы ўбачым ніжэй, Ласаль у шмат чым розьніўся ад Маркса, але, разам з тым, ён як Маркс, усёй душой, сэрцам і пераконаньнямі да канца свайго жыцьця служыў рабочай клясе, бачачы ў гэтым службу ў імя дабрабыту і росквіту ўсяго чалавецтва.

Адзін з біографаў Ласаля, вядомы крытык Георг Брандэс, зазначаючы ўплыў „Комуністычнага Маніфэсту" Маркса-Энгэльса на Ласаля кажучы аб тым, што „стары соцыялізм 1848 г. хаваецца назадзе ўсёй дзейнасьці Ласаля", далей кажа, што Ласаль з-за *палітычнай разважнасьці* не абасноўвае на ім сваіх ідэй, і толькі вельмі позна, у самай апошняй сваёй прадмове, дый то вельмі неахвотна дапушчае, што яго можна назваць соцыялістым. [3]) У першай частцы выказанага Брандэсам, дзе ён гаворыць аб „палітычнай разважнасьці", прычыны былі значна глыбей, як мы ўгледзім далей. Ласаль у шмат чым ня мог прымаць „Комуністычны Маніфэст". Апошняя-ж частка зацьвярджэньня Брандэса не адпавядае рэчавістасьці. Зусім праўдзіва піша сам Ласаль да Карла Маркса ў лісьце ад 11 сакавіка 1860 г.: „Я рэволюцыянэр з 1840 г. (г. ё. з 15 год. І. Г.), а з 1843 (з 18 год. І. Г.) зусім сталы соцыялісты. У сваім коле і ўва ўсім, што мела да яго адносіны, я заўсёды быў вядомы, як самы заядлы прадстаўнік гэтых поглядаў, і ў маім жыцьці ніколі ня было пэрыоду раздарожжа". [4])

Таксама ў сваім лісьце да Франца Дункэра, адносна сваёй працы аб сыстэме набытых правоў, Ласаль піша ў 1860 г.: „Ich habe überhaupt, was bisher fehete, gänzlich fählte, und sich in seinem Mangel so schwer fühlbar machte, die feste burg eines w i s s e n s c h a f t l i c h e n R e c h t s s y s t e m f ü r R e v o l u t i o n und s o z i a l i s m u s" (падкрэсьлена Ласалем) in

[1]) Фэрдынанд Ласаль—„Програма працаўнікоў"; твор Ф. Ласаля, І том, выд. Н. Глаголева. С. Пецярбург, 2 выд., стар. 24-25.

[2]) Маркс—„Крытыка Гегеля і філёзофіі права", стар. 352, 350.

[3]) Георг Брандэс—„К літаратурнай характарыстыцы. Ф. Ласаль".

[4]) Ліст Ласаля да Карла Маркса і Ф. Энгэльса, стар. 244.

seinem besten unb erhabensten sinne zu erbauen gesucht, aus welcher Burg wir einzelnen Dörfer, ma chen können, und ich glaube diser Bau ist mir prächtig gelungen und aus reinem stahl gegossen. [1]) (Я наогул прабаваў утварыць тое, чаго да гэтага часу не хапала і недахоп чаго асабліва адчуваўся, г. з. я хацеў утварыць грунт для рэволюцыі і соцыялізму ў лепшым і ўзвышаным сэнсе з навуковай юрыдычнай сыстэмы і адтуль ужо рабіць далейшы наступ на асобныя ўчасткі. Я думаю, што гэты будынак мне як ня трэба лепей удаўся, і што ён адліты з чыстай сталі).

Ласаль загінуў 31 жніўня 1864 г. ў росквіце сваіх фізычных і духоўных сіл, не дажыўшы яшчэ 40-годняга ўзросту. Якраз на апошнія тры гады яго жыцьця—1862-4 г.—выпадае той пэрыод яго політычнай і літаратурнай дзейнасьці, які даў яму славу эўропэйскага політыка. На апошнія тры гады выпадае больш 20 друкаваных твораў,—вось зачым Ласаль параўнаўча позна паўстае перад эўропэйскім грамадзянствам, як соцыялісты. Фактычна Ласаль разьвіваўся вельмі хутка, і ў веку 23 год, да 48 году, па зацьвярджэньні лепшага знаўцы асобы Ласаля Ф. Мэрынга, „быў ужо закончаным, склаўшымся чалавекам“. Можна сьмела зацьвярджаць, што тыя рысы характару, нахілы і здольнасьці, якія адрозьніваюць Ласаля ў росквіце яго навуковай і політычнай дзейнасьці, канчаткова сформаваліся ўжо ў 1840 г., і ў даным выпадку Ласаль у лісьце да Маркса ніколькі не праўвялічвае гэтага.

19 сьнежня 1840 г., з прычыны ўходу з школы, у якой вучыўся Ласаль, аднаго з настаўнікаў, Ласаль кажа прамову, якая прыводзіць у захапленьне ўсю клясу і самога настаўніка. Прамова гэтая па стылю й характару—правобраз тых прамоў, да якіх пасьля прыслухоўвалася ўся Эўропа, як аб гэтым можна судзіць па стылю і характару запісаў Ласаля ў яго дзеньніку, які ён вёў ва ўзросьце 15-16 год, і яго працамі дарослага чалавека. Не здарма-ж адзін з біографаў Ласаля гаворыць, што калі ён чытаў палкія месцы з гэтага дзеньніка, перад ім зьявіўся вобраз Ласаля, „якім я яго бачыў у 1864 г. у Іэрлёне, калі ён стаяў на аратарскай трыбуне перад тысячамі рабочых з крыху паднятай правай рукой, з зьзяючымі вачыма. Ён той-жа і ў 1864 г., і ў 1840 гадох“. [2])

Заўсёды разумны і дасьціпны, ганаровы, самаўпэўнены, рашучы ў справе, цьвёрды воляй, добры, ветраны і пылкі, з надзвычайна вострым імпрэсыёністкім словам, з вялікай эмоцыянальнасьцю, пры высокай інтэлектуальнасьці, з душой, якая хварэе з-за мук чалавечых, прыхільнік роўнасьці, ненавісьнік гвалту і эксплёатацыі, войн з мечам у руках, з уроджаным каханьнем да сталі, агню і барацьбы, але ўмеючы цаніць і

[1]) F. Lassalle.—„Gesamte Reden und schriften“ b. IX, s. 8.

[2]) Ф. Ласаль—„Дзеньнік“. Пецярбург, 1901 г. Прадмова да I часткі, стар. 27.

паважаць ворага, калі ён гэтага заслугоўвае,—такім паўстае перад намі Ласаль ужо ў веку 16 год, такім ён і ўмірае.

І надворны яго воблік выяўляў моц. Высокі, стройны і дужы з ганаровым выглядам, з энэргічнымі блакітнымі вачыма, якія мімавольна прыкоўвалі да сябе увагу кожнага, хто з ім спатыкаўся, з рэзка акрэсьленымі рысамі твару і гордай галавой, ён вабіў ня столькі сваім харастмом, якое шмат хто яму прыпісваў у большай меры, але аб якім можна і спрачацца, ён вабіў сумленнасьцю і асаблівым выразам моцы і ўпэўненасьці, якімі павявала ад яго твару, ад усёй фігуры і якія адчуваліся ў кожным яго руху.

У дзяцінстве Ласаль прачытаў байку, якую ён незадоўга да сваёй сьмерці расказваў сваёй каханай Алене Дэнігэс. Байка расказвала аб тым, як стары дзядуля з сваім маленькім унукам вёў на рынак асла. На спатканьне ім ішоў чалавек і сказаў: „Якія вы дурныя людзі, у вас асёл, а вы абодва ідзіцё каля яго пяшком". Дзед раптам узяў і пасадзіў унука на асла. На спатканьне ішоў другі падарожны і закрычаў хлопчыку: „Сорамна, брат: у цябе маладыя ногі, а ты застаўляеш старога бегчы поплеч". Хлопчык саскочыў і на асла ўжо сеў дзед. Але і ён сядзеў нядоўга. На спатканьне ім ішоў мужык і сказаў: „Добры дзед! Па гэткай гарачыні застаўляе хлапчука бегчы за аслом." Дзед саджае хлопчыка з сабою і цешыцца, што яны нарэшце сядзяць абодвы. Але пад самым горадам сустракаецца ім пан з абліччам разумніка і ў залатых акулярах, які кажа: „Фу, якія тыраны! У такую гарачыню едуць удвох на беднай жывёле". Зьдзіўленыя суровым дакорам, дзед і ўнук зьлезьлі на зямлю, пагутарылі хвіліну і, каб паправіць справу, самі паднялі асла і пацягнулі яго разам на рынак". Калі Ласаль прачытаў гэтую байку, ён пакляўся ніколі не „насіць асла". З таго часу ўсё жыцьцё Ласаль падзяляе людзей на такіх, якія носяць і ня носяць асла; да ліку апошніх патрэбна аднесьці яго самога, і да іх ён адносіць Бісмарка. [1])

Паходзячы з купецкай сям'і, Ласаль зусім выпадкова папаў, ня ўжыўшыся ў гімназіі, у гандлёвую школу, але, праўчыўшыся там нядоўга, адчуў і з трывогай запісаў у свой дзеньнік 26 жніўня 1840 г., што ён ня можа быць „рыцарам аршына" і марыць аб мячы, якім ён выкараніць усё гвалтоўнае і несправядлівае ў сьвеце. А ў драме „Франц фон-Зікінгэн", напісанай у 1857 г., ён сьпявае дыфірамб мячу, абаронцу і правадыру ўсяго вялікага ў сьвеце.

„Der gott, der in die Wirklichkeit geboren,
Das Christentum, es ward durchs S c h w e r t verbreitet.

---

[1]) В. Ф. Корш—„Апошні роман у жыцьці Ласаля", стар. 23.

Durchs Schwert hat Deutschland iener Karl getauft,
Den wir noch heut'den grossen Staunend nennen.
Es ward durchs Schwert das Heidentum gestörzt,
Durchs Schwert befreit des Welterlörers Grab!
Durchs Schwert aus Rom Farguinius vertrieben,
Durchs Schwert von Hellas xerxes heimgepeitscht
Und Wissenschaft und Künste unsgeboren.
Durchs Schwert schlug David, Samson, Gedeon!
So vor-vi'e, seitdem ward durchs Schwert vollendet
Das Herrliche, das die geschichte sah,
Und alles grosse, was sich jemals wird volebringen,
Dem Schwert zuletzt verdankt es sein gelingen".

Поплеч з Бісмаркам, ён часта гаворыць аб жалезе, але больш за ўсё любіць сталь, з якой можна каваць меч.

Ласаль вельмі любіў пісаць лісты, асабліва тагды, калі яго перапаўнялі моцныя эмоцыі.[1])

У 16 год ён кахаў сястру свайго таварыша, Розалію, і пісаў ёй вельмі многа лістоў. У вадзін з астатніх дзён свайго жыцьця, калі ён перажываў страшную трагэдыю ў сваім жыцьці, у апошнім сваім романе з Аленай Дэнігэс,—ён піша ў адным з сваіх лістоў, зьвязаных з гэтымі перажываньнямі: „Ужо адна фізычная праца—я сьпісаў сягоньня да 60 старонак паштовай паперы".

З 16 год ён азначыў сваю будучую дзейнасьць, як політык і публіцысты. Калі бацька ў 1841 г. спытаўся яго, чым ён хоча займацца, ён адказаў: „Вялікім агульным вывучэньнем сьвету, якое цесна зьвязана з самымі сьвятымі інтарэсамі чалавецтва,—вывучэньнем гісторыі", што ён „хоча аддаць сябе публіцыстычнай дзейнасьці".—„Цяпер", кажа ён далей, „час барацьбы за сьвятое назначэньне чалавецтва: „да канца мінулага сталецьця сьвет знаходзіўся ў аковах цёмных забабонаў".[2])

Хто ня ведае ўражлівых расказаў аб эксплёатацыі сылескіх ткачоў і аб жахлівым жыцьці аграбленых фэўдаламі сылескіх сялян у першай палове 19-га стагодзьдзя. Гэта там, у сям'і прыгоннага селяніна, радзіўся другі вялікі соцыялісты, якому, як „векапомнаму сябру, сьмеламу, праўдзіваму, сумленнаму, перадавому барацьбіту пролетарыяту", К. Маркс прысьвяціў першы том свайго „Капіталу",—Вільгэльм Вольф. Гэта там, раней, чым у другіх частках Нямеччыны, пачаліся масавыя расстрэлы галодных сялян і рабочых, ссылкі на катаргу і біцьцё бізунамі.

---

[1]) Толькі нядаўна выдана ў Нямеччыне шэсьць томаў (78 лістоў) Ласаля, напісаных за кароткае жыцьцё, а гэта далёка ня ўсё, бо шмат лістоў загінула.

[2]) Ф. Ласаль—„Дзеньнік" стар. 261,2.

Гэта там другі вялікі барацьбіт рабочае клясы, сталяр Франц Вурм, у цішы начэй, няўмелай рукой, нязграбнай мовай пісаў нязграбныя статуты, укладваючы ў іх усю моц думкі рабочага, які імкнецца да вызваленьня, „дзяржаўна-здрадніцкія“ статуты, на аснове якіх быў заложаны саюз рабочых для барацьбы за сваё існаваньне. Гэта там у 1848 г. Вурм быў прыгаворany к адсячэньню галавы; кара была заменена турэмнай няволяй, а рэволюцыя 48 году вызваліла сталяра-рэволюцыянэра з турмы.

Зямляк Ласаля, Вільгэльм Вольф, быў яго таварышам па унівэрсытэту. Артыкулы Вольфа, апісваўшыя становішча сылескіх ткачоў і сялян, прыводзілі ў страх кожнага, хто толькі іх чытаў, і гэта быў праўдзівы адбітак жыцьця. Гэта ў вусны сылескіх ткачоў, якія, са слоў Гэйнэ, „сядзяць за варстатамі і скрыгочуць зубамі, а вочы іх сухія і ня зьзяюць сьлязьмі“, ён улажыў словы:

„Deutschland, wir weben dein Leichen tuch,
Wir weben hinein den dreifachen sluch“.
(„Нямеччына, саван мы табе сатчом,
У яго мы трайное праклядьце ўпляцём“).

У Сылезіі пытаньне аб становішчы рабочае клясы стала ў самай конкрэтнай і голай форме.

Моральнае абурэньне супроць соцыяльнай несправядлівасьці, якая рэзка кідалася ў вочы, пераходзіла ў шуканьні выхаду ў соцыяльных пэратварэньнях. Трэба было адшукаць шлях да гэтых соцыяльных ператварэньняў. Ласаль знашоў вагар для гэтых ператварэньняў у *дзяржаве ў ідэалістычным гегелеўскім разуменьні яе.*

Цераз 13 год пасьля сьмерці Гегеля ў 1844 г., Ласаль паступіў у Бэрлінскі унівэрсытэт, якраз затым, „што жадаў быць каля крыніцы гегелеўскай мудрасьці“. Паміж нямецкіх унівэрсытэтаў першай паловы 19-га веку, Бэрлінскі быў галоўнай рэзыдэнцыяй гегельянства. Гегель чытаў у ім лекцыі да сваёй сьмерці (1831 г.), і яшчэ доўга пасьля яго сьмерці яго філёзофія неабмяжована панавала ў Бэрлінскім унівэрсытэце. Гегельянства закончвала сабою цэлую эпоху гісторыі Нямеччыны, яно-ж распачынала яе новую гістарычную эпоху, хоць-бы ў тым сэнсе, што новая гістарычная эпоха ляжала на шляху перамогі гегельянства.

Ласаль, як мы ўжо ведаем, значную частку свайго жыцьця быў сябрам і, у значнай частцы, вучнем Маркса, але марксыстым ён ніколі ня быў. Марксызм—філёзофія будучага—ішоў цераз перамогу гегельянства. Ласаль гегельянства не перамог. Ён яго і не паглыбіў, ня гледзячы на ўсе свае жаданьні гэта зрабіць, затым што гісторыя йшла па шляху адмаўленьня гегельянства. Гегельянства Ласаля было галоўнай прычынай расхаджэньня паміж ім і Марксам, а пазьней—паміж марксыстымі і ласаль-

янцамі. Пасьля Ласаля разьвіцьцё пролетарскай клясавай барацьбы разьвязвала і разьвязала вельмі складанае пытаньне перамогі ласальянства, г. ё. поўнага адрыву пролетарскай ідэолёгіі ад ідэолёгіі буржуазнай.

Жыцьцё Ласаля поўна энэргіі, радасных момантаў, гучных трыумфаў, але поўна таксама пастаяннага трагізму. Самая галоўная прычына ўсяго трагічнага ў жыцьці Ласаля і нават яго трагічнай сьмерці хаваецца ў тым, што ён зьвязаў сябе з рухам рабочае клясы, не разьвязаўшыся з гегельянствам.

Гэтая супярэчнасьць рвала на часткі і ўнутраное і знадворнае жыцьцё Ласаля, утвараючы заварожаны круг. Гегельянства не магло быць тым компасам, які-б паказваў просты і праўдзівы шлях у грамадзянскім і палітычным жыцьці таму, хто жадаў і ня мог ісьці з рабочай клясай, а затым палітычны шлях Ласаля повен лукатак і супярэчнасьцяй. Ласаль орыентуецца то на саюз прогрэсыўнай буржуазіі з пролетарыятам, то на самастойны пролетарскі рух, то на саюз пролетарыяту з бісмарцкай дзяржаўнасьцю, ня бачачы тае чыстай і простай клясавай барацьбы, якую бачыў болей гэніяльны яго сябра Маркс.

* * *

„Cadaver esto“ (Ты ёсьць труп)—прыгавор, абвешчаны чалавеку сярэднявяковымі фэўдаламі праз вусны царквы, быў ня чым іншым, як засьведчаньнем фактычнага соцыяльнага і выцякаючага адсюль палітычнага становішча падлеглых фэўдалам гушч,—галоўным чынам, сялянскіх. Так праз некалькі вякоў пасьля гэтага расійскі гісторык Забелін, гаворачы аб прыгонных расійскіх сялянах, выказаўся: „Селянін у законе ёсьць мёртвы“. У ідэі сярэднявяковы прыгавор належыць да чалавека наогул, фактычна філёзофскія, рэлігійныя адзеньні павінны былі прыкрыць брыдкую галату тагочаснага гвалту, які ў гэтым рэлігійна-філёзофскім адзеньні ставіўся ў непарушны векапомны прынцып, не падлягаючы сумненьням і спрэчкам.

Рэформацыя (1517 г.) была протэстам супроць гэтага соцыяльнага і філёзофскага ўмеркаваньня рэчаў, ніжэйшых ступеняй фэўдальнай іерархіі—гарадзкіх станаў, якія вырываліся з фэўдальнага кола, сялянскіх гушч, якія протэставалі супроць сьмертнага прыгавору. Протэст пачаўся з сумненьня ў векапомнасьці гэтага становішча з усімі яго папярэднімі абаснаваньнямі і выцякаючымі з яго вывадамі. Гэтыя сумненьні ў рознастайнай актыўнасьці гістарычна выяўлялі сябе ў розных краінах і ў розных слаёх жыхарства. Актыўнасьць гэтая была проста пропорцыянальна тэй актыўнасьці, з якой выходзіла буржуазна-таварная вытворчасьць, разрываючы, руйнуючы фэўдальны лад. Гэтыя сумненьні ў кожны новы гістарычны момант былі тым настойлівей, чым вастрэй адчуваўся конфлікт паміж фэўдаламі і буржуазіяй.

У Нямеччыне гэтыя сумненьні ў значнай ступені супакоіліся і згубілі сваю актуальнасьць разам з тым, як конфлікт у асяродку фэўдальнае

грамады і паміж фэўдаламі і буржуазіяй закончыўся замірэньнем перад тварам буйных сялянскіх паўстаньняў. Замірэньне гэтае знашло сваё выяўленьне ў нямецкім рэлігійным протэстантызьме, у афіцыйным яго выглядзе—лютаранцтве, якое благаславіла пры сваім зацьвярджэньні меч фэўдала і пракляла паўстаўшых сялян.

У перадавых старонках буржуазнага росквіту гэтыя сумненьні расьлі і пашыраліся на працягу сталецьцяў, увесь час падтрымліваючы процэс зруйнаваньня фэўдалізму, аж да таго часу, калі буржуазія ўзялася за канчатковае яго зьнішчэньне. Сумненьні ў старым—пачатак усякага новага мысьленьня. Зацьвярджэньне соцыяльнага існаваньня вяло за сабою зацьвярджэньне і свайго духоўнага існаваньня, свайго сумненьня, права сумнявацца, г. ё. права думаць. Гэтае ўмацаваньне знашло сваё выяўленьне ў буржуазнай школе філёзофскага скэптыцызму. Але ўжо ў 17 стагодзьдзі ў перадавых прамысловых старонках соцыяльнае становішча буржуазіі было такое, што яна магла ад зацьвярджэньня сябе ў скэптыцызьме перайсьці да станоўчага самазацьвярджэньня. Француські філёзоф Дэкарт назваў гэтае зацьвярджэньне формулай „Codito ergo sum“ (я думаю,—значыць я існую). Дэкарт (1596—1650) перад тварам паволі і ўпарта, але няўхільна адходзячага ў вечнасьць фэўдалізму, засьведчываў факт таго, што буржуазія—ня труп, а мысьліць, quand même, ня гледзячы на ўсе перашкоды, якія гэтаму ставяць фэўдалы. Я існую—сказаў буржуа. У двохчленнай формуле Дэкарта другія члены куды важней першага. Sum заўсёды заставалася нязьменным. Замест першага, уяўлялася шмат вялічынь, пакуль была адшукана і падстаўлена сапраўдная велічыня. „Я эксплёатую—значыць я існую“. Гэта апошні выгляд буржуазнай формулы самазацьвярджэньня, формулы, якая праўдзіва выказвае і зьвязвае соцыяльную падставу з духоўным існаваньнем. У часы Дэкарта, перад тварам фэўдалаў, гэта формула павінна была-б мець умоўную формулу: „Пакольκі і я падчыняю сабе гушчы для эксплёатацыі, пастолькі і я існую“. У розных старонках большая або меншая умоўнасьць гэтай формулы залежыла ад фактычнага становішча буржуазіі ў адносінах до фэўдалаў, да поўнага згубленьня сваёй умоўнасьці з поўным зьвядзеньнем фэўдалізму да нічога.

Філёзофія буржуазнага скэптыцызму перараджаецца з канчатковым зацьвярджэньнем буржуазіі ў розныя позытыўныя вучэньні тым хутчэй і раней, чым раней выяўляецца гэтае зацьвярджэньне. У Францыі скэптыцызм Монтэня (1533—1592 г.) і Бэйля (1647—1706 г.), дагараючы, апошнімі бліскамі ў філёзофіі Вольтэра (1694—1775 г.). Поплеч з гэтым, канчатковую перавагу атрымоўваюць позытыўныя філёзофскія пабудовы ў дзейнасьці энцыклёпэдыстых. Гэтыя позытыўныя філёзофскія пабудовы зьяўляюцца тэорэтычным падмуркам самых рашучых гістарычных падзей, да якіх пераходзіць буржуазія ў барацьбе з фэўдаламі,—падзей, такіх рашучых і рэальных, як рэволюцыя 1789 г.

Лютаранцтва, якое было, з аднаго боку, выяўленьнем часова заціхшага конфлікту ў фэўдальнай грамадзе, з другога боку, было хітрым дагаворам рэлігіі Лютэра з імкнучыміся да заўладаньня царкоўнымі землямі і папушчэньня экономічнай моцы каталіцкай царквы князямі. У выніку гэтага хітрага дагавору рэлігія апынулася ўціснутай у рамкі партыкулярысцкай, княжацкай дзяржаўнасьці. Вынікі 30-годняй вайны зацьвердзілі гэтае становішча і адкінулі Нямеччыну на доўгія часы ў самую суровую фэўдальную рэакцыю, падтрыманую замацованым лютаранцтвам. Пэрыод буржуазнага рэлігійна-філёзофскага скэптыцызму ў Нямеччыне надышоў, параўнаўча, позна.

У дзіцячыя і юнацкія гады Гегеля (радзіўся ў 1770 г.) у Нямеччыне поўнаўласна пануюць: піэтызм, містыцызм, рэлігійны догматызм і схолястычная тэолёгія. Якімі-б ня былі гэтыя настроі самі па сабе, па сутнасьці яны зьяўляліся баязьлівым, пасыўным протэстам буржуазнае грамады супроць фэўдальнай сыстэмы і афіцыйнага лютаранцтва. Усе гэтыя настроі, ува ўсіх формах парываліся з афіцыйнай царквою. Піэтызм адходзіць ад царквы ў глыбіню сваіх сардэчных перажываньняў і імкненьняў. Містыцызм канчаткова адходзіць з-пад эгіды протэстанцка-фэўдальнай рэчавістасьці ў галіну рэлігійных мар і настрояў, у мацнейшых сваіх праявах, якія ўкраліся ў каталіцызм. Вывучэньне протэстанцкай догматыкі і схолястыкі зьявілася сродкам лепей выведаць ворага, каб тым самым праўдзівей і з большым посьпехам пабіць яго пасьля. Гэты разрыў паміж протэстанцка-фэўдальнай рэчавістасьцю і гістарычным кірункам разьвіцьця буржуазных элемэнтаў нямецкага грамадзянства, так званы разрыў паміж ідэалам і рэчавістасьцю, выклікае вельмі істотны і востра-адчуваемы крызіс у асабістым і грамадзкім становішчы. Выяўленьнем крызісу зьявіўся надзвычайна разьвіўшыся індывідуалізм, які даходзіў да поўнага адмаўленьня грамадзкіх адносін.

Гэтае крытычнае становішча выяўлялася ў лёсах асобных асоб. Сябра Гегеля, поэта Гэндэрлін, на гэтым грунце вар'яцее, Фрыдрых Шлегель пераходзіць у каталіцызм, Шэлінг упадае ў містыцызм. Парываючая практычную сувязь з сучасным, ня маючая яшчэ выразных практычных адчуваньняў будучага, буржуазная філёзофія адрываецца ў завоблачныя высі марачага ідэалізму. Жыцьцё ў вобласьці, абстрагіраваных ад рэальнага жыцьця ідэй і разуменьняў, расквітае, дзякуючы адсутнасьці ўсякіх рэальных грамадзкіх і дзяржаўных адчуваньняў. З уражлівай відавочнасьцю выяўляецца тое, што прыгнечаныя або проста невыканальныя ў дзяржаве сваіх інтарэсаў групы жыхарства ня маюць бацькаўшчыны і пачуцьця патрыотызму.

У 1806 г. адбываецца бойка пры Іене, якая з перамогай Наполеона I зьнішчае самастойнасьць Нямеччыны. У гэты час Гегель піша

свайму сябру Нітгамэру, што ён у захапленьні ад Наполеона—гэтай „сусьветнай душы“. „Гэта сапраўды дзіўнае пачуцьцё“, піша ён, „калі бачыце падобную асобу (Наполеона), якая, седзячы конна, з аднаго пункту ахоплівае сьвет і ім загадвае. Бязумоўна прусаком (разумей, прускім фэўдалам) нельга было прадсказаць нічога лепшага, але падобныя посьпехі магчымы толькі для гэтага надзвычайнага чалавека, з якога нельга ня дзівіцца... *Як я загадзя жадаў посьпеху францускай арміі, так усе цяпер жадаюць яго ёй*, і посьпех няўхільны пры казачнай перавазе яе правадыроў і салдат над ворагамі“. Праз некалькі месяцаў ён ізноў піша, што „ў гісторыі гэтага дню (Іенскай перамогі Прусіі) ён бачыў неабвяржымыя довады перамогі адукацыі над прастатой, духу над бяздушным разважаньнем і мудраваньнем“. Гегель у сваім адсутнічаньні патрыотызму,—болей, у сваёй перамозе не пакідае выключэньня. Такая дзівячая нас адсутнасьць патрыотызму выяўлялася нават у самых дробных выпадках штодзеннага жыцьця. Тыповы прыклад такіх настрояў мы бачылі ў жыцьці бацькі вядомага філёзофа Аўгуста Шопэнгаўэра—багатага буржуа Гэнрыка Флёрыса Шопэнгаўэра (памёр у 1805 г.). „Ураджэнец і грамадзянін вольнага ганзэйскага г. Данцыгу, ён вызначаўся вольналюбнымі ўхіламі і сымпатыямі да Францыі. У 1793 г. вольны горад Данцыг падпаў пад блёкаду з боку каралеўскіх прускіх войск, і мясцовыя патрыоты гораду загубілі ўсякую надзею на захаваньне свайго рэспубліканскага ладу; тагды ён за некалькі гадзін да ўваходу ў Данцыг прусакоў выехаў у вольны горад Гамбург“. Ён наогул ня церпіць Нямеччыны, у якой усё болей умацоўваецца абсолютызм, і падоўгу жыве заграніцай. „Бацькі Артура думалі пражыць даўжэй у Англіі дзеля таго, каб іх першак Артур, зьяўленьня якога на сьвет яны чакалі, радзіўся якраз у Англіі. Яны далі гэтаму першаку імя Артур, затым што яно ня носіць спэцыяльна нямецкага характару і вымаўляецца амаль зусім аднолькава на іншых мовах—францускай і ангельскай.[1]) Вышэй прыведзеныя выслоўі з лістоў Гегеля знаходзяцца ў згодзе з яго поглядамі, што Нямеччына наогул не дзяржава і што „нямецкае жыцьцё ня можа заставацца ў тым становішчы, у якім знаходзіцца цяпер, затым што ўсё існуючае загубіла ўжо ўсякую моц і ўсякую вартасьць, перавярнулася ў зьяву чыста адмоўную“.

Грохат вялікай францускай рэволюцыі дакаціўся і да Нямеччыны і быў з энтузіазмам спатканы нямецкімі індывідуалістымі. З пачатку рэволюцыя, з яе абстрактнымі лёзунгамі—братэрства, роўнасьць і воля, з яе ідэалістычнымі ўнедзяржаўнымі пабудовамі „праў чалавека і грамадзяніна“ адпавядала ідэалістычным і антыдзяржаўным пабудовам немцаў, якія знаходзіліся ў разладзе з рэчавістасьцю. Але гэтыя сымпатыі да „прыгожага далёку“ рэволюцыі ў большай сваёй частцы хутка адцьвілі.

[1]) Э. К. Ватсон—„А. Шопэнгаўэр“.

Адцьвілі не затым, што рэволюцыя хутка паказала свой трагічны твар, і не затым, што перамога нямецкіх цароў у рэволюцыйных войнах (1792—1814 г.) перамагала патрыотычныя пачуцьці, якія, як мы бачылі, былі ня вельмі вострыя, а затым, што рэволюцыйныя войны, разьбіваючы фэўдалаў, якіх так рэзка ахарактарызаваў Гегель, падрыхтоўвалі ў дзяржаўных сыстэмах у Нямеччыне месца для буржуазіі, якое яна сьпяшалася заняць. Антыдзяржаўны ідэалізм і перамогі адцьвілі, на іх месца прышла ідэалізацыя дзяржавы і патрыотызму. Гегель не спазьніўся зрабіцца выказчыкам гэтых новых настрояў у іх самай узвышанай, самай закончанай форме.

Нямецкая буржуазія ня была яшчэ так моцнай, каб зусім самастойна ўзяць на сябе вырашэньне проблемы ўлады. Політычна гэта выяўлялася ў імкненьні да замацаваньня ўлады монарха з адначасовым узмацненьнем сваёй вагі ў гэтай уладзе і свайго ўплыву на яе. Нямецкай буржуазіі зусім імпонаваў першы пэрыод францускай рэволюцыі, пэрыод дагавораў паміж буржуазіяй і каралеўскім абсолютызмам бурбонаў, і яе зусім адпіхнуў ад сябе якобінскі пэрыод з яго радыкальнымі рэспубліканскімі дамаганьнямі. Да якобінскіх выступленьняў нямецкая буржуазія паслухмяна вучылася ў буржуазіі францускай адмаўленьню дзяржаўнага поўнаўладзтва фэўдалаў і ўцяміла рэволюцыйныя тэорыі, якія спрыялі гэтай мэце: вучэньне аб натуральным праве і грамадзкім дагаворы. Гэтыя тэорыі былі грунтам для зьнішчэньня крытыкі, асьвечанай даўнасьцю і рэлігіяй фэўдалізму. Абедзьве тэорыі супроць дзяржавы ставілі індывідуума. Крытыка і адмаўленьне дзяржавы даходзілі чуць не да анархізму. Так, Вільгэльм Гумбольдт у 1792 г. у творы, характэрным ужо па самай назьве: „Спроба азначэньня межаў дзяржаўнай дзейнасьці“, зводзіў мэту і дзейнасьць дзяржавы ўсяго да падтрыманьня бясьпечнасьці супроць знадворных ворагаў і ўнутраных нязгод. Гэта была тая роля „начнога вартаўніка“, якая моцна зьневажала буржуазію і гегельянцаў з тае пары, калі буржуазія мела надзею стаць моцнай у дзяржаве. Тэорыі грамадзкага дагавору і натуральнага права ляглі ў аснову вучэньня аб дзяржаве Канта, які азначыў мэты дзяржавы з пункту погляду індывідуальнай справядлівасьці, а Фіхтэ, адпраўляючыся ад Канта, толькі ў пазьнейшы пэрыод, асабліва пад уплывам вызваленчых войн, унёс соцыяльныя элементы ў сваё вучэньне аб дзяржаве. Як толькі рэволюцыя была ўзята пад падазронасьць і рэволюцыйныя тэорыі зрабіліся лішнім сьмецьцем карабля буржуазнай дзяржаўнасьці, які ўзяў курс на зацьвярджэньне політычнага дагавору,—усе індывідуалістычныя анты-дзяржаўныя вучэньні сталі выкідацца за аблавак. Так, за аблавак паляцелі натуральнае права і грамадзкі дагавор. Трэба было зьнішчыць індывідуалізм, паставіць дзяржаву над асобаю; гэта робіць органічнае вучэньне аб дзяржаве, пры якім дзяржава прадстаўляецца як самастойна існуючы організм, „містычны індывід“, „макроантропос“,

чалавек буйных разьмераў, без дапамогі якога звычайны індывід, маленькі чалавек, як чалавек, ня можа існаваць. „Дзеля таго, каб стаць чалавекам і застацца такім-жа, чалавеку неабходна дзяржава. Сапраўдны грамадзянін жыве поўнасьцю ў дзяржаве“, вучыць романтык Новаліс.

Апофэозам зацьвярджэньня дзяржавы зьяўляюцца вучэньні Гегеля аб ім.

Дзяржава-самамэта стаіць над індывідуумам, як вышэйшае выяўленьне розуму, ажыцьцяўленьне свабоды і вышэйшай моральнасьці. Вышэйшым яго выразам зьяўляецца монархія, зьвязаная з рэлігіяй, не абмяжованая, а напоўненая прадстаўніцтвам станаў. У сваім канчатковым выглядзе— гэта копія тае дзяржавы, якая ўтварылася ў выніку дагавору паміж буржуазіяй і фэўдаламі.

Ува ўсёй ідэолёгічнай сыстэме Гегеля ідэолёгічная фікцыя дзяржавы займае адно з самых буйных месц. У політычнай дзяржаўнай дзейнасьці тое ці іншае разуменьне дзяржавы мае вялікую ролю і, у значнай ступені, азначае і абумоўлівае гэту дзейнасьць. Не здарма-ж і зусім праўдзіва, з свайго пункту погляду, буржуазная філёзофія гісторыі лічыць вучэньне аб дзяржаве галоўнейшай заслугай Гегеля. Разам з усёй яго, значны час дамініраваўшай над эўропэйскай думкай ідэолёгічнай філёзофіяй, вучэньне аб дзяржаве больш за ўсё грунтоўней умацоўвала буржуазію супроць нападаў на буржуазную організацыю грамадзянства наогул і дзяржавы—у прыватнасьці.

Фэўдалізм і тэолёгія—неразлучныя сябры сярэдніх вякоў. Буржуазія, наносячы пабоі фэўдалізму, бесчалавечна распраўлялася з тэолёгіяй у яе сярэднявяковых формах, але перакроіла яе ў новыя формы філёзофскага ідэалізму—компромісу паміж тэолёгіяй і філёзофіяй. Ідэалізм наогул, а гегелеўскі—асабліва, ставіць над і па-за гісторыяй свае абсолютныя пабудовы. Калі мы маем у ідэалізьме так званую „гістарычную школу“, дык не затым, што яна вывучае ўсё, як пераходныя зьявы гісторыі, а затым, што яна прыцягвае гісторыю дзеля пацьвярджэньня сваіх абсолютных палажэньняў. Такім чынам, дзяржава пераварачваецца, выказваючыся мовай К. Маркса, у „незалежны ад гісторыі факт“. А там, дзе няма гісторыі,— ёсьць рэлігія. Ідэолёгічнае вучэньне аб дзяржаве перашло ў вучэньне рэлігійнае, а рэлігія дзяржавы—у рэлігійнае служэньне дзяржаве. Навуковы соцыялізм, захінаючы сабе старонкі гісторыі—фэўдалізму і капіталізму, павінен быў канчаткова скончыць і з тэолёгіяй, і з ідэалістычнай філёзофіяй. Першыя крокі соцыялізму на шляху перамогі буржуазіі павінны былі, у галіне думкі, пачацца з перамогі ідэалізму наогул і з самага стройнага і моцнага ажыцьцяўленьня яго ў гегелеўскай філёзофіі ў асобку. *Весьці правільную лінію барацьбы з фэўдальным сьветам і буржуазіяй, знаходзячыся пад уплывам гегелевай ідэі аб дзяржаве, было немагчыма.*

* * *

Ласаль пісаў К. Марксу, што ён стаў соцыялістым з 1843 г., але ён тагды-ж ужо быў дзяржаўнікам у ідэалістычным сэнсе.

Дзевятнаццацёх гадоў Ласаль задумаў напісаць „Сыстэму філёзофіі духу“. Падмуркам гэтага філёзофскага будынку павінна была быць праца аб Геракліце.

Калі сама назва „Сыстэма філёзофіі духу“ гаворыць аб гегельянстве Ласаля, дык яшчэ болей для азначэньня ўхілу яго ў гегельянстве кажа выбар Геракліта, як об'екта для вывучэньня і як асновы для філёзофскай сыстэмы.

Геракліта „Гегель прызнаваў сваім папярэднікам“. Дзяржаўнасьць Ласаля тут магла расхінуцца ва ўсю. „Дзяржава—ёсьць вышэйшая праява об'ектыўнага духу, абсолютная самамэта, ажыцьцяўленьне свабоды ў адзінстве ўсіх, ажыцьцяўленьне боскасьці“. Тут Геракліт і Гегель супадаюць. Уся праца Ласаля—падцьвярджэньне Гегеля Гераклітам, васхваленьне гегельянства, зацьвярджэньне сябе ў пераконаньні аб вялікай місыі дзяржавы, якая павінна вырашыць усе пытаньні моралі, права, культуры і прогрэсу. Ён усё жыцьцё аддае гэтэму захапленьню дзяржавай і ў выданай за тры гады да сьмерці працы—„Сыстэма набытых праў“ кажа аб тым, што „болей дакладнае разуменьне *паняцьця „дзяржава“* ўтварае тую крыніцу, з якое бярэ і будзе браць пачатак увесь прогрэс бягучага стагодзьдзя. У даным выпадку Ласаль не памыляецца. Праўдзівае разуменьне таго, што такое дзяржава, павінна было з другой паловы 19-га веку мець вялікую ролю і мець яшчэ больш значную ролю ў прогрэсе 20-га веку, хоць, бязумоўна, і не зьяўляецца крыніцай, з якой прогрэс бярэ свой пачатак. На правялікую жальбу, сам Ласаль не ўладаў праўдзівым разуменьнем таго, што такое дзяржава, яе роля і значэньне ў гісторыі, стасунак паміж ёю і грамадзянствам. Для гегельянца, хоць і марачага аб якойсьці рэформе ўсяго вучэньня аб духу, праўдзівага разуменьня дзяржавы і не магло быць, пакуль што яно заставалася абсолютным па-загістарычным паняцьцем. За тры гады да сваёй сьмерці, адначасова з тым, як Ласаль пісаў Францу Дункеру пра тое, што яго праца „Сыстэма набытых праў“ павінна стаць „нязломнай крэпасьцю навукова-прававаой сыстэмы для рэволюцыі і соцыялізму“, ён піша захопленаму вучню Гегеля, тайнаму дарадчыку Іогану Шульцэ, адносна гэтай-жа працы: „Es handelt sich darum, die Fahne unseres unsterblichen Meisters Hegel schlag auf schlag, es handelt sich darum sie überall zum siege zu führen“. (Уся справа ў тым, каб падняць веды нашага бесьсьмяротнага настаўніка Гегеля і ўсюды весьці яго да перамогі).

Так натхнёным гегельянцам, з марай аб дзяржаве, якая павінна перастварыць усе соцыяльныя адносіны і зьнішчыць эксплёатацыю буржуазіяй пролетарыяту, Ласаль і ўмірае.

* * *

На працягу шасьцёх год паміж 1840—47 г. г. К. Маркс перамог і гегельянства і ідэалістычную пабудову дзяржаўнасьці.

Да 1840 году належыць доктарская дысэртацыя Маркса на тэму „Розьніца паміж натурфілёзофіяй Дэмокрыта і Эпікура". Няхай Маркс тут поўнасьцю ідэаліста-гегельянец, няхай ён высьмейвае лёгкадумнасьць натурфілёзофіі Дэмокрыта і адзначае маламожную прынцыповасьць Эпікура, але самы выбар тэмы, самае вывучэньне матар'ялістага Дэмокрыта і сэнсуалістага Эпікура, з філёзофіяй якога гегельянства ня ладзіла, і да якога адносіны самога Гегеля ня зусім прыхільныя, а затым і ўвесь характар працы, некаторыя выпады супроць ганаровай зразумеласьці прававерных вучняў Гегеля,—усё гаворыць аб будучым гэрэтыку ў гегельянстве, а затым і поўным зруйнаваньні ідэалістычнай філёзофіі. Гэта праца ня была напісана спэцыяльна для дысэртацыі. Захоплены філёзофіяй, Маркс задумваў намаляваць філёзофію стоікаў, эпікурэйцаў і скэптыкаў. Тут адчуваецца пачатак новага ў гісторыі філёзофіі скэптыцызму,—скэптыцызму пролетарскага. Пачатак новага адмаўленьня і новага зацьвярджэньня. Яно павінна пачацца з філёзофіяй пролетарскай самасьвядомасьці. Грэцкія філёзофскія школы самасьвядомасьці і скэптыцызму (эпікурэйцы, стоікі, скэптыкі) толькі правобразы, да якіх цягне Маркса. Ад індывідуалізму да дзяржаўнасьці—шлях, прароблены буржуазнай сьвядомасьцю. Ад скэптыцызму, індывідуалізму да колектывізму—шлях, прароблены пролетарскай сьвядомасьцю. З грандыёзнай інтэнсыўнасьцю, з маланкавай гэніяльнай шпаркасьцю Маркс прароблівае працу цэлага гістарычнага пэрыоду. Шэсьць год эволюцыі, і Маркс стаў самім сабой, стралой у пролетарскае будучае. 1847 г.—„Комуністычны Маніфэст"—вянок грандыёзных перажыткаў, поўны разрыў з усім старым, грандыёзны скачок у будучае.

У коле маладых гегельянцаў Маркс займае асаблівае месца. Вывучэньне французскае асьветы 18-га веку кідае для яго асобы сьвет на нямецкую філёзофію. Філёзофія Канта пераварочваецца для яго ў „нямецкую тэорыю французскай рэволюцыі". Крытыцызм дзеля крытыцызму ў яго пераварочваецца ў рэчавістую рэволюцыйную тэорыю. Ён адходзіць ад ідэалістычнай крытыкі разуменьняў, да крытыкі ўстаноў, усіх інстытутаў буржуазнае грамады, як да зьяў. Сьвет разуменьняў ён замяняе сьветам рэчавістасьці. З вялікай асьцярожнасьцю ён у Рэйнскай газэце ў 1842 г. падыходзіць да экономічных пытаньняў, адчуваючы іх надзвычайную вартасьць. 1843 г.—„Крытыка Гегелевай філёзофіі права". Уся ідэалістычная філёзофія абвяшчаецца ўсяго нязначнай перамогай над сярэднявякоўем, цяпер абвяшчаецца неабходнасьць эмансыпацыі ад гэтых нязначных перамог. Зробленая Фэйербахам, Штраусам, Бруно, Баўэрам крытыка рэлігіі—усяго прадпасылка для крытыкі ідэалістычнай філёзофіі. Сьмела скідаюцца ўсе ідэалістычныя абстракцыі: „Бліжэйшае заданьне

філёзофіі, якая знаходзіцца на службе гісторыі, з таго часу як разгаданы сьвяты вобраз чалавечага самаадчужэньня, знаходзіцца ў тым, каб разгадаць самаадчужэньне ў яго бязбожных вобразах". Вось падстава рачавістай гістарычнай школы: „філёзофія на службе гісторыі", а не наадварот, як у ідэалістычнай гістарычнай школе. Дзяржава, у прыватнасьці нямецкая, абвяшчаецца *„самым нявольным фактам гісторыі"*. У той-жа час у артыкуле „Да эўропэйскага пытаньня" дзяржава ставіцца ўне рэлігійнага і філёзофскага ідэалізму.

У 44-м годзе Маркс сходзіцца з Энгэльсам і між ім замацоўваецца пастаянная сувязь і сяброўства. Яны робяць адну з важнейшых спраў свайго жыцьця ў агульнай працы „Сьв. сям'і", зводзячы „рахункі з сваім філёзофскім сумленьнем", адначасова забіваючы скажаньне гегельянства і младагегельянства ў гуртку „вольных", у выглядзе нікчэмнай пустой крытыкі і пустых протэстаў á la романтыкі мінулага пэрыоду буржуазнай опозыцыі, супроць пануючага філістэрства. Тады-ж Энгэльс кінуў надзвычайную эпіграму: „Яна абярнулася ў старуху, гэта зьвяўшая і выветраная гегелеўская філёзофія, якая ўбірае і прыхарошвае сваё высахшае да брыдкой адцягненасьці цела і косіцца ўва ўсе бакі, шукаючы сабе жаніха па ўсёй Нямеччыне".

У „Сьвятой сям'і" яшчэ няма поўнага вызваленьня ад гегельянска-фэйербахаўскай ідэолёгіі, але ўжо ёсьць усе падставы для экономічна-соцыялістычных пабудоў. Гегелеўская-ж дыалектыка, як ня трэба лепей выкарыстоўваецца для вывучэньня і пабудоў. „Прыватная ўласнасьць у сваім нацыянальна-экономічным руху—чытаем мы тут—усё роўна ідзе ў нябыт сама па сабе, але ўсяго шляхам, незалежным ад яе, шляхам несьвядомага росквіту, абумоўленага прыродаю рэчаў, які адбываецца супроць яе волі,—усяго тым, што яна ўтварае пролетарыят, як такі". Лёгічная неабходнасьць Гегеля замяняецца патрэбаю гістарычнай, разам з тым тэорэтычная ідэалістычная неабходнасьць—рэальнай матар'яльнай патрэбай. У гэтым-жа творы мы чытаем: „Толькі палітычная забабоннасьць уяўляе яшчэ ў нашы дні, што неабходна, каб грамадзянскае жыцьцё *зьвязвалася дзяржавай; на самай-жа справе адбываецца адваротнае: грамадзянскае вобчаства зьяўляецца падпорай для дзяржавы"*. (Падкрэсьлена мною. І. Г.).

У 1845 г. ў працы „Нямецкая ідэолёгія", Маркс і Энгэльс канчаткова ліквідуюць гегельянскую спадчыну Фэйербаха.

У 1846 г. адбылося спатканьне Ласаля з Гэйнэ. У часе гэтага спатканьня Ласаль зьявіўся перад Гэйнэ апосталам філёзофіі, якая ўся зводзілася да гегельянства. Якраз у гэтым годзе, калі Ласаль расхвальваў перад Гэйнэ багацьце філёзофіі, Маркс пісаў сваю надзвычайную працу аб яе ўбогасьці.

І Ласаль, і Маркс пакладалі свае надзеі на пролетарыят, як на насільніка гістарычнага прогрэсу. Але для Ласаля пролетарыят быў прогрэсыўным, як „насільнік чыстай ідэі дзяржавы—моральнага адзінства індывідумаў, выхоўваючага чалавецтва для свабоды"; для Маркса,—як кляса, якая, руйнуючы нечалавечнасьць свайго становішча, руйнуе грамадзкую і політычную нечалавечнасьць наогул і *неабходна зьнішчае дзяржаву*. На апошняе мы маем паказаньне ў убогасьці філёзофіі, яшчэ болей аб гэтым будзе сказана ў „Комуністычным маніфэсьце" (1847 г.) і яшчэ болей у працах, якія абмяркоўваюць спробу Парыскай Комуны (71 г.). Але высьветленага ўжо для нас даволі, каб бачыць, якая непраходная прорва ляжыць паміж Ласалем і Марксам.

* * *

У 1848 г. Ласаль упяршыню выступае на арэну політычнай дзейнасьці. Гегельянства яшчэ не вымалёўваецца перад ім, як тая сьцяна, якая стане на яго шляху. Але адносіны яго да гегельянства з гэтага часу азначаюць увесь яго далейшы жыцьцёвы шлях і становішча яго ў гісторыі наогул і ў гісторыі соцыялізму і рабочага руху ў прыватнасьці. Гэта таксама азначае надворныя умовы яго існаваньня і факты яго асабістага жыцьця, аж да яго трагічнай сьмерці ў выніку дзікай дуэлі. Зазначаныя супярэчнасьці, у якіх трапеча Ласаль, застаўляюць яго кідацца ў розныя бакі і гэта складае рэзкую процілегласьць той стройнасьці і суцэльнасьці, якую ўяўляе сабою жыцьцё Маркса. У той час, як жыцьцём Маркса кіруе адна выпаглынаючая яго, гісторыяй апраўданая ідэолёгія, у жыцьці Ласаля выпадкі граюць надзвычайна вялікую ролю.

У 1846 г. Ласаль выпадкова спаткаўся з графіняй Софіяй Гацфэльд, і ў выніку гэтага выпадковага спатканьня ён загубіў восем год, надзвычайнай, да суровасьці ўпартай дзейнасьці ў ролі абаронцы ў процэсе графіні з мужам, *імкнучыся на справе ажыцьцёвіць ідэю права ў дзяржаве*. У 1866 г. адбываўся Жэнэўскі конгрэс 1-га інтэрнацыяналу, роднага дзіцяці Маркса. У лісьце да Кугэльмана Маркс пісаў да конгрэсу: „Хоць я пасьвячаю шмат часу падрыхтоўчай працы да Жэнэўскага конгрэсу, я не магу дый не хачу прысутнічаць на ім, бо значна доўгі перапын у маёй працы немагчымы: тое што я раблю сваёй працай, памойму *далёка важней для рабочае клясы* (падкрэсьлена мною. І. Г.), чым усё, што я могбы зрабіць на якім-бы там ні было конгрэсе". Пад сваёй працай Маркс разумеў „Капітал", закончаны некалькі месяцаў пазьней. Маркс у кожны даны момант рабіў тое, што больш за ўсё важней для рабочае клясы. Да чаго ён быў строгі ў гэтым выбары можна судзіць па тым, што ён мог не паехаць, выходзячы з гэтага мотыву, на надзвычайна важны конгрэс. Каб не гаварылі аб процэсе С. Гацфэльд і дзейнасьці Ласаля ў ім, з пункту погляду таго, што ўсяго было ў гэты час важней для рабочае клясы, восем год, патрачаных Ласалем на гэты процэс ня могуць

быць апраўданы. Маркс быў ня толькі з пролетарыятам, але ў кожны дзень свайго жыцьця жыў у ім. Ласаль, як і яго ідэолёгія, у большай меры быў над і па-заклясавы.

У сувязі з процэсам графіні Гацфэльд, выбух процэс аб шкатулцы. Ласаль—„соцыялісты з 43 году"—у сваёй абарончай прамове гаворыць: „я карыстаўся—гэта падцьвердзяць акты і паказаньні сьведак—ганаровай славай у колах маіх знаёмых. *Першыя вучоныя Нямеччыны* былі у найлепшых са мной адносінах; найболей услаўленыя людзі былі маімі сябрамі". Ганаровыя словы Ласаля Маркс палічыў-бы кепскай рэкомэндацыяй для сябе. Ён у гэты час першых вучоных Нямеччыны, пачэсных гегельянцаў, называў усякімі вельмі непахвальнымі назвамі, а яшчэ ў часы свайго прабываньня ў младагегельянстве заняў такую пэўную позыцыю ў адносінах да офіцыйнай дзяржаўнасьці і офіцыйнага гегельянства, што ня толькі ня прыходзілася гаварыць аб „добрым становішчы", але эмігрыраваць з Нямеччыны і быць высланым з Парыжу. Ува ўсё сваё жыцьцё Ласаль як-бы схіляецца да пролетарыяту з вышыні свайго бліскучага ў буржуазнай грамадзе становішча. Маркс, бяз усякага становішча ў буржуазнай грамадзе,—прасьледаваны пачэсны пролетары.

Факты асабістага жыцьця Маркса ня ўрываліся стыхіяй у яго грамадзянска-палітычнае жыцьцё, і розныя зьняважаючыя і абураючыя несправядлівасьці, без якіх ня можа прайсьці жыцьцё грамадзянскага дзеяча, не здаваліся яму надзвычайнымі грамадзянскімі ўстрасеньнямі, „разрываючымі сувязь часоў",—выказваючыся словамі Гамлета,—у той час, як іменна так да гэтых фактаў адносіўся Ласаль. У гэты час у сваіх прамовах і працах ён вельмі часта і вельмі многа гаворыць аб сабе, а Маркс, нават у лістох, вельмі рэдка дый то ўсяго пад натоўпам надзвычайных абставін гаворыць аб пытаньнях свайго асабістага жыцьця. Не здарма-ж, як гэта відаць з лістоў Ласаля да Маркса і да іншых асоб, як гэта зазначаюць біографы Ласаля, Ласаль глядзеў на Маркса зьнізу ўверх.

Ласаль многа праігрывае ў параўнаньні з волатам—Марксам, але, ня гледзячы на гэта, сам высіцца, як волат, ня толькі на гістарычным фоне рабочага руху, але, наогул, на фоне гісторыі 19-га веку.

Зараз-жа пасьля сьмерці Ласаля 4-га верасьня 1864 г., Маркс пісаў Энгэльсу: „Ты можаш сабе ўявіць, як зьдзівіла мяне вестка аб сьмерці Ласаля, які-б там ня быў Ласаль у вадносінах асабістых, літаратурных, навуковых,—*як палітык, ён, бязумоўна, быў адной з самых выдатных асоб Нямеччыны.* (Падкрэсьлена мною. І. Г.). Для нас ён у сучасны момант быў вельмі ненадзейным саюзьнікам, у будучым-жа быў-бы амаль напэўна нашым ворагам. Але ўсё роўна, вельмі цяжка бачыць, як у Нямеччыне гінуць усе колькі-небудзь здольныя людзі крайняй партыі. *Якая радасьць будзе паміж фабрыкантаў і паміж сабак прогрэсістых. Ласаль-жа быў адзіным чалавекам, якога яны баяліся*".

7 таго-ж самага месяца Маркс у лісьце да Энгэльса ізноў варочаецца да Ласаля і піша: „Няшчасьце з Ласалем ня выходзіць у мяне ўсе гэтыя тры дні з галавы. Ён усё-ж такі заўсёды заставаўся *адным з старой гвардыі і быў ворагам нашых ворагаў*. Ды пры гэтым гэта здарылася так нечакана, што проста трудна верыцца, што гэты шумлівы, узбударажваючы чалавек цяпер мёртвы і наогул павінен маўчаць“.

Праз чатыры гады пасьля сьмерці Ласаля Маркс у лісьце да Швэйцара піша: „Пасьля пятнаццацігадовага сну Ласаль ізноў абудзіў у Нямеччыне рабочы рух,—*і гэта застаецца яго бязьсьмертнай заслугай*“.

# ЭВОЛЮЦЫЯ БЕЛАРУСКАЕ КНІЖКІ

**З. Жылуновіч**

Выданьне беларускае кніжкі заходзіць далёка ў глыб гісторыі, сягаючы ажно да часоў Ф. Скарыны, у 16 стагодзьдзе. То той, то іншы з пачынальнікаў ці спачувальнікаў да беларускага культурнага адраджэньня, маючы мажлівасьць з боку матар'яльнага, выдавалі асобнаю кніжкаю тую ці іншую, сваю ці чужую беларускую працу. Але гэтыя выданьні, вельмі рэдкія і зусім выпадковыя, часта аматарскія, вядома, ня могуць лічыцца сур'ёзным пачынаньнем беларускае выдавецкае справы. Нават больш пазьнейшыя выданьні, як творы В. Дунін-Марцінкевіча—„Гапон", „Вечарніцы", „Купала" і інш. (друкав. ў 1854-55-56 і 57 гадох), брошуры К. Каліноўскага—„Перадсьмертны разгавор пустэльніка Пятра, каторы жыў у пушчы дзевяцьдзесят лет, а памёр, маючы сто сорак лет", „Крыўда і праўда"—выдадзеныя ў 60 гадох, брошуры Н. Драгоманава—„Пра багацтва ды беднасьць" і інш., выдадзеныя ў Жэнэве ў 1870 гадох і творы Ф. Багушэвіча—„Дудка беларуская" і „Смык Беларускі", якія друкаваліся ў Кракаве ў 1891 годзе,—маюць за сабою выпадковы характар. Пераважная большасьць твораў беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў, дзякуючы слабасьці беларускае культуры, або друкаваліся ў польскіх часопісах, або ў рускіх (часамі на польскай ці расійскай мовах). І гэта трэба лічыць за шчасьлівае выйсьце, бо вялікая значнасьць твораў іх засталася ў рукапісах і часткаю зусім загубілася. Тыя-ж, каму шчасьціла выдаць сваю працу асобнаю кніжкаю, выдавалі іх у ліку не вялікім. Само сабою, што гэтыя кніжкі выдаваліся бяз усякае увагі на тэхніку, якая на той час была наогул ня высокаю. Ні польскія друкарні, ні, тым болей, расійскія ня былі прыстасаваны да беларускага друку. Ды і брошурны род выданьняў не вымагаў тае увагі, якая патрэбна дзеля тоўстае, масьцітае кніжкі. Наогул да 1900 гадоў трапунковасьць абыймае рэдкія беларускія кніжкі з усіх бакоў, пачынаючы ад факту выданьня і канчаючы кожнаю дробкаю ў яго тэхніцы.

З 1902 году ў гісторыі беларускага выдавецтва адмячаецца рэзкі паварот. У гэтым годзе ў Пецярбурзе засноўваецца „Круг беларускай народнай прасьветы і культуры беларускай" са студэнтаў-беларусаў. Гэта організацыя, упяршыню, займаецца друкаваньнем беларускіх кніжак за-

граніцаю і ў Расіі (у Расіі беларускія кнігі сыходзілі ў цэнзуры за баўгарскія). „Круг беларускае народнае прасьветы і культуры беларускай“ першым выдаў збор вершаў Янкі Лучыны—„Вязанка“. Брошурка гэта на 22 старонкі ў 16° друкаванага аркуша фактычна служыць першаю цаглінаю ў будынак наладжанага беларускага выдавецкага дзела. „Вязанка“, вядома, усёю сваёю істотаю сымболізуе тагочаснае становішча беларускае культуры. У правапісе—цьвёрды знак (ёр) і „іжа“ васьмярычнае, самы што ні на ёсьць просты шрыфт корпус з калёнаю лічбаў пасярэдзіне пад тоненькаю чортачкаю. Уперадзе „шыкозная“ павіншавальная віньетка і чатыры наборы шрыфтоў на вокладцы ды на тытульнай старонцы. Шэрая хварба вокладкі адбівае шэрасьць у выдавецкай справе, матар'яльную ўбогасьць сяброў організацыі—студэнтаў і невялікі ўзровень беларускае культуры.

Гэта ўбогасьць настолькі гостра адчуваецца ў сьмелых піонэраў вялікае справы, што яны дазволілі сабе друкарскую роскаш толькі дзеля „Вязанкі“ Я. Лучыны. Чародныя свае выданьні, як „Калядная пісанка“ і інш. „Круг беларускай народнай прасьветы і культуры беларускай“ выдае на гэктографе, некаторыя-ж—літографскім спосабам. Адпаведна гэтаму спосабу друкаваньня атрымоўваецца і ўся тэхніка выданьняў.

Ужо ў 1906 годзе, таксама організацыйным парадкам, распачынае выдавецкую справу агітацыйнае літаратуры Беларуская Соцыялістычная Грамада. Ёю выдаецца за кароткі тэрмін цэлы шэраг брошур, як: „Што такое свабода“, „Як рабіць забастоўку“, „Ці старчыць дзеля ўсіх зямлі“, „Скрыпачка“ і „Хрэст на свабоду“. Палітычныя умовы, з якімі зьвязана выданьне нелегальнае літаратуры, ёсьць вядома, выключаюць усякія патрабаваньні тэхнічнага дагляду. Але яго пакуль ня старчыць і ў выданьнях гэтага году супалкі „Загляне сонца і ў наша ваконца“, якая з мая месяца замяніла сабою „Круг беларускае народнае асьветы і культуры беларускай“.

Між тым супалка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ з самага пачатку свайго існаваньня мела ўсе даныя на шмат большае ўсталяваньне працы сваіх папярэднікаў з боку матар'яльнага. У супалку ўступіла многа больш-менш забясьпечаных заработкам сябрукоў, як ужо стаўшы профэсарам В. Іваноўскі, пр. Б. Эпімах-Шыпіла, А. Грыневіч, інжынэр Перапечка і інш. Проф. Б. Эпімах-Шыпіла прытуліў кантору выдавецтва на ўласнай кватэры (Васілёў востраў, 4 лінія, д. 45, кв. 16) і не шкадаваў грошай на яго з свайго заработку ад профэсарскае работы. Дзякуючы спачуваньню беларускай справе ўласьніка друкарні К. Пянткоўскага, супалцы ўдалося атрымаць крэдыт на работу і ўзбагаціць набор беларускіх шрыфтоў. Аднак незнаёмасьць з выдавецкай справаю сяброў супалкі і спачатку невялікі размах работы, прапускаюць кніжкі зусім у прымітыве з боку тэхнікі выданьня. Таксама кніжачкі яшчэ занадта ўбогія па выглядзе выданьня. Гэтак, „Беларускі лемэнтар або першая навука чы-

таньня“ ці „Першае чытаньне для дзетак-беларусаў“ Цёткі—прадстаўляюць з сябе вельмі ўбогі вузор кніжкі, як друкарскай вытворчасьці. Праўда, „Беларуски лемэнтар“ зьяўляецца першым вопытам напісаньня (і выданьня) беларускага падручніка і з яго, як з гэткага, нельга патрабаваць многіх якасьцяй. Усё-ж, прымаючы і гэта на ўвагу, трэба прызнаць вялікую старэчасьць выданьня. „Беларуски лемэнтар“—бяз вокладкі нават, ня то, каб меў тую ці іншую надворную паказнасьць. Другія—ня меней плачэўныя з выгляду і па саліднасьці. Гэтыя выданьні і выданьні пісулек-пачтовак супалка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ мела першаю спробаю ў сваёй справе, якая ў наступным мецьме шырокае разгарненьне. Трэба адзначыць, што супалка ўпяршыню сур‘ёзна занялася распаўсюджваньнем сваіх выданьняў. Яна адчыніла свае контрагэнцтвы ў гэткіх гарадох, як: Варшава, Вільня, Менск, Віцебск, Гародня, Магілеў, Гомель. Хоць і прымітыўная кніжка, але павінна была пацячы ў Беларусь, якая к гэтаму часу ў значнай меры пачала цікавіцца беларускім друкаваным словам.

Галіна распаўсюджваньня выданьняў аднімала шмат грошай ад супалкі, у якой, пэўна, кожная капейка была на падрахунку.

Паміма распаўсюджваньня сваіх выданьняў, усе іншыя выданьні і выдавецтвы „Кругу“ і асобных людзей прымаліся супалкаю на комісію і распаўсюджваліся побач з уласнымі выданьнямі. Каб шырэй пусьціць іх у гушчы, супалка ўвашла ў згоду з рэдакцыяй „Нашай Нівы“, якая брала некаторыя выданьні супалкі і рассылала дадаткамі да газэты. Гэткім чынам, на першых часох свайго існаваньня выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца“ прыняло выгляд сур‘ёзн..га дзела і пашырыла чыннасьць на манер сталых выдавецтваў. Вопыт і патрэба ў кніжцы ў гэты час выразна адзначаліся і адпаведна апраўдывалі існаваньне выдавецтва.

Дзякуючы гэтаму, продукцыйнасьць і разьвіцьцё яго працы паступова, досыць заметна павялічвалася, прымаючы ўсё больш і больш сталейшы сэнс ды выгляд. У 1907 годзе супалка прыступіла да выданьня сэрыі кніжак „Беларускія песьняры“. На выданьне сэрыі была пададзена вось якая абвестка, дужа цікавая з боку свае архітэктонікі[1]) „Беларуская выдаўніцкая супалка *„Загляне сонца і ў наша ваконца“* аб‘яўляе ўсім прыяцялём Беларушчыны, што прымаецца перадплата на выданьне „Беларускія песьняры“. У гэтым выданьні будуць:

„Ф. Богушэвіча: „Дудка Беларуская“, „Смык Беларускі“, „Скрыпачка“. В. Марцінкевіча: „Пан Тадэуш“ (дзьве першыя быліцы), „Гапон“, „Вечарніцы“, „Шчароўскія дажынкі“, „Стаўры-Гаўры“, „Купальле“. Усё гэта выданьне выйдзе васьмі кніжкамі, яны будуць рассылацца, як толькі выдуць у сьвет. Выданьне будзе дваякае: дарагое на пекным паперы, быццам старасьвецкім, ці на грубым белым, на выбар, у пекнай, з бела-

---

[1]) Захоўваю тагочасныя выразы, звароты мовы і сказы. *Аўтар.*

рускім узорам, вокладцы, з патрэтамі песьняроў, падклеенымі на шурпаты папер; без перасылкі 3 рублі, з перасылкаю 3 рублі 30 кап. Таннае выданьне на добрым белым паперы, у вокладцы, з патрэтамі песьняроў (толькі ў перадплаце) 1 руб. 20 к., з перасылкаю 1 руб. 50 к. Вышаўшы ў сьвет усё выданьне разам і кожная кніга па сабе будуць прадавацца, але ўжо даражэй. Усё выданьне скончым найпазьней за год".

Згодна абвестцы выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца" адначасна выдавала сэрыю „Беларускія песьняры" двума выданьнямі: горшым—прадаўгаватымі нятоўстымі зборнічкамі (ад 30 да 100 стар.), у рознакалёрнай альбомнай паперы, з узорным рубчыкам уверсе—і лепшым, якое адлічалася ад горшага добрай матавай (вержэ) папераю дзеля тэксту і эстонскаю шэра-сіняю вокладачнаю папераю. Вокладка лепшага выданьня была аздоблена беларускім паяском у некалькі фарб. Шрыфт абодвух выданьняў адзіны, форма і разьмер—таксама. З боку надворнага выгляду і сталасьць і гэтыя выданьні—горшае і лепшае—далёка сягнулі ад папярэдніх беларускіх выданьняў. Ужо яны, асабліва ляпейшае выданьне, паходзілі больш-менш на кніжкі, якія можна ўзяць у рукі і „паказаць людзям". Праўда, ні сыстэмнасьці ды вытрыманасьці шрыфтоў на вокладцы (на вокладцы горшага выданьня іх шэсьць сартоў, пры гэтым самы загаловак набраны зусім не падыходзячым да кніжак шрыфтам—павіншавальным, старым, вокладка перагружана тэкстам), ні сталага дагляду ў пабудаваньні зьместу—у іх няма. Не далёка ад гэтага адышло й лепшае выданьне. Але гэта і не магло стаяць на першым пляне.

За 1907 год і пачатак 1908 году з сэрыі „Беларускія песьняры" „Загляне сонца і ў наша ваконца" выпусьціла толькі двума (лепшым і горшым) выданьнямі „Дудку Беларускую"—Мацея Бурачка і паміма гэтага—навукова-популярную кніжачку „Гутаркі аб небе і зямлі" (друкаваліся ў друкарні К. Пянткоўскага). Апошняя—зьместам грубаватая, разьмерам у 16° аркуша—надрукавана кірыліцаю, а „Дудка Беларуская", як і далей уся сэрыя „Беларускія песьняры",—лацінікаю.

Патрэбнасьць друкаваньня двума шрыфтамі—кірыліцаю і лацінікаю—да 1912 году была адным з балючых і цяжкіх пытаньняў у справе беларускага друку. Даводзілася старацца захапіць у сфэру беларускага культурнага ўплыву беларускага чытача-каталіка, які прывык да лацінікі, і таго, які звыкся з кірыліцаю. Праз тое, што першыя пісьменьнікі беларускія пахаджэньнем з дробнае шляхты і што друкаваныя імі творы большасьцю лацінікаю зьмяшчаліся ў польскіх часопісах—стварыліся большыя кадры чытачоў з беларусаў-каталікоў, што вымагала калі ня большую, то роўную палову выданьняў друкаваць лацінікаю. Зразумела, што падвойнае выданьне моцна біла па пуставатай кішэні ідэёвых выдаўцаў, якія адрывалі грошы ад сваіх заработкаў і ўкладвалі іх у выданьні беларускія. Ня дзіва, што гэта вісела дамоклавым мячом над беларускімі культурнікамі, прымушаючы іх выдумляць розныя спосабы

дзеля выйсьця з гэтай цяжкасьці. Вось дзеля прыкладу пастаноўка пытаньня аб шрыфтох „Нашай Нівы“.

У сьнежні месяцы 1911 году (№ 50 „Нашае Нівы“) рэдакцыя гэтай газэты вось з якім яе артыкулам зьвяртаецца да сваіх чатачоў: „Прыступаючы да выданьня „Нашае Нівы“ пяць гадоў таму назад, рэдакцыя павінна была перамагчы шмат перашкодаў, разабраць багата дужа трудных пытаньняў, з якімі ёй зразу прышлося сустрэціцца. Перш за ўсё паднялося пытаньне: якімі літарамі друкаваць беларускую газэту? Адны даводзілі, быццам трэба беларусам адразу завадзіць лацінскія (польскія) літары, бо яны ўжо заведзены на ўсім белым сьвеці; другія ізноў казалі, што з найдаўнейшых часоў беларускія кнігі, дакумэнты, пісьмы і г. д. пісаліся рускімі літарамі, што і цяпер большая часьць беларусаў чытае і піша рускімі літарамі, бо гэтак вучаць у школах, а як яшчэ завядуць агульную, усенародную навуку, дык тады ня будзе чалавека, каторы ня знаў бы рускай граматы.—Рэдакцыя ўсё-ж такі не магла затрымацца ні на тым, што раілі староньнікі лацінскага шрыфту, ні на радах староньнікаў „гражданкі“: выпускаючы ў сьвет *першую* беларускую газэту, мы разумелі, што яна дойдзе да *ўсіх* беларусаў толькі тады, калі будзе друкавацца абодвымі шрыфтамі. Гэтага вымагала само жыцьцё: у нашай староны ёсьць багата каталікоў, якія ня ходзяць у казённую школу і вучацца дома толькі лацінскай (ці польскай) граматы, дык рускімі літарамі чытаць ня ўмеюць; ізноў-жа праваслаўныя беларусы, хаця-б і хацелі, зусім не маглі-бы навучыцца лацінскай, ці польскай граматы. І „Наша Ніва“ ад самага свайго нараджэньня вось ужо шосты год выходзіць у двух асобных выданьнях: друкуецца ў іх адно й тое-ж, адзінакавая ў абодвых мова беларуская, толькі розныя шрыфты.

Друкаваць гэтак газэту—дужа цяжка. Гэта ўсё роўна, як-бы друкаваліся дзьве газеты, і кошт друку—двайны. Вось чаму, аддаючы ўсе свае сілы і ўсе свае заработкі на друкаваньне газэты, сябры рэдакцыі ня могуць пакрываць усіх недахватаў, і даўгі „Нашае Нівы“ растуць з кожным годам болей і болей. Усё-ж такі пяць гадоў мы здолелі неяк выкручывацца; але цяпер нам гэта не пад сілу, мы ўсе разам ня можам сваёй працай зарабляць гэтулькі грошай, каб пракарміцца самім і пракарміць газэту.

Ёсьць адзін спосаб выкруціцца з бяды і паменшыць газэтныя недахваты: гэта друкаваць „Нашу Ніву“ толькі адным шрыфтам, значыць, або толькі лацінскімі літарамі, або толькі рускімі. Такім парадкам ізноў падымаецца перад намі пытаньне: чаго дзяржацца? якія літары трэба выбраць, рускія ці лацінскія?

Даць адказ на гэта мы й цяпер не бярэмся: ёсьць багата падпісчыкаў, якія просяць прысылаць газэту, друкаваную лацінскімі літарамі, а яшчэ болей просяць рускімі. І ня хочаш проці волі адных або другіх чытачоў нашых высылаць газэту на іншых літарах. *Няхай выбар зробяць*

*самі чытачы і падпішчыкі нашы.* (Курсыў „Нашай Нівы“). Няхай усе, дзеля каго гэта справа мае вагу, ясна нам напішуць: *ці друкаваць газэту далей толькі рускімі, ці толькі лацінскімі?* (Курсыў „Н. Н.“).

Ведаем, што шмат хто будзе дамагацца, каб „Наша Ніва“ друкавалася абодвымі шрыфтамі, як і дагэтуль было. Такім людзям мы адказаць можам вось што: *памажэце пакрыць той недахват грошы, які робіцца ад двайнога выданьня* (курсыў „Н. Н.“), і тады мы споўнім ваша жаданьне. Калі-ж не дасьце падмогі, і газэта, выходзячы двума шрыфтамі, замрэ ад недастатку грошы, дык адказ за гэта будзе ляжаць на вашым, а не на нашым сумленьні“.

Гэта адозва, адкрываючы ўсю цяжкасьць матар'яльнага становішча „Нашае Нівы“ (а ў гэткім, калі ня горшым, становішчы знаходзіліся і кніжныя выдавецтвы беларускія), усе труднасьці ўтрыманьня друку на сродкі радавых служачых, выклікала натуральную зацікаўленасьць з боку чытачоў газэты. Пасыпаліся запытаньні, калі й як рэдакцыя ажыцьцявіць сваю думку, і разам рады наконт шрыфту. Канчатак году дзеля рэдакцыі, вядома, быў ня выгадзен, каб зрабіць рэформу, бо гэта грозіла згубіць частку падпішчыкаў. Вось яна ў апошнім нумары (№ 51-52) за 1911 год падала гэткую абвестку: „На пытаньні нашых чытачоў ці „Наша Ніва“ ад Новага Году будзе выхадзіць ужо толькі аднымі літарамі, адказываем, што зрабіць гэткую важную перамену рэдакцыя можа толькі тады, калі ўсе пададуць свой голас за такія ці сякія літары. А *пакуль што* (курсыў „Н. Н.“) перамены ў выданьні газэты ніякай ня будзе“.

Рэдакцыя разаслала анкету сваім чытачом і чакала да 1912 году. Адказы на анкету далі перавагу за гражданку, і „Наша Ніва“ з гэтага-ж году пачалася друкавацца на гражданцы. Вядома, што гэта ня было праўдзівым вырашэньнем пытаньня ня толькі для кніжкі, але й для самое газэты. Патрэба апошняй з боку беларускага чытача-каталіка неўзабаве заставіла выдаваць беларускую газэту лацінскімі літарамі. Гэткай газэтаю зьявілася газэта „Biełarus“, якая пачала выпускацца з пачатку 1913 г. Гострасьць „шрыфтовага“ пытаньня дзеля кніжных выдавецтваў можна было абыйсьці адным: выпускам кніжак у палавінным ліку назоў, але экзэмплярамі роўна, двума шрыфтамі адну кніжку. Кніжныя выдавецтвы так і рабілі, нясучы непадсільную ахвяру з сваіх ашчэдных сродкаў. Каб зьменшыць стратак на падвойныя выданьні, супалка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ мусіла вынаходзіць гэткія выйсьці з становішча: выдаючы зборнікі-альманахі, яна друкавала іх двума літарамі, гражданскімі і лацінскімі. Да гэтага, як будзем бачыць, „супалка“ падыходзіла з „трывогаю“, выносячы скаргу на суд чытача. Тое самае, пэўна, павінна было спаганяць (і фактычна спаганяла) і другое выдавецтва. Калі мы пяройдзем ад супалкі „Загляне сонца і ў наша ваконца“ да выдавецтва „Нашае Нівы“, то ўбачым аднакавы з супалкаю гэнэзіс яго разьвіцьця. Заснаваўшыся ў 1907 годзе пры газэце „Наша

Ніва“, гэта выдавецтва з лёзунгам: „Свайго ня цурайцесь—чужому навучайцесь“ распачало сваю працу выданьнем перакладных дробненькіх брошурак. Першая брошурка была „Зямельная справа ў Новай Зэляндыі“ пераклад з украінскае мовы А. Б. Брошурка налічвае 15 стар., бяз вокладкі; надрукавана цыцэро старым, праз і васьмярычнае (и) у правапісе. Другім нумарам ішло апавяданьніца „Гэдалі“—пераклад з Э. Ожэшко. Гэта кніжачка, да рэчы будзь сказана, упяршыню была аздоблена малюнкамі Богуш-Сестржэнчэвіча на вокладцы і ў тэксьце. На вокладцы намалёван жыд Гэдалі, які йдзе з торбачкаю за плячыма ў далёкую дарогу, а ў тэксьце—ілюстрацыі да апавяданьня. Далей ідзе цэлы шэраг выданьняў з галін прыгожае пісьменнасьці, бэлетрыстыкі і вершаў, з навуковых і з падручнікаў, якіх разам налічваецца да дваццаці назоў к 1911 г.

Вось назовы некаторых: „Цукер—В. Тройцы“, „Гутаркі аб гаспадарцы“, „Як бараніцца ад халеры“, „Як рабіць добрыя рамовыя вульлі“, „Як ужываць штучны навоз“, „Дым“—Канапніцкае, „Архіп і Лявонка“—М. Горкага, „Дзед Завала“—Ядвігіна Ш., „Кацярына“—Т. Шаўчэнкі і інш.

Усе гэтыя выданьні брошурнага выгляду, самыя ўбогія, часта бяз вокладак, з рознастайнымі шрыфтамі, з тэхнікаю набору, куды горшаю пецярбурскай. Ніводная з кніжак не перавышае 10 кап. коштам. Але ўжо з 1910 году і выдавецтва „Нашае Нівы“ пераходзіць да выданьня больш сталай з усіх бакоў кніжкі. Першаю з іх ёсьць „Кароткая гісторыя Беларусі“—Власта, а сьледам: „Песьні жальбы“—Я. Коласа, „Адвечная песьня“—Я. Купалы і інш. Першая з гэтых кніжак аздабляецца мастацкаю (прызнацца—зашмат вычурнаю вокладкаю і ілюстрацыямі ў тэксьце. Як арыгінальны твор у галіне гістарычнай навукі, яна яшчэ больш прыдае сабе соліднасьці і зьяўляецца першаю паміж брошурамі беларускаю кніжкаю. Дзякуючы гэтаму, „Гісторыя Беларусі“ зварачвае на сябе увагу і ў суседніх літаратурах, як літаратуры: польская, літоўская, украінская. Цана на кніжку ставіцца ў 60 кап. Ї чародныя выданьні, таксама пераймаюць сучасную ім выдавецкую тэхніку і з боку надворнага (вокладкі), і з боку ўнутранага (у тэксьце). Гэтак, „Песьні жальбы“—Я. Коласа, хоць і маленькая разьмерам, але з прыемнаю вокладкаю і з новасьцямі, як лінейкі, пад калён цыфраў у тэксьце. Вядома, справа з выданьнем вялікіх буйных кніжак патрабуе адпаведных сродкаў, якіх не выстарчае ў выдавецтве „Нашае Нівы“, таксама закрэдытаваным у падатнага да крэдыту друкара М. Кухты. Прыходзілася сьціскацца і азірацца часьцей на больш дробныя і танейшыя выданьні. Аднак, з часам станавілася ўсё болей ды болей мажлівасьці даваць вырастаючаму дзень-ад-дня беларускаму чытачу сапраўдную, грубую кніжку.

Беларускі культурны рух за тэрмін ад 1906 году да году 1911 настолькі далёка сягнуў уперад, што зьявіўся вельмі шырокі круг чытачоў новых, падрасьлі духова папярэднія шэрагі іх. Кніжка беларуская ўвашла ў гушчы, прывілася і ад моднага зьявішча стала культурным патрабаваньн-

нем. Асабліва востра стала адчувацца патрэба ў беларускай прыгожай літаратуры, якая выказвала сваім шыбкім разьвіцьцём поступ і развой беларускага культурнага руху.

Першыя пісьменьнікі і поэты, якія паказаліся з выйсьцем „Нашае Нівы“ і якія (Цётка, Ядвігін Ш., Янка Купала, Якуб Колас, Альбэрт Паўловіч) праніклі ў выданьні выдавецтваў пры першым пэрыодзе іх працы, папоўніліся новымі шэрагамі. На сцэну вышлі: Ф. Шантыр, Цішка Гартны, Алесь Гарун, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Зьмітрок Бядуля, Алесь Гурло і інш. Прыгожая пісьменнасьць абагацілася якасна і колькасна, пачала выяўляць рознахарактарнасьць у мотывах і настроях аўтараў. Трэба было падаць як найбольш твораў у сталых зборніках ці альманахах чытачу. У дадатак—у 1910 і 1911 годзе нараджаецца беларускі народны тэатр, народныя хоры, закладаюцца драматычныя гурткі (Вільня, Гародня, Слуцак, Капыль, Полацак, Дзісна, Давыд-Гарадок, Пецярбург, Варшава). Насьпявае патрэба ў драматычнай літаратуры. І вось, змагаючыся з вялікімі труднасьцямі ў здабываньні сродкаў, старыя выдавецтвы „Загляне сонца і ў наша ваконца“ і выдавецтва „Нашае Нівы“ абагачаюцца новымі сябрамі-выдавецтвамі: „Мінчук“—у Менску, „Наша Хата“, „Палачанін“ і „А. Грыневіч“ у Вільні. Выдавецтва „А. Грыневіч“ на першых часох свайго існаваньня выдае, паміж дробнымі кніжачкамі, два досыць тоўстыя выданьні: „Гусьляр“—збор вершаў Янкі Купалы (1912 г.) лацінскім шрыфтам і „Беларускія песьні з нотамі“—А. Грыневіча ў двух выпусках. З малых кніжачак гэтым выдавецтвам у 1913 годзе пачынае выдавацца сэрыямі бібліотэчка новай бэлетрыстыкі, у якую ўваходзяць: „Тоўстае палена“, „Нёманаў дар“—Тараса Гушчы і інш. Выдавецтва стараецца зьвярнуць увагу на тэхнічны бок, таксама падбіраючы лепшыя шрыфты, прабуючы аздабляць вокладку і інш. Але ўсё-ж адстае ў гэтым ад больш мацнейшых выдавецтваў. Другія з адзначных выдавецтваў—„Мінчук“ і „Палачанін“—слабейшыя і больш-менш сталых кніжак ніводнае з іх ня выпусьціла. Засела на малюткіх брашурачках і выдавецтва „Bielarus'а, якое адчынілася з 1913 году. Супалка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ і выдавецтва „Нашае Нівы“ ў параўнаньні з нованароджанымі выдавецтвамі—сягнулі намнога наперад, як па размаху работы, гэтак і па дапасаваньні яе да патрэб бягучага моманту. Так, запытаньне на тэатральную літаратуру, толькі яно вынікла, заставіла супалку выпусьціць (1911-1912 г.г.) цэлы шэраг тэатральных твораў, орыгінальных і перакладзеных, якавы з іх: „Модны шляхцюк“—К. Каганца, „У зімовы вечар“—пераклад з Э. Ожэшко, „Пашыліся ў дурні“—пераклад з Крапіўніцкага, „Па рэвізыі“—яго-ж, „Сватаньне“—пераклад з Чэхава. Тугасьць у грашох, няўёмнасьць рынку на гэтага роду літаратуру, навошта орыентавалася супалка, прымусіла апошнюю ўсе тэатральныя творы выдаць у малым ліку і друкаванымі літографскім спосабам. Аднак, помеж з гэтым, у адмечаны тэрмін супалкаю выдана з сэрыі „Беларускія песьняры“:

„Пан Тадэуш“—В. Марцінкевіча, „Гапон“—В. Марцінкевіча „Шчароўскія дажынкі“, „Купала“—яго-ж і „Смык Беларускі“—Ф. Багушэвіча. Частка гэтых твораў вышла двума выданьнямі, лепшым і горшым. І ў дадатак усяго з 1912 году „Загляне сонца і ў наша ваконца“ прыступіла да выданьня альманахаў „Маладая Беларусь“. Мэту, якую станавіла сабе супалка, прыступаючы да выданьня гэтай сэрыі зборнікаў, яна адзначала ў гэткім сваім звароце да чытачоў:

„Сучасная беларуская мысьль выліваецца на паперы ў „Нашай Ніве“, календары і беларускіх кніжках. З гэтых выданьняў кожнае мае сваю вядомую мэту і да гэтае мэты пахінаецца і яе істота. Аднак, усё больш і больш знаходзіцца між прабудзіўшыміся беларусамі такіх думак і твораў, якім дзеля рожных прычын няма месца ў сучасных выданьнях беларускіх, і шмат знаходзіцца такіх людзей, якіх сучасныя выданьні беларускія не здавальняюць зусім. Вось дзеля таго-та й чуецца патрэба гэткага выданьня, дзе-бы магла падзяліцца думкамі ўся Маладая Беларусь. Гэткім выданьнем мы-бы з ахвотаю віталі месячнік ці, адным словам, часопісь. Але сёньня мы можам пачаць толькі ад зборніку; хрысьцім яго—„*Маладая Беларусь*“.

„*Маладая Беларусь*“ будзе выходзіць кнігамі ў 160 старонак; кніжкі будуць выходзіць адна за аднэй, як толькі набярэцца матар‘ял. Ідучы да свае мэты „*Маладая Беларусь*“ будзе мець: 1) аддзел грамадзянскі, дзе будзем разьбіраць неадложныя дзеля беларускага грамадзянства справы; 2) аддзел навуковы з асабліваю ўвагай на навуковае пазнаньне Беларусі; 3) аддзел прыгожага пісьменства і штукі. Хаця ўсім была ясна даўно патрэба гэткага выданьня—першы сшытак (томік) пушчаем у сьвет не бяз трывогі. А крыніца гэтае трывогі вечна тая самая: калі толькі няма сіл выдаваць якой-кольвек беларускай кнігі дваякімі літарамі зразу—гэта значыць друкаваць тую самую кніжку два разы—заўсёды зьяўляецца страх, што гэту кніжку прачытае толькі часьць беларусаў.

Ці доўга будзе вісець над намі двойчы-літарнае пракляцьце—ніхто ня ведае цяпер. Адно толькі добра ведаем, у вадно крэпка верым: сьвядомаму беларусу ўсе літары роўны—для яго важна ня форма, а сама істота, ня чым напісана, а што напісана. Аднак, пры цяперашнім стане беларускага руху, болей сьвядомых беларусаў мы можам палічыць сотнямі, а ўсіх беларусаў да дзевяці мільёнаў, і мы ніколі ня можам забыцца, што гэтыя дзевяць (бяз некалькі сотняў мільёнаў)—гэта цяпер матар‘ял, з якога яшчэ стануць сьвядомыя беларусы. І вось уся найбліжэйшая мэта—патрапіць першы раз да сэрца несьвядомага беларуса, каб, умацаваўшы ў ім сьвядомыя адносіны да нашай справы, мець у ім беларуса-грамадзяніна. Адна з вадаў на дарозе шырэньня гэткіх сьвядомых паглядаў—гэта пагляд на беларускую справу не як на справу саму па сабе, а як на інтрыгу чужую ці то з Масквы, ці то з Варшавы. І згодна з гэтым паглядам адны бачаць у лацінскіх літарах варшаўскую, у рускіх—

інтрыгу маскоўскую. Мы ад пачатку нашага трываньня ваявалі з гэткімі паглядамі ня словам, але жывою работай: выдавалі, што магчыма, і такімі і сякімі літарамі, і гэтым паказвалі, што справа літар для нас гэта справа не прынцыповая, але справа практычная.

Цяпер перад намі ляжыць пачатая новая работа—„*Маладая Беларусь*“. Жадаючы ёй як найбольшага разьвіцьця, як найбольшай лічбы чытачоў, а з другога боку, не здалеўшы выдаваць яе зразу двума выданьнямі—рускім і лацінскім, мы пастанавілі выдаваць яе не аднымі толькі літарамі, а зразу дваякімі. Гэта значыць, палавіна кожнага сшытку будзе друкавацца аднымі літарамі, другая палавіна—другімі. Гэтым мы думаем ясна паказаць, што справа літар—справа толькі формы, гэта справа малаважная, і гэтым думаем памагчы згодзе між прыхільнікамі рожных літар.

Напасьледак выказваем надзею, што ўсе сьвядомыя беларусы аднясуцца прыхільна да нашае труднае працы, будуць выбачаць тыя абмылкі, што заўсягды могуць быць пры пачатку ўсякай справы,—і памогуць нам сваімі сіламі“.

Трымаючыся прынцыпу, „што справа літар—справа толькі формы“, супалка свае зборнікі „Маладая Беларусь“ выпускала на двох шрыфтох. Пры гэтым, загаловак і тытул адозвы да чытачоў і паведамленьні ад выдавецтва друкаваліся аднымі і другімі літарамі; астатні зьмест дзяліўся надвая: аднаго аўтара—лацінікаю, другога—гражданкаю. Усе тры сшыткі „Маладая Беларусь“, якія выпушчаны супалкаю, выказваюць сабою мешаніну двух шрыфтоў. Нельга прызнаць, каб гэта апраўдвала тэзу выдаўцоў. Наадварот—друкаваньне зьместу двума шрыфтамі губіла для паловы чытачоў палову зборніка; асабліва для тых, якія ведалі выключна гражданку. Болей таго: па неперадугляду рэдактараў „Маладое Беларусі“ друкаваліся лацінікаю артыкулы тых аўтараў, якім цяжка было чытаць гэты шрыфт. І гэта прыносіла аўтарам незадаваленьне. Але йначай зрабіць было нельга.

Адкідаючы гэтыя недахваткі, трэба сказаць, што ў іншых адносінах зборнікамі „Маладая Беларусь“ беларуская кніжка пераступіла рубікон ад нясталасьці ў дасканаласьць. І з боку зьместу, і з боку тэхнічнага пабудаваньня, і з боку надворнага выгляду—зборнікі прадстаўляюць сур'ёзнае зьявішча ў галіне разьвіцьця беларускага кніжнага друку. Вокладка аздоблена прыгожаю рамкаю ў мяккія дзьве хварбы—шэра-зялёную і сінюю. Рамка скомбінавана з узораў беларускага паяска; аснова рамкі—сіняю хварбаю—прасьцейшага малюнку, бакавыя—складанейшага. Крыху замалы літары ў загалоўку, і знарушаюць стройнасьць і цэльнасьць фігуры рамкі запхнутыя зьверху ў куткі фірмавыя надпісы на двух шрыфтох. Што датычыцца раскладу зьместу, то ён справодзіцца віньеткамі і канцоўкамі, знарок намалёванымі. Апошнія ўвесяляюць зборнікі, хоць прыгожасьці даюць нямнога з-за свае буйнасьці і грубасьці малюнку.

Да гэтага кідаецца ў вочы яшчэ адна вада ў нутры кніжкі,—гэта шмат белых прапускоў. Скажам, калі артыкул ці верш канчаецца напалове страніцы, то ўжо й другая старонка застаецца белаю. Яшчэ горш: калі ў зборніку зьмяшчалася на некалькі старонак твораў таго ці іншага аўтара, то перад імі пакідаліся тытульныя лісты, а то яшчэ й чародныя старонкі другога. Але і гэта мела пад сабою мотывы матар'яльнага значаньня: выдавецтва адначасна з друкаваньнем сшыткаў „Маладая Беларусь" рабіла лішнія адбіткі твораў поэтаў і пісьменьнікаў і выдавала іх асобнымі кніжачкамі: усё—каб з'экономіць. Гэткім чынам выданы: „Сон на кургане"—Я. Купалы, „Песьні"—Цішкі Гартнага, „Абразкі"—Зьмітрака Бядулі, „У дому лепей"—А. Новіча і т. п. З аднаго боку пэўна гэты спосаб даваў лішнюю кніжку, з другога-ж—самі сшыткі ад гэтага прымалі занадта літаральны сэнс сшыткаў... асобных адбіткаў. Гэта ўмяншала соліднасьць кніжкі, прыдавала ёй і самому выдавецтву характар выразнай хатнасьці (кустарнасьці). Папера і самы набор—добрыя.

Апошняе выданьне супалкі, якім у 1913 г. завяршылася яе карысная і доўгая праца ў сэнсе пашырэньня беларускае кніжкі, ёсьць „Шляхам жыцьця"—збор вершаў Янкі Купалы. Гэтая кніжка прадстаўляе сабою масьціты том—у 258 старонак уборыстага шрыфту—з вершамі, разьмешчанымі бесканечным шэрагам. У 1914 годзе ёю ўжо ня выдаецца нічога.

Затое спрэс, да самага пачатку вайны, ідзе выданьне кніжак у Вільні.

Выдавецтва пры „Нашай Ніве" ў 1913 годзе перайменуецца ў „Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні", пераходзячы да выданьня сталых, у параўнаньні з выданьнямі ранейшымі, зборнікаў. У сваёй заяве выдавецтва паведамляла каму дорага справа беларускага адраджэньня, што, „прыступіўшы да выдавецкай працы, таварыства ставіць сабе мэту ў першы чарод выпускаць у сьвет па сіле магчымасьці такія кніжкі: Граматыку беларускую, Географію, Слоўнікі, Арытмэтыку, кнігі дзеля навучаньня ў школах, кніжкі популярныя аб сельскай гаспадарцы і інш. Выдавецтва зьвяртаецца з просьбаю да шаноўных пісьменьнікаў прысылаць як можна найхутчэй свае рукапісы вышэй азначаных кніжак". У 1913 годзе, паміж іншымі кніжкамі, якавы: „Калядная пісанка на 1913 год"—зборнічак прозы і вершаў з крытычным абглядам беларускае краснае пісьменнасьці за тры (1911-1913) гады, „Каляндар на 1913 г." са значным літаратурным аддзелам, „Чыжык беларускі"—вершы Гальляша Леўчыка і інш., „Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні" выпусьціла досыць прыгожую кніжку—збор вершаў Максіма Багдановіча—„Вянок". Таўшчынёю ў 100 з лішкам старонак, у 8⁰ аркуша, кніжка з боку надворнага выгляду—дужа мастацкая. Прыгожая вокладка, папера—вержэ, жаўтаватага адценку. Упяршыню вершы разьмешчаны па адным на старонцы... У наступным, 1914 годзе выдавецтва яшчэ шырэй разьняло сваю працу; ім выданы за

гэты год, паміж іншымі выданьнямі, гэткія кніжкі: „Рунь“—апавяданьні Максіма Гарэцкага, „Курганная кветка“—вершы К. Буйлы, „Родныя зьявы“—апавяданьні Тараса Гушчы, „Апавяданьні і легэнды вершам розных аўтараў“. За выключэньнем апошняе, надрукаванае лацінікаю і ў простай вокладцы, пералічаныя кніжкі вышлі гражданкаю, спрытнага формату (квадратовага) пад адну мерку, на грубой шчыльнай паперы. На мастацкі бок зьвернута таксама належная увага і кніжныя вокладкі справоджаны малюнкамі (сымболічнымі: сфінкс на „Курганнай кветцы“, перакрыжаваныя каласкі на „Руні“) у вадну хварбу. Шрыфт падабраны круглы, чытэльны. Таксама кніжкі адмечаны, упяршыню, знакам выдавецтва, які складаўся з кружка, а ў ім—плывучы па хвалях лебедзь.

Да рэчы трэба адмеціць паўстаўшае ў гэтым 1914 годзе нязначнае выдавецтва пры часопісі „Лучынка“ ў Менску, якое выдала некалькі драбнюткіх, мала ўнёсшых у беларускую кніжную скарбніцу, кніжачак. У гэткім стане, досыць квітучым, застала вайна разьвіцьцё беларускай кніжна-выдавецкай справы. З маленькіх і малюпаценькіх брошурак, перамагаючы вялікія труднасьці, за 8-9 год беларуская кніжка дашла да сталых зборнікаў, дагледжаных і вытрыманых як зьместам, гэтак і тэхнікаю. Усе даныя казалі за далейшае разьвіцьцё і посьпехі працы выдавецтваў, іх павялічэньне, як скутак росту чытача, з свайго боку—рэзультат пашырэньня і паглыбленьня беларускага культурнага руху.

Але, скалануўшая фундаманты міру, страшэнная імпэрыялістычная вайна рэзка абарвала, перабіла беларускую культурную працу. Мільённыя арміі абрынуліся на Беларусь, гострыя шчэпцы вайсковае цэнзуры сьціснулі друк, мобілізацыі павыцягалі ў армію культурных працаўнікоў; і з пачатку вайны да заняцьця Вільні немцамі беларускае друкаванае слова абмяжоўвалася аднэю „Нашаю Нівою“, якая таксама ў 1915 годзе летам умерла, стаўшы афяраю вайсковай цэнзуры.

За 1915 год амаль што ня вышла ніводнае беларускае кніжкі[1])—гэта складае пусты прагалак у справе беларускага кнігавыдавецтва. Разам з гэтым, наступны год кладзе раздвой ня толькі ў гэтай галіне, а і ва ўсёй беларускай культурна-політычнай і нацыянальна-рэволюцыйнай працы. Вайна падзяліла Беларусь на дзьве часткі—Заходнюю, окупаваную немцамі і Ўсходнюю. Большасьць уцалеўшых культурна-політычных беларускіх працаўнікоў засталася ў незабранай частцы Беларусі, аднак тым, што засталіся пад немцамі, хутчэй знашлася мажлівасьць распачаць парушаную вайною выдавецкую справу. Пасьля паўгадовага перабою ў канцы 1915 году ў Вільні пачала выходзіць, перш раз у тыдзень, а пасьля часьцей, газэта „Гоман“. Спусьціўшы нейкі час, з 1916 г. рэдакцыя газэты сабралася з сіламі і пачала выпускаць кніжкі. На гэты раз выпускаліся выключна падручнікі, дзякуючы двум важнейшым прычынам: 1) зацягна-

[1]) Вышаў каляндар, які, пачынаючы з 1910 году, ня мінуў ні аднаго году.

насьці окупацыі, што заставіла думаць беларускіх культурнікаў пра адчыненьне беларускіх школ; 2) адсутнасьць песьняроў і пісьменьнікаў і немажлівасьць атрымаць іх рукапісаў праз фронт. Вось рэдакцыяй „Гоману“ на працягу 1916 году выпушчана ў сьвет (многія двума шрыфтамі) каля пятнаццаці назоў кніжак для школ. Сярод іх: „Беларускі лемантар“ (2 выд.), „Першае чытаньне“ (2 выд.) „Гасьцінец дзеля малых дзетак“ (польскім шрыфтам), „Другое чытаньне“ (гражданкаю), „Кароткі катахізм“, „Кароткая гісторыя сьвят“, „Родныя зерняты“—кніжка для школьнага чытаньня I, II і III часткі (лацінкаю); „Другое чытаньне“, „Першая чытанка“ (лацінкаю), „Задачнік Юрэвіча“ (двума выдан.) і інш. Некаторыя з гэтых выданьняў—больш-менш сталыя кніжкі, а большасьць—брошурнага выгляду. Адносна тэхнікі—як адна, слабыя ва ўсіх адносінах, беручы ад паперы і канчаючы наборам.

У наступным, 1917 годзе, у Вільні ізноў выдавецтва заціхла на нейкі час, уступіўшы чаргу Менску, які з часу рэволюцыі становіцца асяродкам палітычна-культурнага беларускага жыцьця. З усіх куткоў Расіі і незанятае Беларусі і рэволюцыянэры, і культурнікі лічылі сваім абавязкам перакінуць сваю чыннасьць у беларускі асяродак, адкуль-бы лепш было ўплываць на пэрыфэрыю. І вось, ужо з вясны 1917 году, пасьля зьезду Беларускай Соцыялістычнай Грамады 23 сакавіка і зьезду беларускіх дзеячоў (25 сакавіка) пачалі выдавацца газэты „Грамада“ орган Бел. Соц. Грамады і „Вольная Беларусь“—часопісь Беларускага Нацыянальнага Комітэту. Рэдакцыя „Вольнае Беларусі“ з паловы году стала комбінаваць у расходзе невялічкіх сродкаў, якія меліся для выданьня газэты, каб улучыць што-кольвечы на кніжнае выданьне. Быў прыняты гэткі спосаб: рэдакцыя мяркавала, каб фэльетоны, што зьмяшчаліся ў газэце, адбіваліся лішнімі адбіткамі, якія браліся ў рамкі, пад лічбу, пасьля заключаліся ў дадрукаваныя простыя вокладачкі. Гэткім чынам (як бачыце, прымітыўным) было выдана рэдакцыяй „Вольнае Беларусі“ каля васьмі невялічкіх брошурак, з якіх адмецім: „Літаратурны зборнік“, „Сцэнічныя творы“—Тараса Гушчы, „Аўтономія Беларусі“—Я. Лёсіка, „Як Мікіта бараніў сваіх“ — М. Міцкевіча і Я. Лёсіка, „Мэморыя прадстаўнікоў Беларусі“.

Як выданьні „Гоману“, гэтак і выданьні „Вольнае Беларусі“ з пункту гледжаньня тэхнікі кніжнае справы—ня вытрымліваюць жаднае крытыкі, адводзячы сабой яе становішча да першых выданьняў выдавецтва „Нашае нівы“ ці „Кругу беларускае народнае асьветы і культуры беларускае“. Але водлуг тых умоў, сярод якіх прыходзілася літаральна з натугамі выціскаць кожную кніжачку, нашы вымаганьні тэхнічнага боку былі-бы недапусьцімымі патрабаваньнямі.

Тэхнічны бок, хоць-бы да ўзроўню выданьняў 1914 г., прышоў яшчэ ня хутка. Ён, таксама, як і з пачатку разьвіцьця беларускай кніжна-выдавецкай справы, ішоў наперад паступова, пацiху, аглядаючыся на ма-

тар'яльныя умовы і на агульны ўзрост культурнай справы, якая атрымлівала перабоі ад вайны і рэволюцыі, ад окупацый і дыфэрэнцыйнага раздрабленьня на асобныя лягеры беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў огуле.

З наступнага 1918 году мы сьведчым адраджэньне кніга-выдавецтваў адразу ў чатырох пунктах: у Вільні, у Менску і ў Маскве з Ленінградам. На гэты раз і ідэолёгічным напрамкам, і політычным характарам гэтыя чатыры выдавецтвы падзяляюцца на два лягеры, з аднаго боку Вільня і Менск, з другога—Масква і Ленінград. Апошнія выдавецтвы, заснованыя пры Беларускім Нацыянальным Камісарыяце, выдаюць газэту „Дзяньніца" і рэволюцыйна-агітацыйную літаратуру, Вільня й Менск—падручнікі, ведную і мастацкую літаратуру.

Пачнем з Масквы і Ленінграду. У гэтых пунктах выдавецтвы вялі выдавецкія аддзелы Беларускага Цэнтральнага Нацыянальнага Комітэту (Масква) і яго Ленінградзкага аддзяленьня. Апошні выдаваў на расійскай мове ўперамешку з беларускаю, пачынаючы часопісьсю „Чырвоны Шлях" і канчаючы кніжкамі. Ім выдана звыш дзесяці нумароў часопісі „Чырвоны Шлях", тры ці чатыры нумары сельска-гаспадарчай часопісі „Крыніца" і сталая, дужа каштоўная праца Е. Канчара—„Беларускае пытаньне". Апроч гэтага, выдана яшчэ некалькі кніжак і этнографічная карта Беларусі.

У Маскве выданы цэлы шэраг політычных брошур, як: „Хто чым жыве"—Дыкштэйна, „Што гэта за Радавая ўласьць і як яна будуецца?"—В. Карпінскага, „Радавая Рэспубліка"—Кія, „Павукі й мухі"—К. Лібкнэхта і інш., і некалькі кніг, сярод якіх: „Протоколы и постановления Всероссийского с'езда беженцев из Белоруссии", Е. Канчара—„Классовая, национальная и религиозная борьба в Белоруссии" і „Зажынкі"—першы збор твораў беларускіх песьняроў і пісьменьнікаў, вышаўшых з сям'і працоўнага народу. Апошняя кніжка прадстаўляе сабою сур'ёзнае выданьне, хоць па тэхніцы досыць адсталае і беднае. Апроч гэтага выдавецкім аддзелам камісарыяту было прыгатавана да друку і здадзена ў набор: „Жніво"—другі літаратурна-публіцыстычны зборнік, „Збор твораў Цішкі Гартнага", два далейшых выпускі працы Е. Канчара—„Клясавая, нацыянальная і рэлігіозная барацьба ў Беларусі, М. Бухарына—„Програма РКП(б)" і шмат брошур. Політычныя здарэньні ў зьвязку з абвяшчэньнем Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі адбіліся на камісарыяце аслабленьнем яго працы і ліквідацыяй выдавецкага аддзелу.

У гэты-ж час у Менску далей працягае выдавецтва газэта „Вольная Беларусь". Ёю выдаюцца адна за другою брошурнага выгляду кніжачкі „Дзіцячая чытанка", „Бярозка"—апавяданьні Ядвігіна Ш. (перадрук), „Што трэба ведаць кожнаму беларусу"—зборнік артыкулаў розных аўтараў і інш. Апроч іх „Вольная Беларусь" выпусьціла некалькі больш солідных кніжак, як: „Зборнік сцэнічных твораў, сшытак першы" і „Сымон Музыка"—вершаваная поэма Якуба Коласа. Аднак, усе выданьні гэтыя з тэхнічнага

боку провінцыяльныя, а па якасьці матар'ялу—самыя благія. Належнай, у поўным сэнсе, кніжкі за 1918 год у Менску ня вышла. На тым самым узроўні з боку мастацка-тэхнічнага і з боку сталасьці—застанавілася і Вільня. Выдавецтва В. Ластоўскага, якое заснавалася ў 1918 годзе, было спорным у сэнсе ліку выданьняў; але выданьні яго абмяжоўваліся часткаю тонкімі брошурамі (многія перадрукам, як „Смык беларускі" і інш.), часткаю падручнікамі. Сярод апошніх „Незабудка—першая пасьля лемантара чытанка, „Сейбіт"—другая пасьля лемантара чытанка, „Выпісы з беларускае літаратуры", частка I і інш.

Усе кніжкі ў выдавецтве В. Ластоўскага друкаваліся аднымі лацінскімі літарамі; пры гэтым на дрэннай паперы, без мастацкіх вокладак, амаль не адным шрыфтам. Ні ў воднай кніжцы не знайсьці ні канцовак, ні віньетак, ні лінеек над зьместам.

Наогул, выдавецтвы 1918 году носяць на сваім бледным выглядзе, на танных сартох матар'ялу, на худасьці сваёй—адбітак ваеннага разору, які ахапіў усе галіны гаспадарчага жыцьця. Рэдкія выданьні асобных аўтараў і ўстаноў яшчэ больш падкрэсьліваюць заняпад 1918 году. Брошурка Ф. Шантыра—„Патрэбнасьць нацыянальнага жыцьця для беларусаў і самавызначэньне нацыяў", брошура З. Бядулі—„Жыды на Беларусі", абедзьве выданыя на кошт аўтараў, першая ў Слуцку, другая ў Менску; „Беларусь і Літва"—А. Уласава (выданьне Выкан. Каміт. Цэнтр. Вайск. Бел. Рады), „Усходняя Беларусь"—А. І. (выданьне Народн. Сэкрат. Міжнар. Спраў),—гэтыя чатыры драбнюткія выданьніцы вельмі падкрэсьліваюць сваім выхадам у сьвет беднасьць выдавецкіх магчымасьцяй пасьля ваеннае пары.

Каб дайсьці да солідных ува ўсіх адносінах выданьняў, прыходзіцца прапрацаваць на ўзроўні 1918 г.—гады 1919, 1920 і 1921 г. Справа ў тым, што на гэты тэрмін супадае якраз вельмі цяжкі момант у гісторыі аформленьня беларускае дзяржаўнае істоты. Адыгрываецца процэс кіпучага змаганьня, колькіразовыя перамогі то аднэй, то другой сілы, якія шчапіліся ў адчайную бойку за Беларусь: з аднаго боку шляхетна-панская Польшча, з другога—беларускія рабочыя і сяляне. 1919 год у сваім пачатку прыносіць Беларусі першы рэволюцыйны ўрад і абвяшчэньне яе Савецкаю Соцыялістычнаю Незалежнаю Рэспублікаю.

Адчыняюцца шырокія паземы дзяржаўнай, экономічнай і культурнай працы. Гэта праца фэерычна выбухае, але ў самым разгары перабіваецца наступам белапалякаў, якія з жніўня 1919 г. на цэлы год займаюць Беларусь і прадаўжаюць няшчадна нішчыць астаткі яе ўцалеўшага ад вайны й нямецкае окупацыі багацьця.

У 1920 годзе магутным націскам Чырвонае арміі з дапамогаю ёй беларускіх робочых і сялян, Беларусь вызваляецца з-пад польскае окупацыі але да 1921 году знаходзіцца ў становішчы ні-то ваенным, ні-то мірным: на нейкі час варочаюцца палякі, пасьля адыходзяць, за імі нападаюць бандыцкія шайкі Балаховіча. У 1921 годзе, адзначаным вялікім

голадам на Паволжы, толькі пачынаецца пераход на мірнае будаўніцтва. Падлічаюцца тыя вялікія раны, якія нанесены пакутнай Беларусі рознымі буржуазна-панскімі драпежнікамі.

Ёсьць вядома, што ў гострыя моманты політычна-клясавага змаганьня адыходзяць заданьні культуры на задні плян. Апошнія патрабуюць спакою, увагі, патрабуюць устойнае падставы.

Тым ня меней, настойная патрэба бесьперабойнага працягу ў культурным разьвіцьці настолькі моцная, што прабівае скрозь грук гарматаў, парахавы дым, шчыльныя рады ваякоў і патрабуе свайго выяўленьня ў жыцьці.

Працуе тэатр, выдаецца часопісь, папераменна тых, хто перамагае, адчыняюцца кнігавыдавецтвы. Як больш нярухавая рэч, кнігавыдавецтва цішэй сябе выяўляла, меней магло паказаць сябе, але не гадзілася з заміраньнем. І мы бачым яго працу, хоць і адрыўную, не сталую, як кажуць, на часох, урыўкамі ў розныя часы і ў розных мясцох, але настойную і ўпорную.

Народны Камісарыят Асьветы рэволюцыйнага Беларускага ураду ў 1919 г. закладае выдавецкі аддзел, які будуе шырокі плян выдавецтва, закупляе рукапісы, але пасьпявае выдаць толькі пару-тры кніжкі, як „Беларусь у песьнях“—Фарботкі і інш. У Вільні, пэўна пазьней, выдаецца ў выдавецтве „Беларускага Выдавецкага Т-ва „Крыніца“ „Невялічкі Беларуска-Маскоўскі слоўнік“—Максіма Гарэцкага, яго-ж—„Антон“ (абразы жыцьця) і яшчэ адна-дзьве. Пасьля заняцьця Менску белапалякамі паднімаюць голаў беларускія незалежнікі; закладаюць „Беларускую Цэнтральную Школьную Раду“ і выпускаюць цэлы шэраг кніжачак і кніжак, сярод якіх: часопісь „Рунь“, „Зборнік твораў для дзіцячага тэатру“, „Жывыя казкі“, „Лес шуміць“—У. Караленкі, „Беларускі народ і яго мова“ і шмат іншых. У Вільні, між другімі, выдаюцца „Зборнік памяці Івана Луцкевіча“, „Гісторыя Беларускае Літаратуры“—М. Гарэцкага,—адна з солiднейшых кніжак гэтага часу, зборнік „Наша Ніва“. Закладаецца выдавецтва ў Коўне „Імя Ф. Скарыны“, якое, апроч журналу „Часопісь“, таксама распачынае кніжную выдавецкую працу, праўда—зусім нязначную.

Калі-ж Менск вызваляецца ад паноў, пры Камісарыяце Асьветы Беларусі закладаецца літаратурна-выдавецкі аддзел, які з 1921 г. выпускае часопісь „Чырвоны сьцяг“ і распрацоўвае плян шырокай кніжнавыдавецкай працы ў Менску і заграніцаю. Цяжкія умовы друкарскае справы ў Беларусі, крызіс паперы, застаўляюць асабліва напіраць на заграніцу, што к палове году і зьдзяйсьняецца: Саўнарком РСФСР адпускае Камісарыяту Асьветы Беларусі адзначаную суму грошай, і заграніцаю, у Бэрліне, з лістапада месяца засноўваецца Беларускі аддзел дзяржаўнага выдавецтва РСФСР.

Тымчасам у гэтым-жа годзе адчыняецца „Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі“, якое сілаю-гвалтам выпускае да канца году некалькі кніжак страшэнна-няўдалых з тэхнічна-якаснага боку: рудая прамакатная папера,

бледная гнядая хварба, бяз жаднага густу знадворку і ў пабудаваньні набору. З гэтых выданьняў трэба адзначыць: „Кароткая гісторыя Беларусі“— У. Ігнатоўскага, „Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі“,—яго-ж, „Завіруха“—збор вершаў М. Чарота, „Пакрыўджаныя“— Л. Родзевіча... і толькі. Галоўным чынам, выдавецтва концэнтруе сваю працу на газэтнай справе і на гандлі маскоўскага выданьня рускімі кніжкамі. Затое бэрлінскае беларускае аддзяленьне дзяржаўнага выдавецтва РСФСР разгортвае сваю працу і на працягу дзевяці месяцаў (лістапад 1921 г.—ліпень 1922 г.), выдае вось якіх дзевяць назваў у вялікім ліку тыражу (ад 7 тыс. экз. да 55 тыс. экз.): „Лемантар“—С. Некрашэвіча, „Наша Крыніца“—Я. Лёсіка, „Альгебра“ (I ч.)—А. Круталевіча, „Арытмэтыка“—Цыгэльмана, „Лірнік“ сьпеўнік з нотамі—Тэраўскага, „Сокі цаліны“ (роман) і „Песьні працы і змаганьня“ (вершы)—Цішкі Гартнага, „Граматыка“—Б. Тарашкевіча, „Казкі“—Я. Коласа. Усе гэтыя выданьні адмыслова дасканалыя, вытрыманыя тэхнічна і з боку соліднасьці. Чысьценька выданыя, з падабраным гарнітурам шрыфтоў, на добрай шчыльнай паперы, удалаю хварбаю адбітыя, ніткамі ў сярэдзіну перашытыя—яны сабою паднялі беларускую кніжку на ступень поўнай сталасьці і кніжнага мастацтва. Сваім выглядам бэрлінскія выданьні запрыгожылі да гэтага аднавобразную, шчуплую і шэрую беларускую вітрыну, унясьлі дадатную living разнастайнасьць. Наогул, бэрлінскае выдавецтва ўнясло пералом у вадносіны да беларускае кніжкі, зьвярнула ўвагу працаўнікоў выдавецтваў на эстэтычна-тэхнічны яе бок.

Заснаванае ў сакавіку 1922 году беларускае коопэрацыйнае выдавецтва „Адраджэньне“, шырока разьвінуўшы сваю працу, амаль не на працягу году выкідала на рынак сваю вырабчасьць, занадта тандэтнага гатунку ў надворным выглядзе і па тэхніцы. Вялікі лік яго выданьняў— да суму аднастайных, шэрых, блядых, нявыразна надрукованых, нядбайна зброшураваных—прыгнятаў кожнага, хто спыняў сваё вока на вітрыне беларускай кнігарні. Ні на адным выданьні ня было рознай па колеру паперы, ні на адным выданьні не аздоблена вокладка хоць-бы простаю тыпографскаю рамкаю, хоць-бы намаляваным загалоўкам. Дубовы тоўсты шрыфт, старога малюнку, адбіты на блядой, каламутнага колеру паперы, мярцьвіў кніжку, робячы яе падобнай адна на другую, як калкі ў плоце, і зьліваючыся ў пясковую гнедасьць у ваконнай выстаўцы. Бэрлінскія выданьні, чыстыя і стройныя меркаю, на рознаколернай паперы, аздобленыя скромнымі рамкамі на вокладках—украпіліся, як расьлінкі сярод пяску, у аднастайнае поле выданьняў „Адраджэньня“. Праўда, датычна грубасьці кніжкі і яе зьместу—нельга нічога адмоўнага сказаць. „Адраджэньне“ выдавала сьвежы, адпаведны моманту матар'ял, які ў кожнага аўтара складаў солідную працу...

З 1923 году і „Адраджэньне“, яшчэ ў канцы 1922 году пераймянованае ў „Савецкую Беларусь“ пачало зварочваць належную увагу на

тэхнічна-мастацкае аздобленьне сваіх выданьняў. Першая спроба ў гэтым кірунку лягла на часопісі „Полымя“, якая пачала выходзіць з канца 1922 году. Для „Полымя“ была намалёвана вокладка мастаком М. Філіповічам, унёсшы рознавыгляд у амярцьвеласьць папярэдніх выданьняў. На набор і вёрстку „Полымя“ таксама была зьвернута увага: часопісь набіралася, па традыцыі старых расійскіх журналаў, двума шрыфтамі: проза мастацкага аддзелу—цыцэро, а публіцыстычна-навуковы—корпусам; пад „калён цыфраў“ падстаўлялася лінейка.

Але тут знашлася новая бяда. Тэхнічная беднасьць менскіх друкарань трымала тэхніку выданьняў на адным месцы, ня пускаючы іх па шляху паляпшэньня, чаму ня гледзячы на новыя ўводзіны ў „Полымі“ апошняе не далёка адышло ад іншых выданьняў, папярэдніх. Тады „Савецкая Беларусь“ пачала націскаць на паліграфічны аддзел, які мусіў зьвярнуць увагу на здабываньне новых шрыфтоў, лепшае хварбы, на сур'ёзныя адносіны да выпуску кніжкі.

І вось, патроху, з вялікімі натугамі, час ад часу тэхніка выданьняў стала расьці. Асабліва выразнае яе паляпшэньне паказвае сабою выданая „Новая зямля“—поэма Якуба Коласа. З ёю ўпяршыню выдавецтва „Савецкая Беларусь“ супынілася на мастацка-тэхнічным боку выданьня. Для „Новае зямлі“ была заказана знарочыстая вокладка; старонкі набору абкладаліся зьверху і зьнізу грубымі лінейкамі, калён цыфраў зьнесены ўніз, у бок; дадзена лепшая папера і зроблена сшытка у сярэдзіну ліста. У цалку—выданьне вышла скромна-прыгожым і мілым, далёка з-заду сябе пакінуўшы папярэднія кніжкі.

Ад „Новае зямлі“ патрошку ды паціху ўвашло ў звычай усё больш ды больш прыглядацца да кніжкі. Да кожнай з іх пачало выдавецтва даваць на вокладкі каляровую паперу, а то заказываць вокладкі мастаком, пачало напіраць на зьмест шрыфтоў, на брошуроўку, на сшываньне. Провінцыялізм, хатнасьць, тандэтнасьць пачала, хоць і ўпіраючыся, уступаць месца сур'ёзнай, дасканалай увазе да кожнай кніжкі, як да мастацкай рэчы. Дзякуючы гэтаму цьвёрдаму курсу ў справе вываду беларускае кніжкі да ўзроўню яе ва ўсіх адносінах з кніжкамі больш культурных суседзяў, за канец 1923 і палову 1924 г. выдавецтва „Савецкая Беларусь“ дасягла вялікіх вынікаў: беларуская кніжка сапраўды паднялася вельмі высока, нагнала польскую і рускую кніжку ў мастацка-тэхнічных адносінах. Шэраг выданьняў, якія зараз убіраюць сабою беларускую вітрыну, нізваньня не адстаюць ад выданьняў расійскіх, якія налічваюць шмат-шмат даўжэйшую гісторыю свайго жыцьця і шмат-шмат больш спрыяўшыя іх разьвіцьцю умовы. Выданьні „Савецкай Беларусі“: зборнік „Беларусь“, „Чырвоны Дудар“—дэкляматар, „Веснаход“, „Трэскі на хвалях“—апавяданьні, „Фізыка“, апошнія нумары „Полымя“—цешаць вока і прадстаўляюць амаль што дасканалыя ўзоры кніжна-выдавецкай тэхнікі і мастацтва. Калі ўзяць на увагу прасочаныя на працягу ўсяго невялікага тэрміну, які

аддадзены з вялікімі перабоямі на працу дзеля беларускае кнігі, калі ўлічыць найцяжэйшыя труднасьці матар'яльнага характару, якія справодзілі каля дваццацігадовую культурную беларускую справу,—атрымаўшую неабмежнае прызнаньне толькі з боку Савецкае ўлады — то прыходзіцца дзівіцца дасягнутаму посьпеху.

І, бязумоўна, выходзячы з гэтага факту, трэба спадзявацца, што ў новых умовах беларускай савецкай дзяржаўнасьці, пабудаванай на прынцыпах клясавага і нацыянальнага вызваленьня працоўных гушч, будзе аддавацца найбольшая увага культурнаму будаўніцтву, часткаю якога і ёсьць кніжна-выдавецкая справа.

Перад гэтай апошняй яшчэ ня толькі ў Беларусі, а і ва ўсім СССР, шмат не заваёваных позыцый. Яшчэ шмат трэба папрацаваць, каб нагнаць цяперашні ўзровень і тэхнікі і продукцыі ў друкаваным слове заграпічных буржуйных дзяржаў, як Нямеччына ці Англія, дашоўшых да вышэйшых дасягненьняў у галінах кніжна-выдавецкай тэхнікі.

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ СУЧАСНАСЬЦЬ [1])

(1920—1925 г. г.)

*Зарысы і нататкі*

А лапці і анучыны
Адбэрсаны, адкручаны
Нуда маўчыць ціхом;

Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.
(*Я. Купала*—„*Безназоўнае*")

**Ул. Дзяржынскі**

I

Зьмест і форма—адвечная дагэтуль неразьвязаная проблема ў філёзофіі мастацтва наогул і літаратурнага мастацтва паасобку. Антычная старажытнасьць і эпоха готыкі, францускае асьвета і нямецкая ідэалістычная філёзофія (Гегель, Шэльлінг) бясскутэчна тужыліся ў тэй ці іншай форме разьвязаць гэтае пытаньне. Не абмінулі яго і прыхільнікі Марксавае навукі. Літаратурная сучаснасьць гэтаму пытаньню ўдзяляе таксама шмат увагі, яскравым доўадам чаго можа быць той факт, што паявілася яно й на спакойных, заплясьнелых, сонных водах беларускае літаратурнае крытыкі. [2]) Папраўдзе, унівэрсальная проблема!

Яно й зразумела. Зьмест і форма, форма і зьмест — гэта ключы, якімі прывыклі літаратурныя крытыкі і літаратурныя вучоныя (гісторыкі літаратуры) адмыкаць таемнікі літаратурных скарбніц, гэта схэма, да якой прывыклі й тыя, хто аналізуюць, тлумачаць, асьвятляюць літаратурныя творы, і тыя, для ўразуменьня, увагі і навучаньня якіх гэта робіцца. І з гэтай схэмай так звыкліся, што без яе неяк не выпадае падходзіць да аналізу нават дробных літаратурных зьяў. У яўнай ці прыкрытай форме гэта схэма лічыцца як-бы абавязковай. Спынімся на хвіліну і мы, каб выявіць нашы адносіны да гэтага пытаньня.

Паняцьці: зьмест і форма ў мастацтве бязумоўна зьяўляюцца водгукам аналёгічных паняцьцяў—матэрыя і дух—у мэтафізыцы. Дуалізм у

[1]) З некаторымі вывадамі аўтара рэдакцыя нязгодна. *Рэдакцыя.*

[2]) Полымя № 2 (10). І. Акушка. За літаратурным келіхам.

філёзофіі ўплывае на ўтварэньне дуалістычнага разуменьня праяў мастацтва. У гэтым кірунку ўжо пачынае працаваць глыбокая мысьль Арыстотэлеса ў яго „Поэтыцы“. Органічная сувязь паміж гэтымі роўналежнямі ў філёзофіі і мастацтве асабліва выпукла выявілася ў XVIII і XIX сталецьцях (Кант, Гегель).

Што-ж, аднак, трэба разумець пад паняцьцем зьмест і пад паняцьцем форма? На гэтыя пытаньні адказвалі і адказваюць парознаму. Нам здаецца, што калі падходзіць да яго памарксыцку, то належыць тут правесьці аналёгію ў азначэньні матэрыі ў мэтафізыцы і зьместу ў мастацтве. Матар'ялістыя пад паняцьцем матэрыя разумеюць тое, што можа ўплываць на нашы пачуцьці і гэтым самым выклікаць у нас тыя ці іншыя адчуваньні.[1]) У аналёгіі з гэтым азначэньне зьместу ў мастацтве можа быць гэтак формулявана: зьмест у мастацтве гэта тое, што, уплываючы на мастацкую організацыю індывідууму, атрымлівае тое ці іншае выяўленьне ў мастацкіх формах. Мастацкая організацыя індывідууму ў гэтым азначэньні займае месца, аналёгічнае пачуцьцям у азначэньні першым, г. зн. здольнасьць мастацкага ўспрыйманьня. Выяўленьне ў мастацкіх формах—аналёгічна адчуваньням у азначэньні першым. Гэтае азначэньне зьместу бадай што мяжуе паняцьцем—крыніцы творчасьці. Калі спыніцца на такім азначэньні зьместу, то прыдзецца зрабіць шэраг вельмі важных вывадаў. Першы вывад—у мастацтве першапрычынай зьяўляецца зьмест, як матэрыя ў тэорыі філёзофскага матар'ялізму. Зьмест кіруе формай, а не наадварот, форма залежыць ад зьместу. Другі вывад—зьмест можа быць об'ектыўным і суб'ектыўным. Об'ектыўны зьмест там, дзе прычыны (крыніцы творчасьці), што ўплываюць на мастацкую організацыю індывідууму і г. д.,—знаходзяцца па-за межамі нашай індывідуальнасьці. Суб'ектыўны зьмест там, дзе прычыны, што ўплываюць і г. д.,—знаходзяцца толькі ў межах нашае індывідуальнасьці. Калі той ці іншы факт, праява ў прыродзе або ў грамадзкім жыцьці, уплываючы на мастацкую організацыю індывідууму, выяўляецца ў пэўнай літаратурнай форме,—то гэта зьмест об'ектыўны (Сьмерць Міхала, Зіма ў Парэччы ў „Н. З.“ Я. Коласа).

Калі-ж на мастацкую організацыю ўплывае той ці іншы факт псыхічнага стану індывідууму,—то гэта зьмест суб'ектыўны (Містыка каханьня ў лірыцы Ясакара). Зразумела, што кожны факт псыхічнага стану ў апошнім падрахунку грунтуецца на нейкіх знадворных прычынах (крыніцах), але гэтыя знадворныя прычыны выяўляюцца ў гэтым выпадку не ў такой меры беспасярэдна, як у выпадку першым, а раствараюцца ў псыхолёгічнай організацыі індывідууму, там абсолютна зьмяняюцца якасна і ўжо як гэткія, чыста суб'ектыўныя, выяўляюцца ў тэй ці іншай літаратурнай форме. Іначай гэту думку можна формуляваць вось як: у першым

[1]) С. Я. Вольфсон. Диалектический материализм. Изд. IV, стр. 94.

выпадку, зьмест, выяўлены ў пэўнай літаратурнай форме, ня губляе выгляду об‘ектыўнай рэальнасьці, у другім выпадку ён гэткі выгляд траціць і набывае характар рэальнасьці суб‘ектыўнай.

Гэтак мы разумеем зьмест у літаратурным мастацтве. А як азначыць форму? Пад формай трэба разумець усё тое, што застаецца ў мастацкім творы, адняўшы ад яго зьмест.

---

Гісторыкі літаратуры дагэтуль ня могуць вынайсьці такога унівэрсальнага азначэньня для паняцьця романтызм, якое-б аднолькава разумелася і аднолькава здавальняла ўсіх. Можа ніводзін тэрмін у літаратурнай навуцы і крытыцы ня ўжываецца так часта, як романтызм, і ў той-жа час не зьяўляецца больш імглістым, больш неазначаным, чымся ён. Некаторыя шукаюць характэрных уласьцівасьцяй гэтага паняцьця ў ідэолёгічнай сыстэме сьветаразуменьня тых поэтаў і пісьменьнікаў, якіх звыклі лічыць романтыкамі. Іншыя шукаюць гэта ў псыхолёгічных глыбінях сьветаадчуваньня гэтых поэтаў і пісьменьнікаў-романтыкаў. Ёсьць і такія, якія здавальняюцца тут цалкам павярхоўнымі і выпадковымі рысамі романтызму, як, напр., наш крытык І. Акушка, які разумее романтызм, як „адцягненьне ад звычайнага, будзённага, імкненьне да «бязьмежнага», высокага, нейкая напружанасьць перажываньняў, нейкая бунтаўнічасьць у адносінах да мяшчанскіх укладаў жыцьця“. Азначэньне гэта, праўда, старое, карысталіся ім розныя падручнікі па гісторыі літаратур, але, ня гледзячы на гэта, яно ў паняцьце романтызм ня ўносіць жаднае яснасьці. Што такое—адцягненьне ад звычайнага, будзённага? Ці І. Акушка разумее тут фантазьяваньне, ці мо‘ ідэолёгічную значнасьць твораў, ці мо‘ урэшце мастацкае адтварэньне ня звычайных, ня будзённых, а надзвычайных, гістарычных (але рэальных) выпадкаў і падзеяў у прыродзе і грамадзянстве, як, напрыклад, землетрасеньне, вайна, рэволюцыя? Нявыразна. А гэта вельмі важна, бо і пісьменьнікі-рэалістыя ў сваёй творчасьці адбіваюць гэтае надзвычайнае (у апошнім сэнсе). „Імкненьне да «бязьмежнага», высокага“—і гэта ўласьцівасьць характэрна ня выключна для романтыкаў. Л. Талстой у романе „Вайна і мір“ гэтак сама імкнуўся да „бязьмежнага“, высокага, бо імкнуўся выявіць істоту духу чалавека, стану, нацыі, эпохі, высокага, бо прасякнутага верай у нязьмерную моц гэтага духу (Каратаеў). „Напружанасьць перажываньняў і бунтаўнічасьць“— усё гэта таксама на кожным кроку спатыкаем і ў рэалістых (Тургенеў, Гогаль у „Мёртвых душах“).

Нам здаецца, што романтызм магчыма азначыць, як літаратурную плынь, на хвалях якой падымаюцца творы з суб‘ектыўным зьместам. І запраўды, калі мы з гэткім крытэрыем падыдзем да тых пісьменьнікаў, якіх звыклі зваць романтыкамі, то мы пераканаемся, што маем рацыю. Творы Новаліса, гэтага тыповага з тыповых нямецкіх романтыкаў („Гымны

ночы“, „Фрагмэнты“, „Вучні ў Саісе“ і інш.) наскрозь прасякнуты гэтым суб‘ектывізмам, а нават містыцызмам зьместу. Гэтае самае мы бачым і ў Клеманса Брэнтано, Арніма, Гофмана, з якімі найшчыльней зьвязан найвыдатнейшы прадстаўнік сучаснае нова-романтыкі (сымболізму) Мэтэрлінк. Гэтую-ж зьяву мы бачым і на ангельскім грунце. Тыповымі романтыкамі зьяўляюцца тут Кольрыдж, Соут‘і, Томас Мур і гэніяльны лірык Шэльлі,—творчасьць усіх іх наскрозь суб‘ектыўная ў сваім зьмесьце. Француская, расійская і польская літаратуры гэтак сама даюць шмат прыкладаў у гэтым кірунку.

Калі-б мы зьвярнуліся цяпер да тых пісьменьнікаў, якіх звычайна адносяць пад рубрыку рэалістых, то заўважылі-б тут зусім адваротнае— творы іх наскрозь прасякнуты об‘ектыўным зьместам. Гэта так відавочна, што прыводзіць прыклады тут лічым непатрэбным.

Пісьменьнік-романтык чэрпае для свайго творчага натхненьня матар‘ял, мотывы, настроі з крыніцы суб‘ектыўнае. з сваіх суб‘ектыўных псыхічных перажываньняў.

Пісьменьнік-рэалісты чэрпае для свайго творчага натхненьня матар‘ял, мотывы, настроі ў крыніцы жыцьця грамадзкага ці жыцьця прыроды.

Адгэтуль, романтызм можа быць толькі індывідуальным. Соцыяльнага романтызму, да якога дадумаўся І. Акушка, няма і быць ня можа. Бо як толькі пісьменьнік об‘ект свайго натхненьня вырве з рамак свае індывідуальнасьці, перанясе на грамады,—гэтым самым ён перастае быць романтыкам і становіцца рэалістым. І там, дзе перад намі ў сучаснай літаратуры выліваецца пафос рэволюцыі, грамадзкае натхненьне ў гэтым рэволюцыйным змаганьні, грамадзкая вера ў выстаўленыя эпохай ідэалы соцыялістычнага будаўніцтва, грамадзкае бунтаўнічае парываньне да гэтых ідэалаў, грамадзкая ўзьнёсласьць настрояў,—там перад намі не соцыяльная романтыка, а мастацкі рэалізм, бо праз такі твор выяўляюцца ня факты суб‘ектыўных перажываньняў, а факты рэальнае об‘ектыўнае рэчаіснасьці.

Рэалізм і романтыку дагэтуль разглядалі мы выключна з боку зьместу літаратурных твораў. Якія, аднак, характэрныя рысы мастацкай формы гэтых літаратурных плыняй? Нам здаецца, што мы ня ўхілімся ад ісьціны, калі згодзімся з наступным: 1) Літаратурная форма твору з об‘ектыўна-грамадзкім зьместам звычайна (у гэтым нас пераконваюць літаратурныя факты) бывае грамадзкай, г. зн. даступнай ня толькі тым ці іншым індывідуумам, а цэлым грамадам. Рэалістычны твор у сваёй літаратурнай форме зразумелы абсолютна ўсім. Да разуменьня яго зьместу патрабуецца пэўная падгатоўка, якая патрабуецца наогул, калі мы хочам зразумець тыя ці іншыя праявы об‘ектыўнага жыцьця. Але ў сваёй літаратурнай форме такі твор зразумелы для ўсіх. 2) Літаратурная форма твору з суб‘ектыўным зьместам можа выяўляцца ў форме неграмадзкай,

у форме індывідуальнай, якая мо' найлепш пасуе да выяўленьня самых рознастайных адценьняў гэтага суб'ектыўнага зьместу, але якая часта незразумела і недаступна шырокім грамадам (нэо-романтыка ва ўсіх яе праявах—сымболізм, імпрэсыонізм, футурызм, імажынізм).

---

Заканчальны рубеж XIX сталецьця. Літаратурнае мора ў агульна-эўропэйскім маштабе бурліць і бушуе. На хрыбтох яго разьюшаных хваль раз-по-раз мільгацяць новыя, нейкія дзіўныя, дагэтуль як-бы мала знаныя вытворы літаратурнага мастацтва. Яны то вабяць да сябе навізной сваіх форм, нячуваным дагэтуль размахам і самабытнасьцю музыкі, фантастычна дзіўнымі сплётамі колераў і малюнкаў, вабяць да сябе тымі гарызонтамі, якія трымцяць праз сьнежна-імглістае мярэжыва гэтых пеністых хваль,—то дражняць і абураюць сваёй імпэтнай брутальнасьцю, сваёй мутназьменнай нявыразнасьцю, хаотычнай навальнасьцю ў сваіх ідэалах.

Лязуровы крышталь мастацкага рэалізму, ясны і празрысты, які на працягу каля поўсталецьця атуляў літаратурную творчасьць, здрузготан і разбуран. Новая варожая навала вось-вось пахавае яго рэшткі ў бяздонных нетрах гісторыі.

Літаратурная сцэна перабудоўваецца ў стылю модэрн. Заядлая барацьба за галоўныя ролі на гэтай сцэне—характарызуе канец XIX і пачатак XX сталецьця.

Сымболізм, імпрэсыонізм, а далей—эго і кубо-футурызм, экспрэсыонізм, імажынізм, цэнтрофугізм, акмэізм і безьліч іншых ізмаў... Усё гэта кружыцца ў нястрыманым віхры новых парываў і кірункаў, новых шуканьняў і руйнаваньня старога, у віхры ўзаемнага самазьнішчэньня.

І цікава, што ўся гэта літаратурная бура з павярхоўнага боку ахварбована ў колеры формальных шуканьняў. Проблемы ідэолёгічнага зьместу як-бы загубіліся ў гэтым літаратурна-формальным хаосе. Адбываецца змаганьне як-бы выключна за форму. Але гэта толькі павярхоўны малюнак. Форма—гэта толькі вынік зьместу. Змаганьне за форму ў сваёй істоце зьяўлялася змаганьнем за новы зьмест. На рубяжы XIX сталецьця літаратурная рэволюцыя завіхрылася не на грунце форм, а на грунце ідэолёгічнага зьместу літаратурных твораў. Ультра-індывідуалізм філёзофіі Ніцшэ і эстэтыкі Оскара Уайльда зьмяняюць папярэднюю эпоху грамадзкасьці. На месца ідэалаў грамадзкіх выстаўляюцца ідэалы індывідуальныя. Грамадзкі рэалізм бадай ва ўсіх эўропэйскіх літаратурах знатакован з боку эстэтычнага індывідуалізму. Паяўляецца містыка. Зварот да романтыкі. А ў выніку ўсяго гэтага на месца грамадзкай літаратурнай формы мастацкага рэалізму паяўляюцца рознастайныя праявы індывідуалістычных форм.

Але там, дзе грамадзкасьць зьместу і ідэалаў ня зьмецена гэтай бурай ультра-індывідуалізму, там, дзе ня было грунту для філёзофіі

Ніцшэ, дзе не запанавала эстэтыка Оскара Уайльда,—там грамадзкая форма мастацкага рэалізму спакойна панавала, не адчуваючы ў адносінах да сябе больш-менш значнае пагрозы з боку тае індывідуалістычнае буры, што бушавала на агульна-эўропэйскіх літаратурных водах.

---

Пачатак XX сталецьця.

На хвалістую паверхню гэтага бурлівага мора выплывае вутлы човен, так, не карабель, а вутлы човен беларускае літаратуры. Дзяўблі гэты човен, праўда, раней, яшчэ ў XIX ст. Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч. Але ня суджана ім было выплыць на гэтым чаўне на шырокія літаратурныя воды. Першага з іх прыбівалі да берагу этнографічныя хвалі, мастацкі імпэт яго губляўся пад напорам магутных вод тагочаснага літаратурна-мастацкага рэчышча, а ідэолёгічная і формальна-мастацкая падваліна, на якой будавалася яго творчасьць, у большай або меншай меры к таму часу лічылася збуцьвелай. Усё гэта перашкаджала літаратурнаму чаўну Дунін-Марцінкевіча адарвацца ад этнографічных берагоў сваёй бацькаўшчыны, дый далёка не ва ўсе букты гэтых родных берагоў меў доступ яго човен.

Ф. Багушэвіч праявіў беспараўнаньня больш моцы і гарту. Яго літаратурны човен на вёслах магутнае ідэолёгіі, пад напорам тагочасных соцыяльных і рэволюцыйных парываў адрываецца ад этнографічных берагоў сваёй бацькаўшчыны, выплывае на больш шырокія літаратурныя воды, так выплывае, але выплывае больш пад знакам нацыянальна-рэволюцыйнага чыну, нацыянальна-рэволюцыйнай пропаганды, чымся пад знакам літаратурнага мастацтва. Апошняе ў яго творчасьці неяк растварылася, загубілася ў бязьмежных глыбінях найрэальнейшае грамадзкасьці, адсунулася ў цень ідэлогічнае велічы зьместу яго твораў. У гэтым і моц і слабасьць Ф. Багушэвіча. І хаця ён зьяўляецца беспасярэднім духоўным бацькам сучаснага беларускага пісьменства, хоць ён заклаў ідэолёгічны фундамант пад гэта пісьменства, хоць ён першы практычна паказаў тую літаратурную плынь (рэалізм), на якую належыць накіраваць беларускае пісьменства,—усё-ткі ня ён, а Янка Купала і Якуб Колас першымі выплылі на вутлым чаўне беларускае літаратуры на шырокія, агульна-эўропэйскія літаратурныя воды.

---

А тагочаснае літаратурнае мора бурліць і пеніцца. А плынь мастацкага рэалізму быццам здрузготана ў літаратурным віраваньні. Новыя формальна-мастацкія шуканьні віхраслупамі праносяцца ўздоўж і поперак гэтага бурлівага літаратурнага мора... А літаратурны човен беларускага пісьменства такі вутлы... А кіраўнічыя яго так юначы, так мала дасьведчаны... Здавалася-б...

---

Пад якім-жа літаратурным знакам выплылі на літаратурныя воды Я. Купала і Я. Колас? Да якой літаратурнай плыні накіравалі яны човен свайго мастацтва? У якія формальна-мастацкія колеры аздобілі яны жаглі сваёй літаратурнай судніны?

Каб адказаць на гэтыя пытаньні, выстарчыць пазнаёміцца з тымі прычынамі, якія, уплываючы на мастацкую арганізацыю гэтых поэтаў, выяўляліся ў тых ці ў іншых літаратурных формах, а гэта значыць пазнаёміцца са зьместам іх творчасьці.

Найлепшым ключом да такога азнаямленьня, бязумоўна, зьяўляюцца прызнаньні самых поэтаў.

У эпіграфе да „Жалейкі“ Я. Купала піша:

Грай, мая жалейка,
Грай, як салавейка!
Апявай нядолю
Апявай няволю,
І грымі свабодна,
Што жыве край родны!

І так прычынамі, што не даюць спакою песьняру, што трывожаць яго мастацкую організацыю, што прымушаюць яго жалейку йграць,— зьяўляюцца *нядоля* й *няволя*, катэгорыі, зразумела, грамадзкага характару, аб чым сьведчаць два апошніх радкі. Грамадзкая няволя й нядоля з навальнага стану існаваньня, праз мастацкую організацыю поэта, выяўляецца ў пэўных формах, літаратурных формах. Прычыны об‘ектыўнага характару прарочаць і зьмест об‘ектыўны твораў.

І пазнаёміўшыся з гэтага погляду з „Жалейкай“, мы пераканаемся, што гэта так. Ад першай і да апошняй старонкі запоўнена яна гэтым грамадзкім, об‘ектыўным зьместам. І нават у тых вершах, дзе на першы погляд, здавалася-б, перад намі суб‘ектыўная лірыка, нават і там, калі заглянуць глыбей у істоту яе—мы бачым той-жа грамадзкі, об‘ектыўны зьмест.

І гэта ня толькі ў „Жалейцы“, „Гусьляр“, „Шляхам жыцьця“, „Спадчына“ і інш. наскрозь прасякнуты гэтым об‘ектыўным грамадзкім зьместам. І калі поэта ў пазьнейшай сваёй творчасьці не абмяжоўваецца тым, каб апяваць няволю і нядолю, а пачынае пераважна йграць на струнах іншых, на струнах змаганьня й парываў наперад, на струнах бунтарскага протэсту супроць рэчаіснасьці,—то й тут перад намі об‘ектыўна-грамадзкі зьмест, то й тут у контурах яго індывідуальнае суб‘ектыўнасьці мы бачым душу не яго, Я. Купалы, а душу беларускага народу, у глыбінях якой губляецца й раствараецца індывідуальная суб‘ектыўнасьць поэты. І так скрозь.

А Якуб Колас?

Прачулы лірык на пачатку сваёй творчасьці, якому, здавалася, часта суб'ектыўныя чыньнікі, чыньнікі, што паходзяць з найглыбейшых нетр мастацкае індывідуальнасьці—

. . . томяць грудзі,
Хочуць песьняй стаць лагоднай...
. . . . . . . . . . . . .
Хочуць выбіцца на сьвет...
(„Песьні жальбы", 7).

Лірык, які, здавалася, цалкам пагружан у бяздонныя крыніцы суб'ектыўнага пачуцьця, суб'ектыўных эмоцый, гэты лірык нават на пачатку сваёй творчасьці быў толькі арфай, на струнах якой іграла сама об'ектыўная рэальнасьць, іграла такую смутна-жалосную, безнадзейна-роспачную сымфонію тагочаснае рэчаіснасьці, тварыла такую панурую легэнду свайго бытаваньня.

І калі пясьняр, выліваючы, здавалася-б, свой суб'ектыўны настрой пяяў—

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў...
(„Песьні жальбы", 14).

—то й тут мы адчувалі, што гэта не суб'ектыўны зьмест яго лірыкі, што гэта не індывідуальнасьць Я. Коласа, што гэта ня крыніца яго суб'ектыўнага лірызму,—а што гэта вобраз, праява нацыянальнае псыхікі беларускага працоўнага народу, які так любіць прывольле шырокіх палёў, які так рвецца да разгарненьня свае нацыянальнае істоты, і якому, на жаль, прыходзілася гібець у ціску няволі, няволі соцыяльнай і няволі нацыянальнай.

Так, об'ектыўны, грамадзкі зьмест запаўняе яго, на першы погляд, суб'ектыўную лірыку. Але-ж і такая лірыка не пераважвае ў творчасьці Я. Коласа. У вялізнай большасьці яго твораў мы беспасярэдна назіраем об'ектыўны, грамадзкі зьмест, поэта-грамадзянін усё паўней і паўней праяўляецца ў мастацкай істоце Я. Коласа. Грамадзкая навала настойна і ўладарна стукоча ў дзьверы яго мастацкае організацыі і праз апошнюю выліваецца напаверх у літаратурных формах, найбольш ёй адпаведных.

Якімі-ж будуць гэтыя літаратурныя формы? Зразумела, гэта будуць формы мастацкага рэалізму. Ды йначай быць не магло! Нельга сабе нават уявіць глыбокую прастату об'ектыўна-грамадзкага зьместу беларускага пісьменства гэтае пары, апранутую ў такія пярэстыя, такія вытворныя, такія крыклівыя, такія дзіўныя і незразумелыя шаты, якімі так любяць гуляць гэтыя рознастайныя... ізмы літаратурнага модэрну. Нельга

сабе ўявіць! Грамадзкі зьмест вымагае грамадзкае формы, а такой формай, як мы бачым, можа лічыцца толькі форма мастацкага рэалізму.

Гэтакім парадкам, з грузам об'ектыўнага зьместу, пад знакам мастацкага рэалізму, як літаратурнае формы, выплыў на бурлівыя літаратурныя воды човен беларускага пісьменства пад кіраўніцтвам Я. Купалы і Я. Коласа. І гэты груз быў такі ёмкі, што хвалістая паверхня мора ня здолела яго вывернуць у сваю вотхлань; а літаратурная форма, здавалася-б, ужо ўстарэлая, пад уплывам сьвежасьці й навізны зьместу, пад уплывам такой велічы грамадзкае ідэолёгіі,—гэтая літаратурная форма, як-бы абнавілася, запраменявала ў самабытных пералівах, разгарнулася ў сваіх новых глыбока-мастацкіх праявах, выявіла столькі яшчэ нескажытае моцы, што на яе жаглях вутлая судніна беларускага пісьменства пераможна баразьніла паверхню літаратурнага мора і сьмела шыбала туды, дзе ў імгліста-праменных далях віднеліся абрысы абяцанае зямлі, адраджонае айчыны.

Гэтак было напачатку.

А далей, побач з Я. Купалай і Я. Коласам, мы ўжо бачым цэлую грамаду беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў, здольных мастацкіх талентаў. Да і вутлы човен ужо ня човен, а карабель, які ўжо ня губляецца паміж хваль літаратурнага мора, які сваімі сьнежнымі жаглямі сьмела ўпіраецца ў нябесны блакіт. Ня вутлы човен, а карабель, так. Але літаратурны груз на ім той самы, павялічаны ў колькасьці і ўрознастайнены ў зьмесьце,—гэта об'ектыўная грамадзкасьць, а літаратурны знак—той-жа мастацкі рэалізм. І калі некаторыя з плеяды беларускіх поэтаў і мелі нахіл у бок літаратурнага модэрну (М. Багдановіч у большай, Ясакар у меншай меры), калі і Я. Купала і Я. Колас некаторымі момантамі сваёй творчасьці (першы сваімі драмамі „Сон на кургане“, „Раскіданае гняздо“, другі сваёй романтычнай поэмай „Сымон Музыка“) аддалі сваю даніну павевам романтыкі,— то агульны, характар беларускага найноўшага пісьменства заставаўся тым самым, што й на пачатку XX ст., г. зн. об'ектыўна-грамадзкім у зьмесьце і рэалістычным у сваёй форме.

## II

Соцыяльная рэволюцыя. Стары уклад жыцьця зруйнован. Ідэалы, якімі дагэтуль жыла пераважная большасьць грамадзянства, якія былі кіраўнічымі ў жыцьцядзейнасьці гэтага грамадзянства, неяк раптам старэюць і, як спарахнелыя лахманы, звальваюцца з маладога, адраджонага, новага жыцьця. Адбываецца пераацэнка каштоўнасьцяй.

Зьмяняецца і павярхоўны малюнак беларускага пісьменства. Здаецца, быццам апынулася яно на раздарожжы і ня ведае, куды йсьці і што рабіць. Нядоля й няволя беларускага працоўнага народу, якая такі вялізны кут займала дагэтуль у беларускай літаратуры, дагарае на чырвоным полымі Кастрычнікавае рэволюцыі. Нацыянальныя ідэалы пера-

стаюць быць ідэаламі ў саміх сабе і неяк меркнуць на фоне інтэрнацыянальных мэт і імкненьняў. Абяцаная зямля, адраджоная айчына, на якую так горача-натхненна маліліся нашы песьняры, аб якой так глыбака-лірычна лятуцелі яны ў сваіх творах, якая была сваімі ймглістымі далямі такой невычарпальнай крыніцай для іх мастацкага натхненьня,—гэтая айчына, адраджоная, вызваленая з векавечнае няволі, раптам сталася рэальнасьцю. Грамадзка-рэвалюцыйныя поклічы й лёзунгі, якія надавалі такога імпэту й моцы нашаму пісьменству і якія вялі за сабой грамады ў гэтую ймглістую даль будучыны, на спатканьне й адбудаваньне айчыны, на паляпшэньне соцыяльнае долі беларускага селяніна,– гэтыя поклічы й лёзунгі не адпавядалі больш сучасьнасьці, сталіся няжыцьцёвымі, бяскроўнымі й непатрэбнымі.

Замоўклі ліры найвыдатнейшых нашых карыфэяў, прыцішыўся да мінімуму пульс беларускага літаратурнага жыцьця, пачалі травой зарастаць літаратурныя сьцежкі. А калі й прабівалася дзе на паверхню літаратурнае жыцьцё, то гэта здавалася нам водгаласам мінулага, здавалася нам рэштками папярэдняга літаратурнага разгону.

Здавалася, беларуская літаратура выбіта з свае ранейшае каляіны, а новыя каляіны яшчэ не пракладзены, дый хто іх пракладзе!

Аднак пачынальнікі знашліся, знашліся песьняры, якія хвалебнымі гымнамі спаткалі Навіну, якія цалкам пагрузіліся ў жыцьцятворчыя глыбіні гэтае Навіны, якія прысяглі быць вернымі й адданымі служкамі гэтае Навіны. І на першым месцы ў іх ліку быў Цішка Гартны. Гэта ён першы ўлавіў рытм новага жыцьця, гэта ён першы пачуў на струнах сваёй ліры жыцьцятворчыя павевы новага жыцьця, гэта ён першы засьпяваў гымн-малітву гэтаму новаму жыцьцю, ён—Цішка Гартны.

А беларускі парнас упарта маўчыць... І песьня Ц. Гартнага рызыкавала яшчэ доўга заставацца адзінокай, рызыкавала загубіцца ў нетрах злавешчае літаратурнае цішы, каб не далучыліся да яе галасы маладых песьняроў, дзяцей рэволюцыі; і ў першым шэрагу гэтых новых, маладых галасоў—быў Міхась Чарот. Прагучэла новая песьня, гучназвонная песьня. І, здавалася, што іменна гэта песьня, маладая, новая песьня прабудзіла з літаратурнага летаргу старое літаратурнае рэчышча. Здавалася, што стары беларускі парнас пад уплывам гэтае новае плыні памаленьку пачынае падаваць голас, гэтак сама новы голас, а калі й ня новы, то значна падноўлены.

Гэтак выглядае павярхоўны малюнак беларускага пісьменства ў пасьлякастрычніцкай сучаснасьці, гэтак здавалася, і гэтак думалі.

Ці адпавядае гэты павярхоўны малюнак рэчаіснасьці, ці ў істоце Кастрычнікавая рэволюцыя прынесла крызіс старому рэчышч беларускае літаратуры, спараліжавала яе, адарвала гэтую літаратуру ад сучаснасьці—гэта мы папрабуем праанялізаваць ніжэй.

---

*Я. Купала.* Яго ліра на працягу 1920-21 г. ўпарта маўчыць. На старонках тагочаснага друку (часопісь „Вольны Сьцяг“, газэта „Савецкая Беларусь“)—ні радка. Што такое сталася з песьняром? Ці новыя падзеі спаралiжавалі яго мастацкі талент? Ці мо перад намі творчы заняпад? Чаму маўчыць пясьняр, той пясьняр, які дагэтуль вёў за сабой грамады, словы якога зьявіліся-б такім бальзамам, такім ясным праменем у тую бурлівую пару? Чаму ён перастаў тварыць?

Так здавалася, і так думалі.

Канец 1921 г. Сьнежань. На старонках „Вольнага Сьцягу“ паяўляецца доўгачаканы Я. Купала. Паяўляецца з „Песьняй аб паходзе Ігара“. Так, у дваццатым веку, у тую пару гэтага веку, калі грамадзкае жыцьцё нястрымана кружыцца ў віхраслупе рэволюцыі і рэволюцыйных войн, калі гэтае жыцьцё ў нейкім шалёным урагане з хвілін творыць эпохі, калі ўсё жыве толькі для гэтай, здавалася-б, сёньнешняй хвіліны, калі ўсё мобілізуецца для гэтае хвіліны,—у гэты момант той пясьняр, які праз усю сваю творчасьць прарочыў наступленьне такой пары, які так натхненна заклікаў працоўныя грамады на спатканьне гэтае пары,—поэта-грамадзянін, поэта-заклікачы ў гэты момант з глыбокіх нетр старасьветчыны выносіць на сьвет „Песьню аб паходзе Ігара“.

К чаму ў такі момант гэта „Песьня“? І ад якіх гэта часоў поэта-грамадзянін пагрузіўся ў літаратурны акадэмізм?

А калі падзеі рэволюцыі і папхнулі яго музу ў бок акадэмізму,—дык пашто ім хваліцца ў такі момант, пашто дражніць гэты момант, які вымагае службы сабе і ад мастацтва, які мобілізуе мастацтва для сваіх услуг! Ці гэта ня яўны выклік эпосе?

Так думалі, і так здавалася.

Але прыглядзьмася бліжэй да „Песьні“. Ці запраўды зьяўляецца яна такім прыкрым дысонансам на фоне тагочаснае пары? Ці запраўды зьяўляецца яна ўвасабленьнем толькі літаратурнага акадэмізму? Ці запраўды няма жаднай сувязі паміж ёй і эпохай?

Прыгледзьмася.

Вось адрывак з прэлюдыі да „Песьні“:

Дык пачнём-жа мы, брацьці, сказ гэты
Ад старога Ўладзіміра летаў
Да сучаснага Ігара-воя.
Што скуў розум свой сілаю ўдвое,
Навастрыў сваё сэрца адвагай,
Барацьбянай напоўніў дух смагай
І павёў цераз сёлы і вёскі
Свае дужыя, храбрыя войскі
На зямлю Палаўчан, на змаганьне
Ды за Рускай зямлі бытаваньне!

Ці-ж ня вее з гэтых радкоў рытмам сучасьнасьці? Што-ж адбываецца ў 1921 г. на зямлі Палаўчан старадаўных? Прыпомніце! Дык хто гэты „Сучасны Ігар-вой“, і што за „дужыя, храбрыя войскі“?

А далей:

Тут дружыне сваёй ён і кажа:
„Ой, вы, брацьці мае, і дружына!
„Лепей будзе, каб кожны з нас згінуў,
„Чымся быць *усім нам у палоне* [1]).
„Сядзьма-ж, брацьці, на быстрыя коні
„Ды на Дон сінявокі паглянем!“

Хто з нас ня чуў на кожным кроку ў гэту эпоху рэвалюцыйных войн літаральна такіх заклікаў? І ці-ж ня йшлі тысячы й дзесяткі тысяч працоўных на пэўную згубу, абы толькі ня „быць усім нам у палоне“.

Але чаму-ж такі страшны гэты „палон“?

Чытайце ў „Песьні“:

„А па Рускай зямлі, як гняздо тое рысяў,
„Чарадою скрозь Полаўцы параспаўзьліся.
„Ўжо ўзьнялася над хвалай благая пахула,
„*Ўжо насільле над воляй усьсела—спінула* [1]).

Падаў я тут не адзіночныя радкі „Песьні“. З усёй яе так і напрашваецца проэкцыя ў сучаснасьць (1920—1921 г.), уся яна зьяўляецца праобразам, сымболем таго часу, а мясцамі—гэта найрэальнейшы малюнак гэтае сучаснае барацьбы на зямлі Палаўчан старадаўных.

Возьмем яшчэ, як прыклад, апісаньне гэтых дзьвёх сьмяртэльна-варожых сіл. Вось войска „сучаснага Ігара-воя“:

„А мае-ж Куршчане любы
„Табе ведамыя кметы:
. . . . . . . . . . . . .
„У іх нацягнутыя гукі,
„Нарыхтованыя стрэлы;
„Шаблі вострыя у рукі
„Пахапалі, дзержаць сьмела.
„Як ваўкі сівыя ў полю,
„Самі мчацца ў бой крывавы,
„Каб здабыць сабе *чэсьць, волю* [1]),
„Каб прыдбаці князю славы!“

А вось як выглядае войска Палаўчан:

„Ой, ня сокалаў несла віхурай
„Цераз поле шырокае бура!—
„А каціліся галіцы стадам
„Да вялікага Дону з нападам...

---

[1]) Курсыў наш. Ул. Дз.

Ці не справядлівы малюнак пасьлякастрычніцкай сучаснасьці? І ці-ж ня ўжывалася слова „галіцы“ (груганы, вараньнё) эпітэтам да гэтае варожае сілы, што „параспаўзлася“ па зямлі Палаўчан у 1920-1921 г.? Трапна!

Яшчэ малюнак:

На зямлі тады Рускай узбуранай
Рэдка пеў аратай за сахою,
Груганьнё зато часта пагрумквала,
Ў полі дзелячы труп між сабою.

Так. Але такое становішча ня будзе больш цягнуцца.

І ні табе, Палаўчаніне,
Чорны паганы гругані!..
Крыўдзе тваёй не спакорыцца
*Вольны* Алегавы стан.

А ці апісана ў сучаснай рэволюцыйнай поэзіі аканчальная перамога над чорнымі сіламі Ўрангеля прыгажэй, яскравей, больш магутна і парыўча, чымся вось гэтае апісаньне „Песьні“:

... Ён-жа не для прылікі
Грозьбаю быў над варожымі сіламі злымі
З войскам харобрым сваім і мячамі стальнымі.
На Палавецкія землі нагой наступіўшы,
Ўзгоры і яры пакуль не стаптаў, стуль ня вышаў.
І замуціў там вазёры і рэкі ў чаротах,
І засушыў там крыніцы і дрыгвы-балоты,
*А паганага Кабяку з узлучыны морскай,*
*Як бураломнае віхрышча, выхапіў дзёрзка...*

Так ці-ж „Песьня аб паходзе Ігаравым“ у 1921 г. была няпрыемным дысонансам? Ці-ж няма ніякай сувязі паміж ёй і тагочаснай сучаснасьцю?

У момант найвялікшага напружаньня працаўнікоў, калі лёсы рэволюцыі вырашаліся сілай збройнай там, на палёх Палаўчан старадаўных, у гэты момант прагучэла „Песьня“. З бяздонных нетр гісторыі яна, вынесеная на сьвет на струнах ліры поэты-грамадзяніна, загаманіла можа несьвядома, можа цалкам выпадкова, але загаманіла ў тон з сучаснасьцю. І ў гэтым гомане сплялася медзь старажытнага вечавога звону з покліччам „Вызваленьне працаўнікоў“ у сучаснасьці; і ў гэтым гомане спляліся лязгатаньне мячоў „хералужных“ а шчыты паганыя з грымотамі барацьбы 1920-21 г. там, у стэпах Украіны і Дону „сінявокага“; і ў гэтым гомане сплялася слава „кметам“ Куршчыны старадаўнай з славай кметам сучасным—чырвоным гэроям. Гэта „Песьня“ была сынтэзам дзьвёх вялікіх эпох, разьдзеленых у гісторыі сталецьцямі.

І бадай ці знойдуцца ва ўсёй сучаснай рэволюцыйнай поэзіі больш магутныя радкі, больш натхненныя вобразы, больш яскравыя малюнкі

барацьбы над Донам сінявокім, —чымся тыя, што мы спатыкаем у „Песьні". І калі мастацтва было мобілізавана ў тэй вялікай барацьбе, калі мастацтва павінна было быць тым хмелівам, якое-б „барацьбянай напаўняла дух смагай",—то ў першых шэрагах такога мастацтва павінна была-б стаяць „Песьня аб паходзе Ігара".

У гэткім выглядзе паўстае перад намі „Песьня" з пункту погляду пасьлякастрычніцкае сучаснасьці. Гэта адна старана яе.

А другая! Верш, гучназвонны верш Я. Купалы, які, здавалася, дасягнуў ужо кульмінацыйнага пункту, гэты верш у „Песьні" запраменіўся новымі бляскамі. „Песьня"—гэта закончаная музыкальная сымфонія кожная частка якой пяе дзіўную мэлёдыю, кожная струна якой гучыць самабытнымі тонамі, а ўсё разам зьліваецца ў нязвычайнай чароўнай гармоніі. З гэтага боку „Песьня" зьяўляецца запраўдным шэдэўрам беларускае найноўшае поэзіі. А вобразы! Выпуклая рэльефнасьць і яскравасьць старадаўнага орнамэнту адцянёвана на фоне сучасных дасягненьняў поэтыкі, апавіта зялёным блюшчам вялікага жывога пачуцьця. „Песьня", як найкаштаўнейшая пэрла літаратурнага мастацтва, узбагаціла скарбніцу беларускага пісьменства.

Але расстанемся з „Песьняй".

1922 г. Перад намі зборнік вершаў Я. Купалы—„Спадчына". Гэты зборнік зьяўляецца беспасрэдным працягам вядомае сэрыі яго твораў— Жалейка, Гусьляр, Шляхам жыцьця, ён беспасрэдна прымыкае да іх сваймі мотывамі і настроямі. Дый вершы, сабраныя ў ім, адносяцца да 1906-1918 г.г. Праўда, у некаторых вершах зборніку, азначаных пераважна датай 1918 г., заўважваецца, як тая непасрэдная юнацкая парыўчасьць і гартоўнасьць вершу Я. Купалы замяняецца пэўнай доляй вытворнасьці, вышуканасьці, у якіх перавагу над поэтам, натхненным энтузіастым бярэ поэта-стылісты, поэта-тэорэтык, спакушаны ў чыста формальных шуканьнях. Апрача гэтага, разгляданы зборнік вызначаецца з ліку ранейшых пэўным нахілам у бок суб'ектыўнасьці зьместу. Элемэнты романтыкі выступаюць відавочна ў вязанцы „Яна і Я", вязанцы, сплеценай з буйных каласоў найшчырэйшага пачуцьця, і ўпрыгожанай васільковым зорамі найкволынага каханьня; цэлы шэраг вершаў разьдзелу III-га таксама агорнут вэлюмам романтыкі.

Далей, „Эрос і Псыха" (пераклад з Жулаўскага), пераклад Інтэрнацыяналу, песьня на сьмерць Булата, верш „Перад будучынай" і інш.— усё гэта толькі эпізоды, больш або менш значныя, літаратурнае творчасьці Я. Купалы на працягу 1921-1922 г.г.

Перад намі 1924 г. Я. Купала выступае на старонках „Полымя" з трыма значнымі творамі: 1) пераклад з украінскага поэмы „Ленін"— Полішчука; 2) сэрыя вершаў, аб'яднаных загалоўкам „Безназоўнае" 3) драма „Тутэйшыя".

Ня будзем тут спыняцца на поэме „Ленін“. Я. Купала, як перакладчык, даўна вядомы ў беларускай літаратуры з найлепшага боку. Сэрыя яго перакладаў з А. Міцкевіча, М. Канапніцкай дый апошні пераклад з Жулаўскага („Эрос і Псыха“),—назаўсёды застануцца яснацьветам у беларускай поэзіі,—гэта відавочна. Тое-ж можна сказаць і аб перакладзе поэмы „Ленін“. Але ня ў гэтым цікавасьць. Цікава тое, што ліра поэты-грамадзяніна адгукаецца на няйвялікшыя падзеі рэволюцыі. „Песьняй“ поэта адгукнуўся, можа несьвядома, у момант найбольш напружанага змаганьня на паўднёвым фронце; поэмай „Ленін“—адгукнуўся на найвялікшую ўтрату працаўнікамі свайго Правадыра. Гэта трэба заўважыць.

Пераходзім да „Безназоўнае“[1]). Што такое „Безназоўнае“? А гэта гісторыя ў вобразах на крыльлях музыкі а нашым недалёкім мінулым, гісторыя адраджэньня беларускага працоўнага народу, гэта, урэшце, найдасканальшы сынтэз дзьвёх эпох, да і пасьля Кастрычнікавай.

Спачатку яно шалясьцела
    Вельмі нясьмела,
А потым лізнула ваконца
    Ціха, як сонца.

Гэтак распачаўся той рух, вялікі рух соцыяльнага і нацыянальнага вызваленьня беларускага працоўніка. А вось як ён кончыўся:

Па пушчах пашло буралома—
    Дома, за домам.
Бунтарскае грымнула слова
    Аж ад аковаў.
Скаваная сіла паўстала
    Бурай, навалай...
Надзелі чырвоныя кветкі
    Нашы палеткі.

„Скаваная сіла паўстала бурай, навалай“—гэта малюнак Кастрычнікавае рэволюцыі, малюнак зарысованы натхненна спрактыкаванай рукой поэты, вобраз гэніяльны ў сваёй мастацкай прастаце і нязьмернай моцы. Рэволюцыя, як бачыце, не спараліжавала музы поэты! Пасьлякастрычнікавая сучаснасьць знаходзіць у творчасьці Я. Купалы сваё найдасканальшае выяўленьне. Вось як пясьняр малюе гэтую сучаснасьць:

А гоні ўжо узораны,
І сілы распакораны
    Ад паншчынных бядот;
Чакаюць справы жораны—
Зярнятаў не заморaных,
    Чакаюць на ўмалот.

[1]) Полымя № 2 (10), 1924 г.

А лапці і анучыны
Адбэрсаны, адкручаны,
Нуда маўчыць ціхом;
Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.
Лявоніха... мяцеліца...
Бяз памяці вяселяцца...
— Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!
Аколіца-аселіца
Пад ногі сонцам сьцелецца...
Збудзіўся гаспадар!..

І гэты малюнак сучаснасьці яшчэ больш увыпукляецца, адценьваецца на фоне нашага недалёкага мінулага, якое поэта падае ў наступных колерах:

Было яно калісьці,
Калі, як жоўталісьце,
Жылі мы—ня жылі;
Ішлі дні без карысьці
І сорам было выйсьці
У сьвет сваёй зямлі.
Гнаў лісьце злосны вецер
Па полі, па ўсім сьвеце,
За вёску, за сяло;
На нас ляцела сьмецьце,
Бязладзьдзе, беспрасьвецьце,
Пятлю віло сіло.

Так, сынтэз дзьвёх эпох. І цяжка сказаць, якая з гэтых эпох зарысована сьмялей, якая з іх выклікае большае ўражаньне, хаця зарысованы яны ў такіх адменных колерах, хаця прасякнуты яны такой адменнай настраёвасьцю! Той пясьняр, які ў маляваньні гэтае мінулае эпохі, які ў выяўленьні настрою і рытму гэтае мінулае эпохі бадай ці мае сабе роўных, гэты пясьняр і ў маляваньні сучаснасьці ня губляецца ў многалікім гомане тых, хто яго выперадзіў у часе. Бясспрэчным довадам гэтага зьяўляецца „Безназоўнае“ спачатку і да канца.

Спынімся яшчэ на хвіліну на драме „Тутэйшыя“. П‘еса гэта напісана ў 1922 г., у друку паявілася толькі ў 1924 г. Сваім зьместам адносіцца да 1918-1920 г.г.

Гэта п‘еса можа не спадабацца як прыхільнікам ортодоксальнага рэалізму (натуралізму), так і прыхільнікам літаратурнага модэрну. Рэалістыя будуць нездаволены тым, што ў п‘есе ня ўсё жыве, што ў п‘есе больш рэзонэрства, чымся жывой дзеі, што ў п‘есе залішне карыкатуры, што ў п‘есе залішне штучнага. З другога боку можа быць той закід, што

п'еса замала эмоцыянальна, што п'еса ўбога глыбокімі колізіямі, што п'еса пабудована на павярхоўных водрухах людзкіх пачуцьцяў, урэшце, што п'еса замала сцэнічна. Але ўсе гэтыя заганы будуць заганамі чыста умоўнымі, залежна ад таго пункту погляду, з якога падходзяць да гэтае п'есы. Нам здаецца, што ў п'есе трэба шукаць іншага. Не натуралістычнае жыцьцёвасьці, не драматызму перажываньняў, не глыбіні эмоцый, ня сцэнічнай дэкарацыйнасьці, а... сьмеху, сьмеху то пагардлівага, то зласьлівага, а найчасьцей дабрадушнага сьмеху, якім сьмяюцца над тым, што ад нас ужо далёка, што ўжо ня можа забурыць нашага жыцьця, што толькі паяўляецца ў успамінах, а калі яно яшчэ й побач нас, то трусьліва пахавалася ў сваіх норах, а калі й вылазіць з гэтых нор, то мае такі мізэрны, такі плытка-нікчэмны выгляд, што можа нас толькі расьсьмяшыць, і пры тым расьсьмяшыць дабрадушна. П'еса пабудована на схэмах, гэта справядліва. Але ці гэтая схэматычнасьць шкодзіць данай п'есе? Не, бязумоўна, не.

Мольер у сваёй клясычнай комэдыі гэтак сама любіць схэматызаваць цэлыя праявы жыцьця, схэматызаваць цэлыя жыцьцёва-грамадзкія катэгорыі, гэтак сама любіць пэўную карыкатурнасьць зарысаў[1]). І калі гэта схэматычнасьць, зьяўляючыся нязьменнай прыналежнасьцю нова-клясычнай драмы, была вялікім недахватам у трагэдыі, то ў комэдыі гэты недахват неяк губляўся. І запраўды. Цяжка схэмай узварушыць глядзельніка да глыбіні душы, цяжка схэмай выклікаць сьлёзы глыбокіх псыхічных перажываньняў, (заданьні трагэдыі), але схэмай можна выклікаць сьмех (заданьні комэдыі). І Мольер, які ў сваіх комэдыях так блізка падходзіў да рэалізму, які даў сэрыю жывых фігур, гэты самы Мольер там, дзе хацеў сьмехам бічаваць сваю сучаснасьць, дзе хацеў выклікаць сьмех,—карыстаўся схэмай. Але гэтая схэматычнасьць неяк мала адгукнулася на вартасьці яго комэдыі. З гэтага боку належыць падыходзіць і да „Тутэйшыя". П'еса гэта ва ўсёй сваёй драматычнай будове зьяўляецца павевам Мольераўскага гэнія на глебе беларускага пісьменства, зьяўляецца водгукам яго нова-клясычнае комэдыі. Той-жа мотыў еднасьці дзеі, што і ў нова-клясычнай драме, прымушае аўтара „Тутэйшых" усё дзеяньне згуртаваць вакол аднае асобы—Мікіты Зносілова. Гэтая асоба ў яго п'есе і зьяўляецца найбольш жывой, найбольш рэльефнай. Усё іншае як-бы адсунута ў цень гэтае асобы, усё іншае зьяўляецца як-бы дапаўняльным тонам да гэтае асобы. Але гэта ня шкодзіць п'есе, той п'есе, лейт-мотывам якой зьяўляецца бічаваньне сьмехам нашага недалёкага мінулага, а часткай мо' й сучаснага. Больш паважнай зьяўляецца

[1]) П. С. Коган вось як характарызуе Мольера: „...Комедии Мольера, в особенности характеры, страдают общим недостатком ложноклассической драмы. Индивидуальные черты героев нередко исчезают за идеями, и вместо живых лиц получаются олицетворения различных страстей". Очерки по истории западно-европейской литературы. том I, изд. 8, стр. 200.

загана ў несцэнічнасьці п'есы або, лепш кажучы, у труднасцэнічнасьці п'есы. Але гэта ўжо справа больш тэатральная, чымся літаратурная. З літаратурнага-ж боку п'еса цікавая, багатая, а што найважней, цалкам орыгінальная па сваёй драматычнай концэпцыі на беларускай глебе.

---

Абагульняючы паасобныя моманты вышэйшага зарысу творчасьці Я. Купалы ў пасьлякастрычнікавай сучаснасьці, мы павінны падкрэсьліць наступнае:

1) Ліра песьняра не маўчыць, а адгукаецца на найважнейшыя падзеі гэтае сучаснасьці; а калі адгукаецца яна ня так часта, як гэтага нам хацелася-б, то ў гэтым пункце мы павінны памятаць, што маем дачыненьне з мастацтвам, г. зн. такой катэгорыяй, якая не падлягае матэматычным вымерам і якая пакуль што ня жыве паводле календара, хоцьбы нават савецкага.

2) Літаратурныя выступленьні песьняра ня былі дысонансам эпосе, а наадварот, як нельга лепш гармонізавалі з гэтай эпохай.

3) Перастроеная на сучасны лад („Безназоўнае“) ліра песьняра ня ўтраціла сваёй ранейшай моцы, а гучыць так-жа пераможна, як і раней, і мае нават тэндэнцыю заглушыць хоры новага літаратурнага рэчышча.

4) Поэта застаўся верным сабе і пры новых акалічнасьцях, грунтуючыся ў сваёй творчасьці на об'ектыўнай рэальнасьці і выступаючы, як і раней, пад літаратурным знакам мастацкага рэалізму (павевы нэокълясыцызму ў „Тутэйшых“ не запярэчваюць гэтага, бо нэо-клясыцызм бліжэй да рэалізму, чымся да романтыкі).

Усё гэта сьведчыць аб тым, што Я. Купала і ў пасьлякастрычнікавай сучаснасьці (асабліва пачынаючы з 1924 г.) становіцца вельмі значным фактарам прогрэсу ў беларускім літаратурным мастацтве.

---

*Я. Колас.* Ёсьць пісьменьнікі і поэты, творчасьць якіх можна параўнаць да йскрыстых фэйервэркаў, якія зьнячэўку падымаюцца агнёвай куляй пад аблокі і адтуль росным дажджом прамяністых іскар рассыпаюцца, асьвятляючы на момант нізіны, і асьвятляючы пры гэтым часта ў фантастычна-дзіўных, не об'ектыўных колерах; творчасьць іх яшчэ можна параўнаць да навальнічнае буры, якая на крыльлях грымот-пярунаў неспадзявана праносіцца па нябесных абшарах, аздобленая зыгзагамі бліскавіц-маланак, узварушаючы і асьвяжаючы на момант жывую і няжывую прыроду; а часамі творчасьць іх можна параўнаць да вясёлкавай музыкі на матылёвых крыльлях, сатканых з праменьняў сонца; трымценьне гэтых крыльляў выклікае нейкія незьясьнёныя водгукі на струнах нашых эмоцый.

Алё ёсьць пісьменьнікі і поэты, творчасьць якіх—гэта ўжо ня йскрысты фэйервэрк, а ясны і празрысты ранічны золак з усьмехам

сонца на сваіх рамёнах, які, разгарнуўшыся ад краю да краю над цэлай краінай, асьвятляе ў дзённа-рэальных колерах усё, што дзеецца на зямлі; гэта ўжо не навальная бура, якая шпарка праносіцца, пакідаючы па сабе ўспаміны, а гэта летнія раньнія росы, якія бурштынавым сейвам запладняюць працоўныя ролі, якія найразмаітшымі колерамі і адценьнямі ясьнеюць з зелені лістка, што павіс на косах роснага сонца, якія зіхацяць найцуднейшымі дыямэнтамі з расчыненае на спатканьне сонцу кветкі; гэта ўжо не вясёлкавае трымценьне матылёвых крыльляў, а вясёлкавы шлях, які такім сьмелым лукам разаслаўся на нябесным блакіце.

Да ліку апошніх належыць Якуб Колас.

Трыма монумэнтальнымі, так, монумэнтальнымі, творамі ўрос Я. Колас у пасьлякастрычнікавую сучаснасьць. Гэтымі творамі зьяўляюцца: поэма „Сымон Музыка“, поэма „Новая Зямля“ і повесьць „У палескай глушы“. Фактычна, Я. Колас ва ўсёй сваёй мастацкай велічы паявіўся перад намі толькі ў гэтай пасьлякастрычнікавай сучаснасьці. Гэта бязумоўна. Паявіўся ён на фоне гэтае сучаснасьці з літаратурным багажом мінулага, а не сучаснага. І сваёй мастацкай веліччу, і характарам гэтага свайго літаратурнага багажа Я. Колас неяк адасобніўся на фоне гэтай літаратурнай сучаснасьці, як-бы ўвашоў у колізію з гэтай сучаснасьцю, стаўся як-бы нясучасным поэтам і пісьменьнікам. У той час, як гэта сучаснасьць вымагала безадкладных сабе водгукаў у літаратурным мастацтве, вымагала новых, сугучных ёй мэлёдый, муза Я. Коласа гучна даігрывала можа наймацнейшыя акорды тае літаратурнае сымфоніі, якая пачала ўкладацца на шмат год яшчэ перад Кастрычнікам. У гэтым бачылі дысонанс з эпохай, у гэтым вінавацілі поэту. Ці запраўды, гэтыя наймацнейшыя акорды Коласаўскае сымфоніі зьяўляліся разгалосьсем, і нават прыкрым, як некаторыя цьвердзілі, з сучаснасьцю,—папрабуем пераканацца.

„Новая Зямля“ паявілася ў эпоху, калі соцыяльная рэволюцыя з стану ваеннага змаганьня перашла да стану экономічнага змаганьня за сваё існаваньне. І гэтае экономічнае змаганьне не лягчэй за ваеннае. Наадварот. Калі там вымагаўся энтузіазм, натхненнасьць, ваяцкі пафос, у найвялікшай меры напружаньня, хоць-бы на момант, хоць-бы на хвіліну,—то ў гэтым новым экономічным змаганьні вымагаюцца ад працаўнікоў іншыя якасьці: ня хвілёвы энтузіазм, ня бунтарчая парыўчасьць,—а нязломная ўпартасьць і паступовасьць у дасягненьні пастаўленых мэт, ня хвілёвая, а працяжная, бязупынная напружанасьць у змаганьні за дробныя, так, часта за самыя дробныя праявы гаспадарчага жыцьця, за лішні варштат, калясо шрубу на фабрыцы, за лішні рубель, капейку, грош у фінансах, за лішнюю дзесяціну, загон, пядзю засеянай ральлі, за лішні пуд, фунт, жменю збожжа. Зацяжнае заядлае змаганьне пачынаецца на гэтым фронце, адбываецца іншым тэмпам, ставіць перад сабой іншыя заданьні. Побач з фігурай гэроя-бунтара, паўстанца, ваякі-чырвонаармейца, гэроя магутнага ў

сваім парыве, які, натхнёны рэволюцыйным хмелівам, складае сваё жыцьцё за сьвятую справу вызваленьня працаўнікоў, які зброяй тут-жа безадкладна разьвязвае вузлы соцыяльнага зла,—побач з фігурай гэтага гэроя на фоне соцыялістычнага будаўніцтва паяўляецца фігура іншага гэроя, гэроя працы, магутнага не ў сваёй бунтарчай парыўчасьці, не ў сваёй ваяўнічай запальнасьці, а магутнага ў сваёй ціхай, але ўпартай працавітасьці, сваёй ашчаднай гаспадарнасьці, магутнага ў тэй станоўчасьці, з якой ён крочыць з дня на дзень, з году ў год, крочыць і будзе крочыць да раз пастаўленае мэты. Рабочы ля варштата, селянін ля плуга— вось фігуры гэтага новага гэроя. Гэта адно.

А другое гэта тое, што на гэтай будаўнічай сцэне побач з фігурай організаванага прамысловага пролетарыяту вырастае новая постаць,— постаць працоўнага селяніна. Праўда, гэта апошняя постаць выступала і на сцэне Кастрычнікавае рэволюцыі і рэволюцыйных войн, але выступала яна больш у якасьці змаганьніка на ваенных фронтах, чымся організатара новага жыцьця. Цяпер-жа постаць працоўнага селяніна ў цесным аб'яднаньні з гарадзкім пролетарам, выступае ў ролі організатара, будаўнічага, творцы гэтага новага жыцьця. І гэтая роля працоўнага селяніна асаблівага набывае значэньня ў краёх, дзе прамысловага пролетарыяту ня шмат, у краёх, дзе няма буйных прамысловых цэнтраў, у краёх пераважна сялянскіх, якімі зьяўляецца Беларусь.

У гэтую вось эпоху, на пачатку 1923 г., на беларускай літаратурнай сцэне паяўляецца поэма „Новая Зямля", як суцэльны закончаны твор, поэма пісаная на працягу 1911—1923 г. г.

У якой-жа меры пасуе поэма да гэтае пасьлякастрычнікавае сучаснасьці, ці не зьяўляецца яна толькі няпрыемным водгаласам мінулага, ці магчыма з гэтае поэмы перакінуць нейкую злучальную проэкцыю ў сучаснасьць, аб'ясьніць праз яе і пазнаць гэтую сучаснасьць, органічна зьвязаць поэму з гэтай сучаснасьцю,—вось пытаньні, якія слушна паўставалі і паўстаюць перад намі, калі мы хочам ацаніць той ці іншы літаратурны твор з пункту погляду нашае сучаснасьці.

Адказвалі на гэтыя пытаньні парознаму. Прабавалі „Н. З." злучаць з сучаснасьцю тымі праявамі соцыяльна-клясавага змаганьня, некаторыя водгукі якога ў большай або меншай меры праяўляюцца ў поэме; прабавалі гэтую сувязь нашчупаць у тых момантах поэмы, дзе адбіваецца і выяўляецца хараство і прамяністасьць беларускае прыроды; шукалі гэтае сувязі і ў нацыянальных асаблівасьцях беларускага быту, які так мастацка разьвінут у „Н. З". Рабіліся спробы і адваротнага характару. Знаходзілі ў поэме талстоўскае непраціўленства, адкіданьне ўсялякай барацьбы; знаходзілі ў поэме анты-марксыцкую ідэолёгію гэрояў; знаходзілі ў поэме дробна-буржуазную стыхію; найбольшым аднак грахом поэмы лічылі адсутнасьць у ёй бунтарчай фігуры гэроя, на падабенства першага з зары-

сованых намі вышэй. І выносіўся над поэмай абвінавальны прысуд, за яе нясучаснасьць, ці нават за яе антысучаснасьць.

Нам здаецца, што ня гэтымі момантамі ўрастае „Н. З." у сучаснасьць, ня ў гэтым яе заганы і вартасьці з погляду сучаснасьці. Ня ў гэтым.

„Н. З."—гэта эпопэя ня клясавага змаганьня (хаця яно, як мы ніжэй пераканаемся, і праяўляецца ў ёй), эпопэя не нацыянальнага быту, гэта эпопэя ня дробна-буржуазнае, уласьніцкае навалы.

„Н. З."—калі падыйсьці да яе з погляду нашае сучаснасьці—гэта эпопэя вялікае соцыяльнае трагэдыі, якую перажывала беларускае сялянства (дый ня толькі беларускае!) на рубяжы XIX і XX сталецьцяў. Так, соцыяльнае трагэдыі! Але на старонках „Н. З." істота гэтае трагэдыі разгорнута перад намі з цалкам неспадзяванага боку. Сьвядома ці несьвядома, але Я. Колас у „Н. З." раскрыў перад намі найбольш трагічную старонку гэтае соцыяльнае трагэдыі. І мы пабачылі, што ўся бяздонная протхля трагізму ня ў тым, што працоўнае сялянства зносіла вялікую матар'яльную нэндзу, ня ў тым, што яно было прымушана цягнуць ярмо соцыяльнае няволі, ня ў тым! На старонках „Н, З." мы пабачылі, што ўся глыбіня трагізму ў тым, што працоўнае сялянства (прынамсі ў пэўнай сваёй часьці) пад працяжным уплывам гэтага соцыяльнага зла пачало траціць свой клясавы інстынкт, пачало псыхічна дэклясавацца. І паглядзеце з гэтага боку на „Н. З." Міхась—гэрой поэмы — зьяўляецца ўвасабленьнем гэтага трагізму. З аднаго боку нас захапляе, нас узварушвае вобраз чалавека, які суцэльна аддаецца свайму ідэалу, сваёй мэце, які ўпарта, ня гледзячы на жадныя перашкоды, крочыць па шляху змаганьня, не парыўчага, не яскравага, ня хмельна-натхненнага, а змаганьня зацята-спакойнага, бязьмерна маруднага, будзённа-шэрага, змаганьня за гэты свой ідэал, аб якім і ў сьвята і ў будні, і пры рабоце й пры адпачынку, і ў дарозе і ў пасьцелі—ён толькі й марыць, толькі й думае, толькі й моліцца на гэты свой ідэал; нас захапляе чалавек, які праз усё сваё жыцьцё ні на момант не расстаецца з гэтым ідэалам, які ў апошнія хвіліны свайго жыцьця, у хвіліны свайго скананьня апошнімі іскрамі сваёй сьвядомасьці імкнецца да гэтага ідэалу.

І далей. Драматызм поэмы нарастае яшчэ й таму, што гэтая магутная навала бязупыннага імкненьня, што крыніца гэтае невычарпальнае энэргіі ўвасоблены не ў надчалавечных індывідуальнасьцях Байронаўскіх гэрояў, а ўвасоблены ў постаці звычайнага, сярмяжнага, працоўнага селяніна, які сваёй індывідуальнасьцю зрастаецца з індывідуальнасьцю працоўнага колектыву, сялянскае грамады. З другога боку, перад намі фігура селяніна, які відавочна ўтраціў свой клясавы інстынкт перш-на-перш у тым сэнсе, што спадзяецца палепшыць свой матар'яльны дабрабыт тым-жа шляхам, па якім ідуць яго клясавыя ворагі. Ён ня мае веры ў скутэчнасьць колектыўнага змаганьня, ён—індывідуалісты і адзін, сам са-

бой, спадзяецца вырвацца з кіпцюроў соцыяльнага зла. Грамадзкія ідэалы ў яго псыхіцы ўступілі месца асабістым, эгоістычным ідэалам—кавалку ўласнае зямлі. Фальшывы ідэал засланіў сабою ўвесь клясавы горызонт і павабным агоньчыкам заводзіць гэтага селяніна яшчэ далей у багну соцыяльных супярэчнасьцяй. І ва ўсёй сваёй жудаснай велічы разгорнут тут трагічны малюнак; на гэтым малюнку мы бачым магутную фігуру працоўнага селяніна, які згубіў свой клясавы шлях, і ў страшэннай зацятасьці адходзіць што раз далей ад гэтага свайго клясавага шляху, адходзіць у бок варожай сабе навалы; адходзіць і на гэтым шляху свайго блуканьня праяўляе такую моц энэргіі, такую неспажытую сілу працавітасьці, такую бязьмежную адданасьць сваім ідэалам, што выклікае да сябе глыбокае спачуваньне, ня гледзячы на адмоўнасьць свайго тыпу з сучаснага погляду.

Я. Колас у „Новай Зямлі“ ва ўсёй мастацкай шырыні паказаў нам, што пад зрэбнай сярмягай б'ецца магутнае сэрца, б'ецца нястрыманы пульс імкненьня, што пад гэтай зрэбнай сярмягай—невычарпальная крыніца моцы і энэргіі, упартасьці і настойлівасьці; але разам з гэтым паказаў нам трагэдыю ўтраты клясавае сьвядомасьці, паказаў нам процэс дэклясаваньня пэўнае часьці працоўнага сялянства напярэдадні соцыяльнае рэволюцыі. Так, але Кастрычнікавая рэволюцыя станоўча спыніла процэс гэтага дэклясаваньня працоўнага сялянства. На месца фальшывых асабістых ідэалаў яна выставіла ідэалы грамадзкія, на месца прынцыпу індывідуальнага—прынцып колектыўны. Кастрычнікавая рэволюцыя зьявілася тым полымем, якое асьвяціла ўсю ненадзейнасьць, усю мыльнасьць тых няклясавых сьцежак, на якія ўзыходзіла пэўная частка працоўнага сялянства. Так, Кастрычнікавая рэволюцыя павярнула і гэтую частку працоўнага сялянства на шлях клясавага змаганьня, прыняла гэтых Міхась-Антосяў у самае асяродзьдзе соцыялістычнага будаўніцтва.

І паглядзеце, як падобна ў сваім працоўным процэсе фігура Міхася-Антося да фігуры таго новага гэроя, гэроя працы, які ў гэты самы час паяўляецца на фоне соцыялістычнага будаўніцтва. І ня дзіва! Бо хто-ж увашоў у гэтае новае соцыялістычнае будаўніцтва, хто-ж узваліў на свае рамёны ўвесь цяжар і ўсю радасьць гэтага будаўніцтва, як ня тыя-ж Міхась-Антосі?! І можна было быць спакойным за будучыну. Калі Кастрычнікавай рэволюцыі ўдалося паставіць перад працоўным сялянствам замест ідэалу ўласнага кавалка зямлі—ідэал соцыялістычнага будаўніцтва, замест індывідуальнага дабрабыту—дабрабыт колектыўны,—то можна быць упэўненым і перакананым, што працоўнае сялянства ня здрадзіць раз пастаўленым ідэалам новага будаўніцтва, а будзе змагацца за гэтыя ідэалы з усіх сіл, праз усё жыцьцё, аж да апошніх хвілін свайго скананьня, як змагаліся гэроі „Н. З.“ за свой ідэал.

Пасьлякастрычнікавая сучаснасьць у „Н. З.“ атрымала найвялікшую даніну ад беларускага літаратурнага мастацтва, бо атрымала той глыбо-

ка-жыцьцёвы сынтэз, без якога нельга будаваць новага жыцьця, атрымала дэмонстрацыю тых неспажытых сіл, якія можа разгарнуць працоўнае сялянства, абы толькі накіраваць іх у належны бок.

Эпопэя соцыяльнае трагэдыі на беларускай сялянскай глебе зьявілялася найлепшым фонам, на якім адцянёўваліся ўсе дадатныя рысы пасьлякастрычнікавае сучаснасьці. „Н. З.“ у гэты момант зьявілася жывой мастацкай ілюстрацыяй антытэзы соцыяльнае рэволюцыі; у гэтым яе (поэмы) сувязь з сучаснасьцю, з гэтага боку належыць яе і разглядаць.

І ня гледзячы на тое, што сваім сюжэтным шкілетам „Н. З.“ так далёка да сучаснасьці, што па свайму пахаджэньню яна ня дзіцё рэволюцыі, што яна прыбыш з таго мінулага, якое так ненавісна было ў гэту пору,—працоўныя гушчы з найвялікшым энтузіазмам спаткалі „Н. З.“, бо ідэолёгічная веліч гэтае поэмы так відавочна і так зразумела гэтым гушчам, бо шырыня поэтычнага замыслу так магутна, бо жыцьцёвае праўды ў поэме такія бяздонныя глыбіні.

Вось чаму, як пух разьвеюцца ўсе тыя закіды, якія выстаўляліся і выстаўляюцца ў адносінах да „Н. З.“, калі мы падыдзем да поэмы з запраўднай меркай нашае сучаснасьці. У поэме адсутна фігура бунтарчага гэроя, у поэме талстоўскае непраціўленьне, у поэме адсутна барацьба—усе гэтыя закіды беспадстаўны. Уся поэма прасякнута барацьбой на грунце экономічным, на грунце пляпшэньня матар‘яльнага дабрабыту, а хто бачыў барацьбу больш вострую і заядлую за барацьбу экономічную, калі падходзіць да гэтага пытаньня памарксыцку? А хто лічыць, што барацьбяны імпэт можа выліваццa толькі ў форме бунту, паўстаньня, той ні каліва не разумее ў марксызьме, пад сьцягам якога прабуе атакаваць з гэтага боку поэму. Барацьба ёсьць, але ўся моц гэтае барацьбы пакірована не па клясавым шляху, і ў гэтым трагізм мінулага жыцьця, а не недахват поэмы, якой заданьнем якраз і ёсьць выяўленьне гэтага трагізму. І далей. Закідаюць Я. Коласу, што ў „Н. З.“ ня выяўлена марксыцкая ідэолёгія, што ў поэме пануе дробна-буржуазная ўласьніцкая навала, што ў поэме адсутна клясавая сьвядомасьць. Але хто-ж прымушае нас шукаць у поэме абявязкова дадатных з погляду сучаснасьці зьяў? Дый ці жыцьцё складаецца толькі з дадатных зьяў, асабліва мінулае, дарэволюцыйнае жыцьцё? І калі ў поэме разгорнут малюнак гэтых адмоўных з клясавага погляду зьяў, дык ці-ж гэта недахват поэмы?

І калі мы ў праве вымагаць ад кожнага мастацтва такіх элемэнтаў, якія-б дапамагалі нам пазнаваць у самых рознастайных праявах жыцьцё (а на гэта і накіравана ўся дзейнасьць чалавецтва), пазнаваць не інтэлектуальна можа, ня шляхам лёгічных развагаў, пазнаваць эмоцыянальна-інтуіцыйна, у сынтэтычных вобразах,—то мы павінны станоўча адкінуць абвінавачваньне поэмы ў яе антымарксызьме. Дый ці так ужо „Н. З.“ антымарксычна? Калі гэроі яе і не прасякнуты марксыцкай ідэолегіяй, то

затое агульная канцэпцыя поэмы зусім не пярэчыць падставам марксызму. Наадварот. Бо што-ж зьяўляецца асноўным рухоўнікам усіх паступкаў гэрояў поэмы, гэтых антымарксыстых?

А ідэалам іх імкненьняў зьяўляюцца не надземныя лятуценьні, не мэтафізычныя „вечныя" проблемы фаустаўскага толку, а зьяўляюцца найзвычайнейшыя праявы матар'яльнага дабрабыту, праявы экономікі. Ідэалістычнае пакрывала ідэалаў зорвана—і ва ўсёй велічы паўстала перад намі ў „Н. З." іх матар'яльная істота.

Усе іншыя фактары ў поэме, сьвядома ці несьвядома, зацянёваны, адсунуты на другі плян.

Я. Колас—гэты рэалісты з рэалістых, усёй сваёй творчасьцю ўрос у рэальную рэчаіснасьць, асабліва гэта справядліва адносна „Н. З.". І калі ён дае абраз сялянскае псыхікі і быту 90 гадоў м. ст. на Беларусі,—то ў гэтым абразе ня знойдзе фальшу, маны, няпраўды ні гісторык, ні этнограф. Усё ім пачэрпнута з жыцьця, і калі каму не падабаецца гэтае жыцьцё, то нельга-ж быць ультра-індывідуалістым. Оскара Уайльдаўскае школы, нельга вымагаць ад мастацтва таго, чаго яно даць ня можа, нельга-ж вымагаць, каб мастацтва тварыла рэальнае жыцьцё. А хто гэтага вымагае, той перастае быць марксыстым, той выбівае з-пад мастацтва рэальны грунт, той накіроўвае мастацтва ў бок лятуценнасьці, суб'ектыўнасьці. у бок романтыкі. Не мастацтва творыць жыцьцё, а наадварот, мастацтва гэта вынік і водгалас жыцьця,—гэтак павінен разважаць кожны, хто залічае сябе пад сьцяг марксызму.

І найвялікшы мастак той, організацыя якога дазваляе найпаўней выявіцца ў мастацкіх формах гэтаму жыцьцю, творчасьць якога сынтэзуе жыцьцё, сынтэзуе ня суха, не рацыяналістычна (гэта не мастацтва, а навука), а сынтэзуе ў вобразах, сынтэзуе эмоцыянальна.

„Запраўдны мастацкі твор, які імкнецца асьвятліць тыя ці іншыя праявы чалавечае псыхікі, толькі тады пакідае па сабе глыбокае, нясьціральнае ўражаньне, калі твор гэты прымацован да пэўнага месца і часу, калі гэроі яго зьяўляюцца ня сухім увасабленьнем прынцыпу, а жывымі людзьмі, якія жывуць сучаснымі ім інтарэсамі, якія надзелены поглядамі і пераканьнямі сваёй эпохі", і „ня маюць рацыі крытыкі, калі яны вінавацяць аўтара за адсутнасьць у яго творы тэй ці іншай тэндэнцыі, калі яны вымагаюць, каб ён рабіў з нарысованага малюнку вывад, які-б адпавядаў іх уласным ідэалам"—вось погляд запраўднага марксыстага на гэтае пытаньне [1]).

І так, „Н. З.", як мы бачым, ня толькі не знаходзіцца ў разгалосьсі з пасьлякастрычнікавай сучаснасьцю, але найшчыльней органічна зьвязана з гэтай сучаснасьцю, дапамагае пазнаць гэту сучаснасьць і верыць у яе будучыну.

[1]) П. С. Коган. Очерки по истории западно-европейской литературы, т. I, изд. 8, стр. 98 і 93.

Але ці вычэрпваецца гэтым зьмест „Н. З“?

Характэрнай уласьцівасьцю папраўдзе вялікіх, папраўдзе выдатных твораў мастацтва трэба лічыць многаграннасьць іх ідэолёгічнай схэмы. Гэта вялікія згусткі крышталю, сьценкі якога ясьнеюць рознымі колерамі. І ў залежнасьці ад таго, з якога боку зірнем мы на гэты крышталь,— перад намі запраменіцца ён то злота-іскрыстымі бляскамі, то зацянюе цёмнымі фіялетамі. Дзякуючы гэтай многаграннасьці гэніяльныя творы, зьяўляючыся па свайму пахаджэньню продуктам пэўнае клясы і эпохі, перажываюць пакаленьні, эпохі, перакрочваюць межы нацыянальныя і клясавыя, пераходзяць рубяжы розных філёзофскіх і грамадзкіх ідэолёгій. Пакаленьне знаходзіць водгукі сваім настроям, эпоха знаходзіць сынтэз сваіх істотных рыс; нацыя, соцыяльная кляса знаходзіць элемэнты свайго нацыянальнага клясавага я ў агульна-чалавечых зарысах гэтых твораў. Што гэта так, сьведчыць тая нязьлічоная крытычная літаратура, якая награмаджаецца сталецьцямі навакол твораў несьмяртэльных Дантэ, Сэрвантэса, Байрона, Гётэ і інш.

Ідэолёгічная схэма „Н. З.“ гэтак сама многагранна. Толькі што мы прабавалі зразумець яе з пункту погляду нашай сучаснасьці, і перад намі, як мы бачым, разгарнуўся шырокі малюнак, малюнак многазначны, малюнак натхненны. Але гэта толькі адзін бок таго згустку крышталю, якім зьяўляецца „Н. З.“ Падыдзем да поэмы з другога боку, з боку ідэалаў нацыянальнага адраджэньня Беларусі. І што-ж мы пабачым у „Н. З.“? А пабачым мы бязьмежны ў сваёй глыбіні і гэніяльны ў сваёй рэалістычнай прастаце сымболь гэтага нацыянальнага ідэалу, нацыянальнага адраджэньня. Уласная зямля, да якой імкнуўся Міхась, набывае значэньне вялікага сымболю, сымболю ўласнае айчыны. Асабліва гэта адчуваецца ў апошнім акордзе поэмы:

— Антоська!.. родны мой! канаю...
Перагарэў, адстаў, зьнікаю...
Вядзі-ж ты рэй, вядзі... адзін...
Як лепшы брат, як родны сын.
*Бог ня судзіў мне бачыць волі*
*І кідаць зерні ў свае ролі...*
*Зямля... зямля... туды, туды, брат.*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд...*
*На новы лад, каб жыць нанова...*

(„Н. З.“ стар. 284, курсыў наш. Ул. Дз.).

Змаганьне Міхася за ўласную зямлю—сымболізуе змаганьне беларускага працоўнага народу, таго народу, які на працягу сталецьцяў ня меў сваёй айчыны, які быў чужым у гэтай айчыне, таго народу, які, як і Міхась, толькі й марыў, толькі і ймкнуўся да гэтае айчыны, уласнае зямлі, Новае Зямлі, як сымболічна называе поэта сваю поэму. І як Я. Купала ў „Раскіданым гнязьдзе“ ў яўна сымболічных рысах даў сым-

боль Беларусі—руйнаванае і разбуранае і матар'яльна і духоўна, і нацыянальна і соцыяльна, так Я. Колас у „Н. З." даў у цалкам рэалістычных рысах сымболь шуканьня гэтае айчыны, Новае Зямлі, сымболь імкненьня народу да адраджэньня й адбудаваньня гэтае свае „раскіданае" айчыны. І гэтая сымболіка поэмы асабліва ўвыпукляецца на фоне тых лірычных прэлюдый, якімі пачынаюцца разьдзелы „Н. З." У гэтай лірыцы так многа каханьня да бацькаўшчыны, да родных палеткаў, такі энтузіазм нацыянальнага пачуцьця, што „Н. З." пачынае разумецца, як суцэльна-закончаны твор, наскрозь прасякнуты ідэяй нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Вось як выглядае другі бок ідэолёгічнае схэмы ў „Н. З." Пойдзем далей.

Прыхільнік надклясавых і наднацыянальных проблем адкрые ў поэме нязьмерныя горызонты іншага парадку, знойдзе ў поэме найбагацейшыя скарбы агульна-чалавечага. А ў змаганьні Міхася будзе бачыць праяву таго ўласьцівага чалавеку імкненьня наперад, да нейкіх новых, недасяжных ідэалаў, будзе бачыць праяву вечнага нездавальненьня сучасным, вечнага парываньня ў ружовыя далі суб'ектыўных ідэалаў. І праўдзівым ключом да разуменьня поэмы з гэтага агульна-чалавечага погляду зьяўляюцца наступныя радкі:

Ой, вы, дарожанькі людзкія,
Пуцінкі вузкія, крывыя!
Вы сьледам цьмяным снуяцеся
І ўсё блукаеце, бы ў лесе.
Вас горне шлях прасторнай плыні,
І далягляд ружова-сіні,
Дзе так панадна сьвеціць сонца
Дзе думка тчэ свае красёнцы,
Каб новы сьвет жыцьця сатказь,
Заспакаеньне сэрцу даць
І разагнаць яго трывогі...

Ці-ж не адчуваецца ў гэтых радкох рытм, які вырываецца з рамак нацыянальных, рамак клясавых, які вырываецца з рамак свайго часу і падымаецца ў сфэры агульна-чалавечага, не абмяжованага сталецьцямі і эпохамі. І ці не адчуваем мы, што тут аўтар мае на увазе тыя-ж вечна-чалавечыя проблемы, якія ўвасоблены і выяўлены ў постацях такіх гэрояў, як Манфрэд і Каін—Байрона, Фауст—Гётэ, Дон-Кіхот—Сэрвантэса? І яшчэ больш узварушвае тое, што гэтыя проблемы выяўляюцца не праз надчалавечыя постаці вышэйшых гэрояў, а праз постаць сярмяжнага селяніна, які ў сваёй псыхічнай істоце роўны з імі. А трагізм заканчэньня „Н. З."? Міхась памірае на парозе гэтае „Н. З.", на парозе тых ідэалаў, да якіх ён імкнуўся праз усё жыцьцё. Але-ж такі самы лёс бадай усіх гэрояў у сусьветнай літаратуры, тых гэрояў, якія імкнуцца разгадаць неразгаданае, якія

імкнуцца сарваць заслону з будучыны, якія імкнуцца на спатканьне новых горызонтаў—усіх іх спатыкае трагічны разьвязак. Крыльлі гэтага фатуму веюць і над „Н. З.“.

Вось некаторыя моманты зарысу ідэолёгічнае схэмы ў „Н. З.“.

Так, схэма багатая. Але-ж ідэолёгічная схэма не становіць усяго ў літаратурным творы. Зьяўляецца яна толькі шкілетам або душой, як сабе хочаце, твору. Патрэбна яшчэ й цела, жывое, поўнакроўнае цела на гэтым шкілеце—толькі тады твор будзе мастацкім творам. Як-жа справа ў гэтых адносінах з „Н. З.“? Гляньма.

На яе многагранным ідэолёгічным шкілеце вытканы найпрыгажэйшыя ўзоры нацыянальных беларускіх малюнкаў. Беларуская прырода ўпяршыню выступае тут ва ўсім сваім харастве, упяршыню расчыняе перад намі найскрытшыя свае таемнікі, упушчае нас у сьвятое-сьвятых яе хараства. На старонках „Н. З.“ мы ўпяршыню і пабачылі гэтую беларускую прыроду, пабачылі і аслупянелі: гэткія непрабраныя скарбы навокал нас! Гэткае бяздоньне хараства, прамяністасьці! А мы й ня бачылі, пагружаныя ў шэрую імглу нашае будзённасьці, а мы й не дагадваліся, што гэтая прамяністасьць хараства, якой мы шукалі на нейкіх далёкіх, цудных выспах нашае фантазіі,—тут-жа, пад рукамі, побач. На старонках „Н. З.“ нашы вочы ўпяршыню расчыніліся, і мы, замест густых туманаў над гнілымі балотамі, замест верб крывенькіх і ніцых лоз,—пабачылі сонечныя бляскі на квяцістых лугох Наднямоньня і магутныя дубы і крыжаставерхія хвоі, што вартуюць спакой і цішу векавечнага бору.

І яшчэ на стар. „Н. З.“ мы ўпяршыню пабачылі вось які малюнак:

Але паслухай, мілы дружа:
Эх, што за хваля і як дужа,
Разгонна, сьмела і вагромна
Плыве па струнах тых з-пад Нёмна!
Ідуць касцы, зьвіняць іх косы,
Вітаюць іх буйныя росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы.
Касцы ідуць то грамадою,
То шнурам цягнуць, чарадою,
То паасобку, то па пары;
Ідуць касцы, ідуць, як хмары,
І льлецца сьмех іх разудалы,
Як веснавыя перавалы.
Гаворка, шум і коняй ржаньне—
Касьбы вясёлае вітаньне.

А вось яшчэ малюнак:

Угрэла сонца. Жней чародкі
Ідуць паважна, як лябёдкі,
У хустках лёгкіх, кофты белы,
Іх рукі дужа загарэлы.
Ідуць дзяўчаты, маладзіцы
І жарты строяць, як блазьніцы,
Ідуць шумлівы, гаварлівы,
Зьвініць іх голас, сьмех шчасьлівы;
Чутна і песьня маладая,
І поле раптам ажывае.

І гэта не адзіночныя парывы прамяністай радасьці. У адным XXV разьдзеле поэмы гэтай радасьці, вясельля, шумлівага разгону больш, чымся можа ва ўсёй беларускай поэзіі, уключаючы сюды й сучасную. Бурлівае хмеліва радасна-труднай працы селяніна знашло сабе ў поэме найдасканальшае выяўленьне. У „Н. З." мы ўпяршыню пабачылі на фоне прамяністай беларускай прыроды замест „панурых" ратаяў „веснавыя перавалы разудалага сьмеху" касцоў, якія „хваляй дужай, разгоннай, сьмелай і вагромнай" ідуць на працу.

Але і гэта ня ўсё. На ідэолёгічным шкілеце поэмы разьвінуты найдакладнейшыя малюнкі нацыянальнага быту. З стараннасьцю адмысловага этнографістага, Я. Колас у „Н. З." паказаў розныя праявы гэтага быту, часта нават у драбніцах. Але заўважце, што бытавы элемэнт у поэме так памяркоўна і гармонічна сплецены з цэлым, што не адчуваецца ў якасьці знарок дадане этнографіі, наадварот, зьяўляецца неразьдзельнай мастацкай часткай поэмы ў цэлым.

Найбагацей аднак у поэме выяўлена нацыянальная псыхіка беларускага селяніна. З гэтага боку „Н. З.„ зьяўляецца найбагацейшай крыніцай для дасьледваньня гэтае нацыянальнае псыхікі, дый сама поэма ў гэтых адносінах чакае грунтоўнага аналізу ад нашай літаратурнай крытыкі. Каб выявіць гэтую нацыянальную псыхіку, Я. Колас бярэ беларускага сярмяжніка ў самыя рознастайныя моманты яго жыцьця. Тут перад намі—найяскраўшы вянок беларускіх дзіцячых тыпаў, калі:

У іх фантазіі дзяцінай,
Затканай страху павуцінай,
Ўстаюць начныя страхі, здані,
І зыкі чуюцца пагані,
Чараўніка і чараўніцы,
І лопат крыльлямі начніцы.
А кожны куст ім дзеда родзіць,
Таго, што ўсюды лазіць, ходзіць
З мяшком і мыліцай-кульбою
І з доўгай сівай барадою.

Ідзе і дзетак забірае,
Сьлед барадою замятае.
На полі неба лес страхлівы
Стаіць зацяты, нярухлівы.
Што ён ў сабе цяпер хавае?
Снуецца нечысьць там ліхая,
Сьмярцьвец пад ёлкай прытуліўся,
На іх цяпер утарапіўся
І зараз мёртваю рукою
Пачне хрысьціць перад сабою,
Каб рух адняць, скаваць іх сілу,
Каб зацягнуць іх у магілу.
Там ходзіць страшны воўк-бадзяга,
Разбойнік крадзецца, туляга,
З акрываўлёнаю рукою
І з страшнай цяжкай булавою.
Шалёны бегае, пужае,
Каго ні стрэне—ўсіх кусае...

Бачым мы, як праяўляецца гэтая дзіцячая псыхіка і ў навуцы („Дарэктар“, „Начаткі“), і ў гульнях, пры працы й адпачынку; бачым мы гэту псыхіку на фоне летняй прыроды і на фоне дамовага зацішку ў доўгія зімовыя вечары. І трэба сказаць, што каб „Н. З.“ абмежавалася толькі гэтымі зарысамі дзіцячых тыпаў, то і гэта выстарчала-б, каб аднесьці яе да ліку найвыдатнейшых твораў беларускага пісьменства. Але-ж гэтыя дзяціныя зарысы—гэта толькі прэлюдыя да таго псыхолёгічнага малюнку, які расчыняецца перад намі на старонках поэмы ў цэлым. І цікава, што Я. Колас паказвае нам гэты малюнак ня шляхам нейкіх нязвычайных колізій і выпадкаў, а паказвае гэты малюнак на фоне звычайнага жыцьця працоўнага селяніна, на фоне яго скромнай і ціхай працы, на фоне яго простых і будзённых клопатаў і радасьцяй. Нават такія выдатныя праявы ў сялянскім жыцьці, як абрад вясельля, хрэсьбін і хаўтур ня выкарыстан аўтарам для наданьня большай яскравасьці гэтаму малюнку. Яно й зразумела. Гэтая абраднасьць у сучасны момант у значнай меры мае надворна-бытавы характар і не закранае глыбінь сялянскае псыхікі. Толькі адна выдатная праява ў чалавечым жыцьці, праява сьмерці, уплецена ў гэты звычайны, роўны тон. Распрацована гэтая праява ў розных адменьніках („Сьмерць лясьнічага“, „Воўк“), але найвялікшай сілы і драматызму дасягае яна ў апошнім разьдзеле поэмы—„Сьмерць Міхала“. Гэтым разьдзелам „Н. З.“ дадатна выдзяляецца на фоне найвыдатнейшых твораў сусьветнае літаратуры, бо мала дзе праява сьмерці распрацована з большай сілай і глыбінёй, чымся ў нашай поэме.

Яшчэ некалькі слоў а формальна-мастацкіх асаблівасьцях поэмы. Гэты бок творчасьці Я. Коласа наогул і „Н. З.“ паасобку патрабуе

спэцыяльных досьледаў. Гэтых досьледаў беларуская літаратурная крытыка яшчэ ня робіць, а пара-б ужо іх пачаць! Справа ў тым, што ў нас часта ў адносінах да об'ектаў беларускага пісьменства асталёўваюцца нейкія апрыорныя, беспадстаўныя погляды й ацэнкі. Гэтак мы заўважваем пэўную недаацэнку Я. Коласа з боку формальна-мастацкага. У паасобку яго верш выстаўляецца часта, як нямузычны і прымітыўны ў сваёй будове. З гэтым абсолютна нельга згадзіцца. Праўда, у вершы Я. Коласа няма можа тае чыста-надворнае вышуканасьці й ламігалоўчасьці, якую мы заўважваем у пяці-шасьцірадковых творах некаторых маладых поэтаў, у тых творах, уся вартасьць якіх і замыкаецца ў гэтых стылістычных ламігалоўках. Муза Я. Коласа ня чэрпае сабе натхненьня ў гэтых ламігалоўках дый натхненьне яе не зьмяшчаецца ў рамках пяці-шасьцірадковых твораў. Поэзія Я. Коласа зьмяраецца не дзесяткамі радкоў, а дзесяткамі тысяч, дык няма нічога дзіўнага, што спатчэцца тут небагатая рыфма, што сустрэнецца шурпатасьць у рытме. Але нашто падходзіць з гэтага боку! Зьлічэце лепш усе дадатныя праявы яго вершу, зьлічэце дасканалыя рыфмы, падкрэсьліце гучназвонныя рытмы. Прааналізуйце з гэтага боку толькі „Н. З.“, або толькі некаторыя разьдзелы яе,—і тады, я пэўны, верш Я. Коласа стане перад намі ў цалкам іншым выглядзе. Столькі тут багацьця й сілы ў простай і натуральнай музычнасьці, столькі рознастайнасьці й дасканаласьці ў рыфме. Калі верш Я. Коласа на пачатку яго творчасьці папраўдзе не вызначаўся сваймі дасканаласьцямі, то чым далей, тым большыя дасягненьні мы тут бачым. Верш Я. Коласа дасканаліўся з кожным годам яго творчасьці, з кожным новым творам. Процэс гэтага дасканаленьня можна прасачыць асабліва яскрава на розных разьделах „Н. З.“. У сучасны момант Я. Колас, у тэхніцы сваіх вершаў, стаіць на нязьмернай вышыні, асабліва гэта відаць на поэме „Сымон Музыка“ ў яе апошнім апрацаваньні. Наогул, найлепшай характарыстыкай сучаснага вершу Я. Коласа зьяўляюцца наступныя радкі:

Шуміць ён вольны і імкненны
І гучна-звонны й бела-пенны!

(„Н. З.“ стр. 270).

Гэта музычны бок яго поэзіі.

Але ўся веліч мастацкага таленту Я. Коласа выяўляецца ў яго пластычнай вобразнасьці. Як маляр-пэйзажысты, Я. Колас ня мае сабе роўных у беларускай літаратуры. Ды ня толькі ў беларускай! Расійская поэзія ў гэтых адносінах ніколі не падымалася на вышыню, роўную з Я. Коласам, і толькі Тургенеў у сваёй мастацкай прозе прыблізіўся да Я. Коласа (пэйзаж Гогаля агорнут павевамі романтыкі). Багацьце вобразнасьці і прытым вобразнасьці сынтэтычнай,—характэрная рыса творчасьці Я. Коласа наогул і „Н. З.“ паасобку. Гэта зьяўляецца агульна-прызнаным у нашай маладой літаратурнай крытыцы.

Мы спыніліся на „Н. З.“ толькі схэматычна, у самых агульных зарысах. Вычарпаць усю яе, як з боку зьместу, гэтак і формы, няма магчымасьці ў адным артыкуле, ды гэта і не ўваходзіла ў нашы заданьні. Але і ў гэтых схэматычных зарысах мы пабачылі, што ў „Н. З.“ перад намі выдатнейшая праява беларускага пісьменства.

І калі Лявон Жыцень у „Н. З.“ нічога не пабачыў апрача „дзікага народніцка-інтэлігэнцкага патрыотызму і ўласьніцкіх прывычак [1]), то гэта ня віна поэмы, а віна „крытыка“, які ўспрыймальнасьць сваёй крытыка-літаратурнай і мастацкай організацыі незнарок выявіў у наступных радкох сваёй „крытыкі“:

> „Прачытаўшы, ставіш яе („Н. З.“) з даволі несамавітым настроем на паліцы для кніг побач Шэйна ці Фэдэроўскага, вось так, на ўсялякі выпадак“ [2]).

Зразумела, крытык, які з такой пагардай адносіцца да народнае творчасьці, які трымае на паліцы зборнікі гэтае творчасьці толькі так сабе, „на ўсялякі выпадак“, вочы якога асьлеплены, а вушы запаклёваны на ўсю веліч і хараство народнае поэзіі, такі „крытык“ пэўна нічога ня знойдзе, нічога не пабачыць у „Н. З.“. І цікава тое, што праз сваю недалёкую прымітыўнасьць гэты „крытык“, лаючы на ўсе лады „Н. З.“ і Я. Коласа, нечакана для сябе і для іншых выказаў ёй найвялікшую пахвалу тым, што паставіў яе на аднэй паліцы з Шэйнам і Фэдэроўскім. Так, найвыдатнейшыя поэты і пісьменьнікі лічылі найвялікшай для сябе пахвалой, найвялікшым для сябе гонарам, калі іх творчасьць раўнялі да народнай. Папраўдзе клясычнае пацьверджаньне пагаворкі—„метил в ворону, а попал в корову“.

Цікава „Н. З.“ яшчэ й таму, што ў ёй найпаўней выяўлены ўсе характэрныя ўласьцівасьці творчасьці Я. Коласа, таму, што яна зьяўляецца як-бы сынтэзам усёй папярэдняй яго творчасьці.

Бадай адначасна з „Н. З.“ паявілася і повесьць „У палескай глушы“. Ідэолёгічная схэма вузейшая, чымся ў „Н. З.“, ды і ўвасоблена ня ў постаці беларуса-селяніна, а беларуса-інтэлігэнта. Малюнкі рэчаіснасьці, праломленыя праз прызму беларуса-інтэлігэнта—тэма повесьці. Прысутнасьць у повесьці тыпова інтэлігэнцкай філёзофічнай рэфлексіі, элемэнт каханьня, вясковыя малюнкі—адрозьніваюць повесьць ад „Н. З.“ з надворнага боку іх композыцыі. Унутраная сувязь паміж творамі аднак вялікая. Спыняцца на аналізе повесьці тут ня будзем (гэта можа быць асобнай тэмай), зазначым толькі, што беларуская проза „Ў палескай глушы“ здабыла вельмі многа. Повесьць зьяўляецца жывым довадам таго, што беларуская мастацкая проза мае няўхільную тэндэнцыю вырвацца з рамак выключна кароткіх апавяданьняў і перайсьці да сваёй буйнейшай праявы—

1) „Радавая Рунь“ № 3-4, стар. 9.

2) Там-жа.

повесьці-роману. Максім Гарэцкі, Цішка Гартны і Якуб Колас (Тарас Гушча) пакуль што ня толькі пачынальнікі, але й ядыныя прадстаўнікі ў беларускім пісьменстве гэтага віду творчасьці.

Я. Колас урос у пасьлякастрычнікавую сучаснасьць ня толькі сваймі монумэнтальнымі творамі. У шэрагу апавяданьняў прабуе ён схапіць праявы гэтае рэволюцыйнае сучаснасьці, прабуе выявіць яе некаторыя рысы. З-пад яго пяра выходзяць такія апавяданьні, як „Сяргей Карага“ (Полымя № 3-4), „Дачакаўся“ (Полымя № 5-6), „Крывавы вір“ (Полымя № 7-8). „Курская аномалія“ (Полымя № 2 (10). Ва ўсіх гэтых апавяданьнях зарысованы моманты рэволюцыйнага змаганьня пераважна на паўднёвым фронце з Дэнікіным, Карнілавым і інш. У некаторых („Курская аномалія“) аўтар прабуе схапіць той характэрны момант, калі новы зьмест соцыялістычнага будаўніцтва ўліваецца ў старыя формы сялянскае псыхікі, адгэтуль выплываюць найцікавейшыя колізіі. Трэба аднак сказаць, што пералічаныя апавяданьні не належаць да ліку лепшае яго прозы. Найбольшым недахватам іх зьяўляецца мо' тое, што напісаны яны тым-жа рытмам, спакойным, павольным рытмам, які так пасаваў да яго ранейшых апавяданьняў, дзе апісвалася спакойная, марудная плынь вясковага дарэволюцыйнага жыцьця. Жыцьцё зьмянілася, тэмп жыцьця прысьпешан, а рытм апавяданьняў той-жа стары, памяркоўна-спакойны, неўзварушны. У гэтым чуецца пэўнае разгалосьсе паміж зьместам і формай.

Апрача пералічаных апавяданьняў Я. Колас напісаў за гэты час сэрыю дзіцячых апавядяньняў („Зоркі“), больш або менш удалых, а гэтак сама паявіўся ў Коўне зборнік яго апавяданьняў „Казкі жыцьця“, у якіх у форме прыгожых алегорый, якія момантамі набываюць сымболічнага характару, пісьменьнік падходзіць да нацыянальных, агульна-чалавечых і косьмічных проблем.

*Працяг будзе.*

# СЯЛЯНЕ МАГІЛЕЎШЧЫНЫ НАПЯРЭДАДНІ РЭВОЛЮЦЫІ 1905 ГОДУ [1])

**Іл. Барашка**

## 1. Цыркуляры

Бюрократычнасьць расійскага ураду ў канцы XIX і пачатку XX стагодзьдзя дашла да свайго апогэю.

Надворнае і ўнутраное становішча імпэрыі прымушала вярхі прыслухоўвацца да настрою нізоў.

Дапамогаю ў гэтым паслужыў організаваны інстытут земскіх начальнікаў.

„Па духу закону 12 ліпня 1889 г. земскія начальнікі павінны былі быць блізкаю да народу, цьвёрдаю ўладай, абавязанай ня толькі клапаціцца аб выпаўненьні законнасьці ў гушчах сялянскай масы і здавальненьні яе патрэбнасьці, але і быць добра азнаёмленымі як з умовамі мясцовага грамадзянскага жыцьця, так і з усімі яго праявамі ў зьвязку з адносінамі сялянства да тых ці іншых праяў бягучага політычнага і дзяржаўнага жыцьця“[2]).

Як відаць, земскія начальнікі павінны былі выпаўняць акрамя простых службовых абавязкаў і абавязкі шпікоў, „каб выпаўняць гэты іхні абавязак, яны павінны былі знаходзіцца ў пастаянным жывым звароце сярод сялянства і чутка прыслухоўвацца і наглядаць за тым, што робіцца ў вучастку кожнага з іх“[3]).

Вось гэтыя фактары і прымусілі Міністэрства Ўнутраных Спраў выдаць сакрэтны цыркуляр—напамінаньне закону 12 ліпня 1889 г., у якім прапанована губарнатарам праз земскіх начальнікаў высьвятліць настроі сялянства з мэтай падняцьця дысцыпліны народных мас, „дабы

---

[1]) Скарыстаныя для гэтага артыкулу дакуманты захоўваюцца ў гісторыка-рэволюцыйнай сэкцыі Цэнтральнага архіву БССР—„Дело канцелярии могилевского губернатора; секретного стола“. „Совершенно секретныя переписки—1905 г.“ па архіўнай опісі фонду—№ 5, ч. І. *Іл. Бар.*

[2]) Цыркуляр Земскага Аддзелу Міністэрства Ўнутраных Спраў магілеўскаму губарнатару ад 27 лютага 1905 г. № 4.

[3]) Ibidem.

предотвратить вредные посторонние влияния и водворить на местах спокойствие и правильное течение жизни населения" з аднаго боку, і з другога: „дать Правительству сведения, необходимыя для целесообразного направления принимаемых им мер к удовлетворению действительных местных потребностей и к прочному установлению порядка" [1]).

Гэты цыркуляр выклікаў за сабою цыркуляр магілеўскага губарнатара—земскім начальнікам Магілеўскай губ., у якім губарнатар пісаў:

„Перадаючы земскім начальнікам ускладаемае на іх даручэньне, я ня лічу магчымым абавязаць іх ні формай, ні зьместам справаздач, якія мне будуць прадстаўлены, але прашу ня ўпусьціць з віду тыя праявы нашага ўнутранага жыцьця і тыя адбываючыяся сярод сялянства зьявішчы, якія ня могуць выклікаць за сабою суджэньні сялян, а іменна:

а) *Вайна з Японіяй:* як разумеюць сяляне прычыны, мэту і значэньне вайны; як адносяцца да выклікаемых ёю афяр жыцьцем і дастаяньнем народу; чым тлумачаць беспарадкі, якія адбываюцца пры мобілізацыі, і ці лічаць магчымым іх паўтарэньне; ці разумеюць організацыю апалчэньня; ці ня выказваюць якіх-небудзь пажаданьняў з прычыны працягненьня альбо канца вайны.

б) *Высачайшы ўказ 12 сьнежня 1904 г. маніфэст і рэскрыпт Міністру Ўнутраных Спраў 18 лютага т. г.:* Ці ня ўзбуджаюць гэтыя дзяржаўнай значнасьці акты якіх-небудзь размоў і толкаў сярод сялян; чаго яны чакаюць для сябе, ці разумеюць яны ідэю прадстаўніцтва і удзелу ў рашэньні пытаньняў самаўпраўленьня; ці жадаюць зблізкэньня з інтэлігэнцыяй альбо абасабленьня ад яе.

в) *Сялянская рэформа:* Ці вядома сялянству што-небудзь аб працы Асобай Нарады ў Пецярбургу і Губэрскіх Комітэтаў на мясцох; якія вынесьлі ўражаньні запрошаныя ў Магілеў сяляне з размоў з сябрамі Губэрскай Нарады і што апавядалі яны сваім аднасяльчанам.

г) *Чуткі аб новым надзеле зямлёю:* На чым яны аснованы, чаго чакаюць сяляне і як адносяцца яны да пытаньня аб нятыкальнасьці чужой уласнасьці наогул, і памешчычай у асобку. [2])

Вось тыя пытаньні шпігаўскага характару, якімі цікавілася „Вышэйшае Начальства" адносна настрою сялянства.

Далей губарнатар дае адміністрацыйныя ўказаньні: „Перечислить все вопросы и предметы, коих коснуться в беседах с крестьянами нельзя, но я убежден, что земские начальники, вникнув в смысл распоряжения Министра Внутренних Дел, доставят мне сведения, могущия служить обширным материалом для суждения о настроении крестьян в переживаемое нами ныне тяжкое время. Само собою разумеется, что разговоры нельзя вести на сходах, что опрашивать следует старых и молодых,

1) Ibidem.

2) Цыркуляр магілеўскага губарнатара—земскім начальнікам Магілеўскай губ. ад 5 сакавіка 1905 г. № 249.

так как по некоторым вопросам взгляды разных поколений расходятся, что беседы отнюдь не должны иметь характер следственного, а чтобы вызвать собеседников на откровенность, необходимо совсем устранить начальнический тон.

Если при об'ездах участков обнаружено будет, что среди крестьян появились лица, подстрекавшие к каким-либо беспорядкам или распространявшие прокламации, то об этом земские начальники обязываются тотчас сообщить уездным исправникам, указывая попутно волостным старшинам и сельским старостам, что они сами обязаны подобных лиц задерживать и передавать полиции"[1]).

Пасьля атрыманьня гэтага сакрэтнага цыркуляру, земскія начальнікі пад рознымі прадлогамі пачалі аб'яжджаць свае вучасткі.

Аб'езд быў замаскіраваны розна: адны—пад прадлогам абглядаць магазыны са збожжам, другія—чытаць лекцыі дзеля аховы сялянства ад халеры, трэція—наводзіць рэвізію і г. д.

Праўда, знаходзіліся й гэткія земскія начальнікі, што не аб'яжджалі сваіх вучасткаў, а абмежаваліся сваймі „верноподданическими" поглядамі і формальнымі адказамі на запытаньні цыркуляру губарнатара, як напрыклад: „все спокойно в моем участке, Ваше Превосходительство" альбо: „смело могу удостоверить, что все население искренно и глубоко проникнуто преданностью Государю и видит в нем священную особу Помазанника Божия"[2]), але сярод даносаў другіх земскіх начальнікаў сабрана досыць багата матар'ялу, каб можна было характарызаваць становішча і настроі сялянства перад рэволюцыяй 1905 г.

## 2. Становішча і настроі сялянства

Цяжкія экономічныя умовы сялянства паграseverжаючa адзываліся на яго становішчы. Безьзямельле, адсутнасьць пабочных даходаў прымушалі сялянства быць у напружаным становішчы.

Прытым цемра, цемра пагалоўная давіла сялянства, і яно было прымушана жыць так, як хоча „начальства".

Малыя надзелы (піша земскі начальнік 5 вуч. Гомельскага павету: „в моем участке на каждую наличную душу приходится не более 2-х десятин надельной земли, из которой годной для пахоты на душу приходится не более 0,28 десятины"), вялікі ўзрост жыхарства і адсутнасьць уласных выганаў, прымушалі сялянства зьвяртацца ў экономіі памешчычых маёнткаў, якія акрамя грошай эксплёатавалі і іхнюю працу на ўборку і апрацоўку палёў.

Поўная адсутнасьць у сялян лесу, дарагоўля і цяжкасьць атрымаць яго нават за грошы, прымушала сялянства да масавых парубак лесу. Калі далучыць да гэтага дрэнны склад служачых „чыноўнікаў"—асоб

[1]) Ibidem.
[2]) З адказу земск. нач. 3 вуч. Чэрыкаўскага павету.

малаадукаваных, якія далёка стаялі ад сялянства, зьверскія адносіны памешчыкаў да сялян, дык становішча сялян і погляды іх на ўладу стануць зразумелымі" [1]).

Яшчэ больш яскрава асьвятляецца становішча сялянства ў адказе земскага начальніка 4 вучастку Гомельскага павету, у якім ён дае абраз жыцьця сялянства ў гэткіх словах:

„Відаць ясна—піша ён—у якой цяжкай матар'яльнай убогасьці, у якіх цемрах жыве і знаходзіцца гэты народ, які ён сьляпы, бедны сваім духоўным пачуцьцём, і як, у той-жа час, ён стыхійна аб'яднаны і апасны, дзякуючы сваёй адцягнёнасьці ад другіх слаёў жыхарства. Уся бяда, уся апаснасьць утрымоўваецца ў яго крайняй матар'яльнай абяздоленасьці і зьнямозе, і сюды, як да агульнага знаменацеля, ён падводзіць усе свае няўдачы і ўдары судзьбы, і тут ён стараецца знайсьці і даць тлумачэньне пачуцьцю сваёй нездаволенасьці і пачуцьцю злобнай завісьці да другіх, больш матар'яльна забясьпечаных слаёў жыхарства. А частае раскідваньне, за апошнія часы, проклямацый, і даходзячыя да іх чуткі аб сялянскіх паўстаньнях, яшчэ больш падпальваюць і непакояць яго думкі і многім проста паказваюць шлях да прымусовага грабяжу, як да спосабу палепшыць сваё матар'яльнае становішча".

Далей гэты земскі начальнік піша: „становішча настолькі ненадзейнае і дрэннае, што я магу параўнаць яго з гаручым, лёгка загараючым матар'ялам, які вызваць да ўзрыву лёгка можа любы падпальшчык".

Вайна з Японіяй выклікала за сабою сярод сялянства яшчэ большае пагоршаньне яго экономічных умоў.

Агульная нездаволенасьць Японскай вайной якая разьбіла сям'ю селяніна і падарвала рабочую моц вёскі, гостра адзначаецца сярод сялянства.

Прычыны і мэты вайны, сялянства амаль што ня ведала.

Насіліся чуткі, што „цар жадаў адабраць Манджурскую зямлю для перасяленьня, а японец не дае яе, бо ў яго свайго народу вельмі многа і няма дзе жыць" [2]).

Афяры вайны асабліва дрэнна адбіваліся на настроі сялянства. Амаль што з усіх адказаў земскіх начальнікаў відаць, як сяляне патрабавалі канца вайны. Страх за тое, што заб'юць на вайне работніка гаспадаркі, сына альбо мужа, што ня будзе каму працаваць—выклікаў за сабою нездавальненьне працягам вайны і новымі мобілізацыямі.

У Горацкім павеце гаварылі: „Лепш мір,—калі прыдзецца плаціць Японцу, дык аддадзімо апошнюю кашулю, а на вайну ісьці ня хочам" [3]).

---

[1]) З адказу земскага начальніка 2 вуч. Горацк. павету—на цыркуляр губарнатара.

[2]) З адказу земск. нач. 1 вуч. Рагач. павету.

[3]) З адказу зем. нач. 2 вуч. Горацкага павету.

У Чэрыкаўскім павеце ў сялянства вырабіўся такі погляд на вайну: „пашто нам ваяваць за Манджурыю, калі гэта кітайская зямля,—новая мобілізацыя ў выпадку працягу вайны забярэ ад нас апошніх работнікаў“[1]).

Пранасіліся галасы і такія: „што, ваяваць? За што нам ваяваць, калі на адным пішчаным надзельчыкі сядзіць у бацькі пяць сыноў і некуды ім дзецца“[2]).

Няўдачы вайны сяляне прыпісвалі трусасьці расійскіх афіцэраў, подкупу гэнэралаў, дрэннаму становішчу расійскага войска, адсутнасьці жаданьня ў салдат ваяваць за чужую зямлю і непадгатаванасьці да вайны ураду [3]).

„Рабочыя беспарадкі і сялянскія паўстаньні выклікалі ў вялікай масе настроі і тое смутнае бражэньне духоўнае, на грунце якога ўсякія нечаканасьці тым больш магчымы, паколькі пранікае ў народ сазнаньне адсутнасьці колектыўнай, пры масавых беспарадках, адказнасьці“,—так пісаў земскі начальнік 3 вуч. Горацкага павету, адказваючы на запытаньне аб беспарадках пры мобілізацыі.

Такія былі настроі сялянства адносна вайны з Японіяй.

„Высачайшы ўказ“ 12 сьнежня 1904 г., маніфэст і рэскрыпт Міністру Ўнутраных Спраў ад 18 лютага 1905 г. адносна самаўпраўленьня і прадстаўніцтва выклікалі за сабою гэтак сама розныя разважаньні сярод сялянства.

Большасьць сялян выказывалася за адмену валасных судоў, лічачы іх староньнімі, мала сьвядомымі; паказаньні сьведкаў—не заслужваючымі ніякага давер‘я, дзякуючы іх подкупу.

Гэтак сама сялянства выказвалася за абклад мірскімі падачкамі памешчыцкіх зямель па тэй прычыне, што ўслугамі валасных праўленьняў карыстаецца ўсё жыхарства. „Сучаснае становішча сялянскага самаўпраўленьня падлягае самай бязьлітаснай крытыцы. Выказваюцца пажаданьні, каб валасныя сходы былі свабодны ад усякага націску з боку начальства, ці ў праціўным выпадку, кажуць сяляне, няхай начальства распараджаецца, ня склікаючы сходаў“[4]).

Такім чынам, у сялянства ўжо ясна выказваюцца яго клясавыя патрэбы і імкненьні да свабоднага самаўпраўленьня.

Тут трэба адзначыць, што сялянства, дзякуючы сваёй бязграматнасьці, не разумела тых рэформ, якія праводзіліся урадам. Але, ня гледзячы на гэта, жадала аслабаненьня ад выплаты выкупных плацяжоў.

---

[1]) З адказу зем. нач. 4 вуч. Чэрыкаўск. павету.

[2]) Даслоўна з адказу зем. нач. 1 вуч. Рагач. павету.

[3]) З адказаў зем. нач. 1 і 3 вуч. Горацкага павету і зем. нач. 1 вуч. Рагачоўск. павету.

[4]) З адказаў зем. нач. 5 вуч. Аршанск. пав. і зем. нач. 4 вуч. Быхаўскага павету.

Правадзімая зямельная рэформа выклікала за сабою шмат развабажаньняў сярод сялянства.

Сялянства разважала: „калі можна ў сялянства адабраць зямлю, заробленую ім доўгімі гадамі выкупных плацяжоў, дык чаму-ж нельга адабраць яе ў памешчыка, для раздачы сялянам, якім зямля патрэбна“[1]).

Чуткі аб новым надзеле зямлёй сялянства грунтавала на тым, што: „жыхарства павялічваецца, а лік зямлі астаецца той-жа,—урад выкупіць зямлю ў памешчыкаў і перадасьць сялянам“[2]).

У некаторых мясцох (с. Прысла і Славінец) існавала думка, што: „калі цара ня будзе, то ўсе будуць роўныя і зямлі будзе па роўнай частцы“[3]).

Указаньні на падзел зямлі па роўным часткам адбываліся і ў Горацкім павеце, дзе сяляне гаварылі: „уся зямля, як памешчыкаў, так і сялян, павінна быць падзелена па роўнай частцы“[4]).

У 5 вуч. Чэрыкаўскага павету сяляне проста-напраста гаварылі: „зямлю ад памешчыкаў трэба адабраць і аддаць сялянам бяз грошай“[5]).

Спадзявалася сялянства і на выбарных. У Кісьценаўскім прыходзе гэтая вестка вылілая ў такую форму: „выйдзець такі закон: што мужыкі парашаць на сходзе, то і пашлецца цару, а ён зацьвердзіць“[6]).

Сялянства ўжо адчувала сваю моц і выказвалася, што: „памешчык павінны аказваць сялянам матар‘яльнае падтрыманьне, на тэй аснове, што без селяніна памешчык абыйсьціся ня можа“[7]).

Земскі начальнік 1 вуч. Магілеўскага павету ў сваёй справаздачы піша падслуханую размову п'яных сялян в. Горнай вуліцы, у якой яны гаварылі: „нашто памешчык будуе новы двор для жывёлы,—калі прыдзецца дзяліць яго зямлю, дык як падзелім мы гэтую новую будыніну“? і сам дадае: „что у трезвого на уме, то у пьяного на языке,—по этой поговорке можно вывести заключение, что мысль о переделе земли довольно твердо засела в голову крестьянам“.

Земскі нач. 1 вуч. Мсьціслаўскага павету з упэўненасьцю гаворыць: „на всякую земельную, собственность находящуюся вне крестьянского надела, крестьяне смотрят, как на временно лишь предоставленную в постороннее пользование, но долженствующую рано или поздно перейти в их руки“.

Тагочасная інтэлігэнцыя, у васобах розных начальнікаў і пісараў, выклікала недавер‘е сялянства, і сялянства не жадала збліжэньня з ёю.

---

[1]) З адказу зем. нач. 5 вуч. Аршанск. павету.
[2]) З адказу зем. нач. 4 вуч. Быхаўск. павету.
[3]) З адказу зем. нач. 5 вуч. Рагачоўск. павету.
[4]) З адказу зем. нач. 2 вуч. Горацк. павету.
[5]) З адказу зем. нач. 5 вуч. Чэрык. павету.
[6]) З адказу зем. нач. 1 вуч. Рагачоўск. павету.
[7]) З адказу зем. нач. 4 вуч. Быхаўск. павету.

Характэрна прызнальнасьць земскага нач. 4 вуч. Горацкага павету, дзе ён піша „от всегда недоверчивого крестьянина я не могу получить и заслужить вполне искренний ответ, тем более, что они во мне видят, все-таки, чиновника и своего начальника". А земскі начальнік 5 вуч. Сенненскага пав. на запытаньне аб адносінах сялянства да інтэлігэнцыі пісаў: „широкие слои крестьянского общества не только в интеллигенции, но и в каждом лице, одетом в чорный пиджак, видят „крючка" по их выражению".

Рэволюцыйная пропаганда гэтак сама мела месца сярод сялянства. Са справаздач відаць, што больш уважліва да яе прыслухоўваліся маладыя сяляне.

З вышэйпрыведзеных довадаў мы ўглядаем, што сялянства Магілеўшчыны напярэдадні рэволюцыі 1905 г. было падрыхтавана да тых паўстаньняў, якія адбываліся ў губэрні ў часе і пасьля рэволюцыі 1905 г.

20—31 кастрычн. 1924 г.

# КНІГАПІС

**„Заходняя Беларусь“.** *Зборнік. Дзяржаўнае Выд. Беларусі. Менск 1925 г.*

Заходняя Беларусь у тым сэнсе, як мы зараз яе разумеем, вынікла на сьвет пасьля Рыскага замірэньня ў 1920 г. З гэтага часу вялікая частка этнографічнай Беларусі (абшары цэлай Горадзеншчыны, амаль ня цэлай Віленшчыны і вялікай часткі Меншчыны) з лікам да 3 мільёнаў беларускага насельніцтва падпала пад панска-польскую ўладу. І вось на працягу чатырох год гэткага стану ўсе прыгожасьці окупаванай краіны неадгонна справаджаюць жыцьцё Заходняй Беларусі. Страшэнны нацыянальны, экономічны і палітычны ўціск, накіраваны супроціў беларускага насельніцтва (супроць украінскага і жыдоўскага таксама), давёў Заходнюю Беларусь да немажлівага стану, выклікаўшы натуральны протэст супроціў польскага панска-буржуазнага ураду з боку беларускага працоўнага народу. Протэст гэты зараз выліваецца ў абгостранае рашучае змаганьне праз паўстаньне, забойствы урадаўцаў і інш.

Ёсьць вядома, што рабочым і сялянам Савецкай Беларусі блізкі мукі іх братоў пад панскім абсацам і змаганьне іх за вызваленьне з-пад гэтых мук. Дзеля гэтага ўсе падзеі жыцьця Заходняе Беларусі надзвычайна цікавы для нас, грамадзян вольнае краіны, і кожны з напружнасьцю сочыць за разьвіцьцём здарэньняў за рубяжом, па суседзтву. Таксама важна знаць агульную сытуацыю палітычнага ладу Польшчы, палітыкі яе ў адносінах да вырашэньня крэсавага пытаньня, экономічны стан беларускага сялянства, клясавае змаганьне ў самой Польшчы, прычыны, сілу і формы тае барацьбы беларускага сялянства, якая час-ад-часу пашыраецца. Каб выпаўніць гэту мэту і была выдадзена даная кніжка—зборнік „Заходняя Беларусь“. Ці-ж выпаўніла яна свае заданьні? У „Заходняй Беларусі“ на працягу чатырох друкаваных аркушаў зьмешчана чатыры артыкулы розных аўтараў:

*1) Сучасная Польшча і Заходняя Беларусь, 2) Сялянства Заходняе Беларусі, 3) Наступ капіталу ў Польшчы і 4) Партызанскі рух у Заходняй Беларусі.* Першы з гэтых артыкулаў займае палову зборніка і, трэба прызнацца, выясьняе стан у Заходняй Беларусі падрабязна, пачынаючы ад характарыстыкі польскага сойму, замежнай палітыкі польскага ураду, становішча экономічнага Польшчы, яе ваеннай організацыі і яе палітыкі ў адносінах да крэсаў. У поўнай вычарпаючай меры аўтар малюе ўсе прыгожасьці крэсавай палітыкі з боку панскай Польшчы, круцельствы з „языковымі законамі“, з адносінамі польскай згодніцкай партыі П. П. С. да нацыянальнага пытаньня, організацыі розных „беларускіх“ аб'яднаньняў у піку беларускаму грамадзянству, рэляцыі Тугута і інш. Другі артыкул—А. Смоліча—паказвае экономічны стан беларускага сялянства, ілюстрыруючы яго табліцамі пра земляўладаньне, ураджайнасьць і інш. да рэволюцыі і ў нядаўнія часы (20, 21, 22 г. г.). Найменшы артыкул адведзены важнаму пытаньню, як пытаньне пастаў-

ленае ў назьве артыкула „Наступ капіталу ў Польшчы“. Да таго-ж артыкул гэты не дае лічбаў і не паясьняе прыкладамі сваіх думак,—больш датыркаецца грашовага крызісу. Праз гэта артыкул траціць шмат вартасьці. Апошні артыкул „Партызанскі рух у Заходняй Беларусі“—З. Бядулі—таксама апрацаваны слаба, насьпех, даючы гістарычнае, у галоўных рысах, разьвіцьцё і важнейшыя моманты з гісторыі гэтага руху.

У вогуле на ўсёй кніжцы ляжыць выразны адбітак сьпешкі, тэрміновасьці і складу выключна па газэтнай інформацыі, што выдаецца і ў зьмесьце і ў рэдагаваньні і ў самым выданьні. Гэтак, кніжка выпушчана бяз рэдактара, бяз уступу, нават без абазначэньня зьместу,—як быццам напісалася і вышла з друку сама сабою, без дагляду. Праз гэта зусім недасягнута пастаўленая кніжкаю мэта, якая таксама нідзе не падкрэсьлена. Праўдзіва, яна прадстаўляе сабраньне і скампактаваньне вядомых, прашоўшых праз газэты фактаў, не даючы грунтоўнае працы.

Але ўсё-ж і ў гэтым выглядзе зборнік „Заходняя Беларусь“ карысны, бо падносіць чытачу больш-менш суцэльны абгляд стану жыцьця і палітычнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі за апошнія годы і гэтым апраўдвае сваё зьяўленьне ў сьвет.

**Rasch.**

**Міхась Лойка**. *„Першыя крокі ў матэматыцы“. Частка першая. З малюнкамі. Дз. Выд-ва. 1924 г. 90 стар. 60.000 экз. Цана 30 к.*

Невялічкая кніжачка, ня зусім добра выданая. Астрономічны для Беларусі тыраж. Далёка не ідэальныя малюнкі. Шмат корэктарскіх памылак.—Вось знадворная характарыстыка кніжкі, у якой вінен ня аўтар, а Выдавецтва (хай апошняе выбачыць за праўдуматку).

Унутраная яе сутнасьць?—Задачнік для першага году навучаньня беларускай вясковай школы, складзены на прынцыпах катэхізацыі і самастойных прац геомэтрычнага зьместу. Сыстэма—матэматычны фузыонізм. Мэтода—эўрыстычная з концэнтрычным разьмеркаваньнем матар'ялу. Аб'ём ведаў—дзеяньні над лікамі першага дзесятку, над круглымі дзесяткамі ў межах першай сотні і над лікамі 11-20.

З боку чыста-мэтодычнага аўтар зарана ўводзіць знакі $+$, $-$; $=$, а таксама паняцьці $\frac{1}{2}$, $\frac{1}{4}$, $\frac{1}{3}$, $\frac{1}{6}$ і раўнаньні выгляду $x+a=b$ і $ax=b$. На пачатку падручніка аўтар ня ўводзіць дзяцей у такія разуменьні, як „больш-менш“, „вышэй-ніжэй“ і г. д. Фігуры доміна можа лепей было-б замяніць фігурамі Лая (прымаючы пад увагу, што й сам настаўнік часам ня ведае доміна). Такія меры, як дэцымэтр, гэктар, можна было-б зусім не даваць на першым годзе навучаньня. Затое ў плюс аўтару трэба паставіць, што ён не спалохаўся сучаснай моды ігнараваць практыкаваньні і праз кожныя 3-4 старонкі дае цэлы шэраг слупкоў для разьвязаньня. Праўда, такія прыклады, як $4+7-18:9$ або $(5-1):2$,—зусім не патрэбны.

Матар'ял задачніка ўзяты з жыцьця беларускай вёскі, якую аўтар добра ведае. У падручніку рассыпана многа фізычных, географічных, каморніцкіх, агрономічных і палітычна-грамадзкіх вед. Мова зразумелая. Што-б ні казалі строгія крытыкі й рэцэнзэнты (я ў тым ліку) аб недахватах кніжачкі Лойкі, яна ўсё-ж-такі зьяўляецца першай беларускай спробай даць пачатковы падручнік-задачнік матэматыкі, і, бязумоўна, будзе карыснай як для нашага беларуса-настаўніка, так і для вясковай школьней дзятвы.

**А. Круталевіч.**

*„Искусство писателя“ (начатки литературной грамоты)* **Антуан Альбала.** *Книгоиздательство „Сеятель“, Ленинград. 1924 г. ст. 166.*

У нашыя часы ў Расіі лік тых, што пішуць, на многа пераважыў лік асоб,

літаратурна адукаваных. Панізілася адчуваньне слова, панізіўся густ, надзвычайна панізілася элемэнтарная стылістычная пісьменнасьць. „Няхлюйства ўваходзіць у прызвычаенасьць і пагражае стаць школай пісьменства“,—дакорна кажа Л. Д. Троцкі. У Расіі ніхто ніколі ня імкнуўся так гвалтоўна да таго, каб пісаць добра. Насустрэч гэтаму парываньню да літаратурнай адукацыі ідзе кніжка Альбала, але падручнікам назваць яе нельга. Правілы Альбала вельмі запростыя, элемэнтарныя, аднак значнасьць кніжкі Альбала ў тым, што яна пабуджае і навучае да шуканьня самастойных шляхоў. Нельга не згадзіцца з гэтымі заўвагамі прадмовы А. Горнфэльда да расійскага перакладу кніжкі Альбала.

Карысьць „начаткаў літаратурнай пісьменнасьці“ зьяўляецца ўжо ў тым, што яны падводзяць пачынаючых пісаць да першага сутнага правіла, якое кажа: каб пісаць—трэба *вучыцца ўменьню* пісаць, трэба ўпарта працаваць над сваёй мовай, трэба практыкавацца ў рамястве і вывучаць яго, а не пакладацца на „натхненьне“ таму, што індывідуальнасьць пісьменьніка зусім не дазваляе яму быць няпісьменным; прытым у кніжцы размова яшчэ йдзе і аб тых асобах, якія покуль што не зьяўляюцца пісьменьнікамі, а *беспарадна* блытаюцца ў сваіх думках і ўражаньнях, ня ўмеючы перадаць іх у літаратурнай форме. Для пачынаючых пісаць большасьць дарад Альбала будзе вельмі карысная

Альбала настайвае на тым, што дзеля таго, каб аўладаць штукарствам пісьменьніка, трэба шмат чытаць і чытаць, разьбіраючы прачытанае. Бесправаздачнаму чытаньню Альбала ставіць супроць чытаньне разумовае.

Загэтым ён радзіць рабіць нататкі аб прачытаных кніжках, рабіць выняткі з іх на асобных картках, якія пасьля становяцца патрэбнымі ў працы і літаратару, і журналістаму, і вучонаму.

Альбала рэкамендуе адначасова паглыбляцца ў думку і форму выкладаньня клясыкаў, вучыцца ў іх, прысвайваць сабе іх стылі і, апіраючыся на іх вопыт, апрацоўваць свой уласны стыль.

У апрацоўцы свайго стылю Альбала рэкамендуе імкнуцца да простасьці, сьцісласьці, праўдзівасьці, прачуласьці, сугалосься і адсутнасьці шаблёну.

Далей ён падводзіць чытача да элемэтарных спосабаў пабудовы і выкладу сюжэту ў прозаічнай форме, да складаньня вобразаў шляхам бязупыннага нагляду за жыцьцём.

*Уменьне бачыць*—вось стрыжань літаратурнага штукарства, а ведаць, як трэба бачыць, гэта тое самае, што ведаць, як выражаць.

Усё-ткі істотным недахватам кніжкі Альбала зьяўляецца тое, што ён разглядае літаратурную мову, быццам без яе залежнасьці ад разьвіцьця агульнага, культурнага, грамадзкага жыцьця. Ён прабуе ўстанавіць абсолютную ацэнку: што „добра“, што „дрэнна“, што „оргінальна“, і што „шаблённа“ і гэткім чынам нехаця навязвае нам усяго толькі свой уласны густ, які склаўся ў азначаную эпоху, пад уплывам азначанага соцыяльнага асяродзьдзя і грамадзкіх умоў. Ён прыводзіць прыклады „добрага“ і „дрэннага“—прыклады, з якімі можна і не згадзіцца.

Уся справа ў тым, што для каго, для якого асяродзьдзя, якіх агульнакультурных умоў той ці іншы твор быў прызначаны. Што вельмі добра было напісана, скажам у прыклад, для арыстократыі часоў францускіх Людовікаў, тое зусім будзе дрэнным для нашага селяніна ў комуністычнай хаце-чытальні; нельга прымусіць іх весьці гутарку, а значыць і пісьменьнікаў пісаць для іх аднэй агульнай „абсолютна-ідэальнай“ мовай. „Абсолютна-ідэальнай“ мовы ня-

ма. *Мова дыялектычна разьвіваецца сумесна з разьвіцьцём грамадзкага жыцьця.* Гэта запамінае Альбала. Мы можам прыняць яго першапачатковыя агульныя дарады, *аднак з іншай мэтай у пабудове сваіх довадаў*—ня імкненьнем да цяплічнай арыгінальнасьці, а да сілы азначанага ўплыву на азначаную масу чытача, якая і зьявіцца асяродзьдзем, рэзонансам і баромэтрам думкі і ўменьня пісьменьніка.

Альбала дарэмна разглядае літаратуру ў яе ўласным літаратурным асяродзьдзі, нібы пад шкляным каўпаком.

Пісаць—гэта знача ў адзін і той-жа час мысьліць, адчуваць і перадаваць, а з гэтае прычыны і пабудова літаратурнае мовы і стыляў цалкам падлягае ўласьцівасьці, зьменнай сьвядомасьці, псыхолёгіі, і аднačасова разьвіцьцю жывой размоўнай мовы. Кожны раз іншы зьмест будзе зрошчаны са сваім асобным стылем, і выходзіць, што агульнага, абсолютнага, прыгожага стылю няма, а той добры стыль, які лепш за ўсё зросься як і з тым ці іншым, укладзеным у яго зьместам, так і з грамадзкай прычынай і мэтай выключна таго ці іншага твору.

Агульныя пажаданьні, як—сьціслаcьць, рэалістычнасьць, адчувальнасьць, арыгінальнасьць мовы, будучы выкарыстаны, заўсёды дадуць, аднак, у розных выпадках розныя, вынікі, якія сваім чарадом выльлюцца ў розныя формы—вось гэтага зусім не дасьледуе Альбала. Ён лічыць, напрыклад, што Гомэр даў ідэальную, да якой яшчэ чалавецтва не дашло, мову, да якой усім пісьменьнікам трэба імкнуцца,—ну, а мы можам, напрыклад, і не згадзіцца з Альбалай на пэўным грунце разважаючы, што калі-б У. І Ленін зьвяртаўся з такой мовай да расійскіх рабочых і сялян, дык яго-б не зразумелі, а гаварыў ён мовай жыцьцёвай, яснай для свае аўдыторыі і свайго часу, што і трэба пажадаць кожнаму з пачынаючых пісаць.

**Хрысанф Хэрсонскі.**

**Валерыян Палішчук**. *„15 поэм“. Дзяржаўнае Выд. Украіны. 1925 год.*

В. Палішчук лічыцца адным з найлепшых песьняроў сучаснай Савецкай Украіны. Мотывы яго поэзіі—багатыя і размаітыя: лірыка украінскіх стэпаў, сьпевы машын у розных пераліваx і выглядах, сусьветныя проблемы соцыялізму і рэволюцыі, удалая абрысоўка новага быту і г. д. і г. д.

З боку зьместу яго творы прасякнуты багатымі думкамі, абаснаванымі з пачатку да канца трапнай псыхолёгічнасьцю з ярка бунтарскім філёзофскім сьветаглядам. Пачуцьцё—сьвежае, энэргічнае, бухаючае сонечным вульканам.

Форма?

Дынамічная рытміка, часта—свае ўласныя новыя разьмеры. У большасьці абмінае рыфму, бо яго поэзія ня ўкладваецца ў ланцугі рыфмаў. Самацьветныя тканкі рыфмаў, у якіх так заблыталася сучасная расійская поэзія, Палішчука ня вабяць. Сьвежая, арыгінальная вобразнасьць (аднак, у меру, без выкрутасаў імажыністыкі), гарачая, шчырая настраёвасьць, пранізаная наскрозь рэволюцыйным пафосам,—вось канва палішчукоўскай мэлёдыкі.

Сюжэтаў новых рэволюцыя дала шмат—на кожным кроку яны мігаць вясёлкавымі агнямі, многазычнымі галасамі, будзяць думкі. Пясьняр імі захопліваецца, перапаўняецца,—і творчасьць яго робіцца надзвычайна пладатворчай. Ён зьбірае на зачараваным полі новай эпохі багатае жніво поэзіі. Яго кніжка „15 поэм“ (да 300 старонак) складае толькі частку яго твораў, напісаных за апошнія тры гады. У кніжцы зьмешчаны ў большасьці творы, друкаваныя ў розных журналах і паасобных выданьнях, але ёсьць некаторыя дагэтуль

нідзе не друкаваныя. Вось назвы твораў, зьмешчаных у кніжцы.

1) „Ленін“—твор, вядомы беларускім чытачом у перакладзе Янкі Купалы. Гэты твор ёсьць у перакладах яшчэ на расійскай і нямецкай мовах.

2) „Адигейский співець“—вялікая поэма з часоў грамадзянскай вайны на Каўказе. Галоўнай фігурай у поэме зьяўляецца сьпявец Іскандэр.

3) „Ньютон“—легэндарная поэма, у якой праводзіцца думка, што творчасьць гэнія зьвязана з палавой функцыяй.

4) „Капітан Шредер“—аэропляннная поэма.

5) „Дума про Бармашиху“—у зграбнай народнай форме адмалёван кавалак быту з часоў грамадзянскай вайны на Украіне.

6) „Ярына Курнатовьска“—рытмованы роман з часаў махноўшчыны.

7) „Нова мадонна“, 8) „Модяна поэма“, 9) „Вярах“, 10) „В монастирі“, 11) „Дівчина“, 12) „Пацанок“, 13) „Коло“, 14) „Франко в труні“, 15) „Аскания нова“.

Як відаць з назваў поэм, сюжэты не абмяжоўваюцца аднэй Украінай і не аднэй сучаснасьцю. Але ўсе яны прасьвечаны яркім прожэктарам нашай эпохі. Чытаеш іх з вялікай зацікаўленасьцю. Яны цябе хвілююць. З некаторымі проблемамі аўтара часам згаджаешся, а часам—не, але сваёй орыгінальнасьцю яны пакідаюць вялікае ўражаньне.

З тэхнічнага боку кніжка выдадзена вельмі прыгожа.

**З.**

**П. Тычына**. *Вітер з України. Зборнік вершаў, выданьня „Червоний Шлях“, 1924 г. стр. 86.*

Вецер з Украіны, Украіны так блізкай нам, беларусам, на жаль так рэдка далятае да нас, так рэдка кудзёрыць верхавіны беларускага бору! А шкада! Гэтулькі ў гэтым ветры нам роднага, прачулага, а разам з тым, гэтулькі ў ім моцы й чараў, самабытнасьці й крыштальнай прамяністасьці.

Вязанка вершаў П. Тычыны „Вітер з України“ можа найвыпуклей увасабляе сабою гэты украінскі вецер.

П. Тычына—адзін з найвыдатнейшых сучасных украінскіх поэтаў—размахам і глыбінёй свайго мастацкага таленту зварачае на сябе увагу і далёка па-за межамі Украіны. На крыльлях яго поэзіі украінскі вецер вандруе па абшарах Эўропы, вабячы да сябе багатай сакоўнасьцю украінскага стэпу, яскравай прамяністасьцю смаглага украінскага неба.

П. Тычына належыць да ліку тых шчасьлівых абраньнікаў фортуны, на долю якіх выпадае абагульняць, сынтэзаваць у сваёй творчасьці найвыдатнейшыя дасягненьні, што найбольш выкрышталізаваліся ў літаратурным віраваньні сучаснае добы. У яго поэзіі мастацка пераплецены музыкальныя гамы сымболізму, сьмелавіхрыстыя вобразы імажынізму, бяздонныя глыбіні шчырага, сьвежага, як сплёты блюшчу, пачуцьця, пачуцьця глыбокае украінскае індывідуальнасьці, а ўсё гэта на крыльлях імпэтнай экспрэсіі, захапляючы нас, то бурліва бушуе на хвалях нашых эмоцый, то далікатна песьціць нас сваім чароўным хмельным лірызмам.

Музыкі ў поэзіі П. Тычыны—як сонца ў роснай зелені летнім ранкам. З кожнага радка, слова, гуку—бурштыніць багатая сымфонія. Даходзіць да таго, што словы як-бы расстаюцца з сваім зьместам і цалкам пераліваюцца ў музыку, беспасрэдна перамаўляючы да пачуцьця. Напрыклад—

Колихайтесь, тераси дерев,—
сьогодня такий на вас біль!..
вітер вітер ві
терзае дуби кле
на хмарах хмуре сон
це знов осінній ві
Ще літо за повним столом.

Або яшчэ—

> вітер клікне кла
> наклони дуба кле
> на хмарах хмуре сон
> це знов осінній ві
>
> Дугамі горбы лягли.

Музыка перамагла лёгіку слоў, але яе не скалечыла. Слова засталося словам—і тут могуць шмат чаму навучыцца футурыстыя, якія быццам-бы так цэняць тональнасьць слова.

Але музыка ў поэзіі П. Тычыны не адзінока. Тут мы спатыкаем гірлянды вобразаў, у якіх адчуваецца мастацкі густ і памяркоўнасьць.

„Озеро синіми слізьмі сходить. Над ним небо: не плач!—кажа, а само ридань спинить не може: хмара за хмарою душу разривае. Хмара за хмарою...“

Або;—

> Прохожу кладовищем.
> Ще літо за повним столом,
> Ще день з одкритим коміром,
> А щось в природі схлипуе.

Вобразнасьць, так! Але ня сухая, надуманая, штучная, якой так захапляюцца ортодоксальныя імажыністыя! Вобразы П. Тычыны выплываюць з глыбінь пачуцьця, неразлучна зьвязаны з пачуцьцём. Вось чаму яны так узварушлівы.

Лірыка П. Тычыны — наскрозь шчыра-пачуцьцёва. І гэта шчырасьць і сьвежасьць пачуцьця так дадатна адгукаецца ня толькі на мастацкіх асаблівасьцях яго поэзіі, але і на яе ідэолёгіі. Разгорнута яна на фоне сучаснае ідэолёгіі, прычым ня чутно тут жаднага фальшу, жаднае няшчырасьці... і гэта так карысна выдзяляе поэзію П. Тычыны на хвалях літаратурнае сучаснасьці.

П. Тычына бязумоўна належыць да ліку тых—

> в кого кров тече залізна
> в жилах молодих,
> в кого пісня сонцебразна
> і правдивий сміх.

**Улідзе.**

**Асьвета.** *Часопісь Нар. Кам. Асьветы і Саюзу Прац. Асьветы БССР № 3. 1924 г. верасень—сьнежань.*

Пэд. часопісь Наркамасьветы раз-ад-разу робіцца запраўдашнім рэхам колектыўнай думкі пэдагога Беларусі. За мінулы 1924 год вышла з друку тры нумары часопісі.

Па зьместу часопісь распадаецца на чатыры разьдзелы: агульны аддзел, мэтодолёгія і практыка, інформацыя і хроніка, кнігапіс, офіцыйны аддзел—дадатак.

У І нумары т. Валасэвіч ставіць такія задачы часопісу: „Дапамога асьветнікам Беларусі ў іх працы праз паказаньне задач і мэтодаў асьветы і інформаваньне аб дасягненьнях у галінах асьветнай практыкі“.

Згодна такой мэты часопісь узмацняецца з кожным нумарам. Так аддзел мэтодолёгіі ў першым нумары разглядаў пытаньні комплекснага выкладаньня, у 2 нумары к гэтым пытаньням дададзена краязнаўства і акуратная практыка; у аддзеле „Кнігапіс“ дадзены абгляды літаратуры па профруху, матэматыцы, краязнаўству і краязнаўчым экскурсіям; асабліва цікавы для асьветніка Беларусі абгляды новых беларускіх выданьняў і летапісь беларускага друку за студзень—чэрвень 1924 году, але гэты летапіс не абхоплівае выданьняў усяе Беларусі. У ацэнцы новых беларускіх кніг няма ніякай сістэмы, усё, відаць, зьмяшчаецца выпадкова. Няма зусім абглядаў такіх часопісаў, як „Полымя“, „Маладняк“, „Савецкае будаўніцтва“. А трэба-б знаёміць настаўніцтва з дасягненьнямі ня толькі беларускага друку, а і літаратуры.

Зусім слабы аддзел жыцьця саюзу працаўнікоў асьветы. У першым нумары адзін толькі артыкул Нодэля аб задачах саюзу працаўнікоў асьветы. У „юбілейным“ другім нумары цікавы ўспаміны К. Міцкевіча аб заснаваньні настаўніцкага саюзу ў 1906 годзе мікалаеўцамі. К гэтаму цікава было-б дадаць зьвестку аб руху

сярод настаўніцтва Магілеўскае і Віцебскае губэрні таго часу, вынікам чаго застаўся І нумар часопісу „Беларускі вучыцель“ 1907 г. Апошні 3 нумар ужо мае досыць багаты зьмест. Усе бакі жыцьця школы і асьветніка закрануты патроху. Для шырокіх колаў культурнікаў Беларусі найбольш цікавы артыкул т. Баліцкага аб інстытуце беларускае культуры.

Артыкул т. Ахрамовіча дае веды аб асноўных момантах пляну працы саюзу ў канцы 1924 году. Нажаль нічога ня дадзена аб саюзным жыцьці настаўніцтва на мясцох.

Пытаньні настаўніцтва і комсамол, дзіцячы рух і школа толькі закрануты ў артыкулах сяброў ЦК ЛКСМБ. Трэба даць больш грунтоўныя артыкулы аб гэтым для працы вясковага настаўніцтва.

Аддзел мэтодолёгіі і практыкі ўжо ўцягнуў у свае старонкі шырокія групы мэтодыстых Беларусі: тут і менскія і віцебскія працаўнікі.

Гэта ёсьць ужо значнае дасягненьне часопісу.

З новага году „Асьвета“ робіцца штомесячнікам і здолее больш шырока абхапіць культурнае жыцьцё Беларусі.

Трэба ясна ўзяць напрамак на абслугоўваньне культурных запытаньняў шырокіх колаў настаўніцтва, асабліва вясковага. Тут усё будзе яму цікава і карысна, што лішні раз зьліквідуе яго несьвядомасьць у сучасным жыцьці Беларусі. Для прыкладу было-б цікава даць абгляд школьнага жыцьця Заходняе Беларусі, Латвіі, Літвы, дзе існуюць беларускія школы, пазнаёміць з дасягненьнямі беларускага друку ў Вільні і г. д.

**Д. Васілеўскі.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Навука і культура.

○ Згодна пастановы з сэсіі ЦВК аб рэорганізацыі Інбелкульту, Нар. Кам. Асьветы зацьвердзіў новую структуру яго і штаты.

Аснаўнымі часткамі Інбелкульту зьяўляюцца: прэзыдыум, бібліотэка, выдавецтва, сталыя комісіі, ЦБ краязнаўства і сэкцыі, жыдоўскі і польскі аддзелы.

Комісіі пры Інбелкульце гэткія: дыалектычная, па складаньню слоўніка жывой беларускай мовы, тэрміналёгічная, гістарычна-археолёгічная, па досьледу рэволюцыйнага руху, па ахове помнікаў старасьветчыны, мастацтва прыроды, па досьледу прыроды Беларусі яе вытворчых сіл, па досьледу народнага багацьця БССР, па выданьню твораў Леніна і марксыцкіх твораў, па вывучэньню савецкага будаўніцтва, этнографічная і бібліографічная.

Сэкцыі: лінгвістычная, літаратурная, літаратурнай групы „Маладняк“, мастацкая, гістарычна-археолёгічная, прыродазнаўчая, экономічная, агрономічная, мэдыцынская, этнографічная.

У склад жыдоўскага і польскага аддзелаў Інбелкульту ўвашлі па новаму статуту 3 комісіі (па вывучэньню нацыянальнай мовы, літаратуры і гісторыі) і 3 сэкцыі нацыянальнай мовы, літаратурная і гістарычная.

Колегіяй НКА БССР зацьверджаны на трохгадовы тэрмін сапраўднымі сябрамі Інбелкульту ніжэйшыя т. т.: **Ігнатоўскі Ўсевалад, Чарвякоў Алесь; Адамовіч Язэп; Крыніцкі Алесь; Жылуновіч Зьмітро** (Цішка Гартны), **Баліцкі Антон; Прышчэпаў Зьмітро; Русецкі Эдмунд; Каранеўскі Язэп; Усьпенскі Яўгені; Мароз Міхал; Кудзелька Міхась; Мазур Ігнат; Некрашэвіч Сьцяпан; Смоліч Аркадзь; Дыла Язэп; Луцэвіч Іван** (Янка Купала); **Міцкевіч Канстантын** (Якуб Колас); **Лёсік Язэп; Цьвікевіч Іван; Грамыка Міхайла; Гарэцкі Максім; Друшчыц Васіль Азбукін Мікола; Пятуховіч Міхась; Плаўнік Самуіл** (Зьмітрок Бядуля); **Мялешка Міхась; Пятровіч Іван; Эпімах-Шыпіла Браніслаў; Барсукоў Міхась; Зэліксон Лазар; Сяржпутоўскі Алесь;** проф. **Растаргуеў Паўла;** проф. **Замоцін Іван;** проф. **Блюдуха Мікола;** проф. **Пічэта Ўладзімір;** проф. **Кірсанаў Алесь;** проф. **Кіркор Уладыслаў; Дзякаў Васіль;** проф. **Кацэнбогэн Саламон;** проф. **Вольфсон Сымон; Аршанскі Бэрка; Вайнгэр Міхал; Сосіс Ізраіль; Мышкоўскі Леў; Левін Якаў; Агурскі Самуіл; Ашаровіч Ільля; Нодэль Вульф; Гольшток Хаім; Рывас Саламон; Гэльтман Сьцяпан; Дамброўскі Часлаў; Гэльтман Ядвіга; Фрышман Віктар; Вітікоўскі Іван; Даведчык Уладыслаў.**

○ Комітэт Аддзелу СССР на Міжнароднай выстаўцы дэкоратыўнага штукарства і мастацкай прамысловасьці (якая адбудзецца ў Парыжы з мая па кастрычнік 1925 г.), даючы поўную магчымасьць выяўленьня культур саюзных Рэспублік, організуе ў Павільёне СССР комплекс „нацыянальных куткоў“, якія павінны будуць выявіць усе мастацка-бытавыя рознакалёрнасьці нашага Саюзу.

Інстытут Беларускае Культуры атрымаў запрошаньне з просьбай прыняць чынны ўдзел у організацыі беларускага нацыянальнага кутка.

Інбелкультам вызначана спэцыяльная комісія ў складзе т. т. М. Мялешкі (старшыня), Я. Дылы, Родзевіча, Азбукіна, Барашкі Іл., Шчакаціхіна М., Перабілы, мастака Філіповіча М., якая і занята працай па організацыі кутка.

○ Дзеля аб'яднаньня мастацкіх і культурна-гістарычных каштоўнасьцяй у Беларускім Дзяржаўным Музэі, СНК БССР пастанавіў лічыць Беларускі Дзяржаўны Музэй у Менску

і яго аддзяленьні ў Віцебску і Магілеве цэнтральнымі дзяржаўнымі месцамі заховы музэйных каштоўнасьцяй агульна-рэспубліканскага характару.

Усе музэі, якія знаходзяцца ў іншых гарадох рэспублікі, зьяўляюцца краязнаўчымі музэямі і ўключаюць у сябе музэйныя рэчы, якія маюць адносіны да культуры адпаведнай мясцовасьці.

○ Саўнаркомам БССР назначана пачэсная пэнсія вядомаму беларускаму дзеячу проф. Б. І. Эпімаху-Шыпіле, які ў хуткім часе пераяжджае з Ленінграду ў Менск.

○ Цэнтрархіў БССР з яго акруговымі аддзеламі ва ўсіх акруговых цэнтрах Рэспублікі праводзяць цэнтралізацыю, разбор і апісаньне архіўных матар'ялаў.

Архівахранілішчы Цэнтрархіву і яго аддзелаў з кожным днём папаўняюцца за лік архіўных фондаў, перадаваемых на захову сучаснымі савецкімі ўстановамі і організацыямі.

Утвораная, па пастанове нарады архіўных працаўнікоў Беларусі, гісторыка-рэволюцыйная сэкцыя Цэнтрархіву зьмяшчае ў сабе даволі багата матар'ялу па гісторыі рэволюцыйнага руху на Меншчыне, Віцебшчыне і Магілеўшчыне.

○ Беларускі Дзяржаўны Музэй у Менску значна папоўніўся перададзенай яму, на аснове пастановы ЦВК БССР, Мсьціслаўскім РАНА, шматлікай колекцыяй б. гістарычнага музэю ў Мсьціслаўлі (да 300 эксп.).

Сярод азначанай колекцыі маецца шмат надзвычайна каштоўных старасьвецкага беларускага пісьма абразоў, і разьбы па дрэве ў беларускім народным стылі.

Адначасова гэтым-жа музэем атрымана з Наркомуняшторгу колекцыя фарфаравых і крыштальных рэчаў, некалькі карцін (сярод якіх маецца эскіз вядомага расійскага мастака Рэпіна), некалькі залатых монэт і да 40 кніжак па мастацтву.

## Краязнаўства.

○ Віцебскае Таварыства Краязнаўства, каб уцягнуць у краязнаўчую працу моладзь, організавала студэнцкую сэкцыю таварыства краязнаўства. Яна кіруе працаю краязнаўчых гурткоў пры паасобных тэхнікумах. Краязнаўчыя гурткі організаваны толькі пры вэтэрынарным інстытуце, мастацкім і беларускім пэдагогічным тэхнікумах.

**Гурток мастацкага тэхнікуму** пачаў зарысоўку беларускага будаўнічага, керамічнага, тканнага і інш. орнамэнту.

**Гурток белпэдтэхнікуму** заняўся запісам і зборам фольклёру: народных песень, загадак, казак і г. д.

**Гурток вэтэрынарнага інстытуту** зьбірае народныя назвы лекавых траў і загавораў, што лечаць жывёл, назвы хвароб і частак цела жывёл, казак аб знахарох і вэтэрынарах і г. д., а таксама вывучае санітарныя умовы жыцьця жывёл Беларусі і тыповыя хваробы на Беларусі.

○ 28 сьнежня 1924 году пры Бабруйскім доме асьветы заклалася часовае бюро Таварыства Краязнаўства, якое ставіць сабе мэтай уцягненьне ў таварыства шырокіх мас рабочых і сялян. Асобным сябром бюро дадзены заданьні высьветліць працу таварыства ў мясцовым друку, перад настаўнікамі гораду і вакругі, комсамольцамі і партыйцамі, а таксама ў доме асьветы робіцца краязнаўчы куток, дзе будуць выстаўлены ўсе маючыяся матар'ялы, як кнігі, фотографіі, адзежа, старадаўныя рэчы і г. д.

○ 30 сьнежня 1924 г. ў с. Вяляцічы Барыс. акр. адбыўся сход настаўнікаў, савецкіх і партыйных працаўнікоў, на якім было пастаўлена пытаньне аб утварэньні гуртка краязнаўства ў Вяляціцкім сельсавеце. Прысутнічала 20 асоб.

Сход прызнаў неабходнасьць утварэньня гуртка краязнаўства, у які запісалася 15 сяброў. Абрана часовае бюро.

○ Пачынае варушыцца на Магілеўшчыне краязнаўчая праца. Сьледам за ўтварэньнем Акруговага Таварыства Краязнаўства, організацыйная праца вызначаецца і ў раённых асяродках. У Шклоўскім раёне ўтварылася ініцыятыўная група па організацыі краязнаўчых установ у раённым маштабе. У Туравіцкім раёне з'організавалася Туравіцкае Раённае Краязнаўчае Т-ва, а на раённай настаўніцкай конфэрэнцыі прынята рэзолюцыя аб сьпешнай організацыі пры школах краязнаўчых гурткоў.

○ У Маркавым манастыры (Віцебшчына) сябрамі Віцебскага Краязнаўчага Таварыства знойдзена шмат рукапісных і друкаваных кніг, маючых вялізную каштоўнасьць.

Сярод іх трэба адзначыць: 1) „Лексікон славеноросскій"—вялікі слоўнік беларускай

старой мовы, выдадзены ў XVI стагодзьдзі ў Купеінскім манастыры; 2) „Бяседы сьв. Макарыя“ (на беларускай мове XVI ст.); 3) „Догматыка“—асновы праваслаўнай рэлігіі (пабеларуску); 4) „Евангелие учительное“ (беларускае выданьне Скарыны ў 2-х экз.; 5) „Prawa konstytucje y przywileye kr. Polskiego y W. Ks. Litowskego“ (збор розных соймавых пастаноў, выд. 1735 г.); 6) Збор розных грамат і актаў, якія адносяцца да літоўска-беларускіх гарадоў, выд. 1843 г. Ёсьць яшчэ цэлы шэраг кніг на беларускай, польскай і лацінскай мовах рэлігійнага зьместу, выданьня XIV-XVI вякоў. Сярод іх ёсьць рукапісныя.

○ У Клімавічах заложана Акруговае Краязнаўчае Таварыства, якое налічвае да 50 сяброў.

○ У Сіроцінскім раёне (Віцебшчына) заложана Краязнаўчае Таварыства, якое яднае вакол сябе ўсіх культурных працаўнікоў раёну, як: настаўнікаў, аграномаў, урачэй, партыйных і комсамольскіх дзеячоў раёну.

○ ЦК ЛКСМБ запрапанаваў усім акругом прыняць актыўны ўдзел у працы па досьледу краіны.

ЦК лічыць непатрэбным масавую організацыю краязнаўчых гурткоў пры ЛКСМ. Прапаноўваецца прыстасоўваць працу комсамольскіх натуральна-навуковых гурткоў да досьледу краіны, шляхам пабудаваньня іх дзейнасьці на аснове мясцовага матар'ялу.

Сабраны матар'ял павінен будзе концэнтравацца ў раённых, акруговых і школьных музэях БССР.

○ У студзені г.г. пры Цэнтральным Доме Працаўнікоў Асьветы (Менск) заложаны гурток краязнаўства. Мэта гуртка—прыстасаваць вывучэньне краязнаўства да умоў і патрэб школы.

Гурток налічвае 25 сяброў.

## Літаратура.

2 студзеня г. г. ў Доме Працаўнікоў Асьветы Беларусі „Маладняком“ быў наладжаны літаратурны вечар.

У першай частцы програмы: **„У рожкі са старымі“** выступалі з крытычнага зьместу дакладамі А. Бабарэка і Я. Пушча.

У другой частцы **„Мяцеліца песень“** чыталі свае вершы сябры „Маладняка“—Вольны, Пушча, Дудар, Жызьнеўскі, Якімовіч, Падабед, Зарэцкі, Гурло і інш.

Трэцяя частка **„З гарматы па вераб'ёх“** (дыспут) прашла досыць жыцьцёва. Выступалі старыя беларускія пісьменьнікі—Цішка Гартны, М. Грамыка, М. Гарэцкі—з крытыкай на „Маладняк“.

26 студзеня г. г. адбыўся агульны сход Менскай філіі Ўсебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў **„Маладняк“**, на якім былі заслуханы справаздачныя даклады дэлегатаў ад „Маладняка“ на 1 Усесаюзнай Конфэрэнцыі поэтаў і пісьменьнікаў т. т. **Гартнага, Вольнага** і **Бабарэкі.**

У сваёй рэзолюцыі сход ухваліў выступленьні дэлегатаў на конфэрэнцыі і адзначыў, што дэлегаты правялі поўнасьцю дырэктывы „Маладняка“.

Пасьля сходу т. **Александровічам А.** быў зачытаны верш **„Менскі рытм“**, у выніку чаго падняліся спрэчкі і крытыка аб гэтым выступленьні Александровіча ў літаратуры.

○ **Цішка Гартны** (З. Жылуновіч) Саўнаркомам БССР назначаны на пасаду загадчыка Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

## Тэатр.

○ **Беларуская Дзяржаўная трупа пад заг. Галубка** перажывае сталую рэорганізацыю. Аднаўляецца рэпэртуар; прыгатаваны да пастаноўкі цэлы шэраг п'ес—як арыгінальных, так і перакладных. Усёй працай кіруе Мастацкая Рада, зацьверджаная Наркамасьветай БССР, якая складаецца з прадстаўнікоў Інбелкульту, Наркамасьветы, Саюзу Прац. Мастацтва, дырэктара трупы і прадстаўнікоў ад артыстаў.

У апошні час трупа аднавіла паездкі ў провінцыю. Так, у студзені м-цы г. г. трупа выяжджала ў Слуцак, дзе дала дзесяць пастановак.

○ За апошні час асаблівую увагу зварачае на сябе малады, нядаўна з'організаваны **Белар. хор Дзярж. трупы Галубка, пад кіраўніцтвам М. Дзядзюшкі.** Хор па падбору галасоў і ліку (60 чал.) зьяўляецца адным з лепшых у Менску. За кароткі тэрмін свайго існаваньня хор пасьпеў накіраваць да сябе сымпатыю аўдыторый рабочых клюбаў гораду.

Гэты-ж хор створыць сабой аснову ў Менску Бел. Дзярж. Опэры.

○ Дырэкцыя трупы пачала падрыхтоўчую працу да організацыі выездаў хору вясной у провінцыю.

○ Пры Выканаўчым Бюро пролетарскага студэнцтва Б. Д. У. працуе беларускі драматычны гурток, які ставіць сабе мэтай пазнаёміць будучага працаўніка вёскі з будаўніцтвам вясковага тэатру.

Гурток гэты пад кіраўніцтвам артыстага Васілька ладзіць спэктаклі як у рабочых клюбах у горадзе (Менск), так і выяжджае пэрыодычна ў вёску з гэтай-жа мэтай.

○ Спыненая ўлетку праца беларускага хору ў Маскве распачалася з новай сілай і энэргіяй.

За кароткі час існаваньня хор выступаў: у беларускім зямляцтве, у польскім рабочым клюбе, у Ламаносаўскім інстытуце, двойчы ў Комуністычным Унівэрсытэце Народаў Захаду.

Кіраўніком хору зьяўляецца тав. Равенскі, якім удала згармонізаваны песьні: „Дружна з ахвотай“ і „Гэй, наперад“.

○ Студэнцтва Віцебскага Вэтэрынарнага інстытуту з‘організавала беларускі драматычны гурток і беларускі хор.

○ У вапошнія часы ў Полацку значна разгарнулася беларуская культурная праца. Самым актыўным у гэтым напрамку зьяўляецца беларускі гурток Полацкага лестэхнікуму. Гурток вельмі часта ладзіць беларускія вечарыны, на якіх бывае заўсёды шмат публікі. Далей вядзецца праца беларускімі настаўнікамі на агульна-асьветных курсах, у пэдтэхнікуме і ў другіх школах.

○ У мястэчку Валынцах (Полаччына) існуе беларускі культурна-асьветны гурток, якім кіруе мясцовая настаўніца Ксянова. Гурток часта ладзіць беларускія вечары, на якія зьбіраецца шмат сялян з ваколічных вёсак.

## Кіно-справа.

○ Дзеля ўпарадкаваньня кіно-справы ў БССР, Саўнарком пастанавіў організаваць пры Наркамасьвеце ўправу па справах кіно, якая будзе дзейнічаць на пачатках гаспадарчага разрахунку, з правамі юрыдычнай асобы.

Управе па справах кіно дадзена монопольнае права на пракат кіно-фільм па ўсёй тэрыторыі БССР.

Установе „Бел. Дзярж. Кіно“ прадастаўлена права рэорганізавацца ў паявое таварыства.

○ Кіно-ўправа Беларусі і Беларуская комісія дапамогі дзецям прыступае да ўтварэньня першай вялікай фільмы, якая будзе адбіваць у сабе этнографічныя, экономічныя і культурна-асьветныя бакі жыцьця ўсяе Беларусі.

Назва гэтай кіно-фільмы: **„Уся Беларусь“**.

## Мастацтва.

○ Вучнямі Белар. маст. тэхнікуму пішуцца эскізы на беларускія тэмы, як „Вячоркі“, „Сенажаць“ і т. п. У часе вакацый вучнямі зроблена многа зарысовак беларускага орнамэнту, лепяцца беларускія тыпы і г. д.

Адным з выкладчыкаў зроблена ілюстрацыя „Тараса на Парнасе“, другім напісаны нарыс аб беларускай архітэктуры.

Тэхнікум укладае кніжку „Беларускі орнамэнт“, дзеля дапамогі выкладчыкам графічных мастацтваў у школах.

○ Мастак М. Філіповіч (Менск) у сучасны момант заняты лепкай з гліны беларускіх тыпаў (фігуркі), якія Белдзяржвыдат мае на увазе выпусьціць на рынак.

## Музыка.

○ Тав. Ю. Дрэйзіным перакладзены на беларускую мову падручнік тэорыі музыкі проф. Кашкіна.

Тав. Дрэйзін запрошан выкладчыкам гісторыі музыкі ў Менскі Музычны Тэхнікум.

## Выдавецкая справа.

○ У Клімавічах Калінінскае вакругі пачала выдавацца газэта „Наш працаўнік“, якая выходзіць 2 разы ў тыдзень.

Першы нумар вышаў 12 сьнежня 1924 г.

Шосты нумар гэтае газэты, афяраваны шостай гадавіне БССР і юбілею т. Ігнатоўскага, вышаў у павялічаным формаце, выдрукаваны чырвонай фарбай і зьмяшчае артыкулы гістарычна-біографічнага характару.

○ Вышаў з друку збор вершаў Я. Купалы пад назвай „Безназоўнае“.

○ За апошнія часы вышлі з друку ў Дзяржаўным Выдавецтве Беларусі ніжэйшыя выданьні“: М.Лойка—„Першыя крокі ў матэматыцы“;У.Ігнатоўскі „Белоруссия“ (2 выданьне); „Заходняя Беларусь“—зборнік; „Родныя шляхі“—літаратурная хрэстоматыя, укладзена Самковічам і Протасэвічам; А. Александровіч—„Па беларускім бруку“, зборнік вершаў; Ал. Дудара—„Беларусь бунтарская“—зборнік вершаў.

## Беларускі рух у Тыфлісе.

○ Існуючы ў Тыфлісе гурток беларусаў рэорганізуецца ў Беларускую Сэкцыю пры Клюбе Народаў Захаду. Недастатак літаратуры аб Беларусі перашкаджае гэтаму гуртку весьці культурную працу сярод сваіх сяброў.

## За рубяжом.

○ У Вільні падрыхтаваны да друку гэткія зборнікі сьпеваў вядомага беларускага мастака т. Грыневіча:

1. Беларускі дзіцячы сьпеўнік з народных белар. мотываў і лірыкі на 1-2-3 галасы (30 песень).

2. Белар. школьны сьпеўнік на 3 галасы (30 песень) і 10 пар гульняў з песьнямі.

3. Практыкаваньні сьпеваў з кароткім тлумачэньнем (для школ і прыватнага карыстаньня).

Апрача таго, падрыхтаваны матар'ялы да выданьня гэткіх кніжак:

1. Асновы мастацкага сьпеву і

2. Белар. народны сьпеўнік.

○ 27-га лістапада 1924 г. ў Горадні вышла беларуская аднаднёўка „Гудок“.

Газэтка ўложана вельмі цікава і зачапляе найважнейшыя пытаньні сучаснага жыцьця Заходняй Беларусі.

Лёзунг газэты: „Праз клясавае вызваленьне да вызваленьня нацыянальнага“.

○ У Вільні ў канцы сьнежня 1924 г. вышлі дзьве газэты-аднаднёўкі пад назвамі „Каляда“ і „Новагоднік“.

○ Бел. Выдав. Т-ва ў Вільні выпусьціла ў сьнежні 1924 г. каталёг кніжак, якія выданы ім на працягу 1922, 23 і 24 г.г.

○ Настаўнікамі і вучнямі Беларускай Дзяржаўнай Гімназіі у Дзьвінску створаны аматарскі тэатр і хор, які складаецца з 35 асоб і мае ў сваім рэпэртуары больш за 50 песень.

## Расшыфроўка Ай-Кітабу.

У Празе Чэскай расшыфроўка татарскае маліцьвеннае кнігі „Ай-Кітаб“, напісанае ў XVI ст. пабеларуску арабскімі літарамі, ужо закончана пры ўдзеле чэскіх профэсараў-арабістаў і маладога беларускага філёлёга— Янкі Станкевіча.

Мова рукапісу надзвычайна багатая і мае ў сабе многа такіх слоў, якія ўвяла наша новая літаратура.

У часе працы над „Ай-Кітабам“ у Прагу прыяжджаў з СССР вядомы беларускі філёлёг—акадэмік Карскі, які прывёз вестку, што ў Ленінградзе ў Публічнай Бібліотэцы знойдзены беларускі рукапіс, напісаны арабскімі літарамі, у якім зьмяшчаецца поўны пераклад на нашу мову карану.

## З КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ У СССР

### Р. С. Ф. С. Р.

○ У сьнежні 1924 г. ў Маскве адбыўся 4-ты пашыраны пленум Ц. Б. сэкцыі працаўнікоў друку, на якім выявілася, што цяпер на тэрыторыі СССР ёсьць 583 газэты, з якіх 403 губэрскіх і 180 павятовых. Агульны тыраж газэт—6.255.981 экз. Тыраж штодзенных газэт—4.500.000.

○ У Маскве ў дзень 1 гадавіны ад часу сьмерці т. Леніна ў памяшканьні Музэю Рэволюцыі адчынен музэй т. Леніна, у якім сабрана ўсё, што адносіцца да т. Леніна—ад маленства і да сьмерці. Асобны куток займаюць рэчы, што былі ў шалашы, у якім т. Ленін хаваўся ў 1917 годзе. Сюды ўваходзіць сякера, пілка, чыгунны кацялок, вёслы і каса. Пад шклом ляжыць парык, які насіў т. Ленін у час, калі яму трэба было хавацца ад паліцыі. У музэі таксама знаходзіцца пяро, якім т. Ленін падпісаў дэкрэт аб савецкай уладзе, рэвольвэр, з якога страляла ў Леніна эс-эрка Каплан, і кулі, вынятыя з цела Ільліча.

### Украіна.

○ Адэская Губэрская Політычна-Асьветная Управа організавала украінскі тэатр, які складаецца з найлепшых украінскіх артыстых.

○ Прэзыдыум Усеўкраінскага ЦВК заслухаў даклад аб нацыянальных сельсаветах на Украіне. Зараз на Украіне існуе 4 нямецкіх раёны, 49 нямецкіх сельсаветаў, 30 баўгарскіх, 26 польскіх, 5 жыдоўскіх, 5 чэскіх, 1 албанскі, 1 беларускі, 1 малдаўскі (ня ў межах Малдаўскай ССР).

○ Для ўмеркаваньня гаспадарчага становішча украінскіх газэт і часопісаў, а таксама каб знайсьці спосабы для палепшаньня распаўсюджаньня іх, пры аддзеле друку ЦК КП(б)У створана ўсеукраінскае газэтнае аб'яднаньне.

○ Зараз сканчаецца складаньне гэолёгічнай мапы г. Кіева. Маштаб—100 саж. у цалі. На мапе будуць паказаны ўсе схібы грунту па роўню Дняпра. Мапа будзе дапоўнена гэолёгічнымі разрэзамі і дакладным апісаньнем г. Кіева. Выдана гэтая праца будзе асобнай кніжкай, якая мае вялікую цікавасьць.

○ Наркамасьветы УССР мае на мэце перавесьці рабоча-сялянскую капэлу „Думка" ў Харкаў, надаўшы ёй значэньне Цэнтральнай Капэлы УССР.

○ 18 студзеня г.г. адбылася чарговая сходка Кіеўскай філіі „Плуг", на якой т. Я. Гуменна зачытала нарыс „Саўка". Тэма нарысу прыстасавана да гадавіны сьмерці т. Леніна.

○ Музычная студыя ў імя Леантовіча, якая цяпер прадстаўляе сабою музычны сэктар Кіеўскай філіі „Плуг", распачала сваю студыйную сыстэматычную працу.

Праца студыі йдзе сыстэматычна. Навучальны плян абхоплівае гэткія дысцыпліны 1) харавыя сьпевы; 2) тэорыя музыкі; 3) слуханьне музыкі; 4) выхаваньне голасу; 5) рытміка; 6) мінімум соцыяльна-экономічных навук; 7) украінская мова; 8) украінская літаратура і 9) тэхніка слова—мастацкае чытаньне.

Студыя складаецца з 80 чалавек—студыйцаў.

○ У незабаве Кіеўская філія „Плуг" утварае мастацкі сэктар.

Ініцыятыва ўтварэньня мастацкага сэктару паходзіць ад студэнтаў Мастацкага інстытуту.

○ Дзяржвыд РСФСР прыгатавала да друку зборнік найлепшых твораў украінскіх пісьменьнікаў і поэтаў у перакладзе на расійскую мову.

Зборнік выходзіць з прадмоваю проф. І. І. Глівенкі і артыкуламі А. Летэса—„Рэнэсанс ва украінскай літаратуры", і „Сілуэты"

з „літаратурнымі характарыстыкамі“—К. С. Буровія.

○ Пры Ўсеукраінскім Архэолёгічным комітэце ВУАН заложаны Вышэйшыя Архэолёгічныя Курсы для падрыхтоўкі кваліфікаваных працаўнікоў у галінах архэолёгіі, этнографіі і музэйнай справы.

○ Рэволюцыйныя настроі ў тэатральным мастацтве, якія яскрава адбівае украінскае мастацкае аб'яднаньне „Бэрэзіль“ усё больш і больш абхопліваюць шырокія колы грамадзянства.

Па вёсках ствараюцца гурткі-майстэрні, якія за аснову свае працы бяруць працу „Бэрэзіля“ і пашыраюць яе.

Так, Броварскім гуртком (Кіеўская акруга), які складаецца з вучняў сямёхгодкі, робяцца пастаноўкі па мэтоду „Бэрэзіля“, якія знаходзяць спачуцьцё з боку жыхарства.

○ 11 студзеня г. г. Кіеўская філія Ўсеукраінскай супалкі сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“ сьвяткавала першую гадавіну свайго існаваньня.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 1



---


Б. Д. В. № 58. 1-я Дзярж. друкарня. Зак. № 488. У ліку 2.000 экз. Галоўліт 6480.

